***БЕЛАРУСКАЕ ГІСТАРЫЧНАЕ ТАВАРЫСТВА***

**ГІСТАРЫЧНЫ АЛЬМАНАХ Том 18. 2012**

**Навуковы гістарычны і краязнаўчы часопіс**

## У ТОМЕ

## АРТЫКУЛЫ



## АНАТАЦЫІ

# АРТЫКУЛЫ

***Наталля Сліж (Гародня)***

## НЕВЯДОМАЕ ПРА ВЯДОМАЕ: УЛАДАННІ ЦАРКВЫ І МАНАСТЫРА СВ. БАРЫСА І ГЛЕБА Ў КАНЦЫ 15 – ПАЧАТКУ 17 ст.

Першая спроба абагульніць звесткі па царкве Св. Барыса і Глеба была зроблена архімандрытам Каложскага базыліянскага манастыра Ігнатам Кульчыцкім[1] у “Хроніцы архімандрытаў, царкоўных старастаў і заступнікаў Гарадзенскага Каложскага манастыра” (1736). Інфармацыя з яе была выкарыстана камісіяй па выяўленню фундушаў уніяцкіх цэркваў 1847 г. Пра рукапіс было адзначана, што яго прынёс у камісію Анацэвіч[2]. Ён быў у пашкоджаным стане: разарваны, не меў некалькіх аркушаў у сярэдзіне. Калі твор ужо быў не патрэбны для камісіі, то паступіла прапанова перанумараваць кнігу, падвязаць парваныя лісты, перадаць у манастыр Св. Барыса і Глеба і паведаміць пра гэта ў Літоўскую кансісторыю[3].

Рукапіс сапраўды быў аддадзены ў архіў манастыра. У 1908 г. ён знаходзіўся ў царкоўна-археалагічным музеі. Рукапіс утрымліваў 123 старонкі і складаўся з шэрагу частак, дзе былі апісаны: царква, манастыр, бібліятэка, іншыя манастырскія пабудовы, каложскія чыншавікі і іх павіннасці, царкоўнае начынне, царкоўныя маёнткі, архіў манастыра, хроніка ігуменаў, архімандрытаў, фундатараў[4]. З гэтага пераліку бачна, што ў 19 ст.

---

1 Марозава С.В. Ігнат Кульчыцкі – першы гродзенскі краязнавец // Памяць. Гродна. Мн., 1999. С. 109–111.

2 Хутчэй за ўсё тут ідзе гаворка пра гісторыка, археографа і архівіста Ігната Анацэвіча (1780–1845), які паходзіў з Малой Бераставіцы. Яго асноўнай сферай навуковых інтарэсаў была гісторыя Вялікага княства Літоўскага. (Дз. Караў. Анацэвіч Ігнат // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мн., 1993. С. 117–118). Але так як ён памёр у 1845 г., а асноўная дзейнасць камісіі прыйшлася на 1847 г., то, верагодна, падрыхтоўчую працу яна пачала раней.

3 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ), ф. 1475, воп.1, адз.з. 3, арк. 38–38 адв.

4 Корчинский И. Древняя Коложская церковь во имя святых князей Бориса и Глеба. Гродно, 1908. С. 9–10.

былі надрукаваныя толькі ўрыўкі з гэтай працы[5]. На яе зараз спасылаецца большасць даследчыкаў, памылкова лічачы, што дакументы, на падставе якіх была напісана гэтая праца, не захаваліся[6].

У гістарыяграфіі асноўная ўвага надаецца апісанню архітэктурных асаблівасцей царквы[7]. На сённяшні дзень застаецца шэраг недаследаваных пытанняў: каложскія святары, царкоўныя ўладанні, уплыў царквы на рэлігійнае жыццё горада і іншыя. Таксама патрабуе асобнага вывучэння тэрыторыя вакол Каложы, манастырскі комплекс, працэс фарміравання гэтага раёну. Дадзенае даследаванне як раз засяроджваецца менавіта на гэтым аспекце.

Крыніцазнаўчая база па гісторыі царквы і манастыра Св. Барыса і Глеба самая лепшая, калі яе параўноўваць з крыніцамі па іншым гарадзенскім цэрквам. Хоць частка матэрыялаў была панішчана. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі знаходзіцца фонд 128, дзе сабраны дакументы па Каложскай царкве, пачынаючы з 15 ст. У справах змешчаны як арыгіналы дакументаў, так і копіі. Значная частка гэтых дакументаў была надрукавана[8]. У пераважнай большасці гэта крыніцы па маёмасным дачыненням: купля-продаж маёмасці, інвентары пры перадачы манастыра і яго ўладанняў архімандрытам, фундацыйныя запісы, спрэчкі з-за межаў і маёмасці. Аднак гэта толькі частка архіву, бо значная колькасць дакументаў была знішчаная пад час розных вайсковых падзей, пашкоджана пацукамі, моллю[9]. Раней гэтыя дакументы захоўваліся ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта. Важнымі візуальнымі крыніцамі па манастырскай тэрыторыі з’яўляюцца гравюры Адэльгаўзера–Цюндта 1567 – 1568 гг. і Тамаша Макоўскага 1600 г. На іх змешчаны вывявы царквы Св. Барыса і Глеба і пабудоў вакол яе. Гэта адзіныя крыніцы, на якіх прадстаўлена планіроўка наваколля царквы ў той час.

Каложская царква, як і пасяленні на правым беразе Гараднічанкі, доўгі час не ўваходзілі ў рысу горада. Яны не заўсёды пазначаліся ў планах

5 Археографический сборник документов относящихся к истории Северо-западной Руси. Т. 9. Вильна, 1870. С. 409–454.

6 Слюнчанка В.Г. Барысагребская (Каложская) царква ў Гродне. Мн., 1992. С. 29.

7 Грязнов В. Коложская Борисоглебская церковь в г. Гродне // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Вильна, 1893. С. 361–371; Walicki M. Cierkiew św. św. Borysa i Gleba na Kołoży pod Grodniem // Studia do dzieów sztuki w Polsce. 1929. T.1. S. 1–28; Jodkowski J. Świątynia warowna na Kołoży w świetle badań archiwalnych i archeologicznych dokonanych w 1935 r. Grodno, 1936; Слюнчанка В.Г. Барысагребская (Каложская) царква… і інш.

8 АВАК. Т. 1. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. С. 55–58, 63–66, 74–80, 108–115, 120–121, 124–125; Археографический сборник. Т. 9. Вильна, 1870. С. 413–423; Шаланда А. Род Антонія дэ Кгрыпа, муляра замка гарадзенскага, у канцы XVI – першай палове XVII ст. // Castrum, urbis et bellum: Зб.навук. прац. Баранавічы, 2002. С. 402–412.

9 Палуцкая С.В. З гісторыі інтэр’ера Каложскай царквы // Археалагічныя помнікі Гродзеншчыны. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, якая адбылася 26 лістапада ў г. Гродна. Гродна, 1992. С. 59.

нават у 18 ст. Напрыклад, гэты раён адсутнічае на плане Гародні 1753 г.[10] У 12 – 18 стст. гэта быў прыгарад. Асноўная тэрыторыя горада развівалася ва ўсходнім накірунку паміж рэкамі Гараднічанкай і Нёманам[11]. Таксама выклікае цікавасць само месца пабудовы. Можа быць справа была ў тым, што на гэтым месцы знаходзілася язычніцкае капішча, легенды пра якое дайшлі да 19 ст.[12] Для беларускіх зямель быў уласцівы ірландскі тып хрысціянізацыі, калі на месцы капішча з'яўляўся храм, каб людзі хадзілі маліцца на ўжо абраныя для гэтага месцы[13]. Але адсутнасць крыніц за гэты перыяд не дазваляе настойваць на гэтым меркаванні.

Асноўнымі крыніцамі па перыяду 12 – 15 стст. з'яўляюцца археалагічныя. Археолагі даследавалі Каложскую царкву і тэрыторыі, якая побач з ёй[14]. З царкоўнага ўнутранага ўбрання не было знойдзена нічога акрамя бронзавага вадалея[15]. На падставе археалагічных прац было высветлена, што гэта тэрыторыя была заселена не пазней канца 11 ст.[16] Лічыцца, што з заснавання царквы там знаходзіўся манастыр. Археалагічныя знаходкі сведчаць, што росквіт манастыра прайшоўся на 15 – першую палову 16 стст. Манастырскія пабудовы былі драўляныя. Але так як дрэва не захавалася ў культурным слоі, то дэталі пабудоў не вывучаныя. Я.Г.Зверугай у 1971 – 1973 гг. унутры агароджы былі выяўлены каля 20 пахаванняў, на ўсход ад царквы – рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоў 13 – 14 стст.[17] Але ў наступныя стагоддзі колькасць насельніцтва тут значна павялічылася і склаўся цэлы раён, які заняў значную плошчу.

Пабудова царквы значна паўплывала на тэрытарыяльнае развіццё гэтага раёну. Не менш істотным фактарам тут стала геаграфічнае палажэн-

10 Borowik P. Jurydyki miasta Grodna w XV–XVIII wieku. Stanowy podział nieruchomości. Supraśl, 2005. Ilustracja W 3.

11 Краўцэвіч А. Гарады і замкі Беларускага Панямоння ў XIV–XVIII стст., планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. С. 77.

12 Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродна, 1910. С. 18; Квитницкая Е. Планировка Гродно в XVI–XVIII вв. // Архитектурное наследство. № 17. Москва, 1964. С. 24.

13 Лобач У. Чарадзейства на Полаччыне: гісторыка-культурны кантэкст // Полацк: карані нашага радавода. Полацк, 1996. С. 54; Кишик Ю.Н. Градостроительная культура Гродно. Мн., 2007. С. 35.

14 Jodkowski J. Świątynia warowna na Kołoży w świetle badań archiwalnych i archeologicznych dokonanych w 1935 r. Grodno, 1936. S. 35–49; Воронин Н. Древнее Гродно. М., 1954. С. 86–104; Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. Мн., 1989. С. 65–67, 78, 175–177; Трусаў А., Краўцэвіч А. Археалагічнае даследаванне Барысаглебскай царквы і манастыра ў Гродне // Беларускі Гістарычны Часопіс. 1994. № 4. С. 17 - 21.

15 Воронин Н. Древнее Гродно. Москва, 1954. С. 99–100.

16 Трусаў А., Краўцэвіч А. Археалагічнае даследаванне Барысаглебскай царквы і манастыра ў Гродне // Беларускі Гістарычны Часопіс. 1994. № 4. С. 21.

17 Ткачоў М. Старажытны горад Гродна // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Гродна. Мн., 1999. С. 42–43; Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. Мн., 1989. С. 65–67, 78; Краўцэвіч А., Трусаў А. Археалагічнае даследаванне Барысаглебскай царквы і манастыра ў Гродне // Беларускі гістарычны часопіс. 1994. № 4. С. 17–21; Краўцэвіч А. Археалагічнае вывучэнне Гродна // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Гродна. Мн., 1999. С. 27–28.

не. Дадзеную тэрыторыю абкружалі натуральныя межы: стромкія ўзвышшы, рэчкі Гараднічанкі і Нёмана. Пэўная аддаленасць ад гарадской мітусні была неабходная для манастырскага жыцця, але дастаткова было перайсці рэчку, як можна было апынуцца побач з замкам, а ад яго дайсці да рынка. Выгода была яшчэ і ў тым, што на дадзенай тэрыторыі царкве і манастыру, як буйному землеўладальніку, ніхто не мог скласці канкурэнцыю. Таму паступова ў царкоўныя валоданні ўвайшлі землі каля Нёмана пад царквой, каля Гараднічанкі, і далей мяжа ішла з сялом Гарадніца (Сухое Сяло).

Якія наданні атрымала Каложская царква, а пасля і манастыр у 12 – 14 стст., як яны функцыянавалі ў гэты час, устанавіць без дакументаў складана. Толькі з канца 15 ст. захаваліся крыніцы, якія ў большасці маюць дачыненне да маёмасных спраў. Самы ранні дакумент – фундацыйны запіс Грынька Ходкавіча на Евангеллі на карысць царквы Св. Барыса і Глеба ў Гародні (1480)[18]. З яго уладанняў штогод павінны былі даваць 20 бочак мукі, бочку пшанічнага соладу, дзве ячменнага і тры ржаногa, бочку круп, 10 сыроў, дзежку масла. Акрамя таго, са свайго маёнтка Чупрук павінен даваць дзесяціну, гарадзенскі мешчанін Багдан – 10 бочак жыта, гарадзенскі мешчанін Апанас – капу грошай. Але дзеці пасля смерці бацькі занядбалі фундацыйны запіс. Таму мітрапаліт Макарый вымушаны быў нагадаць нашчадкам - троцкаму канюшаму Івану, Марку, Грыгору, Міхайлу, Паўлу, Грыгорыю Багдановічу, Андрэю Лукашэвічу выканаць загад Грынькі (1546)[19].

Царква і манастыр Св. Барыса і Глеба з канца 15 ст. сталі павялічваць свае ўладанні. Гэта адбывалася праз ахвяраванні мецэнатаў і куплю земляў. Гарадзенскі мешчанін Івашка Сергеевіч запісаў манастыру айчысты фальварак Панямунь і набытыя ў мяшчан палі, якія знаходзіліся побач (1485, 1499)[20]. Пасля яго смерці жонка не захацела аддаваць манастыру фальварак. У выніку ігумен Каліста пачаў супраць яе судовую справу, якую разглядаў князь Аляксандр Юр’евіч Гальшанскі (?–1511), віленскі кашталян і гарадзенскі староста (1485–1505)[21]. Справа была вырашана на карысць манастыра. Пазней гэта было пацверджана гаспадарскім прывілеям (1512)[22].

[18] Дадзены дакумент захаваўся ў копіі. Дата 1480 г. была пастаўлена Кульчыцкім і, на нашу думку, памылковая. Але так як у дакуменце не прыводзіцца іншых звестак, то вызначыць дакладную дату пакуль не падаецца магчымым.

[19] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Літоўскай Акадэміі навук – Аддзел рукапісаў БЛАН (Lietuvos mosklř akademijos Bibliotekas rankraščtř skyrius). Ф. 273–2406. У копіі напісана памылковая дата 1492 г. НГАБ у Гародні, ф.128, воп.1, спр.1, арк. 1.

[20] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.9, арк. 1–2; Дакумент быў надрукаваны ў: АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 55–56; Макарий. История русской церкви. Кн. 5... С. 55. Макарый лічыць, што Каложскі манастыр быў заснаваны каля 1480 г.

[21] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. W., 1895. S. 101–102; Lulewicz H., Rachuba A. Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV-XVIII wieku. Spisy. Kórnik, 1994. S. 210.

[22] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 3; Археографический сборник. Т. 9. С. 413–414.

Наступны канфлікт з-за Панямуні адбыўся з удавой Грынькі Валовіча Надзеяй Васільеўнай і каралеўскім дваранінам Мікалаем Якубавічам Кунцэвічам (1546). Яны забралі царкоўныя землі, вырубілі гаі і дубровы. На падставе скаргі гарадзенскага архімандрыта Іоны Жыгімонт Аўгуст забараніў ім наносіць шкоды манастыру[23].

Гэтае ўладанне было аддадзена ў арэнду ў 1548 г. Гарадзенскі войт Матыс Пахтыцкі ўзяў у арэнду манастырскую зямлю праз гарадзенскага райцу Насона. Ён павінен быў выплачваць архімандрыту Сергію па 4 капы літоўскіх грошай ў год. На арэндаванай зямлі знаходзіліся агароды, гумнішча, палі. Яна прылягала да ракі Нёман і межавала са сцяной двара гарадзенскага мешчаніна Яцуты Наніковіча[24], дарогай, што вяла з жыдоўскіх палёў ад Змеева каля поля Я. Наніковіча, і дарогай ад Змеева да горада[25]. У валочнай памеры гэтае ўладанне лічылася ўласнасцю царквы Св. Барыса і Глеба[26]. Было адзначана, што там 6 валок. Іх разабралі гарадзенскія мяшчане бурмістр Станіслаў Цвікля, райца Давід Навікоўскі, лаўнік Конан Варабей. Кожнаму прыйшлося па 2 валокі. Пазней усе яны перайшлі гарадзенскаму шляхцічу Андрэю Казіміру Эйсманту[27].

У судовай справе манастырскае духавенства прадставіла наступную гісторыю страты Панямуні. Ігумен Арсеній аддаў фальварак у арэнду гарадзенскаму войту М.Пахтыцкаму. Пасля смерці ігумена манахі разышліся, толькі адзін застаўся пры царкве. А наступны поп не ведаў пра валоданне манастыром Панямунню[28].

У якасці доказу на права валодання Панямунню ў судовай справе з Андрэем Казімірам Эйсмантам былі прадстаўлены дакументы, пачынаючы з тэстамента І. Сергеевіча (1636). Але гэта не дапамагло вярнуць маёмасць, бо з моманту трымання яго іншымі ўладальнікамі прайшло больш за 10 год[29].

Наступны фундацыйны запіс быў ад вялікага князя літоўскага Аляксандра. Па просьбе ігумена[30] манастыру быў перададзены ў вечнае валоданне каралеўскі сад, які знаходзіўся ў нізе гары, пад царквой і межаваў з Нёманам (1500). Фундацыя была пацверджана Жыгімонтам Старым

---

23 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 27; АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 120–121; Макарий. История русской церкви. Кн. 5... С. 154.

24 Яцута Наніковіч набыў падворак са стрыхарскай службай, каля гаспадарскіх плытніц, побач са скідальскай дарогай каля Нёмана (1538). У 1562 г. ім валодаў Давыд Наніковіч, напэўна яго сын. АВАК. Т. 17. Вильна, 1890. С. 22, 65–66, 75; Borowik P. Jurydyki miasta Grodna... S. 239.

25 АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 65–66.

26 Писцовая книга Гродненской экономии (далей – ПКГЭ). Ч. 2. Вильна, 1882. С. 76.

27 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.9, арк. 15–17.

28 Тамсама, арк. 1–2адв.

29 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.9, арк. 1–2, 14–18; Археографический сборник. Т. 9. С. 427–429.

30 Імя ігумена ў дакуменце не згадваецца.

у 1508 г.[31] У другой палове 16 ст. сад быў запушчаны. Стэфан Баторый перадаў яго гарадзенскаму муляру Антонію дэ Кгрыпэ і вылучыў яму 100 злотых для яго аднаўлення (1586). У выніку гэта справакавала судовую справу паміж муляром, яго нашчадкамі і манастыром на доўгія гады[32].

Па звестках І.Кульчыцкага ў валоданні манастыра была выспа на Нёмане, якая знаходзілася насупраць яго[33]. У 1720 г. адзначалася, што бераг моцна падмыты, і Каложская царква можа зруйнавацц[34]. Пазнейшыя дакументы тлумачаць, што тут знаходзіўся былы каралеўскі сад. У 1760 г. у дакументах адзначана, што ўжо ў той час саду амаль не было. Яго змыла Нёманам, і толькі ў сярэдзіне ракі засталіся ў вадзе дрэвы. У інвентары Каложскага манастыра за 1814 г. занатавана пра знаходжанне выспы насупраць Каложы, якая была амаль затопленая і не выкарыстоўвалася манастыром[35]. Калі сад пераўтварыўся ў выспу, дакладна вызначыць цяжка. Самая ранейшая згадка аб гэтым датуецца 1738 г. Аднак зразумела, што працэс размывання дадзенай тэрыторыі пачаўся раней. На сённяшні дзень цяжка вызначыць дакладныя прычыны, якія прывялі да такой змены рэчышча Нёмана.

Тэрыторыя на Каложскім узвышшы перайшла да манастыра праз куплю суседніх уладанняў. Землі пачаў скупаць ігумен Лука (1500–1505)[36]. Усе 6 дакументаў датуюцца 1502 г.[37] Іван Віннік з Падола прадаў зямліцу, якая межавала каля Хаданца і Леванца і знаходзілася каля царкоўнай ніўкі, за 13,5 шырокіх грошай. Сведкамі выступілі Полаўка, барысаглебскі старац Амбросій і іншыя[38]. 17 чэрвеня таго ж года быў прададзены агарод каля Біеўшчыны Будылам Садоўнікам і яго сынамі Сцяпанам і Хведкам за 70 грошай. Засведчылі дакумент сын пана Хведкі Мацей Сенкевіч, Полаўка Калажанін, слуга пана Кучынскага Малажэй, барысаглебскі старац Амбросій, Андрэй Бакуновіч. Унізе быў зроблены допіс, што напісаў дакумент Васілей Гарчакевіч, сын Кузьмы. У падданага гарадзенскага канюшага Багдана Грыньковіча Валовіча[39] Грынька ігумен набыў за 20

31 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 24; адз.з. 4б арк. 26–27; Археографический сборник. Т. 9. С. 416; АВАК. Т. 1. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. С. 124–125.

32 Шаланда А. Род Антонія дэ Кгрыпа… С. 402–412.

33 Корчинский И. Древняя Коложская церковь во имя святых князей Бориса и Глеба. Гродно, 1908. С. 9–10.

34 АВАК. Т. 7. Вильна, 1874. С. 273.

35 Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага Універсітэта (Vilnau Universiteto Mokslines Bibliotekos rankraščtř skyrius, далей – Аддзел рукапісаў БВУ), ф. 4-35661 (А-2301), арк. 2; ф. 4-35666 (А-2306), арк. 17–18 адв.

36 Археографический сборник. Т. 9. С. 416.

37 Надпіс “1502 г.” зроблены пазней, а ў саміх дакументаў дата адсутнічае, у некаторых напісаны індыкт.

38 У дакуменце так і напісана “іншыя”, а пералічаны толькі два чалавекі.

39 Яго бацька Грынька Ходкавіч зрабіў фундацыйны запіс у Евангеллі на карысць царквы Св. Барыса і Глеба (1480). Але дзеці пасля смерці бацькі не выдавалі прызначаныя ёй муку, солад і інш. Таму мітрапаліт Макарый вымушаны быў нагадаць нашчадкам выка-

грошаў дварышча каля царкоўнай ніўкі. Дакумент быў складзены ў прысутнасці супрасльскага намесніка Іоны, барысаглебскіх старцаў Амбросія і Якіма і іншых[40]. У Аўдоцці Перхуравай за 20 грошаў было куплена дварышча каля царкоўнага саду над Нёманам. У якасці сведак пры продажу былі запісаны: поп “Ражэственскі” Фёдар, дзяк Прачысценскай царквы Іван і панамар Прачысценскай царквы Осташ, барысаглебскі старац Амбросій, Іван Полаўка, Андрэй Бакуновіч, Цыпрыян. Тарас Калажанін прадаў дварышча і агарод ігумену Луцэ[41]. У жонкі Арцёма Біейкі Матроны было набытае дварышча з полем каля Каложы за 5 коп грошаў[42]. Сведкамі былі барысаглебскі старац Амбросій і царкоўны слуга Васілец[43].

Наступны ігумен Феакціст (Тэаксіст) таксама быў зацікаўлены ў пашырэнні царкоўных уладанняў[44]. Прыгода Апіхайлевіч, яго жонка Багдана і іх дзеці Хадац і Дзяніс прадалі “агародзец” за 15,5 грошай (1505). У якасці ўмовы было адзначаны, што калі хто будзе прэтэндаваць на маёмасць, то яны павінны будуць абараняць права манастыра на валоданне. Сведкамі адзначаны пан Сцяцко, васкаўнічы[45], пан Мікіта, дзяк гараднічага, і служэбнік мітрапаліта Андрэйка. Першыя два замацавалі продаж пячаткамі. Дакумент быў напісаны дзякам Герасімам Беляніча[46]. “Агародзец” каля манастыра быў куплены ў Багдана Санцовіча, яго жонкі Марысі і іх дзяцей Астапкі і Лукі за 33 грошы (1505). Таксама як у папярэднім выпадку яны абавязаліся абараняць правы манастыра на агарод. Умовы здзелкі забаранялася парушаць пад зарукай гаспадару 3 рублі грошай, а гораду – 50 грошай. Сярод сведак згаданы і важныя асобы: гарадзенскі гараднічы Федка Гаўрылавіч Мялешковіч[47], пан Грынашко Ходкавіч (Валовіч), пісар князя Аляксандра Юр’евіча Гальшанскага Лявон Грынковіч Кумпель і гарадзенскі мешчанін Афанас Дудка[48]. Да дакумента былі прыціснуты пячат-

---

наць загад бацькі (1492). Пасля смерці Богуша Багавіцінавіча дзеці Г.Валовіча захапілі кцітарства над манастыром і царквой Св. Барыса і Глеба і нанеслі яму вялікія шкоды. У 1546 г. яны былі вызвалены ад іх апекі. НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.1, арк. 1; Археографический сборник. Т. 9. Вильна, 1870. С. 413, 424–426.

40 Дакумент надрукаваны ў: Археографический сборник. Т. 9. С. 416.

41 Гэты дакумент захаваўся даволі дрэнна і практычна не відочны. Кароткі яго змест напісаны на адваротным баку, але там не згадана сума грошай.

42 Арыгінал гэтага дакумента захоўваецца ў: Аддзел рукапісаў БЛАН, ф.273–4007.

43 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.2, арк. 2–6, 8 адв.

44 І. Кульчыцкі на падставе таго, што іншае імя ігумена не згадваецца, сцвярджае, што Феакціст быў ігуменам да 1520 г. Археографический сборник. Т. 9. С. 417.

45 Аб васкаўнічым Сцяцко гл.: Шаланда А. Замкавы суд у Гарадзенскім павеце (другая палова XV–1566 г.) // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV – XXст./ Пад рэд. А.Ф. Смаленчука, Н.У Сліж. Гародня, 2009. С. 12–13.

46 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.2, арк. 8. Арыгінал гэтага дакумента захоўваецца ў: Аддзел рукапісаў БЛАН, ф.273–4008.

47 Федка Гаўрылавіч Меляшковіч быў гарадзенскім гараднічым у 1496–1522 гг. Urzędnicy Wielkiego księstwa Litewskiego. Spisy. Województwo Trockie XIV–XVIII wiek. Pod red. A.Rachuby. Opr. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.P.Romaniuk, A.Haratym. Przy współpr. A.Macuka i J.Aniszczanki. Warszawa, 2009. S. 251–252.

48 Афанас Дудка быў гарадзенскім ключнікам з 1505 г. Urzędnicy Wielkiego księstwa Litewskiego. Województwo Trockie. S. 256.

кі. З кароткага запісу і пацвярджальнага прывілея вядома, што была куплена зямля Занеўшчына на мяжы з манастырскай зямлёй у Івана Полаўкі, Труса, Васіля і Лявона Рагозічаў, у ганчара Лявона Хадарца – ніўка каля манастырскага перакопу, у Лявона – вугал яго айчызнай зямлі, ў Сушча Сонцава – уласны агарод. Але за якую суму і калі гэта адбылося ў дакументах не адзначана. Так як прывілей датуецца 1512 г., уладанні былі набыты паміж 1506 і 1512 гг.[49]

Дадзеныя дакументы прадстаўляюць вялікую цікавасць, бо з’яўляюцца аднымі з рэдкіх дакументаў за гэты час[50]. Яны даюць матэрыял для вывучэнні структуры гэтага тыпу крыніц у пачатку 16 ст. Па свайму зместу дакументы даволі інфарматыўныя. У іх утрымліваюцца імя і прозвішча папярэдняга ўладальніка, новы ўладальнік, кароткае апісанне маёмасці, якую прадавалі, сума грошай, зарука (рэдка), дата (не заўсёды), сведкі. Пазней фармуляр дакумента быў удасканалены[51].

Імёны і прозвішчы людзей не ва ўсіх выпадках дазваляюць дакладна вызначыць сацыяльны стан асобаў. У пацвярджальным прывілеі Жыгімонта Старога мяшчанамі названы жонка Арцёма Біейкі Матрона і Будыла Садоўнік. А пра Багдана Санцовіча, Прыгоду Апіхайлевіча, Сушчу Сонцава, Аўдоццю Перхураву, Тараса Калажаніна, Івана Палоўку, Труса, Васіля і Лявона Рагозічаў, ганчара Лявона Хадарца, падданага Б. Валовіча Грынька, Лявона, Івана Вінніка з Падола агулам адзначана, што яны гарадзенскія мяшчане і гарадзенскія людз[52]. Па ім можна ўявіць якія імёны ўжываліся сярод гарадскога насельніцтва, як пачалі фарміравацца прозвішчы, і што на гэта ўплывала. Трэба адзначыць, што не ўсе на той час мелі прозвішчы. Імёны ўжываліся простай формы (Грынька, Івашка, Хведка), а не поўнай (напрыклад, Грыгорый, Фёдар). Некаторыя імёны адыходзілі ад праваслаўнай і каталіцкай традыцыі і з’яўляліся ўласна мясцовымі: Прыгода, Сушча, Будыла, Полаўка (Половко). На форму прозвішча ўплывала геаграфічнае паходжанне і занятак, што было даволі распаўсюджанай з’явай[53]: Віннік, Садоўнік, Калажанін.

Акрамя таго, імя дае магчымасць высветліць, хто мог прадаваць маёмасць. Мужчыны і жанчыны аднолькава мелі на гэта права і не былі абме-

---

[49] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.2, арк. 7, 9; адз.з.3, арк. 3.

[50] Два дакумента куплі зямлі ў гарадзенскіх мяшчан гарадзенскім ляснічым Васілём Дарашкевічам за 1502 і 1506 гг. і прывілей Аляксандра гарадзенскаму дзяку Сцяцку на куплю зямлі ў гарадзенскіх мяшчан захоўваюцца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі. Шаланда А. Пергаміны XVI ст. у фондах Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея // Герольд Litherland. Горадня, 2002. № 1–2 (5–6). С. 23–27.

[51] Фармуляр дадзенага віду дакументаў быў прааналізаваны беларускім даследчыкам Максімам Гардзеевым. Гардзееў М.Ю. Акты па аперацыях з нерухомасцю ў полацкіх магістрацкіх кнігах другой паловы XVII ст // Commentarii Polocenses Historici. 2004. Т. 1. С. 50–51.

[52] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 2, 3.

[53] Dacewicz L. Elementy obcojęzyczne w antroponimii dawnego starostwa Mielnickiego i Łosickiego // Acta Universitatis Lodziensis. Folia linguistica. 1993. № 27. S. 41–49.

жаваны з-за гендэрнай прыналежнасці. Таксама здзяйсняла продаж і ўся сям'я разам: муж, жонка і дзеці, што сустракаецца ў дакументах першай паловы 16 ст. Магчыма гэта было звязана з тым, каб адзначыць, што ўсе члены сям'і ведалі пра продаж, і пасля ніхто з іх не мог абвесціць яе неправамоцнай, спаслаўшыся на няведанне. Бок пакупніка ва ўсіх дакументах прадстаўляў ігумен Лука, а ў пазнейшых – Феакціст. Хоць уласнікам станавіўся манастыр, але прадстаўнічыя функцыі надаваліся ігумену, як вышэйшаму іерарху.

Аб'ектамі куплі-продажу былі ніўка, агарод, дварышча, зямліца. Але іх месца знаходжання на падставе прадстаўленых у дакуменце звестак высветліць даволі цяжка, бо няма апісанняў межаў. Гэта з'явілася ў падобных дакументах пазней. Сустракаюцца наступныя апісанні: агарод каля Біеўшчыны, дварышча каля царкоўнай ніўкі, дварышча каля царкоўнага саду, зямліца каля Хаданца і Леванца, ніўка каля манастырскага перакопа, дварышча з полем каля Каложы, агародзец каля манастыра, зямля Занеўшчына на мяжы з манастырскай зямлёй. Гэтых звестак не дастаткова, каб дакладна вызначыць набытую тэрыторыю. Але ў іх згаданы царкоўныя ўладанні такія як ніўкі, сад, зямля. А некаторая набытая маёмасць знаходзілася амаль побач з манастыром.

Кошт зямлі на той час быў значна ніжэй, чым ён стаў у сярэдзіне стагоддзя. Дварышча каштавала 20 грошай, 5 коп, агарод – 12, 70 грошай, 33 грошы, 15,5 грошай, зямліца – 13,5 шырокіх грошай. Так як у дакументах не прыведзены памеры надзелаў, то дакладна мы не можам суаднесці з коштамі і высветліць адпаведнасць.

Ужо ў той час стала важным засведчыць дакумент. Колькасць сведак тады яшчэ не была вызначана, таму пералічаюцца ад двух і болей асобаў. У гэтай ролі маглі выступаць духоўныя асобы. Гэтая інфармацыя дазваляе высветліць некаторых прадстаўнікоў духавенства. Яны былі з Гародні і Супрасля. З гарадзенскіх прадстаўлены святары Прачысценскай і Каложскай цэркваў. З іх асобнай увагі заслугоўваюць старцы – манахі манастыра, бо іх прысутнасць у манастыры паказвае яго высокі статус як духоўнага цэнтра. З іх Амбросій выступаў у ролі сведкі 4 разы. Свецкія асобы былі рознага ўзроўню. У дакументах за 1502 г. не заўсёды запісваліся ўсе сведкі. Пра пячаткі адзначана толькі ў куплях-продажах за 1505 г.

У некаторых дакументах асобы бралі на сябе абавязак не прэтэндаваць на маёмасць пасля продажу. У адным нават згадана зарука, якая спаганялася не толькі на карысць гаспадара, але і горада[54]. Зарука вядома на беларускіх землях з канца 15 ст. і захавалася да 17 ст. Яна ўзмацняла дамову і гарантавала новым уладальнікам спакойнае трыманне маёмасці[55]. Двойчы адзначаны ў крыніцах пісары, якія складалі дакументы: Васілей, сын Кузьмы, Гарчакевіч і дзяк Герасім Беляніч. У лістах куплі-продажу

[54] Такая ж зарука была пры продажы Бобыша Галеніча і Міцуты зямлі гарадзенскаму ляснічаму Васілю Дарашкевічу (1506). Шаланда А. Пергаміны XVI ст. у фондах Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея... С. 25–26.

[55] Kuliesiewicz W. Zaruka (vadium) w prawie litewskim XV–XVII wieku. W., 1993. S. 127–130.

В. Дарашкевіча таксама фігуравалі дзякі[56].

Гэтыя дакументы паказваюць, што на пачатку 16 ст. мясцовае насельніцтва пражывала ў непасрэднай блізасці да царквы. Гэта было звычайным для таго часу, калі храм фарміраваў вакол сябе раён. На ўзвышшы манастыру да гэтага часу належала толькі невялікая тэрыторыя вакол царквы. Купля ўладанняў, якія знаходзіліся побач з царквой і манастыром, была дакладна вызначанай стратэгіяй. Аб гэтым паказвае колькасць купляў-продажаў – 14. Духавенства прыняло рашэння павялічыць тэрыторыю і вылучыла на гэта адпаведныя сродкі. Прычынамі магло стаць адсоўванне гарадского насельніцтва ад сцен манастырскага комплексу і ўзбуйненне землеўладання. Дзякуючы намаганням ігуменаў манастыру адышоў увесь навакольны раён: тэрыторыі побач з рэчкамі Нёман і Гараднічанка. Гэта пацвярджае валочная памера (1560 – 1561)[57], а таксама абмен землямі з каралеўскімі ўладаннямі[58].

10 коп літоўскіх грошаў атрымала царква Св. Барыса і Глеба, як і Прачысценская царква на ўспамін душы па тастаменту кіеўскага ваяводы Дзмітрыя Пуцяціча (?–1505). Грошы былі атрыманы ад дворнага маршалка Міхала Львовіча Глінскага ў 1506 г.[59]

На тэрыторыі Каложскага ўзвышша яшчэ заставаліся землі, якія не належалі манастыру. Жыгімонт Стары пацвердзіў куплі служэбніка земскага маршалка, гарадзенскага старосты С.Кішкі Урбана Бартошэвіча. Ён купіў дом у гарадзенскай мяшчанкі Палагі Алехновай і яе дзяцей пад замкам на Каложы, а ў Дзям’яна Барысовіча, яго жонкі дзяцей, жонкі дзядзькі Улькі Будзіловай агародзец на Каложы, каля таго ж дому (1513)[60].

У 1506 г. даўгоўскі намеснік Богуш Багавіцінавіч быў прызначаны кціткарам Каложскай царквы кіеўскім мітрапалітам Іонам. У дакуменце было адзначана, што царква ў запусценні і спусташэнні. Б. Багавіцінавіч падараваў царкве і манастыру маёнтак Чашчыцы (Чашчаўляны), які выслужыў у вялікага князя літоўскага Аляксандра (1506)[61].

[56] Шаланда А. Пергаміны XVI ст. у фондах Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага... С. 25–26.

[57] ПКГЭ. Ч. 2. Вильна, 1882. С. 101.

[58] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.5, арк. 4–6адв.; АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 74–80.

[59] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1: 1340–1506. СПб., 1846. С. 368–371; Ярушевич А. Ревнитель православья князь Константин Иванович Острожский (1461–1530) и православная литовская Русь в его время. Смоленск, 1897. С. 111–112; Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродна, 1910. С. 53; Макарий. История русской церкви. Кн. 5... Москва, 1996. С. 103; Сліж Н. З гісторыі Прачысценскай царквы ў Гародні. XVI–XVIII ст. // Гарадзенскі палімпсест XII–XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гародня, 7 лістапада 2008 г.) / Пад рэдакцыяй А.Ф. Смаленчука і Н.У. Сліж. Гародня–Беласток, 2008. С. 64–95.

[60] Lietuvos Metrika. Kn. 9 (1511–1518): Užrašymř knyga 9 / Parengë K. Pietkiewicz. V., 2003. P. 222; Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. Вильна, 1867. С. 185; Шаланда А. Замкавы суд у Гарадзенскім павеце (другая палова XV–1566 г.)... С. 14.

[61] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 1; Археографический сборник. Т. 9. С. 418–421; Макарий. История русской церкви. Кн. 5... С. 102.

Б. Багавіцінавіч падтрымліваў інтарэсы царквы на дзяржаўным узроўні. Ён падаў шэраг дакументаў на пацверджанне Жыгімонту Старому. Так былі пацверджаны куплі ў жонкі Арцёма Буейкі Матруны, Будылы Садоўніка ў 1508 г.[62], даравальны запіс манастыру І. Сергеевіча на Панямунь і судовы працэс з яго жонкай, яго тастамент, даравальны запіс манастыру Б. Багавіцінавіча на Чашчыцы, куплі на землі і агароды ў Б. Санцовіча, П. Апіхайлевіча, Б. Санцовіча, А. Перхуравай, Т. Калажаніна, І. Полаўца, Рагозічаў, падданага Б. Валовіча Грынька, Лявона, Л.Хадарца, І. Вінніка ў 1512 г.[63]

Канец 15 – пачатак 16 ст. стаў для манастыра Св. Барыса і Глеба вельмі прыбытковым. Ён атрымаў каралеўскі сад, фальваркі Панямунь і Чашчыцы і набыў усю тэрыторыю на ўзвышшы каля рэчак Гараднічанка і Нёман. На жаль, у дакументах не адлюстравалася, якія былі пабудовы вакол царквы, іх знешні і ўнутраны выгляд. Пра тэрыторыю вакол царквы і манастыра і іх уладанні больш падрабязна можна даведацца з пазнейшых дакументаў. У іх прадстаўлены часам урывачныя звесткі за розныя гады, што не дазваляе прасачыць агульную тэндэнцыю па фарміраванню царкоўнага землеўладання за ўвесь перыяд, а таксама дакладна вызначыць, якія пабудовы знаходзіліся пры царкве.

Інвентароў за першую палову 16 ст. не выяўлена. Не адзначана пра іх існаванне ў пераліку дакументаў Каложскага архіву за 1760 г.[64] Звесткі аб манастырскай тэрыторыі маюць у асноўным ускосны характар. Напрыклад, на падставе судовых скаргаў вядома, што акрамя манаскіх кел’яў знаходзіліся пакоі ці асобная пабудова для архімандрыта. У 1539 г. гарадзенскім архімандрытам быў Іона. Ён падаў скаргу на свяшчэнніка Паўла, які служыў у земскага падскарбія Івана Гарнастая, і на юнака Юхно Янушкевіча з Мастоў. На моцным падпітку яны прыйшлі да яго апоўначы, выбілі дзверы ў пакой і сталі патрабаваць, каб ён аддаў рэчы Паўла. Але яны захоўваліся ў царкве, а ключы ад яе знаходзіліся ў панамара. Архімандрыт уцёк ад іх з дапамогай царкоўных вартаўнікоў. Парушальнікаў злавілі служэбнікі гарадзенскага спраўцы Войцеха Трэбскага[65].

Апісаныя падзеі не самыя прыемныя з гісторыі штодзённасці царквы. Аднак у іх згадваецца цікавая інфармацыя. Царква была месцам захавання рэчаў, найбольш надзейным на тэрыторыі манастыра. Ключы ад храма знаходзіліся ў панамара, а не ў святароў. Архімандрыт жыў пры манастыры. Са справы не зразумела, ці ў яго была асобная пабудова, ці

62 Дакумент быў надрукаваны ў: Археографический сборник. Т. 9. С. 423.

63 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 1–3. Другі дакумент быў надрукаваны ў: АВАК. Т. 1. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. С. 63–64. Ён ўтрымлівае шэраг памылак у імёнах і прозвішчах мяшчан. Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродна, 1910. С. 63–65.

64 Аддзел рукапісаў БВУ, ф. 4-35661 (А-2301).

65 АВАК. Т. 17. Вильна, 1890. С. 50–51.

ў яго былі свае пакоі ў агульнай пабудове. Але дзверы ў яго пакой былі не самыя моцныя, калі іх можна было выбіць. На ўваходзе ў манастырскі комплекс былі вартаўнікі, але яны дазволілі туды патрапіць п'яным асобам і напасці на архімандрыта[66].

Пры манастыры знаходзілася іканапісная школа. Аб гэтым сведчыць скарга ігумена на мастака Афанаса Антановіча, які вывучаўся тут мастацтву і за гэта абяцаў адслужыць 5 год. Але замест гэтага ён пайшоў служыць да Юрыя Храптовіча[67]. Ігумен прадставіў распіску мастака (1539). А. Антановіч сцвярджаў, што навучыўся мастацтву не ў Гародні, а толькі працаваў пры манастыры. Яны пагадзіліся на тым, што мастак адпрацуе год, і пасля атрымае 2 капы літоўскіх грошаў ці тканіну[68]. На падставе гэтай скаргі можна меркаваць, што пры манастыры знаходзілася школа, для якой павінны былі адвесці асобнае памяшканне. Аднак звесткі ў дакуменце не даюць магчымасць вызначыць перыяд існавання школы, якія ў ёй пісаліся іконы, у якія храмы і да якіх асоб яны траплялі. Акрамя таго, пазнейшых згадак пра школу не выяўлена. Напэўна яна існавала толькі ў першай палове 16 ст., прыкладна да канца 1540-х гг.

З іншых манастырскіх уладанняў вядома пра сенажаць на рацэ Анча (зараз Ганча) і землі недалёка ад скідальскай дарогі. У 1539 г. манастыр судзіўся з-за яе з Багданам Храптовічам, братам вышэй згаданага Юрыя Храптовіча (1539)[69].

Манастыр меў права на ўваходы ў Маляўскую і Перстунскую пушчы. Аднак ураднік каралевы Боны Павел Втуркоўскі забараніў царкоўным падданым уваходзіць у іх. Архімандрыт Міхаіл звярнуўся за дапамогай да наваградскага ваяводы і земскага падскарбія Івана Гарнастая, які ў той час апекаваўся манастыром па загаду Боны Сфорцы. Ён напісаў ліст ураднiку, але гэта не мела дзеяння. Тады звярнуліся да каралевы, каб яна сама загадала П. Втуркоўскаму. Адпаведны ліст быў выдадзены ў 1552 г.[70]

Не менш цікавую інфармацыю пра манастырскую тэрыторыю даюць візуальныя крыніцы. Пры больш падрабязным вывучэнні гравюраў Адэльгаўзера–Цюндта 1567 – 1568 гг. і Тамаша Макоўскага 1600 г., супастаўленні іх з дакументамі і эмпірычнымі даследаваннямі мясцовасці былі атрыманыя новыя звесткі па гэтаму раёну Гародні. Гравюра

[66] Тамсама. С. 354–355.

[67] Юрый Фёдаравіч Храптовіч фігураваў у іншых справах, на падставе ях можна меркаваць, што яго жыццё ў гэты перыяд было звязана з Гародняй. АВАК. Т. 17. Вильна, 1890. С. 180, 188, 201, 202, 207, 210, 211, 343, 376, 380, 386. На яго і яго брата Багдана скардзіўся Андрэй Міхайлавіч Сагушкавіч аб частцы маёнтка Дашкаўцы, якую яны павінны былі вылучыць яго жонцы, а іх сястры (1536). Lietuvos Metrika (1528–1547). 6-Teismř bylř knyga / Parengë S. Lazutka, I. Valikonitë. Vilnius, 1995. P. 154.

[68] АВАК. Т. 17. Вильна, 1890. С. 4; Jodkowski J. Opat Jonasz i Atanazy Antonowicz malarze grodzieńscy za Zygmunta I // Rocznik II. Museum w Grodnie. Grodno, 1925. S. 38.

[69] Тамсама. С. 73.

[70] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 25, 26; АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 122–123.

Адэльгаўзера–Цюндта шматсюжэтная, складзеная з розных малюнкаў, выканана на вельмі высокім мастацкім узроўні. У цэнтры ўвагі – прыём пасольстваў. Гэтая падзея ідзе на першым плане. Яго удзельнікі намаляваны даволі дэталёва[71] і ў профіль. “Фонам” стала Гародня з яе пабудовамі і штодзённасцю. Гэта сведчыць пра высокі ўзровень мастака і яго назіральнасць. Пад яго пільнае вока патрапілі як архітэктурныя асаблівасці горада, так і хатнія жывёлы каля Нёману. Повілас Рэклайціс, а за ім Томаш Неваднічанскі адзначаюць пра дакладнае адлюстраванне на гравюры тапаграфіі і архітэктуры горада, а таксама пра інфарматыўнасць выявы[72].

Аднак шэраг даследчыкаў вылучае на гравюры дзве “істотныя памылкі”. Першая – Нёман цячэ ў адваротны бок, другая – Нёман каля Каложы пераходзіць у Гараднічанку і царква з манастыром апынулася на яго левым баку. Гэта было аднесена да памылкі мастака. Напрыклад, Алена Квітніцкая прыводзіць як доказ недакладнасці панарамны фотаздымак Гародні 1866 г.[73] Але ён зроблены з адной кропкі, на ўзвышшы з правага боку ад Старога моста, як ехаць у цэнтр горада. А гравюра рабілася з трох кропак. Гэта прасочваецца ў гравюры. Бачны тры цэласныя сюжэты: Каложская царква і раён каля яе, замкі і цэнтр горада, Падол. Другая “памылка” абмяркоўвалася ў літаратуры яшчэ на пачатку 20 ст. Было выказана меркаванне, што арыгінальны малюнак быў папсаваны, – левы кут быў адарваны,– а гравёр дамаляваў згубленую частку і прыняў Гараднічанку за Нёман. В.В. Гразноў лічыў, што тут не было памылкі. Намалявана была не Каложа, а невядомая царква на фарштаце. З гэтым не пагадзіўся Я. Арлоўскі[74]. Наяўнасць “памылак” выклікала пэўны сумніў і недавер да іншых выяваў на гравюры. Яна больш выкарыстоўвалася як ілюстратыўны матэрыял, а не даследчыцкі. Варта адзначыць, што пазнейшыя копіі гравюры за 1575, 1608, 1637, 1720[75] і за іншыя гады сапраўды ўтрымліваюць памылкі і недакладнасці. Іх немагчыма выкарыстоўваць для тапаграфічнай і архітэктурнай ідэнтыфікацыі горада.

71 Стасов В. Православные церкви Западной России в XVI веке // Сборник археологического института. Кн. 3 / Под ред. Н.В. Калачова. СПб., 1880. С. 55–56. Артыкул суправаджаюцца літаграфіямі цэркваў Св. Барыса і Глеба, Прачысценскай, Св. Крыжа і царквы пры ратушы, зробленымі з гравюры Адэльгаўзера–Цюндта 1567–1568 гг. Іх копіі часам прыводзяцца ў пазнейшых выданнях.

72 Relkaitis P. Stadtansichtan Alt-Litaunes In der Grafic des 16. Bis 19. Jahrhunderts. Vilnius. Gardinas. Kanas. Trakai. Lűneburg, 1972. S. 35; Niewodniczański T. Grodno – bemerkungen zur Panorama-Vedute von Adelhauser/Zűndt 1568. Lűneburg, 1983. S. 105.

73 Квитницкая Е. Планировка Гродно в XVI–XVIII вв... С. 18; Краўцэвіч А. Гарады і замкі Беларускага Панямоння ў XIV–XVIII стст., планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. С. 79; Кудряшев В. Гродно. Москва, 1960. С. 33–34; Кишик Ю.Н. Градостроительная культура Гродно. Мн., 2007. С. 82.

74 Грязнов В. Коложская Борисоглебская церковь в г. Гродне. С. 362; Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродна, 1910. С. 79.

75 Relkaitis P. Stadtansichtan Alt-Litaunes In der Grafic des 16. Bis 19. S. 37–42; Niewodniczański T. Grodno – bemerkungen zur Panorama-Vedute von Adelhauser/Zűndt 1568. Lűneburg, 1983. S. 107.

На нашу думку, гэтых “памылак” на гравюры няма. Пры больш уважлівым разглядзе панарамы можна заўважыць па ракурсу пабудоў, што замалёўкі Адэльгаўзерам рабіліся з розных кропак: узвышша каля сучаснага Старога моста, францысканскага ўзвышша і узвышша з сучаснай вуліцы Міра, прыкладна каля дамоў № 3–5. Калі ўлічыць гэтыя абставіны, то зразумела, куды знік Нёман з гравюры. Яго проста не бачна з вуліцы Міра. Таксама рака ўжо не аглядаецца ў далёкай перспектыве з францысканскага ўзвышша. Зараз там яшчэ вялікія дрэвы засланяюць далягляд. Але і ў той час добраму віду на Нёман замінаў ваенны лагер і асаблівасці мясцовасці. Калі прыглядзецца да гэтай часткі Нёмана, то можна заўважыць намёк на “разгалінаванне” ракі, упадзенне Гараднічанкі ў Нёман. Гэта адсутнічае ў пазнейшых копіях гравюры 1575 г. і інш. Акрамя таго добра бачна манастырская тэрыторыя і нават некаторыя дэталі пабудоў з вул. Міра. У тым ракурсе як царква прадстаўлена на гравюры, яе можна было намаляваць толькі адтуль. З узвышша каля моста царкву немагчыма так разглядзець без выкарыстання аптычных прыбораў. Таму зразумела, чаму не адлюстраваліся на выяве царкоўны сад і дамы царкоўных падданых, што месціліся каля Нёмана. Яны не патрапілі ў поле зроку мастака. Бачна толькі невялікая тэрыторыя каля Гараднічанкі, а за Каложай – пабудовы Сухога Сяла.

У гэтай частцы гравюры большае месца займаюць дзеянні звязаныя з сустрэчай пасольства. У цэнтры змешчаны вайсковы лагер (іл. 1; № 6), які быў абмежаваны левым берагам Нёмана і вуліцай Лабенскай і знаходзіўся прыкладна насупраць Старога замку, у раёне сучаснай прыстані. Называўся ён Зарачанскі пасад. Лагер быў агароджаны, каля варот стаяла варта. Выходзіць было дазволена толькі ў суправаджэнні[76].

Гравюра найбольш дакладна перадае выгляд царквы Св. Барыса і Глеба і вакольнай тэрыторыі, наколькі гэта магчыма для падобнага твора мастацтва[77]. Над царквой змешчаны надпіс на латыні: “*Templum Russorum latericium*” (“Мураваная праваслаўная царква”). Царква і манастыр былі агароджаны брамай недалёка ад званіцы, што было натуральна для манастырскага комплексу. Праўда, на колькі быў умацаваны манастыр, па гравюры меркаваць складана. На яго тэрыторыі знаходзіліся царква, званіца з капліцай, дзве пабудовы (напэўна манастырскія, ці адна манастырская, а другая – гаспадарчая) і могілкі. Алтарная частка царквы накрытая двухсхільным дахам, а храм чатырох-гранным купалам[78] (іл. 1; № 1). Зыходзячы з абарончага характару царквы ў літаратуры было прадстаўлена меркаванне, што вежа з правага боку ад уваходу ў царкву так-

76 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским государством. Ч. 3. (годы с 1560 по 1570). СПб, 1892. С. 525–530; Стасов В. Православные церкви Западной России в XVI веке… С. 57.

77 М. Валіцкі палічыў выяву царквы “фантастычнай”, у якой няма апісаў і шмат памылак. Walicki M. Cierkiew św. św. Borysa i Gleba na Kołoży pod Grodniem... S. 10. Але зрабіць дакладны малюнак з такой адлегласці вельмі цяжка.

78 Воронин Н. Древнее Гродно. Москва, 1954. С. 80.




**Ілюстрацыя 1.** Гравюра Адэльгаўзера–Цюндта 1567–1568 гг. Копія з літаграфіі надрукаванай ў артыкуле: Стасов В. Православные церкви Западной России в XVI веке // Сборник археологического института. Кн. 3 / Под ред. Н.В. Калачова. СПб., 1880. 1 царква Св. Барыса і Глеба, 2 царква Св. Тройцы і званіца, 3-4 манастырскія пабудовы5 могілкі 6 лагер, дзе месцілася маскоўскае пасольства

сама была пабудавана для абарончых мэтаў[79]. Круглая вежа ўвенчвалася купалам з крыжам. Але яе існаванне выклікае сумніў у даследчыкаў. Таксама як меркаванне, што лесвіцы каля апсіды вялі на гэтую вежу, проста яна памылкова мастаком змешчана ў іншым баку[80]. Так як гэты бок царквы абваліўся, то сёння немагчыма даследаваць нават яе фундаменты. Але на нашу думку такая вежа магла існаваць першапачаткова. Археалагічныя раскопы ў Ваўкавыску выявілі недабудаваную царкву 12 ст., у якой з правага боку ад галоўнага уvахода размяшчалася вежа[81], таксама як і ў Каложскай царкве. Такая схема пабудовы храма як у Ваўкавыску магла быць не адзінай. Яе маглі выкарыстаць у Каложскай царкве, што і адлюстраваў гравёр.

Побач з царквой намаляваны дзве манастырскія пабудовы (іл. 1; № 3–4). Яны даволі простыя па сваёй архітэктуры. Першая месцілася на пляцы перад царквой, але не на адной лініі з ёй, а высунутая ўперад. Зараз там знаходзіцца памятны камень Грунвальдскай бітве 1410 г. Калі верыць гравюры, то ўваход у яе быў з боку Нёмана, ці адзін з уваходаў.

79 Ю. Егоров Градостроительство Белоруссии. Москва, 1954. С. 15–20, 44–46.

80 Воронин Н. Древнее Гродно. Москва, 1954. С. 80, 89.

81 Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. Мн., 1989. С. 177.

Будынак двухпавярховы з паддашшам і двухсхільным дахам, на якім бачны дымаход. Тры вакна было над дзвярыма, адно з іх пад дахам, а тры на другой сцяне. Другая пабудова таксама мела двухсхільны дах, двухпавярховая са схематычна намаляванымі вокнамі.

За царквой была званіца з прыбудовай (іл. 1; № 2). На нашу думку, гэта была царква Св.Тройцы, аб якой згадваецца ў 1593 г. (аб царкве гл. далей)[82]. Яна магла знаходзіцца амаль на ўскрайку ўзвышша, побач з агароджай. Зараз гэта за межамі агароджы царквы. На гэтай жа гравюры падобная па архітэктуры званіца знаходзіцца побач з Прачысценскай царквой. Кёльнскі канонік Георг Браўн апісаў яе як драўляную на па́лях і слупах, якія замацаваны папярэчнымі бярвеннямі (1575). Пустыя месцы былі засыпаны камянямі[83]. На нашу, думку, папярэчныя замацаванні маглі быць зроблены ў выглядзе лесвіцы, каб зручна было трапляць да звана. У званіцы вылучаецца дзве часткі. Першая – гэта слупы з перакрыццямі, а другая – звон, над якім быў купал з крыжам. Планіроўка Барысаглебскай і Прачысценскіх цэркваў не прадугледжвала наяўнасць званоў у храме. Таму пазней званіцы былі пабудаваныя асобна. Але калі званіца Прачысценскай царквы намалявана як асобны будынак, то побач са званіцай пры манастыры была прыбудова. Разам яны нагадваюць невялікі манастырскі храм. Іншая драўляная званіца была пабудавана ў 17 ці 18 ст. і разабрана ў 19 ст.[84].

На самым краю берага знаходзіліся могілкі (іл. 1; № 5). На адным з надмагілляў бачны крыж. На тэрыторыі манастыра магло быць і болей пабудоў, напрыклад гаспадарчыя. Але яны маглі не патрапіць у поле зроку мастака.

На гравюры Тамаша Макоўскага 1600 г. з левага боку ад замка размешчаны манастыр Св. Барыса і Глеба (іл. 2). Выява Каложскай царквы адрозніваецца ад выявы на гравюры Адэльгаўзера–Цюндта. Калі на першай купал з крыжам яўна паказваў, што гэта царква, то на другой яе можна прыняць за свецкую пабудову. Над ёй адсутнічае надпіс, як гэта зроблена над іншымі храмамі. У параўнанні з імі Каложская царква намалявана даволі схематычна. Аднак на куце каля галоўнага ўвахода праглядаецца вежа. Уладзімір Бачкоў лічыць, што яна на той час была з двухсхільным дахам і вежамі па кутах, чым нагадвала цэрквы першай паловы 16 ст. у Сынкавічах, Мураванцы, Супраслі. Яе вільчыкі не маюць завяршэння, на даху бачна сігнатура з галоўкай[85].

На нашу думку, царква не змяніла свой ранейшы выгляд. Але на такі выгляд храма на гравюры паўплывала тое, што кропка з якой рабілася

---

82 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 6.

83 У другім томе выдання “Civitates orbis terarum” была надрукавана каляровая копія з гравюры 1567–1568 гг. Да яго прыводзілася апісанне Гародні. В. Стасаў лічыць, што апісанне Гародні, верагодна, было зроблена на паставе выявы Адэльгаўзера–Цюндта. Стасов В. Православные церкви Западной России в XVI веке… С. 57–59.

84 Грязнов В. Коложская Борисогребская церковь в г. Гродне. С. 370.

85 Бачкоў У. Невядомая нам Гародня // Мастацтва. Студзень, 2007. №1.



**Ілюстрацыя 2**. Гравюра Т. Макоўскага 1600, Каложская царква і манастыр.

панарама Гародні знаходзілася амаль насупраць царквы Чэстнага Крыжа, можа і крыху далей. Аб чым сведчыць ракурс пабудоў. Адтуль Каложскую царкву ў дэталях разглядзець немагчыма. Чытач можа сам схадзіць на ўзвышша на вуліцы Дарвіна і пераканацца, што царква з гэтай кропкі выглядае як квадратная пабудова: апсіды зліваюцца ў адну сцяну, а двухсхільны дах робіць уражанне, што гэта свецкі будынак. Таму яе выява адрозніваецца ад выявы на гравюры Адэльгаўзера–Цюндта 1567 – 1568 гг. Акрамя таго, археалагічныя даследаванні даўно пацвердзілі, што па кутах царквы не было вежаў, хоць царква ў выпадку ваеннай бяспекі магла стаць месцам абароны[86].

Побач з ёй змешчаны тры пабудовы, як і ў папярэдняй гравюры. Адна з іх зліваецца з царквой. Пабудова з левага боку – манастыр, а з правага – царква Св. Тройцы са званіцай. Але на гравюры яна выглядае як звычайная пабудова з двухсхільным дахам. За ёй слаба праглядаецца купал званіцы. З папярэдняй гравюры вядома, што яна знаходзілася за прыбудовай.

Могілкі засталіся невідочнымі, але бачна іх месца знаходжання. На сутоках Гараднічанкі добра відаць частку аднаго дома. На падставе іншых крыніц можна сцвярджаць, што гэта адзін з двароў царкоўных агароднікаў. Аднак царкоўны сад на гравюры не адлюстраваўся. У параўнанні з гравюрай Адэльгаўзера–Цюндта царква Св. Барыса і Глеба і манастырская тэрыторыя намаляваны горш, на што паўплывала іншае месца знаходжання мастака. Але пры гэтым гравюра Т. Макоўскага пацвярджае

86 Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. Мн., 1989. С. 177.

схему знаходжання пабудоў на манастырскай тэрыторыі, якая была і на гравюры 1567 – 1568 гг.

Дадзеныя гравюры застаюцца адзінымі выяўленчымі крыніцамі за гэты час. У іх адлюстраваліся выявы цэркваў Св. Барыса і Глеба і Св. Тройцы, манастырскіх пабудоў. Канечне, ім не хапае дэталёвасці і большай дакладнасці, але гэта не зніжае іх каштоўнасці.

М. Валовіч звярнуўся да І.Гарнастая, які трымаў манастыр Св. Барыса і Глеба пасля смерці ігумена Місайлы, каб той перадаў яму яго. Спрыяў перадачы і маршалак і пісар ВКЛ Астафей Валовіч. Жыгімонт Аўгуст выдаў адпаведны ліст (1554). І.Гарнастай аддаў манастыр ў 1554 г. М. Валовіч выгнаў адзінага манаха за сваявольства і паставіў свецкага папа, які не ведаў пра валоданне манастыром Панямуннем. Праз год (1555) па просьбе Марка, за заслугі роду Валовічаў, была зацверджана перадача манастыра пасля смерці Марка яго сыну Сямёну. Адзначалася, што Марк ужо ва ўзросце і згубіў зрок. Яму дазвалялася жыць пры манастыры да канца жыцця[87]. І. Кульчыцкі піша, што Сямён Валовіч трымаў манастыр да 1568 г. У гэтым годзе па прывілею Жыгімонта Аўгуста ён з усімі ўладаннямі (с. Чашчыцы, царква і маёмасць у ёй) быў перададзены гарадзенскаму падкаморыю Паўлу Юр’евічу Катовічу. Павінна была прайсці інвентарызацыя манастыра для перадачы новаму ўладальніку. Гарадзенскі падкаморы трымаў манастыр да 1580 г. А пасля яго зноў там уладарыў С. Валовіч[88].

У 1591 г. гарадзенскім архімандрытам стаў гарадзенскі падкаморы Багдан Годкінскі. Ён прыняў пострыг і ўзяў імя Клімант[89]. Пры перадачы Б. Годкінскаму Каложскай царквы і манастыра ад падскарбія ВКЛ Дземетрыя Халецкага пасля смерці Сямёна Валовіча была праведзена інвентарызацыя ўладанняў (1591). Аб Чашчыцах адзначалася, што яны спустошаны, і пабудовы там у дрэнным стане. Да манастыра належала ўрочышча Шчэрбніцы над рэчкай Русота, сяло Басарабы пры Перстунскай воласці. Межы ўладанняў былі апісаны даволі дакладна. Акрамя таго падрабязна быў прадстаўлены раён вакол манастыра, дзе размясціліся двары 20 манастырскіх агароднікаў. Першы агароднік жыў пад самым

87 ЛДГА, ф. 1519 (Метрыка ВКЛ), спр. 36, арк.27–28; спр. 38, арк.18–19; НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, спр.9, арк. 1–2адв.

88 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 26–27; адз.з. 6, арк. адз.з. 6, арк. 20; НГАБ, ф.1755, воп.1, адз.з.7, арк. 247–248; Археографический сборник. Т. 9. С. 428–429; АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 125–126; Borowik P. Jurydyki miasta Grodna… S. 65–66.

89 Б. Годкінскі быў жанаты з Аксінняй Сіргуцеўнай. Вядома, што ў іх сям’і нарадзіўся сыны Андрэй, Юрый, Гаўрыіл, Мікалай, Макарый, будучы гарадзенскі архімандрыт, і дочкі Паланея і Ганна. Багдан парадаў маёнткі Сіргуцеўскі і Эйсманатаўскі і рухомыя рэчы жонцы Аксінні Сіргуцеўне і дзецям. Паланея выйшла замуж за Езофа Станіслвіча Рыманда, раней яны была змоўлена з Яна Станіслававічам Талочкам, а Ганна – за Філона Грыгор’евіча Казлавіцкага. Абедзве атрымалі вена ад сужэнцаў у 1597 г. Археографический сборник. Т. 9. С. 430–431; НГАБ, ф.1755, воп.1, адз.з.15, арк.127–130, 175–176адв.; адз.з. 16, арк. 376адв.-377адв.

Нёманам, за ровам[90], – Пятрук Швец, другі, на гары, каля саду, як ісці з з амку пад самай дарогай, – Касцюк з сынам Васілём, трэція – Рыбакі, там жа далей за садам на гары – удава Хведкі з сынам і зяцем Давідам[91], чацвёрты – ў ірве над ракою Гарадніца[92], пачаўшы ад Нёмана і да каралеўскага двара Гарадніца, да вялікага каменя за старажытнай манастырскай студняй адзін за другім, пяты – Паўлюк Бязручка, шосты – Марцін Стрыхар, сёмы – Анушка Хвятковіч, восьмы – Мартын Аўдзей, дзевяты Стас Стэфановіч, дзесяты – Андрэй Сотнік, адзінаццаты – Антоні Волах[93], дванаццатая – удава Пятрука, трынаццаты Юрка Каменскі, чатырнаццаты – цясляр Іван Гапановіч, пятнаццаты – Томка Ваковіч, шаснаццаты – Іван Смушка, семнаццаты – Іван Альшэўскі, васемнаццаты – Сенька Коцел, дзевятнаццаты – Мацей Пашковіч, дваццаты – Макар, які жыве на самым куце над старажытнай манастырскай студняй, якая на манастырскім грунце. Мяжа пачыналася ад ракі Нёман, ішла ровам над ракою Гараднічанка, міма студні[94], да вялікага каменя на беразе Гараднічанкі, рогам ад каменя ад Гараднічанкі на гару на плытніцу гарадзенскага мешчаніна Шчаснага Бурбы, дзеліць манастырскія землі ад зямель Сухога Сяла і іх выгану. Далей мяжа працягвалася каля Сухога Сяла да ракі Нёман міма манастыра і царквы. У другім месцы мяжа пачыналася ад таго ж манастырскага грунту за выганам Сухога Сяла ад тыльнай сцяны абрубу Гарадніца і дворнага поля, другім канцом да ракі Нёман да ўзгаданага выгану Сухога Сяла, другім канцом каля моргаў Сухога Сяла, якія трымаў Антоні дэ Кгрыпа (18 мограў)[95].

У дадзеным дакуменце даволі падрабязна апісаны межы тэрыторыі вакол манастыра. Двары агароднікаў размяшчаліся каля Нёмана і Гараднічанкі. Можна казаць, што сучасны Каложскі парк уваходзіў у манастырскую тэрыторыю, а манастырскія агароднікі засяліліся на тэрыторыі ўздож Гараднічанкі да перасячэння сучасных вуліц Вялікай Траецкай і Віленскай. Як адметныя знакі згадваюцца старая манастырская студня, якая знаходзілася ў адносным аддаленні ад манастыра, роў, вялікі камень, сад, дарога каля Нёмана, роў над Гараднічанкай.

Пасля перадачы царквы і манастыра Св. Барыса і Глеба падскарбі ВКЛ Дземетры Халецкі працягваў прымаць удзел у іх справах. Ён адрасаваў ліст каралеўскаму сакратару Грыгорыю Дзяльніцкаму на падставе скаргі браслаўскага і гарадзенскага архімандрыта Б.Годкінскага (18 мая

90 Гэты роў ёсць і зараз, знаходзіцца каля Каложскай царквы, калі ісці ў бок Гараднічанкі.

91 Першыя пералічаныя двары знаходзіліся каля Нёмана, побач з садам. Недалёка ад іх праходзіла дарога.

92 У гэтым раёне і зараз знаходзяцца дамы гараджан.

93 Антоні дэ Кгрыпа тут згадваецца памылкова, ён не быў падданым манастыра. Аб ім глядзі: Шаланда А. Род Антонія дэ Кгрыпа… С. 402–412.

94 Верагодна тут ідзе гаворка пра крыніцу, якая знаходзіцца зараз на супрацьлеглым беразе ад аўтастаянкі на перасячэнні вуліц Віленскай і Вялікай Траецкай.

95 НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.6, арк. 6–9адв. Дакумент надрукаваны з памылкамі ў імёнах і прозвішчах у: АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 108–115.

1593 г.). У ім было адзначана, што манастыр быў занядбаны пры Сямёне Валовічы. Ім была пракладзена новая дарога праз манастырскую тэрыторыю пад цэрквамі Св. Тройцы і Св. Барыса і Глеба. Гэтым была нанесена шкода пабудовам. Так магло адбыцца, калі яна праходзіла ў непасрэднай блізкасці ад іх. Частка гэтай дарогі магла ісці па тэрыторыі манастыра паміж могілкамі і цэрквамі. Таксама ён скардзіўся на гарадзенскага цырульніка Каспара Кныбоўскага, Антонія дэ Кгрыпу і іншых, якія атрымалі ад гаспадара валокі ў Сухім Сяле ў пажыццёвае карыстанне і пашкодзілі межы паміж сваімі і царкоўнымі ўладаннямі. Падскарбі ВКЛ загадаў Г.Дзяльніцкаму ў якасці рэвізора разам з гарадзенскім намеснікам агледзіць тыя тэрыторыі, аднавіць межы, папсаваць новую дарогу, а старую – паправіць[96]. Па гэтым фактам была прызначана камісія, якая аднавіла межы (1593). Дакумент добра апісвае спрэчныя межы, але ў ім адсутнічае інфармацыя пра засыпанне новай дарогі і аднаўленне старой, таксама не згадваецца царква Св. Тройцы[97].

Пра царкву Св. Тройцы пры манастыру Св. Барыса і Глеба адзначана яшчэ ў судовай справе Б. Годкінскага з Г. Міцутай за 1599 г. 21 жніўня 1599 г. гарадзенскі возны Шыман Янкоўскі разам з двума шляхцічамі Міхаілам і Стэфанам Карчыцкімі прыйшоў у царкву Св. Тройцы, каб аддаць архімандрыту позву ў суд. У той час там ішла вячэрняя служба, і ён паклаў дакумент пад дзверы царквы, а не аддаў у рукі Б. Годкінскаму. Іншыя дакументы з земскага суда былі ўторкнутыя ў доме архімандрыта, які знаходзіўся на тэрыторыі манастыра[98]. Царква Св. Тройцы была зноў згадана ў судовым выраку па гэтай справе (1599)[99]. З гэтых дакументаў вынікае, што другая царква не знаходзілася ў занядбаным стане, у ёй праводзіліся службы.

Царква Св. Тройцы фігуруе ў прывілеі Станіслава Аўгуста Панятоўскага пры пацвярджэнні прывілея Жыгімонта Старога царкве Св. Тройцы на зямлю Суслаўшчына Хадарковіча ў Азёрах, 1511 г.[100] Месца знаходжання гэтай царквы не высветлена[101]. Камісія, якая была створана для вяртання

---

[96] Iż prysłał do mene Archimandrytt Bracławski y Horodenski wielebny Oteć Bohdan Hodkinski, oznaymujuczy, to jż dey zaniedbałoś toju prodka jego neboszczyka Semena Wołowicza doroha nowa czerez monastyr Horodenski pod **cerkow Swetoje Troycy** y Swetych Muczenika Borysa Chleba ku szkode cerkwi Bożey położona. НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 6.

[97] Археографический сборник. Т. 9. С. 433–437; Шаланда А. Род Антонія дэ Кгрыпа... С. 402–412.

[98] “…*пришодши передъ церковъ Светое Тройцы в монастыру Городенскомъ на Коложы, где онъ въ тотъ часъ на хвалу Божею вечерню отправовалъ*…”. Археографический сборник. Т. 4. Вильна, 1867. С. 51.

[99] НГАБ, ф.1755, воп.1, адз.з.16, арк. 398адв.–402адв.

[100] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 51–52; Lietuvos Metryka. Knyga 9 (1511–1518). Vilnius, 2002. P. 105.

[101] Стасов В. Православные церкви Западной России в XVI веке… С. 58; Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. Гародня–Вроцлаў, 2008. С. 73.

фундацый праваслаўным цэрквам, не змагла выявіць іншых звестак па царкве акрамя згаданых[102]. У гістарыяграфіі складалася думка, што яна была на вуліцы Траецкая, каля Нямецкага рынку[103]. Аднак там знаходзіўся касцёл Св. Тройцы[104]. Яго месца знаходжання было апісана пры продажы Ганнай Кейшаўнай Раўскай пляца Андрэю Станіслававічу Раксцэвічу і яго жонцы Ядвізе Каленнікаўне (1674). Ён знаходзіўся над Гараднічанкай: пярэдні бок выходзіў на вуліцу, якая ішла з Нямецкага рынка, тыльны бок – да Гараднічанкі, адзін бок – да Віленскай дарогі, а другі – да пляцаў касцёла Св. Тройцы[105].

Польскі даследчык Пшэмак Баравік выказаў меркаванне, што гэтай царквы ў той час у горадзе не існавала, бо поп у прывілеі названы Азёрскім, які толькі паходзіў з Гародні. Таму наданне было дадзена не царкве ў Гародні, а ў Азёрах[106]. Зямля Суслаўшчына ніколі не згадваецца ў дакументах як уладанне манастыра. Таксама дадзенага прывілея няма ў архіве Каложскай царквы. Таму ў дадзеным выпадку можна пагадзіцца, што гаворка ідзе пра іншую царкву Св. Тройцы.

Выяву пабудовы побач са званіцай на гравюры Адэльгаўзера–Цюндта 1567 – 1568 гг. і першую пабудову справа на гравюры Т. Макоўскага можна ідэнтыфікаваць як царкву Св. Тройцы. Верагодней за ўсё гэтая царква была драўляная і магла праіснаваць усё 16 ст. Хутчэй за ўсё, яна была знішчана пад час вайны 1654 – 1667 гг. разам з іншымі манастырскімі пабудовамі. Калі была пабудавана гэтая царква на тэрыторыі манастыра, высветліць даволі складана, бо не захаваліся на гэты час інвентарныя апісанні манастыра. Нават пры яго перадачы Б. Годкінскаму нічога пра царкву Св. Тройцы не адзначана[107]. Такім чынам, на тэрыторыі манастыра знаходзіліся дзве царквы. Калі раней у літаратуры лічылася, што месца знаходжання царквы Св. Тройцы невядома[108], то зараз можна дакладна казаць, што яна знаходзілася побач з Каложскай царквой. На жаль, не захавалася звестак пра яе ўнутранае ўбранне, знешні выгляд, час існавання.

За перыяд кіравання манастыром Багданам Годкінскім адбыліся наступныя падзеі. Ад Жыгімонта Вазы манастыр атрымаў права на вечнае валоданне 36 валокамі лесу і сенажаці над р. Сакалдэя Маляўскай і

[102] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 27 адв.

[103] Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродна, 1910. С. 66; Квитницкая Е. Планировка Гродно в XVI–XVIII вв… С. 23.

[104] Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня... С. 89, 135.

[105] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 284–285.

[106] Borowik P. Unici w Grodnie w II połowie XVIII wieku // Acta Colegii Suprasliensis. T. X. Lublin –Supraśl 2008. S. 19. Аўтар выказвае шчырую падзяку П. Баравіку за магчымасць карыстацца рукапісам артыкула.

[107] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.6, арк. 6–9адв.; АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 108–115.

[108] Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня... С. 73.

Перстунскай пушчах, 4 валокамі борнікам і права на ўваходы ў пушчы (1592)[109].

Б. Годкінскі быў сярод тых, хто падпісаў Берасцейскую ўнію 1596 г. Я. Арлоўскі лічыць, што з гэтага часу Каложскі манастыр перайшоў у падпарадкаванне да уніяцкай царквы[110]. У 1598–1604 гг. архімандрыт судзіўся з Геранімам Міцутай з-за ўзяцца мыта каля маёнтка Ожа (Гожа), дзе таксама былі ўладанні манастыра. Каложскі манастыр выйграў працэс. Акрамя таго Б. Годкінскі з Г. Міцутай меў прыватную справу (1599). Яго сын Юрый Годкінскі адабраў рэчы ў Г. Міцуты[111]. Чарговы судовы працэс ігумен быў вымушаны весці з гарадзенскімі бернардынамі з-за захопу імі грунту каля Нёмана, на якім знаходзілася цагельня (1615). Справу разбіраў навагародскі ваявода і гарадзенскі староста Фёдар Скумін Тышкевіч[112]. У духоўным судзе разглядалася справа з гарадзенскім земскім суддзёй Львом Міхайлавічам Сапегам з-за царкоўных уладанняў (1605)[113]. На перыяд кіравання Б. Годкінскага выпаў шэраг судовых спраў. Ён імкнуўся не толькі захаваць уладанні манастыра, але і вярнуць страчаныя тэрыторыі.

Наступны інвентар быў складзены ў 1617 г. пры перадачы Каложскага манастыра ад архімандрыта К. Годкінскага да яго сына Макарыя Багданавіча Годкінскага. У ім былі пералічаны фальварак Чашчыцы, сяло Глебкоўцы ў Загаранах, урочышча Шчэрбніцы за ракою Русота, сяло Басарабы за Нёманам, а таксама быў складзены спіс агароднікаў над Гарадніцаю і над Нёманам, адзначана сума чыншу, якую кожны выплачваў. Акрамя таго, як гарадзенскія мяшчане, яны павінны былі служыць 4 дні ў год талакі. Ворныя землі пры манастыры былі падзелены паміж царкоўнымі падданымі. У адрозненні ад інвентару 1593 г., дзе апісана месца знаходжання двароў агароднікаў, тут пералічаны іх імёны і прозвішчы і сумы падаткаў: “*Jakub Donokowicz hroszy 20, Tomko Piwowar 6, Pauluk Tesla 20, Martyn Lopenko 20, Bondarowaja wdowa 20, Janko Piłownik 20, Woytech Matusewicz 20, Szulżynaia wdowa 20, Iwan Protasowicz 20, Matys Piwowar 20, Hryszko Kozojewicz 20, Jasko Szok 6, Tomko Oleynik 20, Fedor Kalinkowicz 20, Janowa wdowa 20, Semen Tesla 20, Dom Kowalow 20, Jakub Chodelski 20, Dawidowia Piekarka 20, Makszycz 20, Matys Skrypek, Tot ze z druhoho domu 20, Iwanowaja wdowa 20, Stas Medowie 20, Łukian 20, Ma[c]iey Chorny 20, Wanowicz 20, Iwan Kubelnikowicz 20, Petr Litwin 20, Naum Kuszczer 20, Stasko Rymkowicz 20, Maleszko Iwanowicz 20, Dom Kamęskoho 20, Szewć (Szweć?) 20, Sydor Dubotok 20, Hapon z Michałkom*

[109] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.3, арк. 29-29адв.; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1: IX–XVIII ст. / Склад. В.К. Шчарбакоў, К.І. Кернажыцкі, Д.І. Даўгяла. Мн, 1936. С. 540–541.

[110] Акты, относящиеся к истории Западной России. Санкт-Петербург, 1851. Т. 4 (1588–1632). С. 141. Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродна, 1910. С. 96.

[111] Археографический сборник. Т. 4. Вильна, 1867. С 45–70; Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродна, 1910. С. 97–98.

[112] НГАБ у Гродна, ф.128, воп.1, адз.з.9, арк.9–10адв.

[113] АВАК. Т. 20. Вильна, 1893. С. 210.

*28, Iwan Janowicz 28, Petr Miszkowicz 28, Stefan Litwin 28, Jurko Muraszko, Syluta 20, Wzerszow dwa wybutwiałych, Łucjan Rybak 20, Michałko Strychar 20, Sawonewaja wdowa 6, Iwanko Michałowicz 6, Wiersz Wybutwiał 20, Ławrynowi Tesla 20*". На падставе гэтага спісу можна казаць, што пры манастыры жылі і рамеснікі: страхар, півавар, рыбак, пекар, цясляр[114].

У прывілеі Уладзіслава Вазы смаленскаму і чарнігаўскаму архіепіскапу Лявону Крэўзе Рэвуцкаму на манастыр Св. Барыса і Глеба і на Прачысценскі манастыр у Браслаўле пералічаны валоданні гарадзенскага манастыра на 1633 г. Яму належалі фальварак Чашчыцы, сяльцо Хомкі, урочышча Шчэрбніцы, сяло Басарабы, сенажаць, бортная зямля над ракою Анча, бортнае дрэва і сенажаць у Крынскай пушчы над ракой Саколка (з апісаннем межаў), каложскія мяшчане, якія жылі побач з манастыром, цагельня і землі вакол манастыра ў старых межах[115]. У адрозненні ад інвентароў 1593 і 1617 гг. імёны манастырскіх падданых, якія жылі каля Гараднічанкі, не згадваюцца. Калі раней яны называліся агароднікамі, то пасля мяшчанамі. Таксама тут не прыведзена апісанне межаў вакол манастыра, а толькі адзначана, што яны засталіся такія ж як і раней.

Царква Св. Барыса і Глеба зрабіла непасрэдны ўплыў на фарміраванне наваколля. Пабудова тут храма вызначала далейшае развіццё гэтага раёна вакол царквы. У гэтым сэнсе Каложская царква, як фарміруючы фактар тэрыторыі, не была ўнікальнай у Гародні. Тое ж адбылося вакол Прачысценскай царквы[116].

Свае тэрыторыі царква Св. Барыса і Глеба пашырыла за кошт фундацыйных запісаў, купляў, абменаў зямлі. У гэтым было зацікаўлена духавенства і праводзіла адпаведную маёмасную палітыку. Так, на пачатку 16 ст. царква стала асноўным ўласнікам на ўзвышшы. Ёй належалі землі каля рэчак Нёман і Гараднічанка. Гэтае ўладанне захавалася за ёй і на пачатку 19 ст. У гэтым раёне людзі працягвалі сяліцца, як на пачатку 20 ст. так і зараз.

Візуальныя і дакументальныя крыніцы дазволілі ўвесці абсалютна новую інфармацыю пра гэтую тэрыторыю. Высветлілася, што каля Каложскай царквы знаходзілася яшчэ адна царква Св. Тройцы, месца знаходжання якой гісторыкі не маглі ідэнтыфікаваць да гэтага часу. Акрамя таго, дзякуючы гравюрам Адэльгаўзера–Цюндта 1567–1568 гг. і Тамаша Макоўскага 1600 г., атрымалася выявіць пэўныя асаблівасці планіроўцы манастырскіх пабудоў. Таксама пры супастаўленні з дакументальнымі крыніцамі і эмпірычнымі даследавання атрымалася, што памылак, пра якія ўвесь час пісалі даследчыкі, на гравюры Адэльгаўзера–Цюндта няма. Нёман цячэ ў правільным накірунку, а царква і манастыр Св. Барыса і Глеба знаходзяцца на правым беразе Нёмана.

114 Тамсама, адз.з.4, арк. 6–8.

115 АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 57–58.

116 Сліж Н. З гісторыі Прачысценскай царквы ў Гародні. XVI – XVIII ст… С. 64–95.

Сабраныя факты сведчаць, што гістарычная зона ідзе далёка за межамі царквы. З улікам старажытнасці і ўнікальнасці ахоўваемая зона вакол Каложскай царквы павінна быць пашырана і не абмяжоўвацца толькі прылягаючай да царквы тэрыторыяй. Любыя працы ў гэтым раёне павінны праводзіцца пад адпаведным наглядам. Гэта можа датычыцца нават паселішчаў каля Гараднічанкі.

Зараз у сродках масавай інфармацыі абмяркоўваецца пытанне па рэканструкцыі Каложскай царквы. Але тыя праекты, які прадстаўлены, зроблены без адпаведнага вывучэння архіўных матэрыялаў. На нашу думку, правядзенне падобных не падрыхтаваных прафесійна прац можа толькі пашкодзіць царкве.

***Вайда Камунтавічэне***
***(Vaida Kamuntavičienė)***
***(Коўна)***

# ГАРАДЗЕНСКАЯ КАТАЛІЦКАЯ ПАРАФІЯ Ў 15–17 ст.*

Горад Гародня, заснаваны напрыканцы 10 ст. усходнімі славянамі ў стратэгічным месцы ля Нёмана пры ўпадзенні ў яго рэчкі Гараднічанкі, быў адным з найважнейшых у Вялікім Княстве Літоўскім. У часы Аляксандра, у 1496 г., яму было нададзена Магдэбургскае права, сфармавалася самакіравальная супольнасць гараджанаў. У Гародні стаяў замак вялікага князя літоўскага, з якога кіравалася каралеўская эканомія Гародні, сюды часта наведваліся і тут жылі вялікія князі літоўскія і польскія каралі. Значэнне Гародні асабліва вырасла ў другой палове 17 ст., калі гэты горад стаў месцам агульных соймаў Рэчы Паспалітай.

Хрысціянская вера дайшла да ваколіцаў Гародні ў 11 ст., у 12 ст. у горадзе было збудавана некалькі мураваных цэркваў. З-за нястачы крыніц у гістарыяграфіі падаюцца розныя звесткі, колькі і якія праваслаўныя цэрквы стаялі ў Гародні ў Сярэднявеччы, хто былі іх фундатары і які уплыў мелі на мясцовых жыхароў. Адзіны помнік, што захаваўся на паверхні зямлі ад тых часоў – Барысаглебская царква (Каложа).

Каталіцкая вера ў Гародню пачала пранікаць пасля афіцыйнага хрышчэння паганцаў у ВКЛ ў 1387 г. У гэты час было створана Віленскае біскупства, а дзякуючы фундацыі Вітаўта – з’явілася каталіцкая гарадзенская парафія св. Панны Марыі (парафіяльны касцёл папулярна называецца Фарай Вітаўта). На жаль, прывілей не захаваўся, гісторыкі толькі робяць здагадкі, у якім годзе ён мог быць нададзены[1]. Невядомыя дакладныя даты і фундатары гарадзенскіх каталіцкіх касцёлаў і кляштараў да другой паловы 16 ст. У гістарыяграфіі згадваюцца дзейныя касцёлы св. Мікалая, св. Духа, св. Тройцы ды кляштар аўгусцінцаў. Хоць паралельна з гэтымі каталіцкімі касцёламі існавалі і адорваліся княскімі прывілеямі праваслаўныя цэрквы (немалы ўплыў на пашырэнне праваслаўя ў горадзе мела жонка князя Аляксандра Алена, дачка князя маскоўскага Івана III, якая фундавала некалькі праваслаўных цэркваў у Гародні), аднак тым не

* З літоўскай мовы пераклаў Алесь Мікус

1 У гістарыяграфіі можна сустрэць меркаванне, што драўляны парафіяльны касцёл ужо стаяў у 1389 г., бо згадваецца ў прывілеі Вітаўта гарадзенскім яўрэям: (Гарбусь Т. В. Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура Беларускага барока. Мн., 2001. С. 66.) Аднак згаданы прывілей з’яўляецца фальсіфікатам з 16 ст.

менш улады ад 1387 г. фаварызавалі каталіцкі касцёл. Гародня стала важным фарпостам каталіцтва ва ўсім ВКЛ. Менавіта ў Гародні, у княскім палацы 4 сакавіка 1484 г. памёр сын караля Казіміра Ягайлавіча св. Казімір, адзіны літоўскі святы.

16 ст. было асабліва інтэнсіўным перыядам царкоўных рэформаў, у гэтым часе паўсталі новыя хрысціянскія канфесіі, сярод іх лютэранская, кальвінісцкая і арыянская. На жаль, у гістарыяграфіі зусім не абмяркоўваюцца сітуацыя гэтых канфесій у Гародні. Каталіцкая царква у 1545 – 1563 г. склікала Трыдэнцкі агульны царкоўны сабор і абвясціла праграму рэформаў, у часе ажыццяўлення якой найбольш актыўным перыядам пашырэння каталіцтва ў ВКЛ быў канец 16 – першая палова 17 ст. Гэтая хваля рэформаў істотна закранула Гародню, у ёй пачалі засноўвацца каталіцкія кляштары, паўсталі бернардзінскі (прывілеем ад 15 лютага 1494 г. забеспячэнне бернардзінцам надаў Аляксандр[2], але іх дзейнасць да апошняй фундацыі Ганны Друцкай-Сакалінскай 1595 г. не вывучаная), езуіцкі, дамініканскі, францішканскі і брыгіцкі кляштары з касцёламі. У большасці фундатарамі гэтых кляштараў і касцёлаў былі ўжо не гаспадар ці члены яго сям'і, а грамадзяне ВКЛ – шляхта, што свядома ўцягнулася ў рэлігійнае жыццё.

Цягам рэформаў у 1596 г. была заключаная царкоўная Берасцейская унія, паводле якой каталіцкая і праваслаўная цэрквы ВКЛ мелі злучыцца ды падпарадкавацца аднаму царкоўнаму кіраўніку – Папу Рымскаму, аднак былым праваслаўным было дазволена захоўваць свае абрады. Гэтым праектам хацелі дасягнуць адзінства рэлігій у ВКЛ, аднак частка шляхты не пагадзілася з уніяй і засталася праваслаўнай. Хоць большасць гарадзенскіх праваслаўных прынялі унію, але засталася дзейнаю і праваслаўная царква.

Побач з хрысціянскімі канфесіямі ў Гародні дзейнічала жыдоўская супольнасць, якая мела сінагогу, школу, шпіталь і іншыя найважнейшыя кагальныя інстытуцыі. Жыдоўская супольнасць Гародні была пятай па велічыні ў ВКЛ. У 16 ст. жыды ў Гародні складалі каля 10% жыхароў. Іх колькасць расла – у другой палове 18 ст. дасягнула 40 % агулу жыхароў гораду[3].

Па звестках гісторыкаў, у канцы 17 ст. у Гародні было каля 5500 жыхароў[4], з іх каля 3000 каталікоў. Найважнейшым цэнтрам каталіцкага жыцця з'яўлялася парафія св. Панны Марыі ў Гародні, да якой тэарэтычна мелі належаць усе вернікі гэтай мясцовасці, хоць частка іх наведвала касцёлы пры гарадскіх кляштарах. У Сярэднявеччы і ў новыя часы Касцёл быў не толькі інстытутам, які задавальняў патрэбу ў рэлігіі. Ён дапамагаў людзям

---

2 Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. 1. (1387–1507). Wyd. J. Fijaůek, W. Semkowicz. Kraków, 1948. S. 472–473.

3 Гардзееў Ю. Магдэбурская Гародня. Гародня. Wrocůaw, 2008. С. 274–276.

4 Dubas-Urwanowicz E. Fundacje koúcioůów i klasztorów grodzieńskich do XVIII wieku // Fundacje i fundatorzy w úredniowieczu i epoce nowoýytnej. Red. E. Opaliński, T. Wiúlicz. Warszawa, 2000. S. 130.

адольваць асабістыя праблемы, праблемы сэнсу жыцця, фармаваў маральныя ўстаноўкі, нормы паводзінаў, выконваў асветніцкія, сацыяльныя, супольнасныя, дабрачынныя функцыі. У парафіяльных касцёлах абвяшчаліся грамадска-палітычныя пастановы.

Мэта гэтага артыкула – грунтуючыся на візітацыі гарадзенскага парафіяльнага касцёла 1662 г., акрэсліць яго становішча ў горадзе і ўплыў на жыхароў. У 1660 - 1662 г. канцлер Віленскага біскупства, дэкан Гародні Казімір Ян Вайшнаровіч наведваў касцёлы падпарадкаванага яму дэканату, у тым ліку і Гародню[5]. У 18 ст. асобным дакументам быў перапісаны акт візітацыі парафіяльнага касцёла Гародні[6]. Цяпер гэтыя абодва дакументы захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў Вільні. У часе візітацыі гарадзенскага дэканату быў апісаны гарадзенскі парафіяльны касцёл св. Панны Марыі, яго фундацыйныя прывілеі, датацыйныя паступленні, лаканічна ахарактарызавана ўнутранае ўбранне, алтары ды літургічныя рэчы. Напрыканцы складзены дэкрэт аб рэфармаванні (*decretum reformationis*), у якім пазначана, як трэба палепшыць стан касцёла. Побач з гэтым, ахарактарызаваны іншыя прыналежныя да гарадзенскай парафіі касцёлы ў Гародні (св. Духа, св. Тройцы і св. Мікалая). Гэтая візітацыя ў гістарыяграфіі вядомая, ёй карысталіся (часцей са зробленых у 18 ст. копій) з мэтай высветліць пашырэнне каталіцкага касцёла ў Гародні, аднак не ўсё з наяўнай у ёй інфармацыі скарыстана. Матэрыял па царкоўных візітацыях – адна з найлепшых крыніц, якія характарызуюць становішча каталіцкіх парафій ды раскрываюць іх значэнне для грамадства.

Візітацыя гарадзенскага парафіяльнага касцёла 1662 г. важная тым, што гэта найранейшая захаваная візітацыя гэтага касцёла. У 1674 г., ажыццяўляючы візітацыю Віленскага біскупства, біскуп Грацыянопальскі і архідыякан Віленскі Мікалай Слупскі з дапамогай натарыуса Якуба Клейна візітаваў гарадзенскі дэканат[7]. 20 ліпеня яны наведалі гарадзенскі парафіяльны касцёл з усімі яго ўладаннямі і зафіксавалі існую на той час сітуацыю. На жаль, матэрыял гэтай візітацыі не захаваўся, маем толькі яе канспект візітацыі, зроблены ў пачатку 20 ст. вядомым гісторыкам царквы членам Віленскай капітулы Янам Курчэўскім. У ім найбольшая ўвага прысвечана пераказу зместу дэкрэта аб рэфармаванні. Цяпер канспект

[5] Acta decanatus Grodnensis in visitatione decanali cura et labore Casimiri Joannis Woysznarowicz cancellary diaecesis Vilnen[sis] decani pro tunc Grodnensis confecta Anno Dni 1662 // Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (далей – LVIA). Ф. 694. Воп. 1. С. 3969.

[6] Ecclesia Grodnensis A. D. 1662 mense aprilis die 20 visitata, et in suis fundationibus, legationibus, ac offitiis revisa et de integro conscripta // LVIA. Ф. 694. В. 1. С. 3968. Другі ліст візітацыі гарадзенскага дэканату (LVIA. Ф. 694. Воп. 1. С. 3969. Арк. 2–2v.) быў пашкоджаны, на месцы незахаванага тэксту ў копіі пазначана шматкроп'е. Таму што пашкоджанай была копія прывілея Аляксандра ад 28 лютага 1494 г. гарадзенскаму парафіяльнаму касцёлу, у канцы прыкладзены выпіс з архіва Віленскага біскупства, выкананыя 15 сакавіка 1793 г., – яшчэ адна копія таго прывілея. Гл. LVIA. Ф. 694. Воп. 1. С. 3968. Арк. 29–30v.

[7] Kurczewski J. Канспект візітацыі віленскага біскупства біскупам Мікалаем Слупскім у 1674–1677 гг. Аддзел рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Ф. 318–26479. (Далей – Kurczewski J.)

захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. На падставе гэтага канспекта Я. Курчэўскі зрабіў публікацыю, у якой акрэсліў становішча гарадзенскай парафіі[8], аднак захаваны ў рукапісе тэкст – паўнейшы. Гэтыя дзве візітацыі 1662 і 1674 г. – адзіныя крыніцы такога кшталту, якія могуць адлюстраваць становішча парафіі ў другой палове 17 ст.

Да сёння гісторыяй гарадзенскай парафіі цікавіліся ў кантэксце гісторыі горада Гародні або гісторыі каталіцкага касцёла ў ВКЛ[9]. Адным з першых пра Гародню пісаў Юзаф Ядкоўскі ў кнігах агляднага характару[10]. У літоўскай гістарыяграфіі звесткі сістэматызаваны ў энцыклапедычным артыкуле Адолфаса Шапокі пра Гародню[11]. У савецкія часы гісторыяй касцёла не цікавіліся, таму толькі з пачаткам гарбачоўскай перабудовы з'явіліся першыя ўгрунтаваныя на крыніцах даследаванні. Польскі езуіт Ежы Пашэнда апублікаваў артыкул, у якім на матэрыяле ватыканскіх архіваў, апісаў акалічнасці заснавання філіі езуіцкага ордэна ў Гародні і дачыненні езуітаў з гарадзенскім парафіяльным касцёлам[12]. У даследаванні ўключыліся беларускія гісторыкі, апісаўшы архітэктурна-гістарычнае развіццё фары Вітаўта як культавага будынку[13]. Паколькі гэты касцёл 29 лістапада 1961 г. пастановай савецкіх уладаў быў узарваны, напісаць пра яго было важна для развіцця беларускай гістарычнай самасвядомасці. Агляд фундацый касцёлаў і кляштараў Гародні па дакументах з Дзяржаўнага гістарычнага архіва Беларусі, зрабіла Ева Дубас-Урвановіч[14]. Фундаментальнае даследаванне па гісторыі Гародні выканаў беларускі гісторык Юры Гардзееў[15], яго дапоўніла капітальная штудыя польскага

8 Kurczewski J. Stan koúcioůów parafjalnych w djecezji wileńskiej po najúciu nieprzyjacielskiem 1655–1661 r. // Litwa i Ruú. Miesićcznik poúwićcony kulturze, dziejom, krajoznawstwu i ludoznawstwu. Pod red. Jana Obsta. Wilno, 1912. T. 2/1. S. 60–61.

9 Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie. Wilno, 1912.

10 Jodkowski J. Grodno z 28 ilustracjami i planem miasta. Wilno, 1922; Jodkowski J., Grodno i okolice. Jeziora augustowskie. Suwalszczyzna. Przewodnik turystyczny. Grodno, 1934.

11 Đapoka A. Gardinas / Lietuviř enciklopedija. Boston, 1955. T. 6. P. 535–538.

12 Paszenda J. Koúcióů pojezuitski (farny) w Grodnie // Kultura artystyczna Wielkiego Ksićstwa Litewskiego w epoce baroku. Red. Jerzy Kowalczyk. Warszawa, 1995. Стар. 191–211.

13 Мілінкевіч А., Пашэнда Е. Фара Вітаўта ў Гродне // Наш радавод. Гродна, 1990. Кн. 2; Кушнярэвіч А. М., Мілінкевіч А. У., Пашэнда Е. Гродзенскі фарны касцёл // Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993. С. 182–183; Краўцэвіч А., Трусаў А., Трусаў І. Вяртаньне да людзей. Фарны касьцёл у Гродне // Мастацтва. Мн., 1993. №. 8. С. 45–51; Габрусь Т. В. Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура Беларускага барока. Мн., 2001.

14 Dubas-Urwanowicz E. Grodno do XVIII wieku. Miasto i ludnoúă // Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludnoúă (na tle trendów rozwojowych od úredniowiecza do 1939 roku). Red. Andrzeja Woltanowskiego i Jerzego Urwanowicza. Biaůystok, 1997. S. 7–26; Dubas-Urwanowicz E. Fundacje koúcioůów i klasztorów grodzieńskich... S. 130–141.

15 Gordziejew J. Socjotopografia Grodna w XVIII wieku. Toruń, 2002; Hardziejeŭ J., Źródła do dziejów Grodna w zbiorach krakowskich. Wstęp do badań // Pogranicze polsko-litewsko-białoruskie. Źródła historyczne, stan badań. Materiaůy z konferencji. Red. Marek Kietliński. Biaůystok, 2003; Гардзееў Ю. Магдэбурская Гароднея…

гісторыка Пшэмыслава Баравіка, прысвечаная юрысдыкам Гародні ў 15 – 18 ст.[16]

1662 г. быў шчаслівым для людзей таго часу, бо толькі што скончылася першая ў гісторыі акупацыя Гародні. Па загадзе расейскага цара ў 1665 г. войска Івана Хаванскага заняло Гародню і гарадзенскі замак, акупацыя цягнулася да 1661 г., калі аддзелы Крыштапа Бухавецкага змаглі выгнаць з замку у ім маскавітаў. Ажно шэсць гадоў жыхары Гародні цярпелі ад сваволля і рабаўніцтва чужога войска, асабліва ад разрабавання і спусташэння пацярпелі гарадзенскія касцёлы. Праз год пасля сканчэння акупацыі, у 1662 г., у матэрыяле візітацыі гарадзенскага дэканата выразна адлюстроўваюцца шкоды, зробленыя маскоўскім войскам.

Стварэнне парафіі св. Панны Марыі ў Гародні

Па звестках візітацыі гарадзенскага дэканата ў 1662 г. гарадзенскай парафіі св. Панны Марыі прывілеі надавалі яшчэ ўладары ВКЛ Вітаўт ды Казімір, аднак тыя дакументы не захаваліся. Затое вядомы прывілей вялікага князя Аляксандра ад 28 лютага 1494 г., змест якога візітатар перапісаў[17]. На просьбу гарадзенскага пробашча а. Андрэя, Аляксандр пацвердзіў Вітаўтава і Казімірава дараванні парафіі, менавіта – зямлю, на якой стаяў касцёл, плябань, могілкі і сады пробашча, дзве карчмы разам з усімі будынкамі і прыбыткамі, а таксама штогадовую выдачу з гарадзенскага замку 4 пасудзінаў мёду, 4 камянёў воску, 13 свечак (на Вялікдзень), 4 вялікіх свечак (каб запальваць іх каля вялікага алтара ды для св. Сакрамента). Пацверджана дзесяціна зерня ўсіх відаў, апрача аўса, з уладанняў Лабна (*Łabno*) і Скідзель (*Skidel*), фальварак Чапалдова, або Русота (*Czopołdowo alias Russota*) з усімі землямі, сялянамі і іншымі ўладаннямі, 9 азёраў, пасеку, 10 сялянаў у Лясніцы (*Leśnica*) з іх землямі і павіннасцямі (данінай мёдам, зернем), адпрацоўкамі паводле літоўскіх зямельных звычаяў.

Разам з гэтымі адорваннямі ранейшых валадароў, Аляксандр дадаў 2 капы грошай ад гарадзенскіх корчмаў, якія трэба было выплочваць пробашчу штогод на дзень св. Марціна, а таксама дазволіў свабодна браць драўніну на дровы і будоўлю з каралеўскіх лясоў. За гэтыя адорванні пробашч быў абавязаны штотыдзень прыводзіць за ўладара і яго нашчадкаў адну імшу[18]. Па звестках канца 18 ст., у 1496 г. Аляксандр надаў гарадзенскаму парафіяльнаму касцёлу і яго капліцы яшчэ адзін прывілей[19]. Аляксандравы дараванні з невялікімі зменамі 9 лютага 1584 г. пацвердзіў Стэфан Баторый[20]

16 Borowik P. Jurydyki miasta Grodna w XV–XVIII wieku. Stanowy podziaů nieruchomoúci. Supraúl, 2005.

17 Тэкст прывілея апублікаваны: Kodeks dyplomatyczny... S. 473–475; Яго копіі: Acta decanatus Grodnensis... Арк. 2v–3v; Ecclesia Grodnensis... Арк. 29–30v.

18 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 3v.

19 … *nadana byůa dziesićcina z mokrza ze wszelkiego ziarna na kapeliŕ przy farnym kosciele. Takýe miednica miodu, y kamień wosku oraz stroę do fary z Ekonomii byůŕ przeznaczone*. Ecclesia Grodnensis… Арк. 31.

20 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 3v–4v.

Паводле гэтых фундацый гарадзенскі парафіяльны касцёл набыў важнейшыя на той час крыніцы прыбыткаў: зямельныя ўладанні з залежнымі сялянамі, корчмы, дзесяціну розных відаў зерня, воску, мёду. Азёры былі важнай крыніцай рыбы ў час пастоў. Паводле даследавання Ежы Ахманьскага, у сярэдзіне 16 ст. гарадзенская парафія мела 68 дымы і належала да групы багатых парафій Віленскага біскупства[21]. Такімі багатымі парафіямі найчасцей кіравалі члены капітулаў, святары шляхецкага паходжання. Месца гарадзенскага пробашча было прэстыжным у сэнсе кар'еры тагачаснага святара.

Захавалася мала звестак пра першых гарадзенскіх пробашчаў. У 1511 г. гарадзенскім пробашчам быў Мікалай Жукоўскі, у 1524 – 1554 г. – Вацлаў Вірбіцкі (у 1534 г. стаў біскупам Жамойці, памёр у 1555 г.)[22], у 1561 г. – Адам Піліхоўскі (*Pilichowski*).

**Гарадзенская парафія становіцца прэпазітурай**

Значнейшыя і багацейшыя ў ВКЛ парафіі каталіцкага касцёла стараліся ператварыцца ў касцёлы вышэйшага рангу – прэпазітуры. У гарадзенскай парафіі ад самога яе заснавання, як згадвалася, пробашчамі былі святары з ліку шляхты, царкоўная эліта, з якой выходзілі члены капітулаў, канонікі. На мяжы 60 – 70 –х гадоў 16 ст. варшаўскі схаласт, плоцкі канонік, пробашч Вызны і Гародні, каралеўскі сакратар Адам Пільхоўскі рупіўся, каб у багатай і ўплывовай гарадзенскай парафіі заснавалі прэпазітуру. Гэта значыла, што ў касцёле св. Панны Марыі разам са служэннем Богу і душпастырскім апекаваннем вернікамі будуць знаходзіцца некалькіх ксяндзоў-місіянераў (*mansionarii*), асноўным абавязкам якіх было б пашыраць культ св. Панны Марыі і на яе гонар правіць адпаведныя набажэнствы, казаць малітвы і спяваць псалмы.

24 ліпеня 1561 г. Жыгімонт Аўгуст выдаў прывілей, які дазволіў у Гародні стварыць прэпазітуру. Гарадзенскі пробашч быў павышаны да прэпазітаў, забеспячэнне атрымалі шасцёра місіянераў: віцэ-прэпазіт, 2 вечныя (*perpetuos*) місіянеры, 3 часовыя (*manuales et amonibiles*), а таксама бакалаўр. Агулам у гарадзенскай прэпазітуры мелі працаваць 8 асобаў. На ўтрыманне місіянераў была перададзена фундацыя касцёла св. Мікалая Спавядальніка, а таксама нададзеная каралевай Бонай фундацыя касцёла і прытулку св. Духа. Так былі злучаныя даходы гарадзенскага парафіяльнага касцёла св. Панны Марыі з прыбыткамі касцёла св. Мікалая і прытулку ды касцёла св. Духа, а адказным за іх стаў гарадзенскі прэпазіт.

7 жніўня 1562 г. біскуп Валяр'ян Пратасевіч пацвердзіў згаданы прывілей Жыгімонта Аўгуста гарадзенскаму прэпазіту, аднак ён не меў згоды Ватыкану Прастола. Біскуп дэталізаваў прыбыткі святароў прэпазітуры. Ад гарадзенскага прэпазіта штогод на Вялікдзень віцэ-прэпазіт меў

---

21 Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w úredniowieczu. Ustrój i uposaýenie. Poznań, 1972. S. 102.

22 Lietuvos katalikř dvasininkai XIV–XVI a. Parengë V. Aliđauskas, T. Jaszczoůt, L. Jovaiđa, M. Paknys. Vilnius, 2009. P. 251, 410.

атрымліваць 40 польскіх залатых, 2 вечныя місіянеры – па 10 залатых, а 3 часовыя місіянеры і бакалаўр – па 8 залатых[23].

Права патранату над прэпазітурай захавалася ў руках гаспадара, ён меў права прапаноўваць духоўнікаў на згаданыя пасады. Тагачасны гарадзенскі пробашч Адам Паліхоўскі стаў гарадзенскім прэпазітам, а ксёндз касцёла св. Мікалая Мікалай Ташыцкі (*Thoszycki, Toszycki*) і ксёндз касцёла св. Духа Баўтрамей Панятоўскі (*Poniatowski*) сталі вечнымі місіянерамі. (Ксёндз касцёла св. Мікалая звычайна станавіўся і віцэ-прэпазітам.) Трэцім місіянерам быў наноў прызначаны Мацей з Закрочыма (*de Zakroczym*)[24]. Такім чынам, замест васьмі прадугледжаных святароў у пачатку стварэння прэпазітуры яе прадстаўлялі толькі чацвёра. Такая з’ява была нярэдкай ва ўсім ВКЛ, бо часта не хапала сродкаў для ўтрымання ўсіх місіянераў, а магчыма не знаходзілі прыдатных кандыдатаў. Аднак гэта быў крок, які акрэсліваў будучыя перспектывы і вехі далейшага развіцця.

Прывілеем Жыгімонта Аўгуста і пацверджаннем біскупа Валяр’яна Пратасевіча місіянеры павінны былі штодня ў парафіяльным касцёле Гародні спяваць гадзіны (курст) св. Панны Марыі і праводзіць Імшу. Бакалаўр меў кіраваць парафіяльнай школай, і навучаць у ёй моладзь. Гэта былі тыповыя ўказанні місіянерам і бакалаўру.

Пасля стварэння прэпазітуры гарадзенскі касцёл паводле рангу стаў адным з найважнейшых у Віленскім біскупстве. Гэта паказвала зацікаўленасць гаспадара Гародняй, узрост значэння горада і інтарэсы Віленскай капітулы ў Гародні. Клопатам і сродкамі гаспадара Стэфана Баторыя ў 1584 – 1587 г. запрасілі архітэктара Джавані (Яна) Марыю Бернардоні, паходжаннем з-пад возера Лугана, і драўляны гарадзенскі парафіяльны касцёл замянілі мураваным[25]. Пра духоўнікаў гарадзенскай парафіі, гаспадароў таго касцёла, засталіся толькі ўрыўкавыя звесткі.

Гарадзенскі прэпазіт Адам Паліхоўскі ў 1578 г. стаў Хелмскім біскупам і заставаўся ім да смерці ў 1585 г. У крыніцах згадваецца гарадзенскі прэпазіт Ян Канапацкі, якога ў 1593 г. змяніў Фабіян Канапацкі[26]. У 1603 г. гарадзенскім прэпазітам называецца Станіслаў Крыцкі (*Krzycki*) (у 1616 г. стаў Віленскім схаластам), які быў пробашчам у Гародні да 1626 г.[27] 15 мая 1619 г. ён рэкамендаваў Віленскай капітуле павялічыць фундацыю гарадзенскай прэпазітуры[28]. У 1633 г. гарадзенскім прэпазітам стаў Віленскі кустод, скарбнік ВКЛ, натарыус і каралеўскі сакратар Францішак Далмат Ісайкоўскі. Ён парупіўся, каб Уладзіслаў Ваза пацвердзіў адпісан-

[23] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 5v–6v.

[24] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 7v.

[25] Гарбусь Т. В. Мураваные харалы... Стар. 66–67.

[26] Lietuvos katalikř dvasininkai... P. 22–24, 176, 89.

[27] Borowik P. Jurydyki... S. 172.

[28] Lietuvos katalikř dvasininkai... P. 395; Kurcewski J. Koúcióů zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Cz. 3. Streszczenie aktów kapituůy wileńskiej. Wilno, 1916. S. 103.

ні сваіх папярэднікаў гарадзенскай прэпазітуры, гэта было зроблена ў Варшаве 13 лютага 1635 г.[29] Ф. Далмат-Ісайкоўскі ў 1649 г. стаў смаленскім біскупам, памёр у 1654 г. У 1661, 1674 г. гарадзенскім прэпазітам называецца лівонскі біскуп, віленскі канонік Аляксандр Хадкевіч[30].

Па звестках 1662 г. пасля маскоўскай акупацыі прэпазітура старалася ўтрымліваць толькі двух ксяндзоў і бакалаўра (не лічачы дапаможных служкаў кантара і закрыстыяна)[31]. Віцэ-прэпазітам быў Мацей Кеша-Падускі (*Kieys Poduski, Podoski Kiesz*), які ў 1652 г. змяніў на гэтай пасадзе Пятра Індэрбаха (*Inderbach*) (апошні перайшоў у Бабруйскую парафію)[32]. М. Кеша-Падускі памёр каля 1666 г.[33]. У 1671 г.[34], 1674 г. гарадзенскім віцэ-прэпазітам і дэканам (*decanus foraneus*) называецца Якуб Бельскі[35].

**Касцёл св. Тройцы, касцёлы і прытулкі св. Мікалая і св. Духа ў Гародні**

У дакуменце пра стварэнне прэпазітуры згаданыя касцёлы і прытулкі св. Мікалая і св. Духа. Варта пазнаёміцца з паходжаннем гэтых касцёлаў і іх становішчам у горадзе.

Касцёл **св. Мікалая** у Гародні, па звестках візітатара 1662 г., быў фундаваны гаспадарамі Аляксандрам і Жыгімонтам Старым, але, на жаль, прывілеі не захаваліся, даты фундацый невядомыя. Касцёлу было штогод прызначана з 6 маёнткаў па 6 бочак жыта, 1 бочцы пшанічнага соладу, 3 бочкі жытнёвага соладу, па 1 кныры. Ад Гародні – 2 посуды чыстага мёда, 1 камень воску, ад Гародні падатку капшчызны – 3 капы грошай, ахоўнік з замку[36].

На жаль, гэтая фундацыя цяжка ажыццяўлялася на практыцы, ксяндзу не хапала сродкаў на харчаванне. На просьбу Мікалая Ташыцкага, ксяндза касцёла св. Мікалая, Жыгімонт Аўгуст 9 красавіка 1536 г. выдаў прывілей, якім змяніў фундацыю. Паколькі было цяжка кантраляваць здачу даніны з 6 маёнткаў, пакінулі даніну толькі з аднаго, Лабенскага, маёнтку – 36 бочак жыта, 6 бочак пшанічнага соладу, 18 бочак жытнёвага соладу, 3 капы літоўскіх грошай - капшчызны. Замест мёда вызначана было даваць за кожны посуд – па паўкапы грошай, за камень воску – 50 грошай, за кожнага з шасці кныроў – па 24 грошы, і, як і раней, даваць ахоўніка з замку[37].

---

29 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 9.

30 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 28v; Kurczewski J. ... Арк. 52.

31 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 28v.

32 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 2.

33 Kamuntavičienė V. Katalikř baţnyčios ir valstybës santykiai... P. 134. (*Praesentatio ad Praeposituram Xenodochialem Grodnensem Vnbli Eustachio Kotowicz Canonico Vilnen post obitum Vnblis Mathiae Podoski Kiesz*, Літоўская Метрыка 132. Арк. 970.)

34 LVIA. Ф. 694. Воп. 1. С. 3970. Арк. 78v.

35 Kurczewski J. ... Арк. 52.

36 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 21v.

37 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 22–22v.

Лакалізаваць касцёл св. Мікалая ў Гародні паспрабаваў П. Баравік, які прыйшоў да высновы, што ён меў функцыянаваць як капліца пры замку ўладара ў Гарадніцы (*Horodnica*). П. Баравік мяркуе, што гэтаму касцёлу былі нададзены шэсць валокаў зямлі, так званы фальварак св. Мікалая[38].

Пасля 1561 г. касцёл св. Мікалая трапіў у распараджэнне гарадзенскага прэпазіта, пры ім пастаянна рэзідаваў місіянер, найчасцей віцэ-прэпазіт, і выконваў душпастырства, атрымліваючы, як згадана, вызначанае пражыццё ад прэпазіта. Так гэты касцёл існаваў да вайны, якая пачалася ў 1655 г. і ў часе якой касцёл быў ператвораны Масквой ў попел (*a Moschis in cineres redacta*)[39], а пасля вайны не адбудоўваўся. Былыя вернікі касцёла св. Мікалая мелі наведваць іншыя каталіцкія касцёлы Гародні. Ацалелыя ўладанні назаўсёды перайшлі ў распараджэнне гарадзенскага прэпазіта. Па звестках 1661 г., уладанні касцёла св. Мікалая выкарыстоўваліся для ўтрымання віцэ-прэпазіта[40]. Па звестках 1662 г., дзве трацiны прыбыткаў ад уладанняў гэтага касцёла прызначаліся віцэ-прэпазіту, а трацiна – місіянерам. У 1662 г. апрацоўваліся толькі тры паўвалокі[41].

19 кастрычніка 1550 г. у Варшаве каралева Бона надала фундацыю гарадзенскаму касцёлу і прытулку **св. Духа**, каб іхнія святары паклапаціліся жабракамі і пакрыўджанымі. У Гародні быў выдзелены ўчастак *Puskarzewska* з пабудовамі, для заснавання прытулка для 24 жабракоў любога полу і іх абслугі. З гарадзенскага маёнтку ім штогод на харчаванне мелі даваць 40 бочак жыта, 8 бочак гароху, 10 бочак звычайнага зерня на суп, 4 посуды солі, 20 бочак звычайнага зерня на піва. На сала, масла і сыр - 15 коп грошай. Акрамя таго выдзялялася 4 посуды салёнай рыбы, 5 бочак канаплянага семя, 1 бочка маку, 7 посудаў квашанай капусты, 14 посудаў свежай капусты, 18 бараноў, 16 галоў буйной рагатай жывёлы. Таксама на Вялікдзень даваць 28 навесаў (каптуроў), драўніны для падтрымання агню і печак, 26 сярмягаў, 52 кашулі са звычайнага матэрыялу, 26 жаночых сукенак, 26 пар ботаў[42]. З гэтага прывілею можам даведацца пра вопратку і штодзённае меню жыхароў жабрачага прытулку.

Кіраваць прытулкам меў прадстаўнік Гародні і прызначаны каралевай Бонай тагачасны гарадзенскі эканом Себасцьян Дыбоўскі[43]. Па звестках Ю. Гардзеева, прытулак стаяў у канцы галоўнай Віленскай вуліцы, што вяла ад Ратушнай плошчы праз увесь горад да дарогі на Вільню[44].

Калі ў 1561 г. у Гародні стваралі прэпазітуру, прытулак св. Духа патрапіў у распараджэнне гарадзенскага прэпазіта. Гарадзенскі прэпазіт

[38] Borowik P. Jurydyki... S. 111.

[39] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 21v.

[40] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 28v.

[41] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 22v.

[42] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 14.

[43] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 14v.

[44] Гардзееў Ю., Магдэбурская Гародня ... С. 84.

Францішак Далмат-Ісайкоўскі 13 і 16 студзеня 1637 г. у гарадзенскай ратушы судзіўся з завінавачанымі прытулку шляхціцам Войцехам Вішнеўскім (*Wiszniewski*), гарадзенскімі раднымі Янам Цвіклам (*Cwikła*), Янам Калачкоўскім (*Kołaczkowski*), Янушам Фандэберкам, Міколам Краснеўскім (*Krosniewski*) і з самім горадам Гародняй, меў ад іх спагнаць не адданыя прытулку св. Духа пазыкі[45].

Прытулак св. Духа перажыў акупацыю 1655 – 1661 г., хоць з-за знішчэнняў пазбыўся часткі прыбыткаў. Як і перад вайной, так і пасля яе прытулак сутыкнуўся з цяжкасцямі ў атрыманні прызначанага яму забеспячэння і належных прыбыткаў. 9 чэрвеня 1661 г. гарадзенскі прэпазіт Аляксандр Хадкевіч скардзіўся, што прытулак св. Духа не атрымаў прызначанага забеспячэння з гарадзенскага палацу, таму жабракоў засталося столькі, колькі маглі пражыць з міласціны і сродкаў віцэ-прэпазіта, не было сродкаў на рэстаўрацыю прытулку[46]. Тады былі прызначаныя камісары для перагляду прыбыткаў прытулку. У дэкрэце ад 11 лютага 1662 г. яны пастанавілі, што гарадзенская каралеўская эканомія сапраўды вінная прытулку, было загадана пазыкі аддаць, а атрыманыя прыбыткі прэпазіт меў падзяліць, палову з іх прызначыць на рэстаўрацыю фары, а палову – на рамонт прытулку. Каб далей ўсе сродкі, вызначаныя фундацыямі, даходзілі да парафіі і прытулку св. Духа, вырашана было з гарадскога магістрата прызначыць аднаго богабаязнага чалавека наглядаць за жабракамі і іх сродкамі. Скарбніца прытулку мела замыкацца на два замкі, адзін ключ захоўваўся ў асобы, прызначанай пробашчам, другі – у выдзеленага горадам чалавека, каб адзін без другога не маглі дабрацца да зерня і грошай. Пробашч, эканом двара і гарадскі магістрат вызначылі, якія асобы могуць жыць у прытулку. Імкнуліся забяспечыць, каб туды не трапілі выпадковыя людзі[47].

У 1674 г. гэты гарадзенскі прытулак быў у зусім кепскім стане, дах рамантаваўся. Было загадана наглядаць за жабракамі, што ў ім жылі, а асабліва за скарбніцай прытулку[48]. У 1680 г. згадваецца мураваны прытулак св. Духа[49], які выконваў важную ролю ў гарадской дабрачыннасці.

Найменш даследаванай у Гародні з'яўляецца гісторыя касцёла **св. Тройцы**. Невядомы час яго фундацыі, ёсць згадкі, што ён быў заснаваны як касцёл пры кляштары аўгусцінцаў у часы Аляксандра[50]. Меў утрыманне з каралеўскай гарадзенскай эканоміі, а гэта значыць, што

45 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 18–21v.

46 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 29.

47 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 16v–17v.

48 Kurczewski J. ... Арк. 53.

49 Гардзееў Ю. Магдэбурская Гародня ... С. 84.

50 У гістарыяграфіі часта касцёл пры кляштары аўгусцінцаў не атаясамліваецца з касцёлам св. Тройцы, аднак яшчэ ў 1930 г. аўгусцінскі манах айцец Гжэгаж Ут пісаў пра канфлікт Мацея, капелана касцёла св. Мікалая, у 1522 г. з манахамі кляштара аўгусцінцаў пры касцёле св. Тройцы з-за самавольнага заняцця ўладанняў аўгусцінцаў, пазначаючы, што менавіта аўгусцінцам належаў касцёл св. Тройцы. Гл. больш: Uth G. Szkic historyczno – biograficzny zakonu augustjańskiego w Polsce. Kraków, 1930. S. 74–75.

фундатарам быў гаспадар. Касцёл згадваецца ў даследаваным Аляксандравым прывілеі ад 1494 г. гарадзенскаму парафіяльнаму касцёлу, які акрэсліваў межы ўладанняў парафіі (*versus ec(c)lesiam claustralem sancte Trinitatis*)[51].

Няясна, чаму ў сярэдзіне 16 ст. кляштар перастаў дзейнічаць, даследчыкі называюць розныя прычыны, аднак яны ўсе пакуль што застаюцца на ўзроўні дапушчэнняў[52]. 16 лютага 1553 г. у Ломжы каралева Бона прызначыла фундацыю прытулку св. Тройцы, перадаўшы яму прыбыткі былога кляштара.

Паводле фундацыі Боны, штогод на дзень св. Марціна эканом з гарадзенскага двара меў даваць прытулку 22 бочкі жыта, 10 бочак гароху, 60 коп літоўскіх грошай на набыццё патрэбных рэчаў. Бона перадала прытулку надзел, на якім раней стаяў кляштар, з усімі прыналежнымі кляштару прыбыткамі: дзесяцінай зерня ўсіх відаў з уладанняў Крынкі (*Krynki*) і Перстунь (*Perstuń*), з сялянамі ўладання Крынкі (10 службаў), 2 корчмамі ў Гародні, 12 копамі грошай (капшчызна) з каралеўскіх корчмаў і 3 азёрамі. З усіх гарадзенскіх кірмашоў, што адбываліся штотыдзень, на якіх прадавалі цяляціну, прытулку мелі даваць па 1 літоўскім грашы. Прэпазітам св. Тройцы каралева Бона прызначыла ксяндза Баўтрамея. Правізарамі прытулку былі прызначаныя пробашч гарадзенскай парафіі, штогод выбіраўся прадстаўнік горада і каралеўскі эканом Гародні. У прытулку загадана было ўтрымліваць 30 жабракоў і 3 чалавек абслугі[53]. Такім чынам, прытулак св. Тройцы меў кіравацца таксама, як і прытулак св. Духа.

За атрыманыя дарэнні прэпазіт меў штотыдзень праводзіць па дзве імшы: па нядзелях на гонар св. Тройцы, з малітвамі за гаспадара і яго сям'ю, продкаў і нашчадкаў, па пятніцах на гонар Хрыстовай Пакуты, за фундатараў і інш. дабрадзеяў[54].

24 сакавіка 1553 г. у Кракаве Жыгімонт Аўгуст пацвердзіў прывілей каралевы Боны. 10 студзеня 1584 г. у Гародні Стэфан Баторый пацвердзіў прызначэнне прытулку дзесяціны зерня з Крынак і загадаў гарадзенскаму эканому з гарадзенскага двара на дзень св. Марціна даваць прызначаную дзесяціну зерня (28 бочак)[55].

Стварэнне прытулкаў было звычайнай з'явай у тагачасным жыцці, што адпавядала хрысціянскаму вучэнню аб любові да бліжняга, дапамозе жабракам і пакрыўджаным. Звяртаем увагу, што ў прытулку св. Тройцы мелі жыць 30 жабракоў, больш, чым у прытулку св. Духа (у ім, як згадвалася, 24). Гэта паказвае, што маёмасць прытулку св. Тройцы, якая засталася ад кляштара і павялічаная каралевай Бонай, была большаю, чым у прытулку св. Духа.

У 1561 г. гарадзенскі прэпазіт, аб'яднаўшы сродкі фундацый св. Мікалая

51 Kodeks dyplomatyczny... S. 474.

52 Гл. параўн. Borowik P. Jurydyki... S. 111.

53 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 15–16.

54 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 16.

55 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 16v.

і св. Духа ў Гародні, не атрымаў у кіраванне касцёла і прытулку св. Тройцы, мабыць, з-за таго, што першасная фундацыя касцёла св. Тройцы была прызначаная манахам, а пробашч парафіі не меў права пераймаць маёмасці кляштара.

Хоць гарадзенскаму прэпазіту не быў прызначаны касцёл св. Тройцы і яго прыбыткі, аднак найверагодней прэпазіт, скарыстаўшыся нагодай, імі авалодаў. У гістарыяграфіі згадваецца, што манах айцец Фелікс Яскульскі (Яскулоўскі) з ордэну аўгусцінцаў (ордэн у 1623 г. ці ў 1625 г. спрабаваў аднавіцца), прыехаўшы ў Гародню, судзіўся з прэпазітам (Станіславам Крыцкім) з-за самавольнага заняцця касцёла і кляштара аўгусцінцаў. Умяшаўся віленскі біскуп Яўстахій Валовіч і паміры ў абодва бакі, пробашч паабяцаў аўгусцінцам аддаць частку ўладанняў, пабудаваць драўляны кляштар і касцёл. Прэпазіт абяцанне стрымаў, аднак абставіны перашкодзілі аўгусцінцам уладкавацца ў Гародні[56]. Яны пакінулі Гародню назаўсёды яшчэ перад голадам і морам, выкліканымі войнамі сярэдзіны 17 ст.[57]

У драўляных будынках кляштара спрабавалі асталявацца францішканы, якія імкнуліся стварыць місію ў Гародні. Не нашмат памыляюцца стваральнікі *Kodeksa dyplomatycznеg*, калі сцвярджаюць, што згаданы ў прывілеі Аляксандра ад 1494 г. касцёл св. Тройцы, мабыць, належаў францішканам[58]. Яны сапраўды ў нейкі момант на яго квапіліся. Невядома чаму францішканам не пашчасціла, драўляныя будынкі, як пазней згадваюцца, згарэлі[59].

У візітацыі 1662 г. сцвярджаецца, што касцёл св. Тройцы быў спалены Масквой (*a Moschis combusta*)[60]. Калі не захаваліся аўгусцінцы і францішканы, а найверагодней не засталося і касцёла, яго прыбыткі пераняў прытулак св. Духа. У візітацыі 1662 г. фундацыя прытулку св. Тройцы ўпісаная да фундацыі прытулку св. Духа, было загадана ўтрымліваць агулам у абодвух прытулках 30 жабракоў[61]. Частку прыбыткаў св. Тройцы перадалі місіянерам. У 1662 г. згадваецца ўласнасць касцёла св. Тройцы, які больш не дзейнічаў – 16 зямельных надзелаў з садоўнікамі, якія мелі з кожнага надзелу адпрацоўваць 12-дзён і плаціць чынш па палове залатога. Гэтыя прыбыткі былі прызначаныя місіянерам[62]. У 1673 г. афіцыйна быў скасаваны гарадзенскі кляштар аўгусцінцаў[63].

Абагульняючы, з трох касцёлаў св. Тройцы, св. Духа, св. Мікалая пасля расейскай акупацыі 1655 – 1661 г. у Гародні застаўся толькі адзін касцёл

56 Gozdawa M. Augustjanie w Brzeúciu Literwskim. (Notatka historyczna) // Rocnik towarzystwa przyjacióů nauk w Wilnie, 1909. T. III. Wilno, 1910. S. 95; Uth G. Szkic... S. 75.

57 Hardziejeű J. Źródła do dziejów Grodna w zbiorach krakowskich… S. 29.

58 Kodeks dyplomatyczny... S. 474.

59 Gozdawa M. Augustjanie... S. 95; Uth G., Szkic... S. 75.

60 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 22v.

61 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 13–13v.

62 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 22v–23.

63 Gozdawa M., Augustjanie... S. 95; Uth G., Szkic... S. 75.

св. Духа з прытулкам, залежным ад гарадзенскага парафіяльнага прэпазітурнага касцёла.

***Становішча касцёла св. Панны Марыі ў Гародні па звестках 1662,1674 г.***

Па звестках 1662 г. гарадзенскі касцёл св. Панны Марыі быў спалены Масквой, скляпенні знаходзіліся ў небяспечным стане, месцамі абваліліся (*od Moskwy wszytek wypalony, sklepienie bardzo niebespieczne, mieyscami wypadłe*)[64]. Гаспадароў чакала доўгая праца па рамонце касцёла. Гэтыя працы арганізаваў тагачасны гарадзенскі віцэ-прэпазіт Мацей Кеша-Падускі. З дапамогай парафіянаў з ліку шляхты, асабліва гарадзенскага магістрату, ён накрыў касцёл саламяным дахам, аднак патрэбны быў больш сур'ёзны рамонт, каб не пабурыліся скляпенні[65].

Нягледзячы на прычыненыя Масквой разбурэнні, засталося шмат што ад велічнага ўнутранага ўбрання. Хоць звычайна ў тагачасных парафіяльных касцёлах было ў сярэднім па тры алтары, гарадзенскі парафіяльны меў іх нашмат больш. Гарадзенскія парафіяне былі багатымі людзьмі, якія маглі фундаваць алтары і ўтрымліваць іх абслугоўванне. Найперш, у візітацыі 1662 г. згадваецца алтар св. Ружанца ў левай частцы касцёла, упрыгожаны вотамі. Згадваецца 16 пласцінак, 2 срэбныя пазалачоныя кароны, 7 ланцужкоў[66]. 7 кастрычніка 1597 г. Папа Рымскі Клеменс VIII выдаў індульгенцыі сябрам брацтва св. Ружанца, якія пабывалі ля гэтага алтара[67]. Візітатары невыпадкова апісалі алтар у першую чаргу – ён быў найважнейшы ў касцёле, яму вернікі надавалі выключную ўвагу. Вотамі ўпрыгожвалі толькі асаблівыя выявы, людзі верылі, што малітвы каля іх будуць Госпадам пачутыя, а вернікі адчуюць супакой душы.

У 1662 г. у касцёле згадваецца выява Ўнебаўшэсця св. Панны Марыі і выява Хрыстовай Пакуты. Месца іх размяшчэння не называецца, аднак, на маю думку, яны знаходзіліся ў цэнтральным алтары. Алтаром св. Тройцы, які быў у касцёле, апекавалася брацтва св. Тройцы, а алтаром Анёла-Абаронцы – адпаведнае брацтва. Цэхі муляроў, краўцоў, шаўцоў, мяснікоў і кавалёў мелі ў касцёле свае алтары. Такім чынам, у гарадзенскім парафіяльным касцёле ў 1662 г. налічваем прынамсі дзевяць алтароў. Утрыманнем большасці з іх рупілася супольнасць гарадзенскіх гараджанаў, арганізаваная ў брацтвы і цэхі. Аднак былі і асобныя фундатары алтароў. 13 студзеня 1593 г. Жыгімонт Ваза дазволіў Альберту Бесякірскаму збудаваць і фундаваць алтар у гарадзенскім парафіяльным касцёле[68].

У інвентары асобна згадваліся чатыры выявы: Анёла-Абаронцы і Панны Марыі, Госпада Хрыста ў садзе, Гасподняй Перамены, а таксама

[64] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 9v.

[65] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 28v.

[66] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 9v.

[67] Pergamentř katalogas. Sudarë R. Jasas. V., 1980. P. 303.

[68] Paknys M. Mecenatystës reiđkinys XVII a. LDK. Baţnytinës architektűros uţsakymai. Vilnius, 2003. P. 152. (Аўтар грунтуецца: Літоўская Метрыка 77. Арк. 429v.)

Панны Марыі[69], магчыма, яны ўпрыгожвалі сцены касцёла.

Разам з гэтым убраннем згадваецца капліца Халецкіх. У 1591 г. уладар дазволіў падскарбію ВКЛ Дэметрыю Юзафовічу-Халецкаму ў гарадзенскім парафіяльным касцёле ўладкаваць бакавую капліцу[70]. Халецкі ёй адпісаў забеспячэнне па тастаменце: з уладання Сідарка (*Siderka*) даваць 80 залатых у год, з абавязаннем штотыдзень у гэтай капліцы праводзіць дзве імшы. На жаль, Патоцкі, які ад 1654 г. валодаў Сідаркай, не даваў парафіі тых грошай[71]. У 1674 г. было загадана адрамантаваць дах гэтай капліцы[72].

У 1674 г. гарадзенскі парафіяльны мураваны касцёл характарызуецца як слынны і шырока вядомы (*insignis, muro structa, omnibus notum est*), аднак трэба было адрамантаваць і ўзмацніць яго сцены[73].

Асноўнымі прыбыткамі парафіі была дзесяціна, якую атрымлівалі з гарадзенскай эканоміі, здача ў арэнду нерухомай маёмасці жыдам і іншым жыхарам Гародні, працэнты з адпісанняў розных дабрадзеяў, прыбыткі ад корчмаў і зямельных уладанняў. Парафіі належаў фальварак Русота з маёнткам (у 1661 г. наглядчык гэтага маёнтка названы прэфектам Русоты, ён меў права судзіць лягчэйшыя справы парафіі (цяжэйшыя судзіў сам прэпазіт)[74]) ды іншыя меншыя ўладанні. Старым звычаем па серадах і пятніцах духоўнікі парафіі забяспечваліся злоўленай у Нёмане рыбай, а таксама дровамі.

Духоўнікі гарадзенскай прэпазітуры ў 1662 г. маглі жыць у пабудаванай ля парафіяльнага касцёла св. Панны Марыі плябані (Масква яе спаліла, у 1662 г. згадваецца пабудаваная на месцы пажару белы дамок з каморай, мураванай карчмой непадалёку і меншай карчмой), у маёнтку Русота (у ім стаяў вялікі стары дом, белы дамок з каморай, пякарняй, стайняй, 2 свірны, пограб, хлявы і іншыя гаспадарчыя будынкі), пры прытулку св. Духа. Бакалаўр меў асобны пакой (гіпакаўст), які ацяпляўся і быў прызначаны для навучання дзяцей[75].

Хоць пасля вайны прыбыткі парафіі зменшыліся, аднак прызначаных фундатарамі душпастырскіх абавязанняў духоўнікі не маглі пазбегнуць. Па святах яны мелі праводзіць ранішняе набажэнства, асноўную псальмовую імшу з казаннем удзень ды вечаровае набажэнства. У звычайныя дні трэба было праводзіць Курст св. Панны Марыі. Па аўторках служылася імша за жывых, па пятніцах – за памерлых фундатараў касцёла і іх нашчадкаў. Раз на месяц мелі праводзіць імшу за ўсіх дабрадзеяў

---

69 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 12.

70 Paknys M. Mecenatystës reiđkinys... P. 154. (Аўтар грунтуецца: Літоўская Метрыка 76. Арк. 189.)

71 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 13.

72 Kurczewski J. ... Арк. 53.

73 Kurczewski J. ... Арк. 52–53.

74 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 29v.

75 Acta decanatus Grodnensis... Арк. 23–24v, 29.

касцёла, а за ўсю супольнасць – раз на чвэрць года[76].

Пробашч спасылаўся на шматлікія выпадкі ігнаравання веры і непільнавання законаў каталіцкага касцёла ў гарадзенскай парафіі ў другой палове 17 ст. Асабліва святары асуджалі публічны канкубінат (сужыццё без шлюбу). Па звестках 1662 г., гараджанін Мельнічак (*Mielniczek*) жыў з жанчынай, сапраўдны муж якой знаходзіўся у Варшаве. Праваслаўны Мікалай Кірыякі (*Kiriaki*), жонка якога знаходзілася ў Луцку, жыў ужо дзесяць гадоў з іншай жанчынай і меў з ёй дзяцей. Жонка жыхара Гародні Сцяпана Пастушка (*Pastuszek*) была забраная ў маскоўскую няволю. Хоць не мелася пэўных звестках пра яе смерць, згаданы С. Пастушак жыў з іншай жанчынай[77]. У дэкрэце аб рэфармаванні (*decretum reformationis*) ад 1674 г. ізноў жа нямала ўвагі прысвячаецца праблеме канкубінату. Пазначаецца выпадак, калі па смерці мужа яго брат пачаў жыць з жонкай памерлага без сакраменту шлюбу. Скандальна жыў ксёндз Шашко (*Szaszko*), які зрабіў дзяцей з прастытуткай і г.д. Візітатар непакоіўся, што ў вёсках папы ці ксяндзы злучалі людзей у публічных месцах, на кірмашах.[78] Падпарадкоўваючыся імунітэту каталіцкага касцёла, жыды не маглі жыць бліжэй за 300 метраў ад касцёлу[79], мелі шанаваць каталіцкія святы і ў часе іх у горадзе мелі адпаведна захоўвацца[80]. Гэтыя дэталі сведчаць, што ў шматкультурным горадзе стараліся ўзгадніць маральныя палажэнні людзей розных канфесій і рэлігій ды захаваць павагу да звычаяў адзін аднаго.

***

З Вітаўтавых часоў пачаліся фундацыі каталіцкіх касцёлаў у Гародні, была створана парафія св. Панны Марыі, фундаваны касцёл св. Мікалая, аўгусцінскі кляштар і касцёл св. Тройцы, касцёл і прытулак св. Духа. Імкнучыся палепшыць душпастырства, у 1561 г. была створана гарадзенская прэпазітура, ёй даручылі нагляд за касцёламі св. Мікалая і св. Духа. Прэпазітамі Гародні былі святара з ліку шляхты, найчасцей звязаныя з Віленскай капітулай. Паступова прэпазіт авалодаў і маёмасцю касцёла св. Тройцы ды фундаванага пры ім каралевай Бонай прытулку. На мяжы 16 – 17 ст. шматлікія фундацыі кляштараў у Гародні прывялі да таго, што манахі пераанялі частку душпастырскіх функцый гарадзенскай парафіі – прэпазітуры. Балючы ўдар па гарадзенскай парафіі нанесла маскоўская акупацыя 1655 – 1661 г., у часе якой былі цалкам зруйнаваныя (і потым не аднаўляліся) касцёлы св. Мікалая і св. Тройцы.

У другой палове 17 ст. гарадзенская парафія была цэнтрам навукі, культуры, маральнасці, дабрачыннасці і грамадскай дзейнасці. Пры парафіяльным касцёле працавала школа, для яе быў прызначаны асобны

[76] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 28v–29.

[77] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 13v.

[78] Kurczewski J. ... Арк. 53.

[79] Acta decanatus Grodnensis... Арк. 29.

[80] Kurczewski J. ... Арк. 53.

будынак, у якім жыў і навучаў дзяцей бакалаўр. Дабрачынную дзейнасць выконвалі прытулкі св. Тройцы і св. Духа (пасля акупацыі сярэдзіны стагоддзя застаўся толькі апошні), што былі ў распараджэнні прэпазіта-пробашча парафіі. Цэхі гарадзенскіх гараджанаў фундавалі і ўтрымлівалі алтары ў парафіяльным касцёле, тут дзейнічала брацтва св. Ружанца, якое апекавалася сваім алтаром. Побач з ім у парафіі былі брацтвы св. Тройцы і Анёла-Абаронцы. У душпастырстве асаблівая ўвага надавалася ўшанаванню св. Панны Марыі, асноўныя малітвы прысвячалі ёй місіянеры. Гарадзенскі прэпазіт стараўся аб маральнасці гараджанаў і жыхароў наваколляў, асабліва ён быў заклапочаны выпадкамі канкубінату ды наданнем сакраментаў у неналежных месцах. Усё гэта рабіла касцёл св. Панны Марыі (Вітаўтаву фару) жывым цэнтрам грамадскага жыцця ў Гародні.

*Маціяс Баціс (Берлін)*

# *OBER OST* І НЯМЕЦКАЯ АКУПАЦЫЯ ГАРОДНІ Ў ПЕРШУЮ СУСВЕТНУЮ ВАЙНУ ПАВОДЛЕ ДЗЁННІКА КУРТА КЛАМРОТА

Гісторыя Першай сусветнай вайны хаваецца ў ценю наступнай. Гэта найбольш датычыць культуры памяці народаў ваюючых дзяржаваў. Прычыну трэба шукаць у храналагічнай набліжанасці войнаў і маштабах знішчэнняў. Часта Першая і Другая сусветныя войны разглядаюцца, наогул, як адно цэлае, як свайго роду яшчэ адна Трыццацігадовая вайна.

Але варта звярнуць увагу на адрозненне гэтых войнаў. У першую чаргу, гэта датычыць ступені брутальнасці вядзення вайны супраць цывільнага насельніцтва, а таксама палітычнай і ідэалагічнай падрыхтоўкай да вайны, якую праводзілі правячыя партыі. Заканчэнне Першай сусветнай вайны і ў Германіі, і ў Расіі абярнулася падзеннем манархіі і паразай парламентарызму, а ў канчатковым выніку – узнікненнем таталітарызму.

У рамках канцэпцыі адзінай еўрапейскай вайны 20 ст. нямецкая імперская экспансія на Усход разглядаецца як бесперапынная[1]. Тэзіс пра тое, што *Ober Ost* з’яўляўся папярэднікам і стаўся роду падмуркам нацыянал-сацыялістычнага плану *Ост*, выглядае даволі абгрунтаваным.

Уяўленне пра тое, што толькі нямецкая культура можа нібыта ўзняць на вышэйшую ступень развіцця адсталыя тэрыторыі і несамастойныя народы на ўсход ад Германіі, якое суправаджала нямецкую экспансію ў Першай сусветнай вайне, ясна ўказвае на падабенства з нацыянал-сацыялістычнай расавай пагардай да славянаў. Але ўсё ж трэба ўлічваць тыя адрозненні, якія існавалі паміж палітыкай панавання, разбурэння і выкарыстання краіны і насельніцтва ў Першую сусветную вайну і нацыянал-сацыялістычнай палітыкай вынішчэння. Ідэалагічныя і псіхалагічныя вытокі нацыянал-сацыялістычнай палітыкі адмаўлялі іншым народам у праве на існаванне. Гэта было зусім непадобна на сцвярджэнне нямецкай цывілізацыйнай місіі на Усходзе, якая жывілася ўсведамленнем палітычнай і культурнай перавагі[2].

---

[1] Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. Eroberung, Kolonisierung und Militärherrschaft im Ersten Weltkrieg. Hamburg, 2002.

[2] Koenen Gerd. Der Russland-Komplex. Die Deutschen und der Osten 1900-1945. München, 2005. S. 75.

Тым не менш варта задацца пытаннем, якое ўздзеянне на нямецкіх салдатаў і нямецкае грамадства мела страта захопленых на Усходзе тэрыторыяў? Многае гаворыць пра тое, што значная частка немцаў і асабліва ўдзельнікі паходу на Усход у Першую сусветную вайну цалкам усур'ёз ўспрымалі нямецкую прапаганду, якая падавала гэты захоп, як вызваленне мясцовага насельніцтва ад расейскага прыгнёту вяртанне былых нямецкіх ордэнскіх земляў. Да таго ж міф пра "непераможнае на полі бітвы" нямецкае войска датычыў перш за ўсё Усходняга фронту. Абодва гэтыя дапушчэнні робяць пераканаўчым тэзіс гісторыка Габрыэля Веяса Люлевічуса, які інтэрпрэтаваў радыкальныя перамены ў нямецкай усходняй палітыцы падчас Другой сусветнай вайны, як свайго роду фруструраваную рэакцыю на досвед паразы праекта *Ober Ost* .



Курт Кламрот у гады вайны.
З архіва аўтара Дзённіка.

Наколькі сур'ёзна ўспрымалася прапаганда нямецкай цывілізацыйнай і вызваленчай місіі на Усходзе ўключна з тэзісам пра "германскі абарончы вал" ад уяўнай славянскай пагрозы? Ці ставілася яна пад сумніў салдатамі Усходняга фронту? Як гэтая прапаганда ўздзейнічала на паводзіны салдат на акупаванай тэрыторыі?

Усе гэтыя пытанні датычаць праблемы менталітэту. Адной з найважнейшых крыніцаў яго даследавання з'яўляюцца ваенныя дзённікі і палявая пошта. Дадзены артыкул грунтуецца на запісах Дзённіка нямецкага чыноўніка вайсковай адміністрацыі Курта Кламрота, які ў 1916 г. працаваў у гарадскім кіраўніцтве Гародні. Дадаткова былі прааналізаваныя некаторыя з яго лістоў. Дзеля крытычнай ацэнкі запісаў Дзённіка ягоны змест суадносіўся з іншымі крыніцамі, у т.л. з афіцыйным выданнем *Das Land Ober Ost* (1917)[3], а таксама з навуковымі даследаваннямі[4].

3 *Das Land Ober Ost.* Deutsche Arbeit in den Verwaltungsbezirken Kurland, Litauen und Białystok-Grodno. Bearbeitet von der Presseabteilung *Ober Ost*. Stuttgart, 1917.

4 Неабходна назваць кнігу Герда Ліндэ (Linde Gerd) *Die deutsche Politik in Litauen im ersten Weltkrieg* (Wiesbaden, 1965), заснаваную пераважна на нямецкіх крыніцах. Вартая ўвагі таксама праца літоўскага гісторыка Абы Стражаса (Strazhas Aba) *Deutsche Ostpolitik im ersten Weltkrieg. Der Fall Ober Ost 1915-1917* (München, 1993). Кніга *Kriegsland im Osten. Eroberung, Kolonisierung und Militärherrschaft im Ersten Weltkrieg* (Hamburg, 2002) амерыканскага гісторыка літоўскага паходжання Габрыэля Веяса Люлевічуса (Liulevicius Vejas Gabriel) утрымлівае спробу аналізу ўплыву нямецкай акупацыі на самых акупантаў.

## *Ober Ost* і нямецкая акупацыйная палітыка

Сёння не многім немцам вядомая Гародня на беларуска-польскай мяжы. Але так было не заўсёды. Калі на пачатку верасня 1915 г. горад быў заняты нямецкім войскам, і на насценных мапах у класных пакоях нямецкіх школ ды ў іншых месцах Гародня была пазначаная адмысловымі сцяжкамі, гэты правінцыйны горад раптам стаў вельмі вядомым у Нямеччыне.

Напачатку траўня 1915 г. нямецкія войскі здзейснілі стратэгічны прарыў у раёне Тарнава і Горліцы. У жніўня была захоплена Варшава, потым Коўна. З Гародняй пала апошняе расейскае ўмацаванне уздоўж лініі Нёмана. Да канца года Усходні фронт пасунуўся на поўначы да Рыгі і на поўдні да Чарнаўцоў. Гэта быў сапраўдны “другі Танэнберг (Грунвальд)”, у якім вялікую ролю адыгралі галоўнакамандуючы на Усходзе генерал Паўль фон Гіндэнбург і начальнік штабу генерал-маёр Эрых фон Людэндорф.




Нямецкія чыноўнікі каля будынку гарадзенскай Ратушы. 1916 г. З архіва К.Кламрота.

Ротмістр Курт Кламрот, які познім летам 1915 г. служыў адміністратарам у Беластоку, адзначыў у Дзённіку: “У Варшаве мы [...] сачылі за тым, як была ўзятая Коўна, 25 жніўня паў Брэст-Літоўск, а 2 верасня нашыя войскі ўвайшлі ў Гародню. У нястомным пераследаванні нашыя арміі разграмілі рускае войска і працягвалі наступ, пакуль Бюлоў не дасягнуў Фрыдрыхштату, Айхгорн – Вільні, а Макензі – Пінску[5]”.

[5] Дзённік Курта Кламрота. Маціяс Баціс карыстаецца копіяй машынапіснага варыянту ваеннага Дзённіка Курта Кламрота. Месцазнаходжанне арыгінальнага рукапіснага тэксту невядомае. Копія гарадзенскіх старонак Дзённіка была перададзена вядомым нямецкім даследчыкам Гародні Феліксам Акерманам у рэдакцыю Гістарычнага Альманаха” (*заўвага рэд.*).



Від Гародні ўвесну 1916 г. Фотаздымак К.Кламрота.

Лексіка запісу сведчыць пра ўзнёслы і пераможны настрой аўтара.

Пасля таго як нямецкае войска авалодала Гародняй, і яна знайшла месца ў ментальнай геаграфіі многіх немцаў, горад мусіў расквітнуць ад нямецкай адміністрацыйнай і культурніцкай працы. Відавочна, што з гэтага моманту і да канца вайны ўяўленне пра Гародню як пра нямецкі горад было даволі пашыраным сярод нямецкага насельніцтва і палітыкаў[6]. Той жа Кламрот, які ў красавіку 1916 г. быў прызначаны на адміністрацыйную пасаду ў гарадскім кіраўніцтве Гародні, выбачаў адсутнасць бюракратычнага энтузіязму ў свайго папярэдніка, сцвярджаючы, што толькі першапачаткова Гародню лічылі часова акупаванай тэрыторыяй. На пачатку 1916 г. размова ішла ўжо пра яе прыналежнасць да Нямеччыны. Паводле яго меркавання, дзеля ператварэння Гародні ў сапраўдны нямецкі "Гартэн" трэба было "пераняць кіраванне краінай і паставіць яе рэсурсы на службу нямецкага войска".

Яшчэ да таго, як у канцы 1915 г. баявыя дзеянні на Усходнім фронце заціхлі, у тыле былі створаныя армейскія тылавыя інспекцыі, якія павінны былі нармалізаваць жыццё на акупаванай тэрыторыі і забяспечыць нямецкія войскі прадуктамі харчавання. З гэтых тылавых інспекцыяў у сакавіку 1916 г. у паўночнай частцы Усходняга фронту знаходзілася чатыры: у Коўне, Сувалках-Вільні, Беластоку і Гародні. Праз два месяцы былі ўтвораныя шэсць адміністрацыйных акругаў: "Курляндыя", "Вільня", "Сувалкі", "Коўна", "Беласток" і "Гародня". У 1917 г. яны былі аб'яднаныя ў тры акругі – "Курляндыя", "Беласток-Гародня" і "Літва". Да студзеня 1918 г. вайсковае кіраўніцтва злучыла дзве апошнія ў адну пашыраную "Літву"[7].

6 Fischer Fritz. Griff nach der Weltmacht. Die Kriegszielpolitik des kaiserlichen Deutschland 1914-1918. Sonderausgabe. Düsseldorf, 1967. S. 233ff.

7 Strazhas Aba. Deutsche Ostpolitik im ersten Weltkrieg. Der Fall *Ober Ost* 1915-1917. München , 1993. S. 13.



Verwaltungsgebiet Ober Ost

Einteilung der Kreise

Kurland

1. Libau (Stadtkreis)
2. Mitau (Stadtkreis)
3. Doblen
4. Tuckum
5. Talsen
6. Windau
7. Goldingen
8. Hasenpot
9. Grobin
10. Bauske

Grodno-Bialystok

1. Grodno (Stadtkreis)
2. Grodno (Landkreis)
3. Lida Stadtkreis
4. Planty
5. Wasilischki
6. Radun
7. Ost (Zdzienciol)
8. Wolkowysk
9. Aleksyce
10. Sokolka
11. Bialystok (Stadtkreis)
12. Bialystok (Landkreis)
13. Bielsk
14. Swislocz

Litauen

1. Russisch-Krottingen
2. Schaulen
3. Olmjany
4. Schaulen
5. Johanischkele
6. Birschi
7. Telsze
8. Kurschany
9. Kiejdany
10. Poniewiez
11. Miezajcie
12. Skaudwile
13. Posurze
14. Rossienie
15. Kupzischki
16. Uzjany
17. Ralischki
18. Salbugischki
19. Wilkomierz
20. Kowno (Stadtkreis)
21. Kowno (Landkreis)
22. Wladislawow
23. Wylkowyschki
24. Mariampol
25. Suwalki
26. Sejny
27. Augustow
28. Koschedary
29. Schirwinty
30. Maljaty
31. Podbrodzie
32. Wilna (Stadtkreis)
33. Wilna (Landkreis)
34. Oszmjany




Адміністратыўны падзел у *Обэр Ост.*
З матэрыялаў М.Баціса.

Акруга складалася з гарадскіх і вясковых адміністрацыйных адзінак. У вясковых існавалі ў сярэднім па шэсць паветаў, якія дзяліліся на маёнткі і населеныя пункты. Гарады мелі ўласнае кіраванне.

У красавіку 1916 г. Гарадзенская адміністрацыйная акруга складалася з пяці раёнаў: “Гародня”, “Плянты”, “Васілішкі”, “Радунь” і “Ліда”. Як адзначаў у Дзённіку Курт Кламрот, Гародня была цэнтрам гарадской і раённай адміністрацыі. Цэнтральнае кіраўніцтва тылавой інспекцыі знаходзілася ў Коўне. Яно падпарадкоўвалася штабу галоўнакамандуючага і складалася з дзевяці аддзелаў: палітыкі (I), фінансаў (II), сельскай гаспадаркі (III), лясной гаспадаркі (IV), цэркваў і школаў (V), юстыцыі (VI), пошты (VII), гандлю (VIII) і аховы зямельных рэсурсаў (IX).

Самым уплывовым быў палітычны аддзел, які займаўся мясцовым кіраваннем і такімі пытаннямі, як нацыянальная палітыка, а таксама адказваў за кантакты з вайсковым і дзяржаўным кіраўніцтвам. Яму падпарадкоўваўся таксама аддзел друку. Найважнейшымі задачамі фінансавага аддзелу былі падаткаабкладанне, мытны збор і манапольны гандаль на занятай тэрыторыі. Гэта былі асноўныя крыніцы фінансавання адміністрацыі. Асваенне ворыўных земляў і кіраванне маёнткамі знаходзіліся ў кампетэнцыі аддзела сельскай гаспадаркі, выкарыстанне лясных багаццяў – аддзела лясной гаспадаркі. Кантактамі з духавенствам і кантролем над школьнай адукацыяй займаліся супрацоўнікі V-га аддзела. Стварэнне элементарнай судовай сістэмы было даручана аддзелу юс-

тыцыі. Арганізацыяй гандлю і прамысловасці, выкарыстаннем сыравіны займаўся аддзел гандлю. Галоўнай задачай аддзела аховы зямельных рэсурсаў было вырошчванне садавіны і гародніны[8].

Паводле той жа мадэлі стваралася сістэма кіравання ў асобных адміністрацыйных адзінках. У выніку ўзнікла шчыльная сетка сістэмы кіравання, якая ўключала кіраўніцтва паветамі і гарадамі, адміністрацыю акругаў і, нарэшце, адпаведную тылавую інспекцыі і галоўную адміністрацыю ў Коўне. Галоўнай задачай быў жорсткі кантроль за насельніцтвам і рэсурсамі краіны.

*Ober Ost* быў створаны ў паўночнай частцы Усходняга фронту, дзе пад кантроль нямецкай вайсковай адміністрацыі трапіла тэрыторыя ў 108 808 кв.км. Сюды ўвайшлі часткі сучаснай усходняй Польшчы, Заходняй Беларусі, уся Літва і частка Латвіі. Ужо сама назва – *Ober Ost* (у перайманне часткі тытула Гіндэнбурга як “Обэр” (“галоўны”) – сведчыць пра тып арганізацыі ўлады.

У гэтым выпадку размова не ішла ні пра Ліфляндыю, Курляндыю, Латвію ці нават пра “новую Усходнюю Прусію”. Гэтая адзінка не была ні герцагствам, ні імперыяй, ні краем, ні губерняй. Яна не ўлічвала нацыянальныя, культурныя ці дзяржаўныя традыцыі[9]. Стваралася нешта абсалютна новае. Над усім дамінавала нямецкая ваеншчына ў постаці галоўнакамандуючага. Але на самай справе не Гіндэнбург быў сапраўдным архітэктарам гэтай свайго роду ўзорнай мілітарнай дзяржавы, якая не мела прэцэдэнту, а ягоны кіраўнік штабу Людэндорф[10]. Рухаючай сілай было імкненне стварыць устойлівую сістэму ўлады.

З тэрытарыяльным падзелам *Ober Ost* была звязаная праблема размежавання кампетэнцыі кіраўнікоў. Кожную тэрытарыяльна-адміністрацыйную акругу ўзначальваў кіраўнік, чыю ўладу Кламрот параўноўваў з уладай вышэйшага дзяржаўнага чыноўніка. Гэта быў афіцэр, якому падпарадкаваліся жандары[11]. Павятовай адміністрацыяй кіравалі начальнікі паветаў, маёнткамі і вёскамі – ўпраўляючыя. У гарадах кіравалі бургамістры, якія пазней, каб падкрэсліць вайсковы характар кіравання, былі названыя гарадскімі гаўптманамі. Шэфы акругаў неслі адказнасць як перад тылавой інспекцыяй, так і перад цэнтральнай адміністрацыяй у Коўне. Павятовы гаўптман павінен быў па многіх пытаннях звяртацца як да шэфа адміністрацыйнай акругі, так і да кіраўніка адпаведнай тылавой інспекцыі.

8 *Das Land Ober Ost*. S. 87.

9 Вядома, што стратэгія вышэйшага вайсковага кіраўніцтва адносна планаў дзяржаўнасці *Ober Ost* змянілася пасля Брэсцкага міру ў сакавіку 1918 г. Ідэя самавызначэння нацыяў патрабавала ад кіраўніцтва маскіроўкі курсу на анексію. Адпаведна пэўным нацыянальным арганізацыям на акупаваных тэрыторыях пачалі прапаноўваць ілюзорную аўтаномію, каб пазней можна было разлічваць на іх добраахвотнае ўваходжанне ў *Ober Ost* .

10 *Das Land Ober Ost.* S. 79.

11 LindeGerd. Die deutsche Politik in Litauen im ersten Weltkrieg. Wiesbaden, 1965. S. 29.

На чале вайсковай адміністрацыі знаходзіўся галоўнакамандуючы *Ober Ost* . У акупаванай частцы Расіі ён “здзяйсняў […] агульную заканадаўчую, судовую і выканаўчую ўладу [...]”[12]. Ён кіраваў як Ковенскай цэнтральнай адміністрацыяй, так і тылавой інспекцыяй. На гэтай пасадзе Гіндэнбург, узнесены яшчэ пры жыцці да рангу нацыянальнага героя, знаходзіўся да сярэдзіны лета 1916 г.

Але на самой справе Гіндэнбурга больш цікавіла паляванне, чым праблемы *Ober Ost* , якімі займаўся энергічны кіраўнік штаба Людэндорф. Якраз ён прызначаў на важнейшыя пасады ў першую чаргу вайскоўцаў, імкнучыся захаваць мілітарны характар адміністрацыі і не дапусціць умяшальніцтва Рэйхстага альбо імперскага ўраду ў жыццё тэрыторыі паміж Заходняй Дзвіной і Белавежскай пушчай. Адной з яго галоўных мэтаў было не дапусціць, каб у *Ober Ost* было створанае цывільнае кіраўніцтва накшталт Брусэльскага ці Варшаўскага. Гэта цалкам адпавядала інтарэсам вышэйшых вайскоўцаў, якія звязвалі сваю будучыню з *Ober Ost* , і разумелі, што перспектыва цывільнага кіравання змяншае іх кар’ерныя шансы[13].

Людэндорф даказваў, што блізкасць фронту не дазваляе стварыць цывільную адміністрацыю ў *Ober Ost* , хоць у выпадку з Бельгіяй гэтая блізкасць ніяк не перашкаджала. Нават, калі на пачатку сакавіка 1918 г. пасля міру ў Брэст-Літоўску фронт пасунуўся далей, а сам Людэндорф увайшоў у вышэйшае камандаванне, *Ober Ost* застаўся мілітарнай дзяржавай, на лёс якой ні рэйхсканцлер, ні Рэйхстаг не мелі істотнага ўплыву.

Па прычыне пэўнай заблытанасці службовай іерархіі, якая нараджала праблемы з сістэмай кіравання ў *Ober Ost* , нярэдка здараліся канфлікты паміж тылавымі камендантамі і чыноўнікамі. Людэндорфу даводзілася адыгрываць ролю арбітра, што яшчэ болей умацоўвала яго і без таго вялікую ўладу[14]. Але неўпарадкаванасць размежавання паўнамоцтваў і асабістыя амбіцыі асобных кіраўнікоў прыводзілі часам да хаатычнага стану кіравання.

Кламрот адчуў гэта ўжо ў першы год сваёй працы ў Гародні: “Вайсэнборн (обэр-бургамістр Гародні і начальнік Кламрота – М.Б.) любіў яснасць у адносінах. Каб яе дабіцца, ён не цураўся ні працы, ні барацьбы і вострых канфліктаў з уладамі. [...] Падчас кіравання яго папярэдніка сфера паўнамоцтваў ураду і гарадской адміністрацыі згубіла свае дакладныя абрысы. Бургамістр выпусціў з рук стырно ўлады, [...] вайскоўцы [...] ўмешваліся са свайго боку. Яго высокасць фон Хэльд, губернатар[15] Гародні, быў рэзкім чалавекам. Яшчэ больш рэзкім быў начальнік тылавой інспекцыі фон Каловэ. Прадстаўнік шэфа адміністрацыі [...] настойліва раіў не кранаць пытанняў кампетэнцыі, моўчкі перацярпець умяшальніцтва. Але [...] Вайсэнборн [...] дасягнуў таго, чаго хацеў. Інспектар тылу згадзіўся з

12 *Das Land Ober Ost.* S. 85.

13 Strazhas Aba. Deutsche Ostpolitik im ersten Weltkrieg... S. 114.

14 Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 82.

15 Кламрот зрэдку ўжываў былыя расейскія назвы службовых пасадаў.

прапанаваным размежаваннем паўнамоцтваў. [...] Тады ж было выдзелена 10 жандараў з батальёна жандармерыі ў Гародні і перададзена ў падпарадкаванне обэр-бургамістра ў якасці "гарадской паліцыі".

Калі ўвесну 1916 г. Гародня была адміністрацыйна аддзелена ад аднайменнай акругі, ізноў абвастрыліся спрэчкі за ўладу. Яны паказалі, што чыноўнікі звязвалі свае службовыя перспектывы з *Ober Ost* і гатовыя былі змагацца за ўладныя паўнамоцтвы. Пры гэтым размова ішла пра "[...] вызначэнне межаў [...] Гарадзенскага гарадскога раёну. Кіраўнік раёну фон Лірэс прытрымліваўся пункту гледжання, што з раёну павінна быць выкрэсленая толькі гарадская тэрыторыя з найбліжэйшым атачэннем. Здавалася, што шэф адміністрацыі згаджаўся з яго думкай. Але Вайсэнборн прадставіў перспектыўны план разбудовы Гародні (які намаляваў Зынінг) з падрабязнай распрацоўкай магчымасцяў развіцця горада: квартал з віламі, індустрыяльны квартал, рабочыя прадмесці, распавёў пра шкоднасць, якую можа пацягнуць за сабою абмежаванне тэрыторыі горада і г.д., і дасягнуў таго, што яго прапановы [...] атрымалі згоду шэфа адміністрацыі і галоўнакамандуючага".

Узнікалі таксама канфлікты з уплывовым кіраўніцтвам ваенных чыгунак, з цэнтральнай службай ваеннай паліцыі на Усходзе, нарэшце, з цывільным кіраўніцтвам у Варшаве. Усё гэта значна ўскладняла сістэму кіравання ў *Ober Ost* [16]. Але замест таго, каб надаць гэтай сістэме стабільны і празрысты характар, кіраўнікі больш клапаціліся пра неабходнасць узмацнення арганізацыі і кіравання.

У выніку на жыхароў *Ober Ost* хлынуў паток распараджэнняў, памятак, загадаў, забаронаў і ўказанняў. Аднак, нягледзячы на інфармаванне пра гэтыя загады ў царкве, людзьмі яны не чыталіся альбо былі незразумелымі. Не дапамагалі нават штрафы. Часам, напрыклад, забаранялася спажыванне альбо продаж мясных прадуктаў, печыва, хатняга піва, гэтаксама, як і паляванне альбо выкарыстанне аўсу як конскага корму, перасылка лістоў і пасылкаў не паштовым шляхам.

Вядома, што права на вольнае перасоўванне і паўсюднае пражыванне ў межах акругі строга абмяжоўвалася, а дзеля выезду патрэбны быў афіцыйны дазвол. Палітычная дзейнасць катэгарычна забаранялася. Асабліва непрыемным для насельніцтва быў абавязак вітання нямецкіх афіцэраў, чаго часцяком дамагаліся таксама і ніжэйшыя па рангу, і, што ў крайнім выпадку здзяйснялася з прымяненнем сілы[17]. Дарэчы, Кламрот называў абавязак вітання "загадам [...], у якім даўно раскайваліся, бо, зусім натуральна, што гэтае віншаванне нярэдка было вымушаным альбо нават абуральным, але загад быў аддадзены, яго трэба было выконваць, і з-за гэтага было шмат незадаволенасці з абодвух бакоў."

Ахвяраю гэтага ўпраўленчага запалу стала цэнтральнае кіраўніцтва адміністрацыйнай акругі "Літва" ў Вільні, архітэктарам і шэфам якога быў

16 Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 86.

17 Strazhas Aba. Deutsche Ostpolitik im ersten Weltkrieg... S. 28.

сумна вядомы сваім аўтарытарным стылем кіравання князь Франц Юзаф Ізэнбург-Бірштайн.

Ротмістр Тэадор фон Хопэ, які з пачатку лістапада 1916 г. стаўся кіраўніком аб'яднанай адміністрацыйнай акругі "Беласток-Гародня", напрыканцы вайны параўнаў цэнтральную адміністрацыю ў Вільні "з вялікай рахітычнай галавой"[18]. Але Кламрот як памочнік обэр-бургамістра Гародні знайшоў магчымасць у сваім дзённіку пахваліць Гіндэнбурга і Людэндорфа: "Абодва палкаводцы паказалі сябе спраўнымі, дальнабачнымі, геніяльнымі ў кіраванні".

Аднак, будзе несправядлівым сцвярджаць, што сістэма кіравання ў *Ober Ost* была цалкам не эфектыўнай. На самой справе вайскоўцы выказалі пэўную крэатыўнасць і ўсё ж такі стварылі даволі эфектыўную адміністрацыю. Апошняе якраз датычыць гаспадарчага выкарыстання занятай тэрыторыі. І гэта пры тым, што гэты накірунак адміністрацыйнай дзейнасці вёў да поўнай страты ўсялякіх сімпатыяў, якія мясцовае насельніцтва калі-небудзь магло мець да немцаў, і перашкаджаў любому доўгатэрміноваму плану прыцягнення насельніцтва на свой бок.

Усе выдаткі пакрываліся пастаўкамі з акупаваных тэрыторыяў прадуктаў харчавання і сыравіны для войска і Нямеччыны. Тры элементы гаспадарчай палітыкі *Ober Ost* клаліся асаблівым цяжарам на насельніцтва. Гэта татальныя рэквізіцыі ўраджаю, прадуктаў харчавання і жывёлы; манаполія нямецкай адміністрацыі на гандаль, якая разарыла тысячы пераважна габрэйскіх гандляроў і час ад часу пагражала паралічам гаспадарчаму жыццё цэлага рэгіёну і, нарэшце, загатоўка сыравіны (асабліва драўніны) для патрэбаў войска і Нямеччыны і звязаны з гэтым прымусовы набор у працоўныя батальёны[19]. Апошнія за жабрацкую плату займаліся цяжкай фізічнай працы ў жахлівых умовах.

Рэквізіцыі і ненавісная людзьмі нямецкая гандлёвая манаполія вялі да рэзкага росту кантрабанды[20] і схілялі многіх габрэяў, якія раней ставіліся да немцаў даволі пазітыўна, супрацьставіцца акупацыйнага рэжыму. Страх перад гвалтоўным наборам на працу прымусіў многіх працаздольных мужчынаў уцякаць у лес і далучацца да розных бандаў.

Вайсковае кіраўніцтва не хавала факту, што эфектыўная эксплуатацыя рэсурсаў краіны з'яўляецца прыярытэтнай: "Відавочная для генерал-фельдмаршала фон Гіндэнбурга і генерала Людэндорфа неабходнасць стварэння адпаведнай адміністрацыі краю вынікала перш за ўсё з таго факту, што інтарэсы войска і радзімы патрабавалі загатовак і выкарыстання ўраджаю 1915 г., які толькі часткова быў сабраны [...] Першымі прычынамі, якія пабуджалі да стварэння кіраўніцтва ў сельскай мясцовасці, былі менавіта гаспадарчыя"[21].

---

18 Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 68.

19 Ibidem. S. 63f.

20 *Das Land Ober Ost.* S. 241.

21 Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 89.

Першачарговымі задачамі нямецкіх ўладаў былі ўстанаўленне манаполіі на гандаль, рэквізіцыі, а таксама ўлік рабочай сілы. Гэта ясна давалі зразумець кіраўнікам раёнаў. Загады агульнага характару пра памеры рэквізіцыяў, вядома, не былі тут патрэбныя[22]. Гэта вяло да таго, што з сялянаў часта бралася болей, чым іх гаспадаркі маглі даць. Ёсць звесткі, што, напрыклад, малочных кароваў забіралі на бойню, апошняга каня рэквізавалі на патрэбу войска, а адзінага ў гаспадарцы працаздольнага мужчыну прыцягвалі да працоўнай павіннасці[23].

Ураджай канфіскаваўся поўнасцю і павінен быў прадавацца войску па цэнах, якія яно само прызначала. Кіраўніцтва атрымала права без кампенсацыі канфіскаваць землі, якія, на яго погляд, кепска апрацоўваліся[24]. Коні, без якіх ні войска, ні сяляне не маглі абысціся, павінны былі прадавацца сялянамі на г.зв. “конскіх аглядах” па нізкіх коштах[25].

Пакуты насельніцтва і яго залежнасць ад чыноўнікаў цалкам вызначалася сквапнасцю альбо сумленнем апошніх. У літоўскім Купішкісе дайшло да дзікіх рэквізіцыяў неўпаўнаважаных на гэта нямецкіх вайскоўцаў[26]. Тое, што канфіскацыі адбываліся прымусова і выклікалі супраціўленне пры апісаных умовах само сабою зразумела. Відавочна, што пры рэквізіцыях часта прымянялася празмерная сіла. У літоўскіх крыніцах зафіксаваныя выпадкі жахлівых злачынстваў у сувязі з рэквізіцыямі[27]. Таксама захаваліся паведамленні пра здзекі ў рабочых батальёнах і небяспеку эпідэміі ў рабочых лагерах[28].

У *Ober Ost* існавалі механізмы фінансавай эксплуатацыі, якая пераследавала дзве мэты: фінансавая незалежнасць нямецкага кіраўніцтва ад датацыяў ураду і павелічэнне рэзерваў Рэйхсбанку праз пастаўкі золата. Важным крокам дасягнення гэтых мэтаў было ўвядзенне ў пачатку 1916 г. неабароненага Усходняга рубля (пазней названага Остмаркай). З яго дапамогай удалося забраць ад насельніцтва перш за ўсё рускія і нямецкія грошы. Усходні рубель быў грашыма, якімі аплачваліся мізэрныя і нерэгулярныя кампенсацыі нямецкіх ўладаў за рэквізіцыі. Прытым большую частку гэтых грошай забіралі ад насельніцтва ў форме падаткаў. Затое дарагія прадукты харчавання альбо жывёла прадаваліся за расійскія рублі ці рэйхсмаркі[29].

Кламрот, аддзелу якога была давераная “нарыхтоўка і размеркаванне

22 Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 57; Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 91.

23 Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 57.

24 Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 89.

25 Ibidem. S. 92.

26 Strazhas Aba. Deutsche Ostpolitik im ersten Weltkrieg... S. 30.

27 Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 89; Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 58.

28 Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 57; Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 63.

29 Strazhas Aba. Deutsche Ostpolitik im ersten Weltkrieg... S. 31f.

прадуктаў”, таксама адказваў за “засваенне новых крыніцаў прыбытку” і ведаў, як творча аб’яднаць абедзве задачы: “Асаблівае задавальненне прыносіла мне выцягванне з насельніцтва залатых манет […] для ўмацавання нямецкай валюты. Залатая крынічка была слабенькай. Тады я паспрабаваў увесці плату золатам за гандаль самымі неабходнымі таварамі. Да такіх тавараў належалі спіртовыя напоі. *Ober Ost* усталяваў манаполію на самагонаварэнне, і мне быў перададзены збыт для Гародні і Гарадзенскага раёна. Калі ў першыя дні пасля пачатку продажы […], я ўбачыў, як пакупнікі збіраюцца перад гандлёвай кропкай, то вырашыў менавіта продаж гарэлкі зрабіць залатой крыніцай. Па майму загаду на дзвярах магазіну з’явіўся кавалак паперы, на якім можна было прачытаць, што невялікія запасы спіртнога, якія яшчэ засталіся, будуць прадавацца толькі за залатыя манеты. На наступны дзень пайшоў залаты дождж! Як я быў рады, калі ў хуткім часе мы сабралі першыя 20.000 рублёў чыстым золатам і пераслалі іх імперскаму банку праз адміністрацыйную касу”.

Немагчыма апісаць гандаль у *Ober Ost* , не спыніўшыся падрабязна на ролі габрэйскіх дробных гандляроў і купцоў. Нямецкія ўлады не маглі, нягледзячы на ўсялякія пераўтварэнні гаспадарчага жыцця, адмовіцца ад габрэйскіх гандляроў як пасярэднікаў, што яскрава апісана Куртам Кламротам: “Некаторыя асобы ў адміністрацыі лічылі, што габрэйскі гандаль, якому яны не давяралі з самага пачатку, павінен быць спынены.




: Чарга пакупнікоў алкагольных і тытунёвых вырабаў.
1916 г. Фотаздымак К.Кламрота.

Так, кіраўнік Гарадзенскага раёна паспрабаваў гэта зрабіць, чым нанёс раёну вялікую шкоду. […] Ніякае гандлёвае жыццё тут не магчымае, калі б побач з не мабільнай часткай насельніцтва не было іншай, больш рухомай, якая б не перасоўвалася ад двара да двара, ад горада да вёскі і не забірала ў людзей лішняе, прыносячы тое, у чым яны маюць патрэбу. Большасць габрэйскіх гандляроў перамяшчаліся па краіне як вандроўны ўніверсальны магазін. Земляроб атрымліваў ад іх усё, што яму неабходна, ім жа ён мог збыць усе свае прадукты і тавары. Недапушчэнне гэтага гандлю паралізавала б эканамічнае жыццё”.

Калі Кламрот у красавіку 1916 г. пераняў ў адміністрацыі Гародні кіраўніцтва аддзелам сыравіны, ён прызнаў, што ніколі б не вырашыў свае задачы без дапамогі габрэйскага гандлю: “Толькі дзякуючы гандлю ўдалося выцягнуць з краіны такія матэрыялы як скуры, алей, дубільныя рэчывы, металы і г.д.”

Зразумела, было б няправільным разглядаць ролю габрэйскага гандлю ў сістэме гаспадаркі *Ober Ost* выключна як пасярэдніка, хаця Людэндорф у сваіх ваенных успамінах вызначаў яе менавіта так[30]. У той час як бедным габрэйскім лятучым гандлярам у некаторых раёнах *Ober Ost* было дазволена займацца сваёй традыцыйнай справай, іншыя ў гарадах вымушаныя былі зачыніць свае крамы з-за нямецкай манаполіі на гандаль[31]. Адначасна губляў свае пазіцыі невялікі, але ўплывовы слой багатых габрэйскіх купцоў. Прычына хавалася ў поглядаў вайскоўцаў, якія лічылі, што мясцовыя жыхары могуць атрымліваць нейкі прыбытак толькі ў выпадку вайсковай патрэбы.

Праўда, некаторым габрэйскім купцам і высокапастаўленым асобам удалося кампенсаваць уласныя страты дзякуючы супрацоўніцтву з нямецкімі ўладамі, але і тут яны часта натыкаліся на глыбокі недавер з нямецкага боку. Кламрот вельмі ярка апісаў аднаго багатага габрэйскага прадпрымальніка і сябра гарадзенскай адміністрацыі: “Габрэйскі ўладальнік млына Касоўскі – пранырлівы мярзотнік! Ён быў з багатых габрэяў, увесь час хадзіў добра апранутым, і ніжняя частка яго апраўленага кароценькай рыжай бародкай твару заўсёды выглядала бездакорна белай, чым ён выгадна адрозніваўся ад сваіх суродзічаў. Але сумленне яго было ў такой жа ступені брудным, як і ў большасці (у арыгінале стаіць спачатку “як ва ўсіх”, потым заменена на “большасці” – М.Б.) [...] Сваё вялікае багацце ён нажыў на пастаўках для расійскай ваеннай адміністрацыі (відаць, праз недапастаўкі таксама), дык чаму я не мог думаць, што ён не хоча паспрабаваць абдурыць таксама і нямецкую адміністрацыю? Ён меў вадзяны млын у Ласосне і па-сучаснаму абсталяваны новы паравы млын у Гародні з прыгожымі элеватарамі і складскімі памяшканнямі”.

30 Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 93

31 Ibidem. S. 226.

Каб абысці строгія эканамічныя абмежаванні акупацыйнага рэжыму, Касоўскі паспрабаваў выкарыстаць дзеля ўласных інтарэсаў і, верагодна, інтарэсаў абшчыны свае службовыя магчымасці. З Дзённіка мы даведваемся, што ён "за круцельства трапіў з гарадской рады ў турму". Магчыма Касоўскі спрабаваў падмануць улады на пастаўках для адміністрацыі мукі, каб потым збыць яе на "чорным рынку"?

У Дзённіку коратка згадваецца спекуляцыя з прадуктамі харчавання ў Гародні і наваколлі. Тое, што габрэі пры гэтым адыгрывалі значную ролю, пацвярджае паведамленне тагачаснага сведкі: "З тае прычыны, што няма чаго прадаваць, яны (габрэі) зачынілі крамы і затаіліся. Цяжка паверыць, але яны выкапалі тунель пад вайсковым кардонам, які атачаў горад, каб дайсці да вёскі, дзе сяляне прададуць ім пару бульбінаў, пучок морквы альбо засечаную курыцу, якую яны схаваюць ад нямецкай канфіскацыі"[32].

Апроч згаданых элементаў эканамічнага выкарыстання краіны вялікая колькасць грашовых штрафаў, падаткаў ды іншых збораў зрабілі нямецкае кіраванне ў *Ober Ost* рэнтабельнай справай. *Ober Ost* стаўся для Рэйху важным пастаўшчыком перш за ўсё сыравіны, скаты і прадуктаў харчавання.

У перыяд з кастрычніка 1917 г. па сакавік 1918 г. з Нямеччыны ў акругу "Літва" паступіла звыш 77 мільёнаў марак, а ў адваротным кірунку было вывезена сыравіны і тавараў на суму каля 208 мільёнаў марак (прыкладна 338 мільёнаў марак згодна з нямецкай вартасцю маркі)[33]. Лічбы гавораць самыя за сябе. Аўтаркія *Ober Ost* у абярнулася далейшай падтрымкай яго палітычнай аўтаноміі і паўнаты ўлады ягоных кіраўнікоў Людэндорфа і Гіндэнбурга.

Да фактараў, якія перашкаджалі стварэнню цывільнага кіравання ў *Ober Ost* , належаў таксама страх перад славянскім выцясненнем немцаў. Гэты страх жыў у значнай часткі насельніцтва Усходняй Прусіі, якое памятала нядаўнюю расейскую акупацыю. Барацьба германскай культуры са славянствам, як між іншым вызначылі характар вайны Хельмут Ёханэс Людвіг фон Мольткэ і сам Вільгельм II[34], адбывалася менавіта на Усходзе. Была пашыраная думка, што кожнае цывільнае кіраванне будзе непазбежна занадта мяккім для народаў Усходу, якія паддаюцца жорсткаму кіраванню, а кожную саступку ацэньваюць як праяву слабасці[35]. Гэтая пазіцыя адлюстравала ўяўленні многіх немцаў.

Наступны характэрны эпізод з Дзённіка Курта Кламрота якраз ілюструе гэтую пазіцыю: "Ротмістр Тойбнэр [...] надзвычай моцна кляў нядаўна ўтвораную цывільную адміністрацыю ў Варшаве, якая абыходзілася з палякамі занадта паблажліва (менавіта так! – М.Б.) [...] і вельмі шкодзіла

[32] Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 226.

[33] Ibidem. S. 57.

[34] Fischer Fritz. Griff nach der Weltmacht. S. 34.

[35] Koenen Gerd. Der Russland-Komplex. S. 72.

аўтарытэту нямецкіх афіцэраў. [...] Пры аглядзе коней у нейкай глухмені пад Варшавай ён сказаў паляку, які вельмі доўга дэманстраваў свайго каня: “Ну, старэча, давай трохі хутчэй, іначай магу цябе і прыспешыць”. Пры гэтым ён падняў сваю нагайку. Паляк паскардзіўся ў нямецкую цывільную адміністрацыю, што да яго звярталіся на “ты” і пагражалі бізуном, і Тойбнэр атрымаў заўвагу. Тойбнэр быў у шаленстве з-за гэтага няправільнага абыходжання з народам, які згінаўся пад ударамі расейскага бізуна і які пад мяккай нямецкай уладай граў ролю пакрыўджанага. Ён прадказаў цывільнай адміністрацыі самы непрыемны досвед і, на жаль, меў рацыю”.

У салонах Нямеччыны Вільгельма II было нормай карыстацца падобнымі расісцкім стэрэатыпамі. Многія тагачасныя публікацыі былі прасякнутыя імі: “Расія мае нацыянальныя жарсці, але не мае пачуцця нацыянальнага гонару [...] Расія любіла ўсіх сваіх заваёўнікаў, падобна як тая руская сялянка, што патрабавала біцця”, - пісаў Вальтэр Ратэнаў у жніўні 1915 г. Не менш красамоўным прыкладам з’яўляецца мемарандум 1916 г балтыйскага немца Сільвіё Бродэрых-Курмалена, які ў той час належаў да самых прыкметных у сваім жанры: “У Вялікарасіі дамінуе мангольская кроў, а мангол схіляецца толькі перад уладай, яе мяккасць ён заўсёды лічыць слабасцю”[36].

У гэтых уяўленнях экзістэнцыйны страх перад славянамі перамешваўся з ідэяй уласнай палітычнай перавагі або культурнай місіі на Усходзе[37]. Тэзіс патэнцыйнай небяспекі з боку славянаў узмацніўся пасля рэформаў прэм’ер-міністра Пятра Сталыпіна, калі прырост насельніцтва ў Расеі пакінуў далёка ззаду нямецкую рэпрадуктыўную здольнасць. Адсоўванне гэтага ўяўнага асілка ад нямецкай мяжы, як таго патрабаваў рэйхсканцлер Бэтман Гольвэг у сваёй ваеннай праграме ў верасні 1914 г.[38], было ў гэтым кантэксце цалкам лагічным. Гэты тэзіс быў даволі прыдатным дзеля таго, каб “выхаваць у нямецкага памежнага насельніцтва страх за ўласнае жыццё[39].

І калі ў святле канцэпцыі “славянскай пагрозы” ў Германіі казалі пра “сцяну Гіндэнбурга на Усходзе” альбо пра “германскі абарончы вал”, то гэта добра дапасоўвалася да ідэі мілітарнай дзяржавы Людэндорфа, у якой агульнае кіраванне знаходзілася ў руках вайскоўцаў і служыла ваенным інтарэсам. Паколькі размова ішла не столькі пра эканамічнае і юрыдычнае функцыянаванне акупаванай тэрыторыі альбо пра каланізацыйныя працэсы, а пра нацыянальную бяспеку, то пярэчанні “парламенц-

[36] Broederich-Kurmahlen Silvio. Das neue Ostland. Ostlandverein Berlin-Charlottenburg , 1916. S. 39.

[37] Элементы расісцкай дактрыны сустракаюцца ў публікацыях часоў кайзераўскай Германіі (напр., Бродэрых-Курмален). Іх адкрытая прапаганда разам з палітычнымі пераменамі ў Веймарскай рэспубліцы прывяла да нацыянал-сацыялізму.

[38] Fischer Fritz. Griff nach der Weltmacht. S. 93.

[39] Geiss Imanuel. Der polnische Grenzstreifen 1914-1918. Ein Beitrag zur deutschen Kriegszielpolitik im Ersten Weltkrieg. Lübeck, 1960. S. 43.

кай шайкі"[40] ці пэўныя гаспадарчыя інтарэсы не маглі мець вагі.

У прапагандысцкую карціну "па-здрадніцку атакаванай і аточанай" ворагамі нямецкай дзяржавы, якая змагаецца выключна за выжыванне і гарантыі бяспекі, добра ўпісаўся фактар "славянскай пагрозы". Большасць вайсковых планаў прадугледжвалі альбо далучэнне часткі ці нават усёй тэрыторыі *Ober Ost* да Нямеччыны, альбо пашырэнне нямецкай тэрыторыі ў паўночна-ўсходнім кірунку як часткі аб'яднанай і накіраванай супраць Расіі Цэнтральнай Еўропы (праект рэйхсканцлера Бэтман-Гольвэга)[41]. Існаваў таксама варыянт далучэння да Германіі гэтай тэрыторыі як кампенсацыі за магчымую перадачу Польшчы Габсбургам.

Сітуацыя Нямеччыныі як краіны аточанай ворагам толькі ўзмацняла настроі анексіі[42]. Нават брытанская марская блакада, у выніку якой стаў адчувальным недахоп харчавання, была вадою на млын тых, што хацелі дасягнуць аўтаркіі Нямеччыны шляхам анексіі на Усходзе. На Усход глядзелі як на цудоўны сродак вырашэння цэлага комплексу нямецкіх праблемаў. Гэта была праблема сацыяльнага напружання сярод сельскага насельніцтва, якое перажывала крызіс у сувязі з індустрыялізацыяй аграрнага грамадства. Людзям казалі пра магчымасць перасялення і абяцалі, што ўсходнія землі захаваюць аграрны характар Рэйху і нейтралізуюць негатыўныя для вёскі наступствы урбанізацыі. Таксама Усход успрымаўся як рэсурс рабочай сілы для нямецкай гаспадаркі і рынак збыту яе тавараў, як крыніца паставак сыравіны, перш за ўсё драўніны і, нарэшце, як велізарныя пасяўныя плошчы.

Ужо згаданы публіцыст і землеўладальнік Сільвіё Бродэрых-Курмален трактаваў насельніцтва Літвы і Латвіі з пэўнай сімпатыяй у адрозненні ад нібыта лянівых славянаў. Там жылі "лепшыя сяляне", а насельнікі выспаў і марскога ўзбярэжжа давалі найлепшы "матроскі матэрыял". Рэшта неславянскага насельніцтва была "заўзятымі жывёлаводамі і коневодамі"[43]. У выданні Das Land *Ober Ost* гэтыя ўзнёслыя характарыстыкі нават перабольшваліся. Пасля чытання кнігі чытач быў перакананы, што "сусветны пажар" вайны разгарэўся толькі дзеля таго, каб ператварыць будучую "Фрысландыю Усходу" ў тэрыторыю для "нямецкай пародзістай свінні"[44].

Вышэйшае камандаванне падкрэслівала мілітарнае значэнне ўсходняй экспансіі як абароны нямецкіх усходніх тэрыторыяў ад славянскай агрэсіі. "Шляхам далучэння балтыйскіх краінаў і Літвы ўсходняя мяжа Усходняй Прусіі будзе абароненая", - пісаў Гіндэнбург у дакладной запісцы рэйхсканцлеру ў ліпені 1918 г.[45]

Паколькі далучэнне Курляндыі да Рэйху з улікам нямецкага чынніка яе гісторыі, а таксама існавання балта-нямецкай эліты выглядала беспраблем-

40 У 30-я гг. левыя партыі разам з "парламенцкай шайкі" абвінавачваліся ў паражэнні праекта *Ober Ost* (напр, Nithack Hans. Deutsche Arbeit in Polen und Litauen während des Weltkrieges. Bund Deutscher Osten, 1936).

41 Fischer Fritz. Griff nach der Weltmacht. S. 174

42 Koenen Gerd. Der Russland-Komplex. S. 72.

43 Broederich-Kurmahlen Silvio. Das neue Ostland… S. 25.

44 *Das Land Ober Ost.* S. 249f.

45 Geiss Imanuel. Der polnische Grenzstreifen 1914-1918. S. 172.

ным і было прызнанай ваенна-палітычнай мэтай Нямеччыны, то лагічным выглядала таксама далучэнне Літвы. За гэта выказваўся ў снежні 1914 г. гісторык Ота Хёцш, які, аднак, перасцерагаў ад распаду Расеі падчас здзяйснення нямецкіх захопніцкіх планаў. Яшчэ далей ішлі пажаданні рэгірунгспрэзідэнта Франкфурта-на-Одэры Фрыдрыха фон Шверына, які ў сваёй памятнай запісцы вясною 1915 г. прапанаваў анексію Сувалкаў, Літвы, Курляндыі і часткі Ліфляндыі. Дзяржаўны сакратар па замежных справах Готліб фон Ягаў патрабаваў далучэння Літвы і Курляндыі ў кастрычніку 1915 г.

Катэгарычная публіцыстыка ў стылі Бродэрыха-Курмалена, прапагандаванне пангерманскага аб'яднання і галасы ўплывовых навукоўцаў (Тэадор Шыман, тэолаг Фрыдрых Лецыюс альбо памяркоўны Ханс Дэльбрук) стваралі ідэйны падмурак галоўным тэзісам названых мемарандумаў[46]. Кламрот таксама сыходзіў з таго, што Гародня “магла б застацца нямецкай альбо ўвайсці ў доўгатэрміновыя блізкія зносіны [з Нямеччынай]”.

“Калі варожая тэрыторыя занятая, то напачатку кіраўніцтва ёю пераймаюць вайсковыя ўлады. Яны абслугоўваюць тылавыя камендатуры і абмяжоўваюцца вайсковымі патрэбамі”, - так апісваў Кламрот у сваім Дзённіку рэжым акупацыі. Быццам прыгадваючы Гаагскія правілы вядзення сухапутнай вайны (1907), паводле якіх акупацыйныя ўлады на захопленай тэрыторыі існуюць для забеспячэння нармальных умоваў жыцця[47], ён адзначаў: “Неабходна зноў наладзіць спакой і парадак, тылавыя службы павінна клапаціцца пра надзейную сувязь войска з радзімай. Унутраныя праблемы захопленай краіны могуць спачатку разглядаюцца як другасныя. Толькі калі акупацыйнае войска рушыць далей і пройдзе пэўны час, можна ўдзяліць гэтым справам неабходную ўвагу”.

Узнікае ўражанне, што клопат пра вайсковыя інтарэсы з'яўляецца хоць і важным, але часовым. Сапраўдная задача акупацыйнай адміністрацыі – праблемы захопленай тэрыторыі. Але даволі хутка стала зразумелым, што абсалютны прыярытэт вайсковых патрэбаў у *Ober Ost* не быў часовай мерай. Галоўнае камандаванне ўсведамляла, што Гаагскія правілы абавязвалі захопніка “абараняць інтарэсы акупаванай тэрыторыі на глебе [...] законаў краіны і выкарыстоўваць прыбыткі дзеля дабрабыту насельніцтва”. Але яно ж прызнавала, што па прычыне працягу “барацьбы […] кіраванне [...] павінна здзяйсняцца ў першую чаргу ў інтарэсах войска і германскага Рэйху і толькі потым у інтарэсах самой краіны”[48].

Як ужо адзначалася, галоўным матывам вайсковага кіравання была эканамічная эксплуатацыя краіны дзеля ваенных мэтаў. Але задачы *Ober Ost* гэтым не абмяжоўваліся. У публікацыях, што выходзілі з надзвычай працаздольнага аддзелу друку[49], вайсковае камандаванне падкрэсліва-

[46] Fischer Fritz. Griff nach der Weltmacht. S. 234f.

[47] Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 88.

[48] *Das Land Ober Ost.* S. 84.

[49] У аддзеле друку *Ober Ost* працавалі вядомыя літаратары (у т.л. габрэі) пераважна

ла, што прыйшло сюды вызваліцелем: “Нашая справа [...] – працаваць дзеля будучыні і служыць радзіме не менш чым вызваленым ад расейскага чужаземнага панавання жыхарам памежжа  паміж заходнім светам і Расеяй”[50].

Перш за ўсё падкрэслівалася неабходнасць вырашэння задачы мадэрнізацыі і цывілізацыі Усходу, адным словам, гаворка ішла пра “культурную місію”[51]: “Вялікія гарады без газу, водаправоду і каналізацыі, шырокія рэкі, перасечаныя бясконцымі пясчанымі водмелямі, бедната занядбаных вуліцаў і дарог, паўсюдны бруд [...], вартая жалю [...] сетка чыгуначных шляхоў, прымітыўны лад жыцця насельніцтва, знакі закінутасці і адсталасці кідаліся ў вочы”[52].

Не толькі для ўпартых нямецкіх культурных місіянераў словы “цывілізаваць”, “мадэрнізаваць” і “германізаваць” былі сінонімамі. Адным з найбольш пашыраных аргументаў на карысць нямецкага панавання і недапушчэння ўдзелу ў ім мясцовага насельніцтва або нават прадстаўлення яму аўтаноміі было меркаванне, што гэты народ не здольны да разумнага самакіравання: “Жыхары краю могуць прыцягвацца да кіравання [...] толькі там, дзе гэта датычыць падпарадкаванай службы”[53]. Выключэннем была толькі Курляндыя з яе нямецкімі элітамі.

Тое, што Кламрот належаў да чыноўнікаў *Ober Ost* , якія верылі ў культурную місію Нямеччыны, відаць з яго Дзённіка. Вось, што ён запісаў пасля конных прагулак па гарадзенскіх ваколіцах у траўні 1916 г.: “Наваколле Гародні прыгожае ва ўсіх накірунках, і лясы ля Пышак і Сакрэту, адрозныя паміж сабою, але кожны па-свойму цудоўны. Падчас працяглых надзельных прагулак мы наведвалі таксама і навакольныя вёскі, дзівячыся прымітыўным хаткам, якія нагадвалі мне халупы неграў у Пуэрта-Рыка і Кюрасао. Прылады працы, якімі сяляне апрацоўваюць тут зямлю, ледзь не дапатопныя. Мы часта бачылі, напрыклад, цалкам драўляныя бароны. Асобныя драўляныя часткі былі замацаваныя вярбовым галлём. Выкарыстоўваліся нават драўляныя плугі без аніводнай жалезнай часткі. Што будзе з гэтым краем, калі нямецкая культура засвоіць гэтую глебу!”

Разам з нямецкай арміяй і адміністрацыяй у *Ober Ost*  прыйшлі змены. Нямецкае кіраўніцтва пачало выпраўляць разбураную інфраструктуру, пашырала, напрыклад, сетку чыгуначных дарог, што выклікалася вайсковымі патрэбамі. З Нямеччыны ў *Ober Ost*  везлі таксама пасяўны матэрыял і сучасную аграрную тэхніку[54]. У галіне барацьбы з эпідэміямі

лібералных і левых поглядаў. Трэба назваць Арнольда Цвейга, Рыхарда Дземеля, Герберта Ойленбурга, Віктара Клемпэрэра,  Германа Штрука. Гэта былі пісьменнікі і журналісты, мастакі і філолагі адзінага неваеннага падраздзялення ўсёй арміі (Koenen Gerd. Der Russland-Komplex. S. 73)

50 *Das Land Ober Ost.* S. 9.

51 Параўн.: Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 72.

52 *Das Land Ober Ost.* S. 11.

53 Ibidem. S. 93

54 Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 66.

нямецкія акупацыйныя ўлады прымалі жорсткія меры. Уводзіліся абавязковыя прышчэпкі, ствараліся каранцінныя пункты ў сувязі з з’яўленнем праказы, быў наладжаны прымусовы медыцынскі агляд прастытутак, знішчаліся брадзячыя сабакі і г.д.[55]




Гандляр газетай Grodnoer Zeitung. 1916 г. Фотаздымак К.Кламрота.

Пад “мадэрнізацыяй” разумелі таксама пашырэнне тэлеграфнай сувязі і развіццё пошты для хуткай перадачы загадаў і задавальнення пэўных патрэбаў салдатаў і афіцэраў. Вялікім дасягненнем лічылася арганізацыя ў прапагандысцкіх мэтах перыядычнага друку ў *Ober Ost* як пэўнага інструмента кантролю над думкамі.

Неабходнасць “выхавання” насельніцтва тлумачылася неабходнасцю прывучэння людзей да парадку, да чысціні, выхавання сумленнасці, дакладнасці і вернасці абавязку. Але ў выніку край павінен быўператварыцца ў прыдатак да Нямеччыны, які стане жытніцай, месцам гадоўлі скота, будзе забяспечваць патрэбы ў драўніне і шэрсці вышэйшай якасці[56]. Інфраструктура, сельскагаспадарчая тэхніка, супрацьэпідэмічныя мерапрыемствы, тэлеграфная сувязь, пошта і друк – усё гэта служыла перш за ўсё забеспячэнню, бяспецы і інфармацыйнай манаполіі нямецкай ваеншчыны.

Гэта быў шлях да ўмацавання пазіцыі акупацыйных уладаў у *Ober Ost* , якія цалкам складаліся з вайскоўцаў. Стварэнне цывільнага кіравання было перанесенае на няпэўны час, кантроль імперскага ўраду і парламента мінімалізаваны. Вайскоўцы поўнасцю пераняі заданні цывільнага кіравання. Удалечыні ад грамадскасці Нямеччыны вайскоўцы *Ober Ost* прэтэндавалі на пэўную цывілізацыйную ролю. Але дасягнуты тэхналагічны прагрэс мог разглядацца, як важны фактар пабудовы сучаснага цывілізаванага грамадства толькі, калі б у ім удзельнічала насельніцтва, якое магло карыстацца гэтым. На самой справе прагрэс служыў амаль выключна эканамічнай эксплуатацыі і кантролю, забяспечваў дасягненне пэўных вайсковых мэтаў.

Калі б цывільнае насельніцтва было не прыгнечаным аб’ектам ваеннай дыктатуры, а ўдзельнікам і суб’ектам працэсу мадэрнізацыі, то тады

55 Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 112f.

56 *Das Land Ober Ost*. S. 223.

прапаганда нямецкай культурнай місіі не выглядала такой крывадушнай. Але паміж прэтэнзіямі і рэальнасцю *Ober Ost* існавала ўнутраная супярэчнасць, якая не служыла грамадскім інтарэсам і не мела грамадскіх мэтаў.

Такім чынам, калі Кламрот адзначаў розніцу паміж патрэбамі войска і ўнутранымі справамі краіны, то ён альбо не разумеў, што апошняе ніколі не выйдзе з ценю першага, альбо сыходзіў з таго, што ўнутраныя справы ваеннай дзяржавы якраз і з’яўляюцца галоўнай патрэбай.

Але як у гэтых умовах складваліся адносіны паміж мясцовым насельніцтвам і нямецкім вайсковым кіраўніцтвам?

Толькі па-ваеннаму кароткая афіцыйная назва *Ober Ost* нараджала ўяўленне пра пэўную аднастайнасць. На самой справе тут жыло каля трох мільёнаў чалавек, пераважна літоўцаў, палякаў, латышоў, беларусаў і габрэяў[57]. Гэтая этнічная разнастайнасць была адным з першых уражанняў Курта Кламрота ад Гародні: “Па гэтых вуліцах цякло суцэльным патокам стракатае жыццё ўсходняга горада: габрэі ў сваіх кафтанах, ларусы ў кажухах і сялянскіх чаравіках, бабы ў паласатым адзенні, дзіўныя сялянскія вазы і тыповыя рускія дрожкі, а пасярод гэтага элегантна і модна апранутыя пані і паны”.

З уласцівай яму дакладнасцю Кламрот пералічваў у Дзённіку: “Насельніцтва Гародні скарацілася на адну трэць ў параўнанні з даваенным станам. Паводле праведзеных у чэрвені 1916 г. падлікаў яно складала 24 460 чал., з іх 7 853 муж., 9 749 жан. і 7 558 дзяцей. Тут жылі 31 немец, 21 латыш, 113 літоўцаў, 67 вялікаросаў, 465 беларусаў, 570 “іншых рускіх”, 7 600 палякаў, 15 583 габрэяў і 1 грэк. Па веравызнанню насельніцтва дзялілася на пратэстантаў (163), рыма-католікаў (7 651), праваслаўных (1 049), іудзеяў (15 583), мусульманаў (15)”.

Насуперак адназначнасці гэтых лічбаў, трэба адзначыць, што нацыянальнасць не была тут пытаннем “крыві і зямлі”. Нават прозвішча не спрыяла яе вызначэнню. На прыкладзе дзіўнага выпадку, задакументаванага адным салдатам у Марыямпалі, гэта асабліва відавочна: “Гер Шміт, які да таго ж мае імя, дадзенае пры хрышчэнні, усведамляе сябе чыстым палякам, гер Кавальскі – карэнным рускім, а, мяркуючы па ўсім, масковец гер Кузняцоў – сапраўдным немцам”[58].

Родная мова таксама не заўсёды была прыкметай нацыянальнай прыналежнасці. Знакамітым прыкладам гэтага былі народжаныя ў Літве Габрыэль і Станіслаў Нарутовічы. Габрыэль быў першым выбраным прэзідэнтам II Рэчы Паспалітай, а яго брат Станіслаў – сябрам Літоўскай Тарыбы.

Там, дзе нацыянальнасць мела значэнне, і людзі вызначалі сябе не “тутэйшымі”, іх выбар быў абумоўлены рознымі абставінамі і традыцыямі. Варта працягнуць цытаванне дакумента з Марыямпаля: “Паляк Шміт рымска-каталіцкага веравызнання, рускі з польскім прозвішчам Кавальскі – праваслаўны, у той час як гер Кузняцоў, нягледзячы на сваё рускае прозвішча, належыць да пратэстанцкай абшчыны”. Відавочна, што нацыянальнасць

57 *Das Land Ober Ost.* S. 431.

58 Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 53.

і канфесія цесна перапляталіся і былі паняццямі ўзаемазвязанымі[59]. Але чаму ж тады каталіцкая вера не стала мостам паразумення паміж літоўцамі і палякамі, а, наадварот, нацыянальныя супярэчнасці пасяліліся ў касцёле?

Пра сітуацыю ў Гародні, дзе палякі і габрэі былі дзвюма самымі вялікімі групамі насельніцтва, Кламрот пісаў: “Паміж палякамі і габрэямі панавала вялікая варожасць, прынамсі паміж польскай і габрэйскай элітамі”.

Шматэтнічны і шматканфесійны *Ober Ost* быў зусім непадобны на пашыранае ў Нямеччыне ўяўленне пра маналітную рускую імперыю з рускім насельніцтвам[60].

## Гародня

Каб займацца ўнутранымі справамі краіны, патрэбны быў “кваліфікаваны, падрыхтаваны на радзіме кіраўнічы персанал”, - пісаў Кламрот у Дзённіку. І хаця ён як паспяховы прадпрымальнік і сябра гарадской рады з прускага горада Хальбэрштат[61] адчуваў сваю адпаведнасць пасадзе дзяржаўнага чыноўніка ў Гародні, але ўсё ж не падпадаў пад катэгорыю адміністрацыйнага персаналу, падрыхтаванага і навучанага на радзіме для кіравання на Усходзе.

Шматэтнічнасць акупаваных тэрыторый патрабавала асобнай катэгорыі адміністратараў, якая наўрад ці існавала ў Нямеччыне. Так, у тагачасным паведамленні нямецкага кіраўніцтва адзначалася, што “ёсць надзвычай мала мужчынаў, якія б [...] арыентаваліся ў сітуацыі на акупаванай тэрыторыі, і яшчэ менш тых, хто разумеў бы ўсе этнаграфічныя і культурныя абставіны, а таксама дастаткова глыбока разбіраўся ў абыходжанні з асобнымі нацыянальнасцямі. Але перш за ўсё ад пачатку не хапала ведання мовы”[62].

Адсутнасць патрэбных людзей была адной з асноўных праблемаў нямецкай адміністрацыі *Ober Ost* . Той факт, што рускія чыноўнікі сышлі разам з рускім войскам, а мясцовае насельніцтва ніякім чынам не ўдзельнічала ў кіраванні, толькі ўзмацняла гэтую праблему. Апошняе датычыла таксама і Гародні, дзе “рускія дзяржаўныя службоўцы, прыхапіўшы важныя паперы і касавую наяўнасць, зніклі”. Засталося менш паловы жыхароў і толькі частка ўплывовых гараджанаў з ліку польска-літоўскай шляхты і габрэйскіх купцоў. Яны ўтварылі Гарадскі камітэт, які адказваў за

[59] Нават сёння многія беларускія палякі, якія жывуць у Беларусі і не валодаюць польскай мовай, а выкарыстоўваюць яе выключна як касцельную, паслядоўна выступаюць супраць увядзення беларускай мовы ў набажэнства. Мне вядомы выпадак, калі ордэнскія сёстры з Гарадзенскага наваколля, якія размаўлялі з польскімі дзецьмі з Беларусі пабеларуску, былі “атакаваныя” іх бацькамі з-за таго, што нібыта “русіфікавалі” дзяцей. Бацькі настойвалі на польскай мове.

[60] Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 54.

[61] Bruhns Wibke. Meines Vaters Land. Geschichte einer deutschen Familie. München, 2004. S. 43.

[62] *Das Land Ober Ost.* S. 82.

харчаванне, фінансы і забеспячэнне Гародні дровамі.

Падчас кіравання першага нямецкага бургамістра Гародні з верасня 1915 г. па красавік 1916 г. гэты Гарадскі камітэт меў адносную незалежнасць у вышэйназваных справах. Нямецкі бургамістр, як паведамляў Кламрот, клапаціўся перш за ўсё пра рэквізіцыі і пашпартныя справы[63].

Крытыкуючы гэты орган з-за яго занадта моцнай самастойнасці і неадпаведнасці нямецкаму стандарту, Кламрот усё ж прызнаваў яго здольнасць да кіравання: "Кіраўніком гэтага Камітэта гарадзенцы выбралі князя Сапегу[64], які выдатна спраўляўся са сваімі задачамі. [...] І хаця ён не меў папярэдняй падрыхтоўкі для вядзення публічных адміністрацыйных справаў, але набыў добры досвед дзякуючы кіраванню сваёй вялікай маёмасцю. [...] Ён падзяліў камітэт на аддзелы, [...] наладзіў амерыканскую бухгалтэрыю, пазычыў гарадской казне з умовай даўгавога абавязацельства немалую суму са сваёй маёмасці".

Памятаючы пра афіцыйны нямецкі пункт гледжання, які прыпісваў насельніцтву *Ober Ost* прынцыповую няздольнасць да самакіравання, варта звярнуць увагу на гэты станоўчы водгук Кламрота. Магчыма, адчуваючы гэтую разбежнасць з афіцыйнай пазіцыяй, аўтар Дзённіка палічыў патрэбным вытлумачыцца наконт постаці Сапегі: "Ён паходзіў з славутага польскага шляхецкага роду, вучыўся ў нямецкай гімназіі, потым доўга жыў у Францыі і Англіі [...] Гэта быў мужчына ва ўзросце каля 30 гадоў, высокі і стройны, гладка выбрыты, вельмі прыемнага выгляду, ён рабіў хутчэй уражанне англічаніна, чым паляка".

Калі ў красавіку 1916 г. у Гародню быў прызначаны новы обэр-бургамістр[65], Гарадскі камітэт быў ператвораны ў дарадчы і пазбаўлены ўсялякай свабоды дзеянняў. Ён атрымаў назву "Гарадская рада". Хаця Кламрот пісаў пра гэта ў Дзённіку як пра асабістае рашэнне обэр-бургамістра, стварэнне дарадчых камітэтаў, відавочна, адбывалася па распараджэнні кіраўніцтва *Ober Ost* [66].

На самой справе кампетэнцыя обэр-бургамістра была даволі абмежаванай, як, дарэчы, і рамкі дзейнасці самога Кламрота на пасадзе ў Гародні. Гарадская рада мела 6 секцыяў: "Секцыя 1 займалася агульным кіраваннем і фінансамі, секцыя 2 – гарадской гаспадаркай, секцыя 3 – забеспячэннем прадуктамі харчавання, секцыя 4 – санітарнай справай, секцыя 5 – дабрачыннасцю, секцыя 6 – школьнай адукацыяй". Як паведамляў Кламрот, кожная з іх належала "адначасова да поля дзейнасці альбо обэр-бургамістра альбо аднаго з нямецкіх адміністратараў".

[63] У снежні 1915 г. жыхары *Ober Ost* атрымалі пашпарты. Улады сцвярджалі, што пашпартызацыя была абумоўленая як ваеннымі, так і эканамічнымі прычынамі.

[64] Гэты шляхецкі род пражываў у Гародні ўжо з першай паловы 16 ст. (Чарнякевіч Андрэй і інш. Ад Каложы да Фартоў: гістарычная спадчына Гродна. Мінск, 2008. С. 39)

[65] Ганс Вайсэнборн паходзіў, як і Кламрот, з Хальбэрштату. Яны сябравалі, і, магчыма, таму ён прапанаваў прызначыць Кламрота на пасаду ў Гародню.

[66] *Das Land Ober Ost.* S. 93.

Фактычна, обэр-бургамістр і Кламрот доўгі час з’яўляліся адзінымі вышэйшымі службовымі асобамі ў гарадскім кіраўніцтве. Толькі ў 1916 г. у Гародню прыбылі адзін за другім чацвёра дзяржаўных чыноўнікаў. У той час, як обэр-бургамістр пераняў агульнае кіраванне гарадской гаспадаркай, Кламрот адказваў за забеспячэнне харчаваннем, дабрачыннасць і школьную справу. Адносна дзейнасці обэр-бургамістра ў Дзённіку размова ідзе перш за ўсё пра тое, што ён спрабаваў размежаваць кампетэнцыю асобных інстанцый адміністрацыі *Ober Ost* і гарадскога кіраўніцтва.

Наконт санітарнай справы Дзённік маўчыць, хаця ў *Ober Ost* , як ужо згадвалася, шмат увагі надавалася папярэджанню эпідэміяў, якіх панічна баяліся. У траўні 1916 г. кіраўніком аддзела гарадской гаспадаркі стаў былы дарадца па пытаннях будаўніцтва Зынінг. Як обэр-бургамістр Вайсэнборн і Кламрот, ён таксама паходзіў з Хальбэрштату. Зынінг клапаціўся пераважна пра забеспячэнне горада вадой, увёўшы ва ўжытак падземныя крыніцы. Дзякуючы яго намаганням, Кламрот атрымаў “Гарадзенскую гарадскую мінеральную ваду” і прадаваў яе.

Школьнай справай заняліся толькі ўвесну 1916 г. Нямецкая палітыка ў *Ober Ost* была накіраваная на ліквідацыю існуючых школаў і ўвядзенне нямецкай манаполіі на адукацыю. Але атрымалася так, што былі адчыненыя перш за ўсё польскія, габрэйскія, літоўскія, беларускія школы і некалькі нямецкіх. Ва ўсіх школах нямецкая мова была абавязковым прадметам[67]. Пазней кіраванне школьнай справай у Гародні пераняла Школьная рада.

У справе дабрачыннасці Кламрот, відавочна, прыкладаў вельмі шмат намаганняў. Стварэннем кухняў і ўвядзеннем спецыяльных харчовых картак ён імкнуўся аблегчыць цяжкі лёс беднаты Гародні, якая асабліва пакутавала з-за харчовых патрабаванняў нямецкага вайсковага кіраўніцтва.

У сваім змаганні з “чорным рынкам”, існаванне якога значна змяншала пастаўкі харчавання для нямецкага войска і Германіі, Кламрот знайшоў праціўнікаў у Гарадской радзе. З увядзеннем хлебных карткаў для бедных, што ўводзілі пэўныя механізмы кантролю, гарадскім пекарам стала цяжэй прадаваць хлеб з-пад крыса. Кламрот з гонарам цытаваў словы прызнання польскага ксяндза з Гародні: “Пекары і багатыя сварацца, а бедныя задаволеныя, так што парадак наведзены!”

Адной з галоўных задачаў Кламрота была праблема харчавання, якая датычыла не толькі забеспячэнне насельніцтва, але і выканання паставак для войска і Нямеччыны. Ён змагаўся з раскраданнем. Вось прыклад, які ён прывёў у Дзённіку: “Выдача бульбы таксама [...] хвалявала мяне. Заўсёды былі вялікія страты ў вазе. Палякі абвінавачвалі габрэяў, габрэі – палякаў. Тады [...] [я] прызначыў на грамадскіх пачатках у якасці кантралёраў бульбасховішча заможных гараджанаў, якія [...] павінны былі адказваць за парушэнні ўласнай маёмасцю. [...] Страты бульбы вярнуліся да сваіх натуральных аб’ёмаў”.

---

[67] Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 43ff.

Займаючыся нарыхтоўкамі і размеркаваннем харчавання і сыравіны, як для насельніцтва, так і для нямецкіх патрэбаў, Кламрот дзейнічаў на стыку супрацьлеглых інтарэсаў. Інтарэсы войска і нямецкая гаспадарка патрабавалі перш за ўсё харчовых і сыравінных кантрыбуцый. Але было яшчэ мясцовае насельніцтва, якому гэтыя рэсурсы былі не менш патрэбныя.

Антаганізм паміж забеспячэннем насельніцтва і рабаваннем краіны можа сёння ўспрымацца як адлюстраванне супрацьлегласці паміж фальшам красамоўных заяваў і банальнымі мэтамі нямецкай акупацыі. Невядома, ці заўважаў сам Кламрот гэтую супярэчнасць? Ці бачыў ён у гэтай супрацьлегласці асаблівую, абумоўленую вайною праблему? Падобна, што так. Вось, што запісаў Кламрот у Дзённіку: “У канцы траўня 1916 г. насельніцтва мела вялікія праблемы з харчаваннем. Краіна моцна пацярпела ад праходу войскаў і рэквізіцыяў з боку абедзвюх арміяў – рускай і нямецкай. Акрамя таго пры адступленні рускія спляжылі ўсё, што маглі. Жыхары Гародні маглі знайсці ў вёсцы харчоў роўна столькі, каб пратрымацца да наступнага ўраджаю. Я мусіў звярнуцца па дапамогу да нямецкага інтэнданцтва. Зразумела, што яно пастаўляла для жыхароў акупаваных тэрыторый толькі самае неабходнае харчаванне, бо Нямеччына сама пакутавала ад яго недахопу з-за спробы блакады англічанамі”. Такім чынам, Кламрот усведамляў небяспеку становішча і імкнуўся выправіць сітуацыю. Прынамсі пра гэта сведчаць запісы ў Дзённіку, якія заслугоўваюць даверу.

Пазіцыя Кламрота зразумелая: вайна і падступны вораг стварылі выключнае становішча, якое ўсе павінны ператрываць. Акрамя таго трэба дадаць надзвычай выразнае прускае, вайсковае і маральнае ўсведамленне абавязку. У Дзённіку Кламрот адзначаў: “Загад Людэндорфа адміністрацыйным уладам *Ober Ost* пачынаўся вельмі ясна: “Рашучае выкарыстанне краіны для рэгламентаванага харчавання войска, насельніцтва і Нямеччыны ёсць найпершай задачай адміністрацыі. Усё іншае адыходзіць на другі план. Найбольш ад гэтага будзе пакутаваць насельніцтва акупаваных тэрыторыяў. Я чакаю энергічнай нарыхтоўкі запасаў прызначанымі чальцамі адміністрацыі, якія павінны разумець прыярытэт жыццёвых інтарэсаў нямецкага народу перад мясцовымі інтарэсамі”.

Толькі пасля таго, як Кламрот працытаваў гэтае распараджэнне і ўзважыў цяжар вайны, зламыснасць ворагаў і галечу людзей, ён паспрабаваў размеркаваць харчаванне гарадзенцаў на вызначаныя порцыі. Тое, што загад Людэндорфа для ніжніх узроўняў кіраўніцтва *Ober Ost* (раённых і гарадскіх гаўптманаў) быў дазволам на рэквізіцыі і ўтрымліваў небяспеку злоўжыванняў, пра гэта Кламрот, відавочна, не думаў. Не закон, а “справядлівасць” выдаваліся за нямецкую дабрачыннасць?

У Дзённіку ён канстатаваў, што “рацыён насельніцтва Гародні моцна зменшыўся. На дзень на аднаго жыхара прыходзілася 200 г мукі ў пералі-

ку на спечаны з гэтай колькасці хлеб, 250 г бульбы, 12 г цукру, 30 г крупы, 40 г варэння. Тыднёвая норма мяса на чалавека складала 200 г, уключаючы косці. Дзеці да 12 год пры размеркаванні мяса не ўлічваліся[68].

Дзённік дазваляе зразумець, што Кламрот прынамсі часткова ўсведамляў двухсэнсоўнасць сваёй ролі ў гарадской адміністрацыі. Ён адзначаў, што асваенне новых крыніцаў даходаў галоўным чынам ускладзена на яго і адначасна разумеў неабходнасць палепшання становішча жабракоў і бедных, з-за чаго шмат часу і энергіі аддаваў дабрачыннай працы: “Такім чынам, на аб’яднаным паседжанні харчовай і дабрачыннай секцыяў я распавядаў пра тое, якую нацэнку збіраюся рабіць на пастаўкі зерня і бульбы на карысць адміністрацыі, і што я не магу прызнаць справядлівым, калі самыя неабходныя для бедных людзей прадукты павінны з-за гэтага моцна падаражаць. Таму я меў намер увесці хлебныя карткі для бедных [...], за якія яны маглі набываць па нізкіх коштах хлеб, бульбу і іншыя прадукты”.

Кламрот бачыў сябе ў ролі апекуна гэтага краю і адчуваў адказнасць за сваіх падапечных. Гэта адлюстравалася ў Дзённіку: “Калі клопаты па размеркаванні прадуктаў харчавання напачатку абярнуліся вялізарнай працай і нават варожасцю, бо людзі не разумелі неабходнасці нармавання і ўспрымалі мізэрнае размеркаванне прадуктаў харчавання, як хітрыкі пераможцаў, то паступова я ўсё ж такі знайшоў прызнанне сярод кемлівага насельніцтва. Я загадаў саліць рыбу, абсталяваў сушыльню гародніны, каб мы маглі дапамагчы сабе ў цяжкі зімовы час, увёў у прадукты харчавання тое, што яшчэ можна было ўвесці і перш за ўсё сачыў за справядлівым размеркаваннем. Хутка спробы прыгожых полек здабыць для сябе трохі болей цукру сталі рэдкімі […] Да мяне пачалі адчуваць давер”.

Адначасова Кламрот адчуваў сябе салдатам і, як службовая асоба, падпарадкаваным вышэйшаму вайсковаму кіраўніцтву, слугою сваёй радзімы і прусакам, які ўсведамляў свой абавязак. Вось уражанні Кламрота ад франтавой імшы: “Ён [пастар] прамаўляў пра дзіця, у якога маці запыталася пра першы дзень у школе, чаму ён навучыўся? “Ціха сядзець“. Гэтаму мы, дарослыя [...] таксама павінны вучыцца. Чым менш спакою вакол нас, тым больш настойліва гучыць заклік да кожнага да супакою. [...] Душою скіраваўшыся да Бога, мы павінны супакоіцца..[...] Вайна будзе цягнуцца яшчэ доўга, вытрымка і стойкасць патрабуюць намаганняў [...] Мы мусім умацавацца, стаць унутрана спакойнымі, каб […] і далей перамога заставалася за нямецкім штандарам. Потым ён маліўся за кайзера і Айчыну словамі, якія даходзілі да самай глыбіні сэрца, а калі пасля спеву “Чакай з нецярпеннем, мая душа” духавы аркестр зайграў “О, Нямеччына, гонар табе…”, усе ўзварухнуліся. [...] Бачна было, як глы-

---

68 Г.Ліндэ прыводзіць для акругі Беласток-Гародня на 1917 г. іншыя лічбы – на душу насельніцтва 120 г зерня і 200 г бульбы. (Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 55)

бока ўсе ўзрушаныя казаннем чалавека, які разумеў свой час".

Можна з поўным правам сказаць пра сляпое паслушэнства, некрытычны і згубны культ абавязку і вернападданіцтва, што прымушалі Кламрота там, дзе ён мог даведацца пра недахопы і несправядлівасць нямецкай улады ў Гародні, сядзець ціха. Кламрот больш разважаў пра надзею на нямецкую мараль і пра веру ў нямецкі характар. Адступленне ад гэтай веры, адмаўленне нямецкага панавання ў *Ober Ost* з прычыны памылак у дробным, магчыма, здаваліся яму здрадаю нямецкай барацьбы, слабасцю і парушэннем маральнага і нацыянальнага доўгу. Кламрот разважаў якраз у духу свайго часу: прававыя і структурныя недахопы, эканамічная несправядлівасць, адсутнасць свабоды для асобы – усё гэта з пачаткам вайны ператварылася ў крытыку з пазіцыі прагматычных ідэалаў англійскага прагматызму. Неабходна было спрыяць перамозе нямецкага ідэалізму. Але, што пры гэтым "ідэалізм" паступова саступаў на карысць "нямецкага", толькі некаторыя лічылі недапушчальным.

Калі для Гарадзенскай гарадской акругі была ўведзеная асобная юрысдыкцыя, абавязкі гарадскога суддзі даручылі адвакату з Кёнігсберга. Аб правасуддзі ў Гародні ў Дзённіку дакладных звестак няма. Размова ідзе толькі пра пакаранні: "Вайсэнборн быў вельмі здзіўлены, [...] калі я выпісваў нагайкай квітанцыю за паводзіны на спіне габрэйскага гандляра Бэр Будэ, які хацеў мяне моцна падмануць. Метад падаўся главе гарадскога кіравання даволі сумнеўным, але праз некалькі дзён я ўбачыў падобнае прымяненне супраць аднаго гандляра рыбай, які бессаромна прыгнятаў беднае насельніцтва, нягледзячы на папярэдні загад. Сябра Гарадской рады паляк Краткоўскі меў рацыю, калі казаў, што габрэй лічыць такое абыходжанне цалкам справядлівым, і што яно дзейнічае лепей, чым грашовыя штрафы, якія накладаюцца на яго за парушэнне распараджэнняў. Так і з Бэр Будэ, які аднойчы з'явіўся ў маім рабочым кабінеце з новымі прапановамі".

Гэты жорсткі, але, відаць, цалкам паказальны для адносінаў у *Ober Ost* прыклад, сведчыць пра тое, што прававое становішча насельніцтва было катастрафічным. Праўда, ва ўсіх раёнах былі міравыя суддзі[69], існавалі таксама судовая інстанцыя на ўзроўні акругі і вышэйшы суд у Коўне, суддзямі і пракурорамі працавалі нямецкія судовыя чыноўнікі, была адвакатура[70]. Тэарэтычна прысуды выносіліся па расійскаму кодэксу, які быў прыняты ў 1903 г., але не ўвайшоў у сілу.

Але тое, што "нямецкая судовая практыка хутка здабыла ў насельніцтва прызнанне і давер"[71], здаецца непраўдападобным. Хаця ў асобных выпадках гэта магло адпавядаць рэчаіснасці, такія паведамленні трэба расцэньваць як нямецкую прапаганду альбо намер выдаць пажаданае за рэальнасць. Так, у тагачасных літоўскіх крыніцах гаворка ідзе пра тое, што мясцовым

---

69 Міравыя суддзі – гэта суддзі без юрыдычнай адукацыі, у абавязкі якіх уваходзіла выкананне правасуддзя ў нязначных грамадзянскіх і крымінальных справах. Creifelds Carl. Rechtswörterbuch. München, 1997. S. 476.

70 *Das Land Ober Ost.* S. 109.

71 Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 35.

падсудным падчас нямецкамоўных перамоваў не заўсёды прадстаўлялася перакладчык[72]. Больш таго, як нагадвае прыклад бізуннай педагогікі з Дзённіка, існаванне дзяржаўнай судовай сістэмы на самой справе неістотнае, калі пануе самасуд.

Валоданне зброяй, выбуховымі матэрыяламі, баепрыпасамі каралася ў *Ober Ost* смерцю праз павешанне, як гэта прадугледжваў расійскі крымінальны кодэкс. Большасць смяротных прысудаў, верагодна, прыпадалі на чальцоў бандаў з-за валодання зброяй, за забойства з мэтай рабавання альбо напады на нямецкіх жандараў. Так, у *Ober Ost* да пачатку 1917 г. было арыштавана “4 050 варожых вайскоўцаў і злачынцаў”.Устаноўлена, што да пачатку 1916 г. вынесены па меншай меры 31 смяротны прысуд, 28 з якіх былі выкананыя[73]. Магчыма, на самой справе іх было значна болей. Тое ж датычыць смяротнасці ў турмах *Ober Ost* .

Літоўскі гісторык Аба Стражас сабраў шматлікі матэрыял адносна жахлівага прававога становішча ў *Ober Ost* [74]. Але некаторыя выкарыстаныя ім крыніцы трэба ацэньваць як тэндэнцыйныя. Іх інтэрпрэтацыя выглядае ў Стражаса даволі аднабаковай. Адпаведна яго ацэнка прававога становішча ў *Ober Ost* аказалася больш негатыўнай, чым высновы гісторыка Люлевічуса. Таксама незразумела, ці пакараныя смерцю “бандыты” былі партызанамі альбо звычайнымі крымінальнікамі. У той час, як Стражас з пачатку нямецкай акупацыі бачыў сапраўдную партызанскую барацьбу “лясных братоў”, рускіх ваеннапалонных і першапачаткова нават расійскіх частак царскага войска, Герд Ліндэ пісаў пра бандытызм, які часткова палітызаваўся пасля Брэст-Літоўскага міру[75]. Люлевічус у сваю чаргу адзначаў як падаўленне жандарамі ўзброенага супраціву насельніцтва, так і тое, што дзеянні жандараў віталіся мясцовымі жыхарамі, але з-за невялікай колькасці жандараў былі малаэфектыўнымі.

## Дзённік Курта Кламрота як гістарычная крыніца

Ацэнка падзеяў у Дзённіку мае суб’ектыўны характар. Вызначальным з’яўляецца ўласная пазіцыя і крытэры аўтара. Зразумела, што Дзённік патрабуе крытычнага стаўлення, асабліва старонкі прысвечаныя гарадзенскаму перыяду службы Курта Кламрота.

Пры ўсім гэтым Дзённік дае каштоўную інфармацыю пра функцыянаванне нямецкага вайсковага кіраўніцтва *Ober Ost* у адным з яго гарадоў. Цікава, што нямецкае кіраванне тут выглядае не як комплексная сістэма адміністрацыйнай улады (так яго прадстаўляюць у большасці даследаванняў), а як яе канкрэтная рэалізацыя на практыцы.

Курт Кламрот, як найважнейшы памочнік обэр-бургамістра Гародні,

[72] Strazhas Aba. Deutsche Ostpolitik im ersten Weltkrieg... S. 35.

[73] *Das Land Ober Ost.* S. 118/150.

[74] Strazhas Aba. Deutsche Ostpolitik im ersten Weltkrieg... S. 34ff.

[75] Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 37ff.

ўдзельнічаў у стварэнні гэтай адміністрацыі. Ён ведаў адносіны на месцы з уласных назіранняў, а дзякуючы шэфу быў добра інфармаваны і пра стасункі з вышэйшымі нямецкімі ўладамі. Ён знаёміўся з афіцыйнымі распараджэннямі, але таксама бачыў, як яны ўспрымаліся мясцовымі жыхарамі. Кламрот штодзённа кантактаваў з імі ў службовым кабінеце, куды да яго заходзілі габрэйскія гандляры; на пасяджэннях Гарадской рады, падчас якіх уплывовым гараджанам даручалася выкананне розных адміністрацыйных мерапрыемстваў; на вячэрах у заможных гараджанаў, дзе заходзіла гаворка пра вайну; на конных прагулках у ваколіцах Гародні, якія служылі адпачынкам, а таксама ўмацоўвалі яго перакананне пра адсталасць краіны; на прагулках па Гародні, падчас якіх ён таксама фатаграфаваў прахожых; пры пакаранні асобаў, што парушылі загады; альбо пры чытанні скаргаў людзей на голад і здзекі з боку акупацыйных уладаў.

Усё гэта старанна дакументавалася Кламротам і занатоўвалася ў Дзённіку, упарадкаваным тэматычна і храналагічна ад моманту прыезду ў Варшаву ў сярэдзіне жніўня 1915 г. і да ад’езду з Гародні ў кастрычніку 1916 г. Гарадзенскія фрагменты Дзённіка маюць наступныя падзагалоўкі: У Гародні; Нямецкая адміністрацыя Гародні; Нямецкае кіраванне Гародняй; Праца гарадзенскай гарадской адміністрацыі; Мой аддзел у гарадскім кіраўніцтве Гародні; Асаблівыя падзеі майго жыцця ў Гародні; Ганс Вайсэнборн (некролаг, прысвечаны начальніку і сябру). Да Дзённіка прыкладаюцца фотаздымкі і іншы дакументальны матэрыял, у прыватнасці грошы і ўсялякія друкаваныя выданні з *Ober Ost* .

У Гародні Кламрот пісаў Дзённік ад рукі. Яшчэ падчас вайны ён зрабіў чатыры копіі Дзённіка на машынцы для друку, па адной для кожнага са сваіх дзяцей. Кламрот яшчэ да вайны быў сямейным архіварыусам, і гістарычна важны час вайны ён хацеў пакінуць у сямейнай хроніцы. Гэта павінна было выглядаць па магчымасці наглядна, грунтоўна і займальна. Нават знешняе ўражанне ад  надрукаванага Дзённіка перадае тую стараннасць і педантычнасць, з якой ён ствараўся.

Кламрот маляваў вобразы Гародні (“Чароўна выглядаў горад з яго шматлікімі цэрквамі і кляштарамі ў сонечным бляску, быццам хацеў зрабіць на мяне асаблівае ўражанне”), Варшавы (“urbs pulcherrima”) і Беластоку (“жахлівы фабрычны горад”). У Дзённіку можна знайсці партрэты калегаў, а таксама мясцовых жыхароў, якія, нягледзячы на ўсе нацыяналістычныя і антысеміцкія падыходы, часта надзіва адрозныя. Гэта яскрава праявілася ў яго стаўленні да мясцовага габрэйскага насельніцтва. У прыватнасці, Кламрот пісаў, што сумленне бальшыні ўсходніх габрэяў, з якімі ён пазнаёміўся, “бруднае”. У іншым месцы Дзённіка адзначалася, што “гэты такі чужы нам тып габрэя [...] [робіць] яго для нас вельмі непрывабным”. Пры гэтым Кламрот спасылаўся на “мярзотныя спосабы вядзення справы”, бо габрэйскія гандляры лічаць “гандлёвым мастацтвам і камерцыйнай кемлівасцю тое, што мы лічым подлым ашуканствам”.

Але зусім іншы вобраз габрэяў прысутнічаў у яго разважаннях пра асаблівасці іх сямейнага жыцця. Кламрот пісаў пра высокамаральны лад




Працэсія на свята Узнясення Гасподня.
1916 г. Фотаздымак К.Кламрота.

жыцця габрэйскіх жанчын і дзяўчат, пры выдатна адукаваных габрэйскіх жанчын, сярод іх спявачку Рахісу Крынскую, якая "ў чароўнай манеры выконвала пераважна сумныя рускія песні". У Дзённіку згадваліся "выхаванне і парадак" у габрэйскіх школах. Таксама ён вельмі станоўча ацэньваў габрэйскую дабрачыннасць. Дзве старонкі Дзённіка Кламрот прысвяціў апісанню мовы ідыш і габрэйскай паэзіі, якая "пераважна меланхалічная і сумная, выказвае трывогі габрэйскага народа".

Адносіны Кламрота да палякаў, другой па колькасці групы насельніцтва ў Гародні, не былі такімі супярэчлівымі. Гэта адчувальна ўжо пры апісанні тых палякаў, з якімі Кламрот сустракаўся ў Гарадской радзе: "Пан Е. фон Класоўскі, польскі землеўласнік, далікатных манераў. Вельмі старанны, разумны, але баязлівы і без энергіі". А вось характарыстыкі абодвух кіраўнікоў дабрачыннай працы: "Польскі доктар фон Гідроэ. Гэта быў цудоўны чалавек, трохі запаволены, але надзейны. [...] [Пазней] кіраўніком стаў пан фон Краткоўскі, сапраўдны паляк з чорнымі кучаравымі валасамі і чорнымі як смоль вусамі. [...] З гэтым разумным чалавекам я ахвотна размаўляў пра польскія справы".

Высновы, якія Кламрот рабіў з гэтых размоваў, добра перадаюць тэндэнцыі свайго часу. Гэта, напрыклад, сцвярджэнне, што "габрэй" успрымае некалькі ўдараў бізуном у якасці пакарання як "выключна заслужаныя;" альбо што "адсутнасць энергічнасці і легкадумнасць – глыбокі недахоп польскага характару, які, відаць, узмацніўся праз чужынскае панаванне, і яго цяжка будзе пераадолець".

Відавочна, што Кламрот імкнуўся як мага дакладна перадаць сваю

дзейнасць і жыццё, амаль не апісваючы ўласны эмацыйны ўнутраны свет. Пра неспакой, страхі альбо сумненні няма і размовы. Вядучай тэмай і галоўным сродкам самарэалізацыі і самаідэнтыфікацыі аўтара з'яўляецца праца. У Дзённіку яна паказаная шматграннай, напоўненай амаль што пакутамі Сізіфа: "Праца ўзвышалася як гара. Як толькі я хацеў трохі ўзняцца ўверх, гара тут жа ўздымалася". Але былі і прыемныя моманты: "Праца пачала прыносіць радасць". Праца таксама была абавязкам, які можна было не любіць, але трэба было сумленна выконваць. Яна ж трактавалася як нямецкі ўнёсак у развіццё краю.

Працоўная этыка Курта Кламрота цалкам адпавядала ягонаму пратэстанцкаму і прускаму паходжанню, а таксама пазіцыі нямецкага вайсковага кіраўніцтва ў *Ober Ost* . У гэтай пазіцыі тагачасныя ўяўленні пра спецыфічную нямецкую культурную місію зрасталіся з вільгельмаўскім мілітарызмам. Яны ўзаконьвалі і баранілі нямецкія прэтэнзіі на панаванне на Усходзе. Паводле гэтых уяўленняў нямецкая праца стварала культуру, а нямецкая зброя бараніла дасягнутае.

Для шырокіх колаў нямецкай эліты ў маладой імперыі, якая імкнулася да развіцця, паняцці плуг, меч і пяро ў сусветнай вайне ядналіся супраць легкадумнай і павярхоўнай заходняй цывілізацыі і жахлівага варварства Усходу[76]. Што гэты саюз быў не проста фантазіяй ваеншчыны, сведчыць заява інтэлігенцыі "Да культурнага свету" ад 4 кастрычніка 1914 г.: "Без нямецкага мілітарызму  нямецкая культура ўжо даўно была б змешаная з зямлёй"[77]. Нямецкія мары пра сусветную ролю і каланіяльную ўладу накіраваліся на Усход, які ўспрымаўся месцам, дзе вырашалася будучыня Нямеччыны. Вырашальным фактарам ставілася "праца".

Цікава, што ў Дзённіку дзеянні нямецкай гарадской адміністрацыі і вышэйшага вайсковага камандавання ніколі не выклікаюць сумнення ў аўтара. Але ж ён быў разумным чалавекам, і такія думкі не маглі не наведваць яго. Тым больш, што з пачаткам яго службы перыяд нямецкіх поспехаў на Усходнім фронце мінуў, і паражэнне Расеі не было відавочным. У лісце з Гародні  да сына ад 4 жніўня 1916 г. ён пісаў: "Гэта дурнота – што-небудзь рабіць. Часта здаецца, што ўсё так бессэнсоўна. Але ж трэба выконваць свой доўг".

Напрошваецца пытанне, што хаваў ад чытача Кламрот? Дзякуючы багаццю  і шматграннасці інфармацыі, якую ўтрымлівае тэкст і дадаткі, узнікае ўражанне цалкам поўнага і закончанага апісання жыцця ў Гародні. Вядома, гэта ілюзія. Ні ў якай іншай адміністрацыйнай акрузе *Ober Ost* не было да сакавіка 1917 г. такой вялікай колькасці крымінальных і грамадзянскіх працэсаў[78]. Наогул, для Гародні існавала асобная падсуднасць. Але ні пра працэсы, ні пра судовыя спрэчкі, не кажучы ўжо пра  пакаранні смерцю ў Дзённіку размовы, практычна, няма.

---

76 Koenen Gerd. Der Russland-Komplex. S. 56f.

77 Lepenies Wolf. Kultur und Politik. Deutsche Geschichten. München, 2006. S. 48f.

78 *Das Land Ober Ost.* S. 243.

Пра прызначэнне ў аддзел харчавання і адказнасць за размеркаванне прадуктаў, ён згадваў двума сказамі: “Тады сабраны ўраджай, сена, авёс, зерне, бульба былі канфіскаваныя і размяркоўваліся афіцэрамі, якія займаліся гаспадаркай. Любы гандаль гэтымі таварамі забараняўся і караўся”. Пра апісаны ў іншых крыніцах гвалт, якім звычайна суправаджаліся рэквізіцыі, мы не знаходзім у Дзённіку ні слова[79].

Кламрот паведамляў, што яму былі даручаныя як асаблівая сфера дзейнасці нарыхтоўка і размеркаванне дроў, а таксама кіраванне лясным аддзелам. Пра тое, што загатоўка дроў была звязаная з цяжкай фізічнай працай і мабілізацыяй мужчынаў у працоўныя батальёны, дзе яны не атрымлівалі ні дастатковай аплаты, ні харчавання, і што гэта абарочвалася ўцёкамі ў лес і далучэннем да “бандаў”, Дзённік таксама маўчыць[80].

Ужо ўводныя словы Кламрота кажуць пра межы інфармацыйнасці Дзённіка: “Маё перажытае ў сусветнай вайне. Запісанае паводле майго ваеннага дзённіка для маіх дзяцей. Ротмістр запасу 7 кірасірскага палка”. Праблема суб’ектыўнасці крыніцы палягае ў матывах яго запісаў. Кламрот пісаў для нашчадкаў, для сваіх дзяцей, як бацька і сямейны архіварыус. Нягледзячы на ўсю дэманстратыўную любоў Кламрота да праўды, было б няправільна лічыць, што аўтапартрэт аўтара цалкам ідэнтычны яго асобе, а адлюстраванне нямецкай адміністрацыйнай дзейнасці поўнасцю супадае з рэальнасцю.

Дзённік не можа быць больш падобным на рэальнасць, чым фотаздымак, які паказвае пэўныя эпізоды з пэўнага ракурсу. У залежнасці ад выбару ракурсу адна і тая ж падзея можа выглядаць цалкам па-рознаму. Але ў гэтым ракурсе адчуваецца пазіцыя аўтара, якая дазваляе ставіць у цэнтр даследавання менавіта яго. З гэтага пункту гледжання Дзённік мае вялікую каштоўнасць як крыніца па гісторыі менталітэту ўсходняй каланізацыі ў Першую сусветную вайну, як голас прускага ротмістра, які ведаў імперскую ўсходнюю палітыку не толькі з мемарандумаў, але і з уласнага досведу, і які  пасля яе паразы не адмежаваўся ад яе.

Дзённік сведчыць, што Кламрот прызнае сябе прыхільнікам нямецкай палітыкі на Усходзе або прынамсі нямецкай культурнай місіі. Яго голас – гэта голас той эпохі, калі многія немцы ўспрымалі сябе як народ паэтаў, мысляроў і салдатаў і хацелі, каб такімі іх успрымаў свет[81]. Дзённік паказвае, як успрымаліся і трансляваліся нямецкія нацыяналістычныя і імперыялістычныя ідэі, а таксама як гэтыя ідэі і стэрэатыпы ўплывалі на дзеянні і погляды дзяржаўнага чыноўніка ў *Ober Ost* .

Гэта і ёсць зыходная кропка для разумення прынцыпу дзеяння рэжы-

---

[79] Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S. 57ff; Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S. 88ff; Strazhas Aba. Deutsche Ostpolitik im ersten Weltkrieg... S. 47f.

[80] Linde Gerd. Die deutsche Politik in Litauen... S.64.

[81] Lepenies Wolf. Kultur und Politik. Deutsche Geschichten. München, 2006. S. 48f.

му *Ober Ost* і ягонай ідэалагічнай надбудовы. У выпадку з Кламротам ідэалогія выдатна выканала сваю ролю. Аўтар старанна хаваў ці наогул адмаўляў несправядлівасць нямецкай акупацыйнай улады, падкрэсліваючы высокую каштоўнасць нямецкасці. Гэтым можна патлумачыць, чаму Кламрот не заўважыў (ці не пажадаў заўважыць) розніцы паміж тым, чаго ён спадзяваўся дасягнуць уласнай працай (ці хацеў нас запэўніць, што спадзяецца) і тым, што яго праца азначала ў рэальнасці.

У чэрвені 1941 г. пры ўступленні вермахта ў Гародню ўцячы было амаль немагчыма. Акрамя таго, многія старэйшыны габрэйскай абшчыны супакойвалі людзей тым, што падчас акупацыі ў Першую сусветную вайну яны пазнаёміліся з прыстойнымі заваёўнікамі. Пра гэта мне распавядаў адзін з нямногіх, хто перажыў Халакост у Гародні, ахвярай якога стала амаль уся габрэйская абшчына горада[82]. Яна налічвала амаль 29 тыс. чал.

Што здарылася з немцамі? Чаму паводзіны салдатаў і афіцэраў так моцна змяніліся? Два дзесяцігоддзі назад ў нямецкіх прапагандысцкіх публікацыях маляваліся партрэты ўсходніх габрэяў узнёслымі, рамантычна-прасветленымі фарбамі[83]. Падобнае немагчыма было ўявіць у 1941 г., калі ў Гародні былі створаныя два гета. На пачатку 1943 г. яны былі зліквідаваныя, а габрэяў дэпартавалі ў Аўшвіц і Трэблінку[84].

Але ўжо ў гісторыі *Ober Ost* можна было заўважыць прыкметы будучага жаху. Так, у адміністрацыйным рапарце 1916 г. чытаем: “Габрэі [...], якія жывуць паўсюль у вялікай колькасці – ракавая пухліна краіны”[85]. Заклікі да “канчатковага вырашэння габрэйскага пытання” прысутнічалі ўжо ў тагачасным друку. У 1916 г. гэта быў проста найбольш радыкальны антысеміцкі голас у хоры галасоў.

Трэблінка, Аўшвіц, сістэматычнае забойства насельніцтва цэлых вёсак… Ці можна было ўявіць гэта ў Першую сусветную вайну? Упэўнены, што для ротмістра Кламрота гэта было абсалютна немагчыма. Нават, калі яго голас не з’яўляецца pars pro toto (часткай цэлага), усё ж ён сведчыць, што дарога ад ідэяў 1914 г. да нацыянал-сацыялістычнай ідэалогіі не была непазбежнай. Вырашальная цэзура ў палітычным, гістарычным і грамадскім мысленні немцаў была яшчэ наперадзе. Палітычны курс яшчэ паддаваўся карэкціроўцы.

У канцы вайны Кламрот пісаў свайму сыну Гансу Георгу, каб сцішыць яго злосць на новага рэйхсканцлера прынца Макса Бадэнскага: “Прынц

82 Размова ідзе пра Гірша Хасіда. Ён і сёння жыве ў Гародні.

83 Struck Hermann, Eulenberg Herbert. Skizzen aus Litauen, Weißrussland und Kurland. 60 Steinzeichnungen. Berlin, 1916.

84 Fatal-Knaani Tikva. The jewish community in Grodno and ist vincinity during the second world war and the Holocaust 1939-1944. Jerusalem, 1995. S. 16ff.

85 Liulevicius Vejas Gabriel. Kriegsland im Osten. S.152.

выконвае цяжкую задачу ў вялікай адданасці да Айчыны, а мы павінны быць удзячныя сацыял-дэмакратам, што яны бяруць адказнасць за народ, хаця для партыі было б разумней не рабіць гэтага”[86]. Такія немцы, як Кламрот, якія да вайны не былі дэмакратамі ці рэспубліканцамі, давалі шанс Веймарскай рэспубліцы.

Курт Кламрот не мог ведаць, што заключнымі словамі Дзённіка ён між волі спрыяў нараджэнню міфу “жыдоўска-камуністычнай сусветнай змовы”, які стане злым рокам гэтай рэспублікі, і зробіць неверагодна жорсткай наступную вайну на Усходзе: “Хвалюючым было ўступленне магдэбургскага войска, якое вярталася з фронту. Цвёрдым крокам, шэрагамі ўвайшлі яны ў горад пад гукі мелодыі “У мяне быў сябар, лепшага не знойдзеш”. Вуліцы былі ўпрыгожаныя яловымі лапкамі, на некаторых дамах прымацаваныя шыльды з больш ці менш добрымі вершамі віншавання шэрых шынялёў, але наймацнейшае ўражанне рабілі наступныя словы:

“Калі дзесяцера – на аднаго
Ні гонару, ні славы няма тут.
Прыйдзе час, калі скажуць:
Перамаглі нямецкія салдаты!”

[86] Bruhns Wibke. Meines Vaters Land. Geschichte einer deutschen Familie. München, 2004. S. 114.

*Вольга Сабалеўская (Гародня)*

# ПРАДВЕСЦЕ КАТАСТРОФЫ: ГАБРЭІ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ ПАДЧАС ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Вайна – гэта заўсёды падзея катастрафічная як для асобнага чалавека, так і для краіны і народа. Як лакмусавая папера, яна чуйна рэагуе на настроі чалавечых супольнасцяў і выносіць на паверхню праблемы ў стасунках паміж імі, абвастрае ўсе тыя непаразуменні, якія збіраліся на працягу стагоддзяў суіснавання.

Першая сусветная вайна стала пачаткам знікнення цэлага сусвету, адыходу ў нябыт светаўспрымання, пабудаванага на ідэалах прагрэсу Новага часу. Нездарма эпоха паміж двума сусветнымі войнамі была трапна акрэслена О.Шпэнглерам “схілам Еўропы”. У геапалітычнай прасторы, дзе мы зараз знаходзімся, у 1914 г. распачалася серыя катастрафічных зрухаў, якія неўзабаве прычыняцца да скону вялізарнага монстра Расейскай імперыі і глыбокай трансфармацыі ўсёй сістэмы культуры.

У эпіцэнтры гэтых тэктанічных працэсаў гісторыі апынуўся малы народ, які быццам бы спецыяльна быў абраны лёсам на ролю пакутніка – габрэі. Для габрэяў Гародні, якія пяражылі рытуальныя абвінавачванні пачатку 19 стагоддзя, лавіну трывожных чутак пра запланаваныя хрысціянамі забойствы габрэяў і “агнявыя пагромы” 80-х гг., падзеі Першай сусветнай вайны сталі прадвесцем Халакосту і поўнага руйнавання асноў традыцыйнага габрэйскага свету Цэнтральнай Еўропы.

Мэта дадзенага артыкула – вывучэнне становішча габрэйскай супольнасці Гарадзеншчыны падчас Першай сусветнай вайны. Раней гэтая праблема не была прадметам спецыяльнага даследавання. Ускосна габрэйства Гародні згадваецца ў адной з манаграфій Валерыя Чарапіцы[1]. Адлюстраванне судовых працэсаў над габрэямі-шпіёнамі ў матэрыялах Нацыянальнага гістарычнага архіва ў Гародні вывучаў Сяргей Піваварчык[2]. Асобныя пытанні, звязаныя са стасункамі паміж габрэямі “мяжы аселасці”

[1] Черепица В.Н. Город-крепость Гродно в годы Первой мировой войны: Мероприятия гражданских и военных властей по обеспечению обороноспособности и жизнедеятельности. Гродно: ГрГУ, 2006. 536 с.

[2] Пивоварчик С. Трагедия Первой мировой войны: “евреи-шпионы” (по материалам Национального исторического архива Беларуси в Гродно) // Мировой кризис 1914-1920 годов и судьба восточноевропейскго еврейства / Отв. Ред. О.В.Будницкий. Москва:”Российская политическая энциклопедия, 2005. С. 71-83.

і ўладамі, стратэгіямі выжывання, гаспадарчымі заняткамі, распаўсюджаннем антысемітызму, палітычным жыццём прадстаўнікоў супольнасці ў гады вайны, былі паднятыя даследчыкамі іўдаікі Ф.Шустэрам, С. Гольдзіным, Дж.Клірам, Б.Каланіцкім, Ю.Аўруціным, А.Івановым, В. Мачаловай ў зборніку навуковых прац “Сусветны крызіс 1914-1920 гадоў і лёс ўсходнееўрапейскага габрэйства”[3]. Гэтае выданне – значны крок наперад у вывучэнні тэмы, але яно не змагло вычарпаць яе поўнасцю. Гісторыя лакальных габрэйскіх суполак Беларусі, у тым ліку гарадзенскай, падчас Першай сусветнай вайны аказалася па-за ўвагай даследчыкаў альбо была закранутая імі ўскосна.

Вайна яскрава паказала, што еднасць габрэйскага свету расейскай “мяжы аселасці” ўжо даўно з’яўляецца міфам. Рэакцыі прадстаўнікоў супольнасці на ўступленне Расеі ў вайну былі дыяметральна процілеглымі. Расейская габрэйская інтэлігенцыя, якая атрымала адукацыю еўрапейскага ўзору, пераапранулася ў модныя строі і даўно ўжо без акцэнту размаўляла на рускай і некалькіх замежных мовах, выкарыстала момант, каб яшчэ раз давесці ўладзе сваю лаяльнасць. На старонках рускамоўнага друку адзін за адным з’яўляліся артыкулы, у якіх апавядалася пра натоўпы габрэяў, ахопленых энтузіязмам, якія ўдзельнічалі ў дэманстрацыях у падтрымку ўрада, добраахвотна запісваліся ў армію, заяўлялі пра жаданне ў якасці ваенных медыкаў накіравацца на фронт[4]. Думскія дэпутаты габрэйскага паходжання ад імя адзінаверцаў выступалі з пранікнёнымі прамовамі, якія мелі вялікі рэзананс. Некаторы час здавалася, што пачатак вайны паспрыяў нарэшце яднанню расейскага грамадства і выкараненню негатыўных этнічных стэрэатыпаў.

Для сіяністаў, якія разглядалі Расею і наогул Еўропу як часовае месца жыхарства, Першая сусветная вайна стала часам уваскрашэння надзей на рэалізацыю Палесцінскага праекта. Насамрэч, у 1917 г. упершыню на міжнародным узроўні былі абмеркаваныя прапановы па стварэнню габрэйскай дзяржавы на Святой зямлі, якія на той момант скончыліся перадачай палесцінскіх тэрыторый пад Брытанскі мандат. Таксама былі і тыя габрэі, што не даравалі Расеі крывавых пагромаў канца 19 – пачатку 20 ст. і жадалі ёй паражэння. Прыхільнікі радыкальных палітычных груповак распачалі прапаганду дэзерцірства і спынення “антынароднай капіталістычнай вайны.” Кіраўніцтва габрэйскіх суполак па ўсёй “мяжы аселасці”, у тым ліку і на Гарадзеншчыне, выказваючы пачуццё адданасці імператару, заявіла пра стварэнне ў габрэйскіх шпіталях, якія існавалі на грамадскі кошт, месцаў для параненых салдат[5]. Патрыятычны ўздым адукаванай эліты габрэйскага грамадства быў падтрыманы вышэйшай уладай. Як адзначаў у сваёй тэлеграме міністр унутраных спраў, “у агульным уздыме здаровых народных пачуццяў трэба шукаць сілы для нясення цяжкай і адказнай задачы для падтрымання ў час вайны спакою і дзяржаў-

3 Мировой кризис 1914-1920 годов и судьба восточноевропейскго еврейства / Отв. Ред. О.В.Будницкий. Москва: Российская политическая энциклопедия, 2005. 448 с.

4 Евреи и война // Рассвет. 1914. 14 ноября. С. 20-24.

5 Хроника // Евреи на войне. 1915. № 6. Нацыянальны гістарычны архіў у Гародні (НГАБ у Гародні). Ф. 369, воп. 1, ад.зах. 106, арк. 251.

нага парадку ў Імперыі. Адкрыта і добразычліва трэба зберагаць гэты яднаючы ўсё насельніцтва патрыятычны настрой і не адштурхоўваць [народ – аўт.] ад улады[6].

А вось нізы габрэйскай супольнасці зрабілі ўласныя высновы, а менавіта, як маглі яны ратаваліся ад прызыву ў армію. Калі ваенныя дзеянні небяспечна наблізіліся да Гарадзеншчыны, жандармерыяй губерні быў заўважаны незвычайны наплыў у Гарадзенскі павет маладых габрэяў ва ўзросце 21-30 гадоў. Яны прыязджалі сюды з Ваўкавыскага і Слонімскага паветаў і пры дапамозе хабару альбо знаёмстваў імкнуліся прыпісацца да габрэйскіх суполак. Як правіла, гэта былі рэзервісты, якія ўжо адслужылі ў войску, і баяліся пазачарговага прызыву. Справа ў тым, што па “мяжы аселасці” хадзілі чуткі, што ў дачыненні да жыхароў заходняй Гарадзеншчыны, як ужо бывала раней, не будзе абвешчаная мабілізацыя. Пасля рэгістрацыі яны вярталіся на папярэдняе месца жыхарства[7]. Больш радыкальным і старадаўнім спосабам пазбегнуць прызыву заставалася нанясенне самому сабе сур’ёзнага пашкоджання. Толькі ў Слонімскім пав. у 1915 г. было зафіксавана 47 выпадкаў, а ў 1916 г. – 24[8]. Звычайна, каб пазбегнуць войска, ахвяравалі фалангай пальца.

Надзеям на агульнанацыянальнае прымірэнне не было наканавана рэалізавацца. Расейская ўлада хутка зноў прадэманстравала антысеміцкае аблічча. Цэнтральнае кіраўніцтва працягвала дзейнічаць у рэчышчы дыскрымінацыйнай палітыкі ўціску, якая асабліва выразна праявілася ў цараванне Аляксандра III увядзеннем працэнтнай нормы ў навучальных установах, высяленнямі з вёсак, забаронай вінакурэння ды інш. З падачы петраградскай улады габрэяў абвінавачвалі ў здрадніцкіх настроях і схільнасці да шпіянажу на карысць ворага. Контрразведка і жандармерыя шукалі доказы таго, што ідышамоўныя габрэі карыстаюцца падабенствам сваёй мовы на нямецкую і перадаюць каштоўныя звесткі пра дыслакацыю армій і ваенныя ўмацаванні, пры чым прапаноўваюць сябе нават у ролі бясплатных шпіёнаў! Яны як быццам бы хавалі спажывецкія тавары ад рускіх фуражыраў і нарыхтоўвалі іх для немцаў. Абсалютна сур’ёзна гучалі меркаванні, што традыцыйныя габрэі носяць доўгія бароды толькі для таго, каб зручней было хаваць пад імі тэлефонныя апараты... Па загаду камандуючага 10 арміяй генерала Сіверса контрразведка зацята шукала доказы існавання бяздротавага тэлеграфа, светлавой сігналізацыі і галубінай пошты, якімі не маглі не карыстацца здраднікі-габрэі[9].

Як не раз ўжо бывала ў гісторыі ўзаемаадносін улады і габрэяў у Расеі, мясцовая бюракратыя, не абцяжараная хадульнымі ўяўленнямі пра габрэйства, праявіла больш рэалізму. Губернскія і гарадскія ўстановы накіроўвалі ў цэнтральныя інстанцыі прапановы па паляпшэнню становішча габрэяў. Віленская гарадская дума ў 1914 г. падала Запіску пра ліквіда-

6 НГАБ у Гародні. Ф. 369, воп. 1, ад.зах. 106, арк. 2.

7 Тамсама. Ад.зах. 108, арк. 118-118 зв.

8 Тамсама. Арк. 153-157.

9 Дзяржаўны архіў Расейскай Федэрацыі (ДАРФ). Ф. 579, воп. 1, ад.зах. 2001, арк. 1.

цыю "мяжы габрэйскай аселасці", у якой сцвярджалася, што габрэйскае насельніцтва пераносіць выпрабаванні вайны асабліва востра і цяжка. Многія прадпрыемствы, на якіх працавала гэтая частка падданых імператара, разарылася альбо скарацілa свае штаты па прычыне канкурэнцыі. Былі патрэбныя неадкладныя меры па змяншэнню беспрацоўя. Такі погляд падзялялі члены Саратаўскай і Смаленскай гарадскіх дум, якія таксама паставілі свае подпісы пад дакументам[10].

Габрэйскае насельніцтва прыфрантавых раёнаў жыло па законам ваеннага часу. Многія габрэі, як не заслугоўваючыя даверу, былі выселеныя з памежных мясцовасцей Польшчы, Беларусі і Галіцыі. Пазней ім усё ж дазволілі вяртацца пры умове... прадстаўлення закладнікаў. Па распараджэнню галоўнакамандуючага, тыя будуць расстраляныя ў выпадку здрады сяброў габрэйскіх суполак, якія яны прадстаўлялі. Пры гэтым, дзеля папаўнення войска менавіта з габрэйскіх падданых салдаты набіраліся прапарцыянальна ў большай колькасці, чым ад прадстаўнікоў іншых суполак. Яны атрымлівалі зброю і накіроўваліся на фронт. А ў тыле ў масавым парадку габрэяў абвяшчалі здраднікамі, да якіх прэвентыўна прымаліся карныя меры. Нарэшце, маштаб гэтай акцыі напалохаў нават тых, хто яе і распачаў. 29 верасня 1915 г. гарадзенскі губернатар мусіў унесці ў ранейшае прадпісанне наступны дадатак: "Даводжу да вашага ведама і кіравання, што згодна з загадам галоўнага кіраўніка забеспячэння армій Паўночна-Заходняга фронту, высылцы з пастаяннага месца жыхарства падлягаюць не ўсе пагалоўна габрэі, якія вярнуліся з варожых да нас дзяржаў, а толькі тыя з іх, што выклікаюць падазрэнне ў палітычнай добранадзейнасці"[11].

Вельмі часта гучалі галаслоўныя абвінавачванні па адрасу габрэяў. "Германцы імкнуцца даведацца пра колькасць рускіх войскаў у раёне Ломжы, Гародні, Цеханаўца... Як у немцаў, так і ў аўстрыйцаў шпіёнствам займаецца вельмі шмат маладых і старых габрэяў. Непрыяцель шырока карыстаецца паштовымі галубамі. Пра габрэйскіх шпіёнаў германцы адгукаюцца вельмі добра, а тыя, хутчэй за ўсё, працуюць на два франты,"[12] – падсумоўваў інфармацыю кіраўнік гарадзенскага губернскага жандарскага кіравання. Вось поўны набор якасцяў "дрэннага габрэя," што сфарміраваўся ва ўяўленні расейскай улады за больш чым сто год кіравання: ненадзейныя, схільныя да здрады, хціўыя і вераломныя падданыя[13].

Ваенная адміністрацыя абмежавала свабоднае перамяшчэнне габрэяў нават на тэрыторыі "мяжы аселасці". 20 верасня 1915 г. камандуючы III арміі забараніў пераезд габрэяў з аднаго мястэчка альбо гораду ў другі за выключэннем усходняга напрамку (г.зн. бежанства). Прагучала папярэджанне: "Усялякі населены пункт, дзе будуць знойдзены габрэі, якія маюць

10 Тамсама. Ад.зах. 1998, арк. 1 зв.

11 НГАБ у Гародні. Ф. 117, воп. 1, ад.зах. 47, арк. 301.

12 Тамсама. Ф. 369, воп. 1, ад.зах. 113, арк. 193.

13 Соболевская О. «Еврейский характер» глазами гродненских властей // Єврейське краєзнавство та колекціонування: Збірник наукових праць / Ред. Л.Фінберг. Київ: Інститут юдаїки, 2005. С. 149-161.

зносіны з ворагам, будзе неадкладна ачышчаны ад габрэяў. Такім чынам, габрэйскае насельніцтва ва ўласных інтарэсах павінна змагацца з нядобранадзейным і нетутэйшым элементам, даносячы пра ўсіх не добранадзейных асобаў”[14]. Габрэі суполак, якія знаходзіліся непадалёк ад тэатру ваенных дзеянняў, мусілі прынесці расейскаму ўраду спецыяльную ганебную клятву вернасці. На аснове кругавой парукі гарадзенскія габрэі кляліся ўласнай маёмасцю і нават жыццём, што не збіраюцца шпіёніць і здраджваць, а каб ад’ехаць нават на невялікую адлегласць, будуць браць дазвол у ваеннага кіраўніцтва. Вайсковых, раскватараваных па іх дамам, габрэі павінны былі забяспечваць усім неабходным, а таксама “спакоем і дабрабытам”. Яны нават мусілі “ахоўваць войскі ад усялякіх замахаў і абуджаць ва ўсіх самае добразычлівыя да іх стаўленне”[15]?!

Камандзірам вайсковых частак забаранялася набываць у габрэяў цукеркі для вайсковых чыноў (замест цукру), бо ў іх нібыта ўтрымліваецца шмат шкодных для здароўя рэчываў[16].

Урачы і санітары габрэйскага паходжання былі абвінавачаны ў разгорнутай на франтах рэвалюцыйнай агітацыі. У сувязі з гэтым Упраўленне кіраўніка санітарнай часткі арміі 4 студзеня 1915 г. сакрэтным цыркулярам забараніла прымаць габрэяў у шпіталі і санітарныя цягнікі. “Накіроўвайце іх туды, дзе само наваколле не спрыяе размовам на шкодныя тэмы”[17], – раілі чыноўнікі, маючы на ўвазе збор трупаў і аказанне першай дапамогі параненым на перадавой. За габрэямі, якія “схільны на нямецкія грошы весці прапаганду ў вайсковых частках” і таму будуць імкнуцца трапіць у армію, пільна сачыла жандармерыя[18]. Цыркуляр ад 27 снежня 1915 г. забараняў вайсковым будаўнікам наймаць габрэяў у якасці падрадчыкаў для вядзення прац па пабудове крэпасцей альбо іншых ваенных аб’ектаў. Дазвалялася толькі купляць у іх будаўнічыя матэрыялы. Таксама забаранялася наймаць габрэяў у якасці канторшчыкаў, тэхнікаў ды іншых служачых. 2 лютага камандаванне 5 арміі забараніла габрэям служыць тэлеграфістамі, пісарчукамі, тэлефаністамі і наогул любымі штабнымі работнікамі[19].

Эканамічныя наступствы пачатку вайны хутка адчулі на сабе пэўныя катэгорыі габрэйскіх гандляроў. У першую чаргу гэты былі карчмары і вінакуры. 21 жніўня 1914 г. па загаду галоўнага кіраўніка Менскай ваеннай акругай генерала Раўша, на тэрыторыі Акругі, куды ўваходзіла і Гародня, забараняўся продаж спіртных напояў, не выключаючы піва і вінаградных вінаў, як у крамах, так і на складах[20]. У Гародні на піваварным заводзе Р. Л.Андрэс было знішчана 3 400, на прадпрыемстве А.Б.Яффэ – 4 415 вёд-

14 ДАРФ. Ф. 579, воп. 1, ад.зах. 2014, арк. 1-2.

15 Тамсама. Ад.зах. 2013, арк. 1.

16 Тамсама. Ад.зах. 2009, арк. 24.

17 Тамсама. Ад.зах. 2012, арк. 1.

18 НГАБ у Гародні. Ф. 369, воп. 1, ад.зах. 106, арк. 129.

19 ДАРФ. Ф. 579, воп. 1, ад.зах. 2009, арк. 25, 27.

20 НГАБ у Гародні. Ф. 369, воп. 1, спр. 106, арк. 32.

зер піва[21]. Пры набліжэнні фронту праводзіліся масавыя рэквізіцыі харчовых прыпасаў і фуражу. Паколькі вывезці іх ужо не было магчымасці, зерне і сена псавалі, змешваючы паміж сабой і паліваючы газай. Такі лёс, напрыклад, спаткаў зерне гарадзенскага купцы 2 гільдыі О.М.Касоўскага[22].

Нягоды вайны першымі адчулі габрэі, якія знаходзіліся па-за мяжой. Сярод іх было шмат гарадзенцаў, напрыклад, студэнты, якія пасля ўвядзення працэнтнай нормы ў расейскіх вышэйшых навучальных установах, каб атрымаць годную і запатрабаваную прафесію, вымушаны былі з'ехаць за мяжу. Іх спаткаў незайздросны лёс. Тыя, хто вучыўся ў Бельгіі, з-за хуткай акупацыі краіны раптоўна апынуліся на тэрыторыі нямецкай акупацыі. Адны з іх былі перавезеныя ў якасці ваеннапалонных у Германію, другія схаваліся ў Бельгіі і, не атрымліваючы матэрыяльнай дапамогі ад сваякоў, вельмі бедавалі. Ніхто не меў магчымасці звязацца з сям'ёй і вярнуцца ў Расею. Сваякі студэнтаў, якія згінулі без вестак, стварылі пад патранатам генеральнага консульства ў Лондане спецыяльнае бюро для пошуку “бельгійскіх студэнтаў” габрэйскага паходжання[23].

У цяжкае становішча трапілі і тыя з беларускіх габрэяў, якія на момант пачатку вайны паехалі за мяжу па камерцыйным справам альбо дзеля адпачынку на еўрапейскіх курортах. Як вынікае з апытання, праведзенага афіцэрамі жандарскага ўпраўлення, усе падданыя Расеі разглядаліся германскай уладай як патэнцыйныя шпіёны. Адносіны да іх былі вельмі жорсткімі. Тых, хто адпачываў на курортах, ужо ў 20-я дні ліпеня 1914 г. былі арыштаваныя і інтэрнаваныя. Дзеля ізаляцыі, звычайна, выкарыстоўваліся вялікія агароджаныя плошчы (гарадскія сады, пляцы крэпасцей і г.д.), якія не былі прыстасаваныя нават для часовага ўтрымання зняволеных. Людзі жылі пад адкрытым небам, адсутнічалі элементарныя ўмовы жыццядзейнасці, не забяспечвалася харчаванне. І хаця падзеі адбываліся ўлетку, знаходжанне на вольным паветры некалькі дзён не магло пайсці на карысць учарашнім пацыентам шпіталяў і санаторыяў, людзей з заведама дрэнным станам здароўя. Асноўны кантынгент складалі жанчыны з дзецьмі і старыя.

Потым вымушаная вандроўка працягвалася на цягніку ў таварных вагонах, дзе не кармілі, не дазвалялі выходзіць на станцыях і нават набліжацца падчас руху да вокнаў. “24 ліпеня ў Кёнігсбергу [габрэйскія сем'і – аўт.] былі затрыманыя, пад канвоем салдат і афіцэраў загналі іх у паліцэйскі ўчастак, адтуль за агароджу Замка, дзе яны прабылі амаль два дні пад адкрытым небам і праліўным дажджом на голай маставой, пасля чаго прагналі іх пад канвоем салдат на вакзал па сярэдзіне вуліцы, якая пасля дажджу была запоўнена вадой, тратуарам нікому не далі ісці, а салдаты пагражалі іх павесіць альбо расстраляць. М.-А.Б.Гвірцман за тое, што

---

21 Тамсама. Ф. 117, воп. 1, ад.зах. 47, арк. 14, 15.

22 Тамсама, арк. 9.

23 Бельгийские студенты // Рассвет. 1914. № 48. С. 30. Льежские студенты // Тамсама. № 44. С. 17-18.

ішоў ціхім крокам, атрымаў ад салдата моцны штуршок прыкладам у спіну. [...] Да Швецыі яны ўвесь час галадалі, нідзе не давалі ім купляць ежу за іх грошы"[24]. Нямецкае насельніцтва ставілася да габрэяў з Расеі вельмі варожа, палохала хуткай расправай над "шпіёнамі". Сапраўднае дэжавю! Сітуацыя жахлівая сваім падабенствам да таго, што будзе адбывацца праз чвэрць стагоддзя з удзелам тых жа самых герояў, толькі на гэты раз усе пагрозы будуць не пустым гукам. Яны ператворацца ў адпрацаваную, вельмі эфектыўную індустрыю знішчэння людзей.

Але і пасля вяртання на радзіму, габрэі будуць сустрэтыя тымі ж абвінавачваннямі! Пад асаблівае падазрэнне траплялі тыя, хто да вайны рэгулярна бываў за мяжой па гандлёвым справам. Лічылася, што іх шматлікія кантакты маглі быць выкарыстаныя для стварэння шпіёнскай сеткі[25]. У кожным дакуменце такога кшталту выразна падкрэсліваецца, што пад асаблівае падазрэнне трапляюць менавіта прадстаўнікі габрэйскай супольнасці… Чаму? Ды проста таму, што габрэй апрыёры дрэнны. А таму не пашкодзіць "усіх габрэяў, якія вяртаюцца з варожых нам дзяржаў, калі яны ўнушаюць падазрэнне ў сваёй добранадзейнасці, высылаць [па этапу – аўт.] у Томскую губ."[26] Трэба разумець, што "па этапу" – гэта разам з сапраўднымі крымінальнымі злачынцамі, ды яшчэ і пешшу. Для старых і хворых гэта быў смяротны прысуд. Родныя пісалі прашэнне за прашэннем і прасілі літасці і дазволу ехаць у ссылку "на ўласны кошт." Прасілі дарэмна. Патэнцыяльным здраднікам не было літасці.

Шырока распаўсюджаную ў Расеі шпіёнаманію некаторыя імкнуліся выкарыстаць для звядзення старых рахункаў, нагаворваючы на арандатараў маёнткаў, шынкароў альбо ліхвяроў, каб не вяртаць запазычаныя грошы. Прамых доказаў не знаходзілі, таму звычайна карысталіся прынцыпам "веру – не веру". Калі габрэй раней ні ў чым дрэнным не быў заўважаны, лічыўся "добранадзейным" і быў асабіста вядомы чынам паліцыі, падазрэнне з яго здымалася. Так было, напрыклад, з прадстаўніком заможнай гарадзенскай сям'і Аркадзем Лапіным, якога сяляне абвінавацілі ў здрадзе[27]. Калі заступнікаў не знаходзілася, адбываўся арышт, распачлівыя спробы давесці сваю лаяльнасць уладзе і… высылка "на ўсялякі выпадак" у Вятку ці Тамбоў. Дзеля справядлівасці адзначым, што ў наветах адзін на аднаго былі павінны і самі габрэі. Напрыклад, нейкі Хаім Левін "вернападданніцкі" данёс уладам пра міфічную шайку віленскіх габрэяў, якія легалізуюць шпіёнаў габрэйскага паходжання на германскія грошы[28].

Вайна хутка прыйшла на Гарадзеншчыну. Баявыя дзеянні абярнуліся беспрытульнымі людзьмі і бежанцамі, якія ў роспачы шукалі ратунку для сябе і сваіх дзяцей. Без перабольшання можна сказаць, што габрэям пры

[24] НГАБ у Гародні. Ф. 369, воп. 1, ад.зах. 106, арк. 91-91 адв.

[25] Тамсама, ад.зах. 113, арк. 201.

[26] Тамсама, арк. 241.

[27] Тамсама. Ад.зах. 106, арк. 70.

[28] Тамсама. Ад.зах. 108, арк. 121.

гэтым прыходзілася цяжэй, чым іншым. Шлях на ўсход, ва ўнутраныя губерні, для іх быў зачынены “мяжой аселасці”. Яна так і не была скасаваная, нягледзячы на пратэсты габрэяў, заступніцтва часткі расейскай інтэлігенцыі і прапановы мясцовых уладаў.

Умовы жыцця для вымушаных перасяленцаў габрэйскага паходжання былі жудаснымі. Калі ў пачатку 1915 г. у Віцебску апынулася больш за 6 000 бежанцаў-габрэяў з Ковенскай, Курляндскай, Гарадзенскай, Менскай і Магілёўскай губерняў, Міністэрства ўнутраных спраў дазволіла ім пераехаць у павятовыя гарады па-за “мяжой аселасці” (Варонеж, Тамбоў і Пензу). Але па прыбыццю, аказалася, што гэтыя губерні ўжо перапоўнены 150-тысячнай арміяй габрэйскіх перасяленцаў[29]. Людзям давялося размясціцца ў жаночых аддзяленнях сінагог Усходняй Беларусі, халерных бараках, на вакзалах.

Вось характэрны малюнак таго часу з Менску: “Дзень за днём цягнуліся з вакзала дрожкі, наладаваныя дзецьмі і рэчамі. На доўгіх фурах сярод брудных вузельчыкаў варушыліся галоўкі брудных, абарваных, амаль голых дзяцей. За дрожкамі ішлі жанчыны з малымі, якія плакалі ў іх на руках, цягнуліся старыя. Гэта былі бежанцы з Ковенскай, Сувалкскай і Гарадзенскай губерняў”[30]. І ў такіх катастрафічных умовах многія апынуліся ў другі раз! Пасля контрнаступлення расейскай арміі ў Прынямонні многія габрэі вярнуліся дахаты, але германскія войскі пайшлі ў наступленне другі раз, і бежанцы ізноў рушылі ў дарогу. Знайсці працу ў гарадах Усходняй Беларусі было немагчыма. І да пачатку вайны ў населеных пунктах “мяжы аселасці” панавала беспрацоўе, а ў тых губернях унутранай Расеі, куды ім было дазволена эвакуявацца, прамысловых прадпрыемстваў практычна не было[31].

У цягніках, набітых людзьмі і іх рэчамі габрэі ехалі далей і далей на ўсход. 15 ліпеня эшалон з гарадзенцамі прыбыў у Паўлаўск. Цяжкую дарогу рабілі яшчэ больш невыноснай здзекі з боку чыгуначных уладаў. Людзям забаранялі выходзіць на станцыях з вагонаў, адмаўлялі ў аказанні медыцынскай дапамогі. Многія паміралі. Як аказалася, у Паўлаўску не былі падрыхтаваныя да прыёму бежанцаў. Гарадавы забараняў нават выходзіць на падворак “чайной”, дзе размясцілі габрэяў. У свірнах, куды іх загналі, не было ні прыбіральняў, ні кухняў, нават вады і катлоў для гатавання ежы. Як пісаў відавочца, бежанцаў трактавалі як ваеннапалонных[32].

У цяжкіх умовах вайны праявіліся лепшыя якасці габрэйскага характару – узаемадапамога і дабрачыннасць. Буйныя ахвяраванні для бежанцаў, вымушана сканцэнтраваных ва Усходняй Беларусі, рабілі суполкі Масквы і Петраграда[33]. Віцебскія габрэі распачалі будаўніцтва спецыяльнага гарадка для бежанцаў, дзе хутка былі ўзведзены баракі і

29 Беженцы // Евреи на войне. 1915. № 14.

30 Беженцы в Минске // Евреи на войне. 1915. № 2.

31 ДАРФ. Ф. 579, воп. 1, ад.зах. 1966, арк. 29.

32 Тамсама. Ф. 9538, воп. 1, ад.зах. 33, арк. 56.

33 Хроника // Евреи на войне. 1915. № 15.

сталовая. Сара Фрэнкель з Менску звярнулася да габрэйскіх жанчын з прапановай кожны тыдзень ашчаджаць на карысць бежанцаў 5 % грошай, якія мужы давалі ім на вядзенне хатняй гаспадаркі. Для пачатку сама яна перадала 10 рублёў[34]. Паказальна, што габрэйская дабрачыннасць была накіравана не толькі на адзінаверцаў. «Berliner Tagesblatt» распавядаў у 1915 г. пра кранальную сцэну. Праз мястэчка былога Царства Польскага праходзіў транспарт з расейскімі ваеннапалоннымі. Дазнаўшыся пра гэта, мясцовае габрэйскае насельніцтва хуценька сабрала для няшчасных хлеб, мяса, вопратку і ўсё, што толькі магло. Некаторыя габрэі з'явіліся занадта позна, калі транспарт ужо адыходзіў. Задыханыя, беглі яны ўслед і дзяліліся з салдатамі, чым маглі[35].

Некаторыя населеныя пункты Гарадзеншчыны па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі, так што габрэі мелі мажлівасць параўнаць стаўленне да сябе салдат абедзвюх армій. Калі горад займалі немцы, салдаты паводзілі сябе адносна карэктна. Яны марадзёрствавалі толькі ў дамах, пакінутых жыхарамі. У крамах яны плацілі наяўнымі грашыма альбо пакідалі распіскі за рэквізаваны правіянт і фураж. Нямецкія акупацыйныя ўлады не вельмі сімпатызавалі габрэям, хаця ў нямецкім друку пачатку 1914 г. сустракаліся артыкулы, дзе сцвярджалася, што расейскія габрэі – гэта патэнцыйныя саюзнікі германцаў. Пакрыўджаныя палітыкай расейскай манархіі, “яны гатовыя на любыя паслугі, калі толькі справа ідзе пра нанясенне шкоды рускім інтарэсам”[36]. Адзначаліся выпадкі, калі вайскоўцы патрабавалі кантрыбуцыі з габрэйскага насельніцтва[37]. Новы парадак, які ўводзіла на акупаванай тэрыторыі нямецкая ўлада, істотна змяншаў традыцыйную аўтаномію габрэйскага самакіравання. На працягу 1914-1915 гг. была праведзена легітымізацыя габрэйскіх суполак, але кагалы ўспрымаліся нямецкімі ўладамі выключна як рэлігійныя і дабрачынныя арганізацыі[38].

Прадстаўнікі рускай арміі вялі сябе значна горш. Як паведамляе крыніца, “рускія ў пошуках хлеба, табаку, тэлефонаў, немцаў і іншага абшуквалі габрэйскія хаціны, склепы і крамы, што было можна пакласці ў кішэню – клалі, астатняе псавалі”. У гэтым салдатам дапамагалі мясцовыя хрысціяне. Яны паказвалі склепы суседзяў-габрэяў і месцы, дзе можна было чымсьці пажывіцца. Па навету мясцовых каталікоў у Шчучыне былі арыштаваны 10 габрэяў. Расследаванне паказала, што абвінавачанне было несправядлівым, але іх усё ж такі адправілі ў ссылку ў Вяцкую губ. Нейкага Вернштэйна арыштавалі ці то за тое, што ён пачаставаў немца цыгарэтай, ці за тое, што гэта яго пачаставалі. Некалькі палякаў было арыштавана за рабунак габрэйскай маёмасці[39]. Вярнуўшыся з бежанства,

---

34 К еврейским женщинам // Евреи на войне. 1915. № 6.

35 Борьба с ложью // Евреи на войне. 1915. № 1.

36 ДАРФ. Ф. 579, воп. 1, ад.зах.2002, арк. 1

37 Тамсама. Ф. 9538, воп. 1, ад.зах. 2001, арк. 10.

38 Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласці (ДАГВ). Ф. 56, воп. 1, ад.зах.1.

39 ДАРФ. Ф. 579, воп. 1, ад.зах. 2052, арк. 14.

жыхары мястэчка Азёры ўбачылі, што ўсе іх рэчы разрабаваны, “з бялізны, пасцелі, мэблі і рэчаў хатняга ўжытку не засталося нічога”. Пры гэтым мужчын адразу ж забралі ў войска[40].

Нярэдка абражаліся лепшыя пачуцці габрэяў, а іх патрыятызм заставаўся неацэненым. Вось як распавядаў відавочца пра падзеі, звязаныя з прыходам у Варшаву рускай арміі ў лістападзе 1914 г.: “29 верасня ў наш горад увайшоў вораг і прабыў 8 дзён. Калі пачалі набліжацца рускія войскі, усе габрэі выйшлі насустрач з Торамі, хлебам і соллю. Палкоўнік, які ўзначальваў рускае войска, прыняў ад нас хлеб-соль. Мы зараз жа распачалі ўрачыстую малітву за перамогу рускай зброі, і пачалі запрашаць да нас салдат, каб пакарміць іх. Мы далі ім прытулак у сваіх кватэрах, і здавалася, што ў горадзе ўсё будзе спакойна. Увечары таго ж дня з’явіліся казакі, якія пачалі нас бязлітасна рабаваць. У мяне была каштоўная габрэйская бібліятэка, ад якой нічога не засталося. Салдаты на маіх вачах усе кнігі разадралі і ў маёй жа прысутнасці аркушы габрэйскіх талмудычных кніг выкарысталі для задавальнення сваіх натуральных патрэбаў”[41]. Як аказалася пазней, прыніжэнне габрэяў было санкцыянавана ваеннымі ўладамі.

Няўдачы расейскай арміі суправаджаліся распаўсюдам антысеміцкіх настрояў. З падачы дзяржаўнай улады габрэйскі народ быў агульна абвінавачаны ў здрадзе, а гэта давала волю антысемітызму. У Гародні ў жніўні 1915 г. ледзь не дайшло да самасуду. У шпіталь была прывезена габрэйка, абвінавачаная ў тым, што страляла ў рускіх салдат, якія выбівалі немцаў з гораду. Жанчына, параненая ў грудзі і абедзве рукі, была ў непрытомным стане. Толькі калі яна прыйшла ў свядомасць, габрэйку ўдалося апраўдаць. Як аказалася, яна была параненая немцамі, якія напалі на яе ў склепе, калі шукалі “ваенную здабычу”[42].

Трывожныя настроі першых месяцаў вайны прывялі да ўваскрашэння сярэднявечнага забабону – абвінавачвання габрэяў у рытуальных забойствах хрысціян. У Гародні ў сакавіку 1914 г. згубіўся хрысціянскі хлопчык Марцін. Адразу ж папаўзлі чуткі пра тое, што гэта габрэі скралі хлапчыну “на мацу”. Падазравалі пекара Залуцкага. Сітуацыя абвастрылася. Улады баяліся, што пачнуцца беспарадкі. Але хлопчык знайшоўся цэлым і здаровым[43].

І гэта не адзінкавы выпадак. Антыгабрэйскія чуткі разляталіся па Гародні кожны раз, калі ўзнікалі праблемы. Камендант крэпасці імкнуўся прадухіліць “распаўсюд небяспечнага пачуцця страху і трывогі ў народзе,” заклікаў гараджан “забыць пра ўсе рэлігійныя і нацыянальныя парахункі і згуртавацца, каб агульнымі намаганнямі садзейнічаць дасягненню дзяржаўнай мэты: даць годны адпор дзёрзкаму ворагу”. Ён абяцаў самыя цяжкія пакаранні па законам ваеннага часу усім, хто будзе заўважаны ў

40 Тамама, ад.зах. 1994, арк. 1.

41 ДАРФ. Ф. 579, воп. 1, ад.зах. 1994, арк. 6.

42 Тамсама. Ад.зах. 2015, арк. 8.

43 Антисемитизм // Рассвет. 1914. 21 марта. С. 32-33.

пашырэнні нацыянальнай і рэлігійнай варожасці[44].

Першая сусветная вайна дзіўным чынам адлюстравала габрэйскі лёс, трагічна спалучыўшы мінулае з будучыняй. Знакам моцы сярэднявечных этнічных стэрэатыпаў было ўваскрашэнне міфу пра “дрэннага габрэя” на ўзроўні масавай свядомасці, калі пагаршэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі і псіхалагічнага клімату ў грамадстве вяло да пошуку вінаватых. Самым простым адказам, які адпавядаў сацыяльнай міфалогіі, былі інтрыгі шпіёнаў, унутраных ворагаў і шкоднікаў, схільных да здрады габрэяў, што ўвасобілася ў рэанімацыю “крывавага навету”.

Гэтыя ж уяўленні сфарміравалі фундамент палітыкі расейскага самаўладдзя адносна прадстаўнікоў габрэйскай супольнасці, што прывяло да распаўсюджання гвалтоўных і жорсткіх мер у стасунку да значнай часткі падданых. Знакам будучых трагічных падзеяў 20 ст. сталі дэпартацыі, стварэнні гета і тэарэтычная распрацоўка антысеміцкіх псеўданавуковых тэорый, якая пачалася ў 20-я гг.

44 ДАРФ. Ф. 579, воп. 1, ад.зах. 2000.

*Андрэй Чарнякевіч (Гародня)*

# “НОВАЯ ЎЛАДА”: З ГІСТОРЫІ САВЕТЫЗАЦЫІ ГАРОДНІ Ў ГАДЫ ПОЛЬСКА-БАЛЬШАВІЦКАЙ ВАЙНЫ

Гэта быў час, калі словы ператвараліся ў смяротную зброю, а дзяржаўнай мяжой паміж краінамі станавілася лінія фронту. Ужо больш за год ішла вайна паміж Савецкай Расеяй і ўваскрэслай з небыцця пасля стагоддзя іншаземнай няволі Польшчай. Яшчэ вясной 1920 г. здавалася, што бальшавікі, нібы тыя непрадбачлівыя нашчадкі, разам з Вільняй, Менскам, Кіевам назаўсёды страцілі набытак дому Раманавых. У Варшаве гралі святочныя аркестры, спраўляючы перамогу над ворагам, і нават у жудасным сне Кіраўнік Польскай Дзяржавы Юзаф Пілсудзкі ня мог сабе ўявіць, што усяго праз месяц бальшавіцкія камісары будуць паіць сваіх коней ў Вісле, а саму Польшчу амаль не зняволяць зноў.

4 ліпеня 1920 г. Чырвоная армія пайшла ў наступ па ўсім заходнім фронце, ад латышскай мяжы да палескіх балотаў. Гэта была адна з найлепш падрыхтаваных наступальных аперацыяў падчас грамадзянскай вайны. Камандуючы фронтам М. Тухачэўскі “праз труп Белай Польшчы” вёў чырвонаармейцаў пракладаць шлях да сусветнага пажару, на штыках несці “шчасце і мір працоўнаму чалавецтву”. Удар войскаў Тухачэўскага быў такі моцны, што адразу прарваўшы польскія пазіцыі, 11 ліпеня бальшавікі занялі Менск, а ўжо 14 ліпеня ўвайшлі ў Вільню[1]. Наступнай на чарзе была Гарадзенская крэпасць.

Гародня таго часу вельмі адрознівалася ад сучаснага Гродна. У ім налічвалася каля трыццаці тысяч жыхароў, з якіх больш паловы складалі габрэі[2]. Адразу за горадам, агортваючы Гародню з усіх бакоў, пачыналіся крэпасныя умацаванні. Іх мілітарныя якасці заключаліся ня столькі ў фартах, колькі ў суцэльнай паласе палявых пазіцыяў з шасцю радамі калючага дроту. Чыгуначную лінію перакрывалі бронецягнікі, дарогі пера-

1 Radziwonowicz T.Geneza, plan i przygotowanie lipcowej ofensywy Tuchaczewskiego w 1920 roku // Zeszyty naukowy muzeum wojska. Białystok, 1992. № 6. S. 56.

2 Згодна нямецкаму перапісу на 1 чэрвеня 1916 года з 24460 жыхароў Гародні беларусамі сябе лічыла 465 чалавек, тады як рускімі - 570, палякамі - 7560, габрэямі - 15537, інш. – 327. У параўнанні з 1897 г. у 1919 г. колькасць жыхароў Гродна зменьшылася на 57,3%, - больш чым на палову // Bidlioteka Publiczna m. st. Warszawy. Zespol: Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich. F. 1677. S. 73; Przegląd statystyczny m. Grodno za lata 1924, 25 i 1926. Grodno, 1928. S. 2.

гароджваліся рагаткамі. На пачатак ліпеня 1920 г. польскае камандаванне збіралася, умацаваўшыся на беразе Нёману і Шчары, спыніць бальшавіцкі націск і неўзабаве самім перайсці ў контрнаступленне. Выключная роля ў гэтым плане адводзілася менавіта Гарадзенскай крэпасці[3]. Праўда, для абароны крэпасці было патрэбна ад дзесяці да дваццаці тысяч салдат, тады як палякі толькі пачалі фарміраванне гарнізона[4].

У напрамку на Гародню наступалі савецкія 4-я і 15-я арміі і 3-ці конны корпус Гая[5]. У 20-х гадах у савецкіх ваенных колах адбылася дыскусія, наколькі правільным было рашэнне аб наступленні сіламі аднаго коннага корпусу, непадрыхтаванага акрамя таго з тэхнічнага боку, на моцны фартыфікацыйны раён. Сам Гай лічыў поспех аперацыі хутчэй выпадковым і вельмі рызыкоўным, тады як М. Тухачэўскі адстойваў тактыку “таранных масаў”, прадугадаўшую танкавыя групоўкі Другой сусветнай вайны.

Напярэдадні штурму стаяла жудасная спёка. Горад перапаўнялі бежанцы і адступаючыя войскі. Паніка, бездапаможнасць польскіх грамадзянскіх уладаў прывялі да масавага марадзёрства, накіраванага супраць мясцовых габрэяў[6].

---

[3] Орлов А. Гродненская операция 3 конного корпуса: тезисы доклада. Гродненский Государственный историко-археологический музей. Ф. 27410; Сергеев Е. От Двины к Висле [у:] Памяць: Гіст. – дакум. хроніка горада Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. С. 283-287.

[4] Па звестках А. Арлова, былога байца Пуцілаўскага кавалерыйскага палка, Гародню абараняла 3200 штыкоў, 1250 шабляў, 67 кулямётаў, восем лёгкіх і дзве цяжкія гарматы, два бронецягніка і чатыры танкі “Рэно”. Польская ваенная энцыклапедыя называе лічбу ў 5200 штыкоў, 500 шабляў, 30 кулямётаў, 14 гармат, 43 танкі і адзін бронецягнік. Польскі гісторык М. Вжосек піша, што ўсяго крэпасць абараняла каля пяці тысяч салдат. Сюды ўвайшлі рэшткі разбітых пад Вільняй Лідскага, Ковенскага ды Слуцкага батальёнаў 2-й літоўска-беларускай дывізіі; добрахвотніцкі дывізіён 13-га палка віленскіх уланаў; эскадрон татарскай конніцы; віленскі жаночы легіён; віленскі добраахвотніцкі батальён капітана Касцялкоўскага; бронецягнік “Мсціўцы” і 18 танкаў. Апроч гэтага, этапны гарнізон крэпасці ўключаў два запасныя батальёны, два этапныя батальёны, тры палявыя батарэі, абсталяваныя васмю гарматамі, і 1600 добраахвотнікаў, сярод якіх былі і вучні польскай гарадзенскай гімназіі. Агульнае камандаванне абароны крэпасці ўзначаліў генерал Стэфан Макжэцкі // Polska enciklopedia wojskowa. Warszawa, 1931. T. 3. S. 189; Wrzosek M. Wojsko Polskie i operacje wojenne łat 1918-1921. Białystok, 1988. S. 509-510; Орлов А. Гродненская операция 3 конного корпуса…; Сергеев Е. От Двины к Висле... С. 283-287.

[5] Конны корпус быў сфармаваны з двух няпоўных кавалерыйскіх дывізій: 10-ю кавдывізію перакінулі ў маі з прыўральскай ваеннай акругі, а 15-я кавдывізія прыбыла з паўднёвага фронту. 10-ю кавдывізію ўзначаліў арэнбургскі казак, сябра Блюхера, Мікалай Томін. Дывізія налічвала каля 3 тысяч шабляў, 39 кулямётаў, 12 гармат. 3 тэхнічных сродкаў 3-ці конны корпус меў адзін легкавы аўтамабіль, два матацыклы, крайне зношаную кавалерыйскую радыёстанцыю і па адным тэхнічным эскадроне ў абедзвюх дывізіях (конна-сапёрныя падраздзяленні і падраздзяленні сувязі). У корпусе не было інжынерных сродкаў (акрамя падрыўных), пераправачных, не хапала тэхнічнай сувязі - А. Орлов Гродненская операция 3 конного корпуса…

[6] Пагромы пачаліся 14 ліпеня. У пятніцу 16 ліпеня польскія салдаты з бронецягніка арганізавалі аблаву на габрэяў. Пяцярых з іх па загадзе афіцэра “адвялі ў поле і бязлітасна забілі: выкалалі вочы, вырвалі языкі, вырвалі бароды з мясам”. 17 ліпеня паручнік партызанскага атраду Валансевіч прымусіў чалавек дваццаць вазіць вінтоўкі з чыгунач-

Гарадзенская крэпасць, ня будучы дастаткова падрыхтаванай, апынулася перад пагрозай здачы. 17 ліпеня часці гарнізона занялі лінію абароны. Рэзервовыя часткі размясціліся ў цэнтры горада на тэатральнай плошчы (сучасная плошча Тызенгаўза). У дзень 17 ліпеня крэпасці дасягнулі рэшткі групы генерала Барышчака з-пад Вільні. На наступны дзень у Гародню прыбыла з Ліды танкавая рота. Нарэшце, увечары 18 ліпеня падцягнуліся тылы 2-й беларуска-літоўскай дывізіі ў складзе першага ковенскага батальёну, стралковага палка і дывізіёну віленскіх уланаў[7].

Рухаючыся ўздоўж чыгункі Араны-Гародня, ужо 18 ліпеня чырвонаармейскія часткі 15-га кавдывізіёну прарвалі польскі заслон у раёне Сапоцкіна і занялі Гожу. Адначасова было захоплена наваколле Рыбніцы, Азёраў. Беспрэцэдэнтным двухдзённым маршам, пераадолеўшы 150 кіламетраў, 3-ці конны корпус Гая выйшаў да Гародні. Падчас маршу прыкладна дзесяць працэнтаў чырвонаармейцаў адсталі, а разам з імі усе абозы, транспарт з боепрыпасамі, палявыя санітарныя службы, большая частка коннай артылерыі. Да таго ж, два эскадроны затрымаліся да раніцы 18 ліпеня на гарнізоннай службе ў Вільні, ахоўваючы штаб корпусу, і змаглі прыбыць у Гародню толькі праз два дні[8].

Такім чынам, раніцай 19 ліпеня корпус Гая меў восем гармат з 32-х, абмежаваную колькасць боепрыпасаў і ня больш за 4,5 тыс. шабляў. Раніцай 19 ліпеня чырвоная конніца, падтрыманая слабым артылерыйскім агнём, пачала наступленне на паўночна-заходні сектар крэпасці, але толькі часткі 3-й брыгады Лунёва змаглі прарваць фронт праціўніка і ўстаяць перад контрударам. Яна амаль цалкам знішчыла ў Грандзічах першую роту запаснога польскага старажавога батальёну. Тады наперад рушылі першая і другая брыгады 15-й кавдывізіі і каля 11-й гадзіны ўвайшлі ў горад праз Пярэселкі ў напрамку на Кульбякі. Тым часам большая частка польскіх рэзерваў з-за пагрозы абходу была перакінутая левым берагам Нёмана ў напрамку на Сапоцкіна і ў раён Пагаранаў.

Увязаўшыся ў вулічныя баі, з дапамогай танкавага ўзводу, палякі выбілі бальшавікоў з прадмесцяў Каложы і рушылі на Грандзічы. Пад напорам батальёну слуцкага палка, афіцэрскай школы 3-га танкавага дывізіёна і роты сапёраў 15-я кавдывізія адступіла і з усходняй часткі Гародні. На левым флангу полк польскіх уланаў заняў фальварак Разалін. Да поўдня 19 ліпеня польскія войска ўтрымлівалі лінію абароны: 10-ы форт - Путрышкі - Малышчызна - Каложа. Тым часам падышла савецкая артылерыя, якая дазволіла бальшавікам распачаць новае наступленне. Галоўны ўдар прыходзіўся на лінію Грандзічы - Лапёнкі, уздоўж правага берагу Нёману на масты ў Гародні і на раён Путрышкі - Капліца. Каля 13.30 савецкая артылерыя разбіла польскі танкавы ўзвод, прымусіўшы яго адступіць у горад. Адначасова другая брыгада 15-й кывізіі дасягнула

нага вакзала ў Вяцкія казармы. Такім чанам Валансевіч помсціў тым габрэям, якія ў Вільні “стралялі ў спіну адступаючым палякам” - Гл. О. Соболевская, В. Гончаров Евреи Гродненщины: жизнь до Катастрофы. Донецк, 2005.

7 Polska enciklopedia wojskowa... S. 189.

8 Орлов А. Гродненская операция 3 конного корпуса…

Каложы, адсекшы польскія часткі ад мастоў. Палякі ў беспарадку адступілі. Тады савецкая артылерыя перанесла свой агонь на абодва масты: гужавы і чыгуначны. Правы фланг палякаў усё яшчэ абараняўся, хаця бронецягнік “Мсціўца” і першая танкавая рота адышлі на левы бераг да станцыі Ласосна. А поўдні бальшавіцкі 60-ты каўполк разбіў у атацы два польскія эскадроны, астаткі якіх уплаў перайшлі Нёман пад Кашэўнікамі. Да вечара правабярэжная частка горада была канчаткова занятая 15-й кавдывізіяй[9].

У 19.30 савецкая артылерыя пашкодзіла тры пралёты чыгуначнага моста. Другі, гужавы мост, узарваўся падчас польскага адступлення, так што трупы салдатаў выцягвалі з ракі яшчэ некалькі дзён[10].

Пры абароне Гародні адзначыўся польскі жаночы добраахвотніцкі легіён, які нёс ахову складаў у горадзе. Грамадзянская міліцыя не здолела справіцца з марадзёрамі і дэзерцірамі. Частка прадуктовых запасаў па вуліцы Аляксандроўскай аказаліся разрабаванымі яшчэ да прыходу бальшавіцкіх войскаў. Юнкер Шукелаўна з жаночага легіёну, пагражаючы зброяй, прымусіла машыніста падчапіць вагоны з боепрыпасамі выехаць з Гародні. Перапраўляючыся праз мост дзве легіянеркі былі параненыя[11].

На левым беразе Нёману дзень выдаўся значна спакайнейшым. На паўночным захадзе бальшавікі не змаглі скінуць запасны гарадзенскі батальён. Толькі страта правабярэжнай часткі Гародні і абходны манеўр праціўніка на Лабна - Агароднікі, прымусіў палякаў уначы адступіць у напрамку на Караліна - Кузніцу. Да поўначы увесь корпус Гая пераправіўся на платах праз Нёман і заняў лінію Кашэўнікі - Малахавічы-Калбасіно – Баранавічы. Сярод трафеяў у бальшавікоў аказаліся восем гарматаў, кулямёты, запасны табар і каля тысячы палонных. Было так сама адбіта каля пяцісот палонных чырвонаармейцаў[12]. Сустракаючы перадавыя часткі чырвонаармейцаў адзін з мясцовых камуністаў – Л.Шайкоў нават уручыў чырвоны сцяг, пад якім праводзілася дэманстрацыя ў горадзе яшчэ у студзені 1919 г.[13]

Але бітва за Гародню яшчэ ня скончылася. Каля дзевяці раніцы 20 ліпеня польскія часткі перайшлі ў контрнаступленне. Галоўны ўдар планавалася правесці па правым беразе з раёну Жыдомля - Абухавічы. Тым часам Гай, папярэджаны выведкай, паспеў перакінуць у горад 10-ю кавдывізію. Да таго ж, з Гарадзенскай пушчы якраз у гэты самы час, выйшла савецкая 53-я дывізія. З гэтай прычыны непасрэдна на Гародню наступалі толькі тры польскія палкі У 16.00 пасля моцнай артпадрыхтоўкі палякі занялі ўмацаваную лінію 10 форта знешняга кальца крэпасці. У далейшым на Гародню працягваў наступ наогул толькі адзін польскі полк, які

9 Polska enciklopedia wojskowa... S. 189.

10 Госцеў А., Швед В. Кронан. Летапіс горада на Нёмане (1116-1990). Гродна, 1993. С. 82;

11 Ochotnicza legija kobiet. – Warszawa, 1931. S. 29-30.

12 Борьба за Советскую власть в Белоруссии. В 2-х т. Т. 2. Минск, 1971. С. 401-402.

13 Спивачук А. Гродненское подполье 1918-1919 // Сельская новь. 1966. № 77.

меў супраць сябе сем спешаных палкоў савецкай кавалерыі. Ня гледзячы на колькасную перавагу праціўніка, а дзесятай гадзіны вечара 20 ліпеня палякам удалося адкінуць бальшавікоў на вуліцы горада, але ўжо ў палове адзінаццатай прыйшоў загад генерала Жэлігоўскага адступіць. У далейшым генералу Жэлігоўскаму прыйшлося выслухаць шмат абвінавачванняў за свае паспешнае рашэнне, але што яшчэ ён мог зрабіць у той сітуацыі, пры адсутнасці сувязі і перад пагрозай акружэння з поўдня савецкай 4-й арміяй?

У чатыры гадзіны раніцы 21 ліпеня палякі пачалі новае контрнаступленне на гэты раз сіламі каля трох з паловаю тысяч штыкоў пры падтрымцы бронецягніка і двух танкавых ротаў. Пры гэтым у рэзерве генерала С. Макжэцкага заставалася яшчэ каля двух тысяч штыкоў. Рухаючыся ўздоўж чыгункі з раёну Бакуны - Нямейшы на Калбасіно і Гібулічы, палякі хутка выцеснілі трэцюю брыгаду савецкай 15-й кавдывізіі да Фарштату. Гай спешна пераправіў цяпер ужо на левы бераг (і гэта пры адсутнасці мастоў) усе пазасталыя часткі, але ўсё ж такі не здолеў утрымаць Фарштат. У выніку польскі 35-ты полк зноў заняў усю занёманскую частку Гародні[14].

З моманту, як бальшавікі пакінулі занёманскую частку Гародні, там пачаліся масавыя грабяжы. Польскія салдаты бралі каштоўнасці, бялізну, прадукты. Ня грэбавалі часта і гвалтам. Габрэйскае насельніцтва хавалася ў склепах, частка знайшла прытулак у праваслаўнай Уладзімірскай царкве. Так, уварваўшыся ў дом да Давіда Бадаша, некалькі польскіх салдатаў спрабавалі згвалціць яго сястру, а потым стрэлам у жывот забілі яе[15].

Наіўна, аднак, было б сцвярджаць, што падобнымі паводзінамі адзначыўся толькі польскі бок.

Вось як пазней гэтыя падзеі ўзгадваў пазней у сваім фельетоне расейскі пісьменнік Аркадзь Бухаў: “Гродно - небольшой, очень чистенький и уютный городок, с весьма странной политической историей. В кратких словах она сводится к следующему: сначала из Гродно очень многие уходили, потом туда очень многие приходили.

...Прожил я в Гродно до того момента, когда, по счастливому выражению Л. Д. Троцкаго, - большой шутник и находчивый мужчина - кто-то должен был хлопнуть дверью, а кто-то эту самую дверь открыть.

Говоря менее туманным языком, большевики хотели взять Гродно, а поляки не хотели добровольно уходить. Для мирнаго населения это означало, что одни будут бить перед уходом, а другие после прихода. Один из местных стратегов - содержатель бакалейной лавки - уверял меня, что необходимо только учесть момент:- Когда буду уходить, так всякий должен идти на чердак.

[14] Połska enciklopedia wojskowa... S. 190-191.

[15] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці [далей - ДАГВ]. Ф. 5. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 14, 16, 50, 53, 57.

- Зачем?

- Он спрашивает: зачем? Кому же придет охота грабить на чердаке, когда это можно сделать в первом этаже. Зато, когда будут приходить, так нужно лезть в подвал.

- А это зачем?

- Он еще не понимает… Кто же полезет грабить в подвал, когда это можно сделать во втором этаже.

Должен сказать, что мой скептик-знакомый недооценил энергии и трудолюбия уходящих и приходящих. Одни уходя, а другие – приходя, грабили и в подвалах, и на чердаках, и во всех попавшихся на глаза этажах. Это была добросовестная, хорошо выполненная работа, говорящая об исключительной добросовестности и тщательности.

В эти знаменательные дни, так сказать, двухдневный файф-о-клок для всего города и его окрестностей, было довольно весело: одни стреляли, наступая, другие отстреливались, отступая. Друг другу обе стороны тактично не причиняли никакого ущерба, зато во многих домах естественная вентиляция была удачно заменена искусственной в виде громадных дыр на крышах и стенах от шестидюймовых снарядов. От снарядов не спасались и те, кто даже метался по дворам с истерическими криками о помощи. Кусок где-то разорвавшейся шрапнели, между прочим, довольно увесисто ударил по голове мою прислугу - вздорную и сварливую бабу: это был, по моему мнению, единственный разумный результат артиллерийской подготовки ко взятию незащищеннаго города.

Город взяла советская кавалерия. Дралась она изумительно, вплоть до взятия танков конной атакой, но, к сожалению, военные действия ея продолжались еще сутки даже после ухода неприятеля. Среди трофеев этой суточной кампании можно считать несколько сот золотых часов, колец, браслетов и других боевых матерьялов и взрывчатых веществ …”[16].

22 ліпеня горад знаходзіўся пад моцным артылерыйскім агнём з польскага боку. У Гародні бушавалі пажары, якія, па чуткам, распалілі пры адступленні польскія войскі. Савецкія войскі правялі дзень рыхтуючыся да агульнага наступлення і спраўджаючы броды праз Нёман. Але калі савецкая 12-я дывізія, змяніўшая ў Гародні часткі 3-га каўкорпуса, паспрабавала фарсіраваць Нёман уплаў у раёне в.Зарыца, палякі перакінулі пад Новы Двор лідскі стралковы полк. Увечары 23 ліпеня пераправіўшыся праз Нёман пад Гожай, корпус Гая займае пераправы і дасягае 4-га форта, адцягваючы палякаў на лінію Капцёўка - Дубніца - Караліно. 24 ліпеня 10-я кавдывізія займае Кузніцу, а ўжо 26 ліпеня 15-я кавдывізія ўвайшла ў Саколку. Гарадзенская крэпасць канчаткова перайшла ў рукі бальшавікоў. 25 ліпеня Гай, чый штаб падчас баёў за левабярэжную частку гораду знаходзіўся ў гатэлі “Еўропа” (на месцы сучаснага ўнівермага), выехаў да войска[17].

16 Арк. Бухов. Кусочек воспоминаний // ”Эхо”. 16.2.1923.

17 Połska enciklopedia wojskowa... S. 191-193.

28 ліпеня спецыяльным цягнікам у Гародню прыбыў камандуючы Заходнім фронтам М. Тухачэўскі. Яшчэ праз два дні праездам з Вільні у Беласток у горадзе спыніліся сябры маючага паўстаць у хуткім часе гэтак званага Польрэўкама – па сутнасці будучага ўрада для Савецкай Польшчы: Ф. Дзяржынскі, Ю. Мархлеўскі, Ф. Кон. Разам з М. Тухачэўскім і камандуючым чацвёртай арміяй Е. Сяргеевым яны прынялі удзел ва ўрачыстым паседжанні ў гарадскім тэатры, прысвечаным вызваленню Гародні ад палякаў[18].

“...Дзяржынскі, - пісаў даследчык гісторыі ўсталявання савецкай улады на Гарадзеншчыне Г. Співачук, - знаходзіўся ў Гродне да 3 жніўня. 2 жніўня адсюль ён накіраваў па прамому праваду ў Вільню, Рэўваенсавет Заходняга фронту, дзве запіскі. У іх паведамляў аб становішчы ў Гародні і ставіў пытанне аб неабходнасці камандзіраваць сюды адказных работнікаў. ...Ён правёў нараду з партыйнымі і савецкімі кіраўнікамі рэўкомаў і міліцыі. На ёй разглядаліся пытанні аб дапамозе фронту і Чырвонай Арміі...”[19].

Амаль адразу пасля заняцца Чырвонай арміяй, у Гародні была распаўсюджана адозва КПЛіБ “Рабочие и крестьяне гродненщины, создавайте советскую власть”[20]! 24 ( па іншых звестках яшчэ 20) ліпеня са складу палітаддзелу і асобага аддзелу савецкай чацвёртай арміі быў створаны Гарадзенскі губернскі рэўкам. Першым яго старшынёй быў прызначаны Легер, якога на гэтай пасадзе 4 жніўня змяніў кіраўнік палітаддзела 57-й стралковай дывізіі трыдцаціпяцігадовы Адам Славінскі (Качароўскі). Ягоным наменснікам стаў дваццацішасцігадовы Міхаіл Кунда – дарэчы, адзіны беларус з усіх сябраў Раўкама ( усяго ў склад Гарадзенскага РВК уваходзіла тры палякі – у тым ліку і сам А. Славінскі, тры габрэі, рускі і бе-

[18] Спивачук А. Первый председатель ревтрибунала // Гродненская правда. 1983. № 103; Левшик И. Деятельность милиции Гродненщины (1920-1985): исторический отчерк. – Дипломная работа истфака ГрГу. Гродно. 1995. С. 15.

[19] Співачук Г. Дзяржынскі Ф.Э. ў Гродне // Памяць: Гіст. – дакум. хроніка горада Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. С. 291-293.

[20] Известия Гродненского военно-революционного комитета. 1.8.1920. № 1. Калі казаць пра лакалізацыю савецкіх устаноў у горадзе, дык адразу кідаецца ў вочы яе хаатычны характар. Падаецца, што вызначальным у дадзеным выпадку было ўласна наяўнасць вольнага памяшкання. На пачатак жніўня 1920 г. “бальшавіцкая” мапа Гародні выглядала наступным чынам: Рэўтрыбунал ды Асобны аддзел ВЧК 15 кавдывізіі – гатэль “Метраполь”; Паветраная эскадра 4 арміі – маёнтак “Астравок”; Начштаба 4-й арміі – вул. Мураўёўская № 24; Асобы аддзел 4-й арміі – вул. Мураўёўская № 17; уездная міліцыя – вул. Раздзельная № 4; РСФСР гарнізонны край г. Гародня – вул. Гараднічанская № 6; Уліковая трафейная камісія – вул. Садовая № 4; Гарадзенскі РВК – вул. Мураўёўская № 3; Старшыня рэўкому – вул. Мураўёўская № 3; Гарадская міліцыя – цэнтральная плошча; парткам, аддзелы жыллёвы ды харчавання – вул. Палацкая № 2; аддзелы фінансавы, труда, сацыяльнага забеспячэння, гарадскі – вул. Саборная, будынак Магістрата; зямельны аддзел – вул. Садовая № 3; аддзел народнай асветы – вул. Гарохавая, дом Геллера; юрыдычны аддзел – вугал Садовай ды Саборнай; аддзел аховы здароўя – вул. Пясочная № 2; рэдакцыя “Известий...” – Марыінскі завулак; аддзел ЦБ прафсаюзаў – вул.Іванаўская;. Нарэшце, камендант Гародні спыніўся па адрасы вул. Сувораўская, дом Евлева // ДАГВ Ф. 689. - Воп. 1. - Спр. 17. - Арк. 6; Там жа. - Спр. 31. - Арк. 1-12.

ларус)[21]. Рэўкам выконваў адначасова функцыі губернскага і ўезднага і размясціўся ў былым доме віцэ-губернатара (зараз гэта стары корпус аблвыканкама па вул. Ажэшка № 3)[22]. Было адкрыта каля дзесяці аддзелаў. Сапраўдная праца ў рэўкаме пачалася толькі ў сярэдзіне жніўня, калі ў Гародню прыбываюць кіруючыя кадры, узначаліўшы большасць з утвораных аддзелаў.

"Известия Гродненского военно-революционного комитета", якія пачалі выходзіць у горадзе з 1 жніўня, замяніўшы тым самым усе іншыя існаваўшыя да гэтага мясцовыя газеты, змясцілі наступны грунтоўны пералік новапаўсталых структураў савецкай улады: "На заседании РВК 24 июля под председательством Лигера постановлено организовать следующие отделы РВК: 1. Управление; 2. Продовольственный; 3. Земельный; 4. Труда; 5. Финансовый; 6. Народного образования; 7. Экономический; 8. Социального обеспечения; 9. Военный. …Вопросы об отделах экономическом, социального обеспечения и военном оставлены открытыми до получения ответа от Бунда и Белорусской партии социалистов-революционеров ("Советистов").

На заседании 25 июля решено организовать ещё следующие подотделы: 1. Общий; 2. Инструкторско-информационный; 3. Милиции… Далее постановлено организовать из местных партийных работников штат инструкторов для организации в волостях ревкомов и комитетов сельскохозяйственных рабочих; приступить к учёту живого и мёртвого инвентаря в экономиях, при первой возможности организовать союзы и коммуны.

В области продовольственного дела решено: организовать уездный продовольственный комитет в составе подотделов: общего, снабжения (заготовительного) и распределительного; взять на учёт все запасы продовольствия в городе и окрестностях и образовать единый рабочий кооператив, как вспомогательный орган продкома…

На заседании 27 июля приняты решения о назначении товарища Менеса завотделом соцобеспечения; об организации юридического отдела с товарищем Барановым во главе. Организован так же Отдел труда в составе следующих подотделов: 1. Регистрационного (Биржа труда); 2. Тарифного; 3. Организационно-инструкторского; 4. Защиты труда; 5. Санитарно-гигиенического…"[23].

Прычым сам арганізацыйны працэс насіў перманентны характар. На 25 жніўня 1920 г. быў запланаваны уездны з'езд рэўкамаў, а ўжо 1 верасня ў Гародні павінен быў адбыцца з'езд дэлегатаў гэтак званых "рабочкамаў"[24].

---

21 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 57. Арк. 46.

22 Спивачук А. Гродненский ревком // Гродненская правда. 1977. № 134.

23 Известия Гродненского военно-революционного комитета. 1.8.1920. № 1.

24 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 8 зв..

Вось як апісваў савецкія пераўтварэнні ў Гародні ніхто іншы, як пралетарскі паэт Дзем’ян Бедны у сваім вершы “Жёсткий срок»:

...Шляхта подлая, тупая
Понапрасну нос дерет.
Отступая, наступая,
Мы идем вперед, вперед.

Путь известен: до Варшавы.
Видел место я вчера,
Где наводят переправы
Наши чудо-мастера.

Красным штабом самый точный
Обозначен им урок:
«Нужен мост на диво прочный
В срок - кратчайший. Жесткий срок».

Молотки стучат задорно.
Топоры звенят-поют.
Средь высоких свай проворно
Чудо-техники снуют.

Через Неман на Варшаву
«Шьют» стальную колею.
Всем путейцам нашим славу
Я охотно пропою.

Не напрасно путь здесь ляжет.
Красный фронт наш дал зарок:
Чванной шляхте он покажет,
Что такое «жесткий срок»[25].

Дарэчы, адгукнуўся на заняцце Гародні Чырвонай арміяй і іншы савецкі “трыбун”. У жніўні 1920 г. ў рэдакцыі РОСТА з’явіўся маляваны плакат працы А. Маякоўскага, дзе былі наступныя радкі:

[25] Бедный Д. Стихотворения и поэмы. Библиотека поэта. Большая серия. Москва, Ленинград: Советский писатель, 1965.

Красная Армия пана из Киева попросила.
Этого мало. Не иссякла панская сила.
Выкинули пана из Вильно.
Это еще не победа. Не смотрите умильно.
Вышвырнули Пилсудского из Гродно.
Мало. Мира еще не подано.
Вышвырните всех белогвардейцев из их гнезда.
Только это может мир России дать[26].

У рэчаіснасці справы выглядалі куды больш драматычна. Праўда, для працы на месцах Наркамфін Беларусі выдзеліў Гарадзенскаму рэўкаму 50 мільёнаў рублёў, з іх 5,3 млн. атрымаў саўнаргас для выплаты заробку гарадзенскім рабочым[27]. Аднак, грошы, тым больш савецкія, былі не ў стане вырашыць усе праблемы, якія абрынуліся на горад!

Адным з першых, яшчэ 19 ліпеня, самастойна, не чакаючы інструкцыяў, прыступіў да працы жыллёвы аддзел. У кароткі тэрмін пяць тысячаў пагарэльцаў з занёманскага Фарштату былі размешчаны па кватэрах мясцовай "буржуазіі"; былі "ушчыльнены" і ўзяты на ўлік 700 пакояў, кватэры бежанцаў, казармы, цэхгаўзы і г. д. Аддзел распрацаваў план перасялення беднаты пры надыходзе зімы ў кватэры заможных гараджанаў. Мэблевы пададдзел узяў на свой улік мэблю на складах, дамах бежанцаў, у памяшканні былых польскіх дзяржустаноў. Толькі нечакана высветлілася, што гэтую ж мэблю ўзяла на ўлік і ўлікова-трафейная камісія і не выдавала яе без асобага дазволу. Пасля вельмі доўгіх перамоваў, рэўкаму ўдалося вырашыць гэтую недарэчнасць. Было раздадзена пяцьсот сталоў, дзве тысячы крэслаў, паўтары тысячы ложкаў[28].

У Гародні была створаная біржа працы, але ўласна савецкія ўстановы прымалі людзей абходзячы біржу.

"Учреждения, едва успев организаваться... – Пісаў пазней у справаздачы адзін з супрацоўнікаў Рэўкама, - работали так вяло и были настолько непопулярны среди пролетарских масс, что существование их для многих прошло совершенно незаметно..."[29].

У выніку з 3440 беспрацоўных працу атрымалі толькі 250. Абураныя пратэкцыянізмам рабочыя перасталі звяртацца на біржу[30].

Да 27 ліпеня на прадпрыемствах Гародні прайшлі выбары фабрычна-завадскіх камітэтаў. На сходзе прадстаўнікоў працоўных і спецыялістаў

26 Роста № 216.

27 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 26; Там жа. Спр. 15. Арк. 46.

28 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 96-97.

29 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 56.

30 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 57.

6 жніўня вырашалася пытанне ажыўлення прамысловасці[31]. Да 13 жніўня працаддзелу ўдалося запусціць цагельні, пераплётную і скураную фабрыкі (пры тым, што частка гарадскіх прадпрыемстваў заставалася пад началам 22-га вайскова-палявога аддзела )[32]. У тых выпадках, калі былыя кіраўнікі прадпрыемстваў не жадалі падпарадкавацца загадам новай улады - аддзел працы прымаў нават надзвычайныя меры. Гэтак, напрыклад, гаспадары тытунёвай фабрыкі “Саюз” А. Рубінчык ды Э. Вінагарад па загаду аддзела за зрыў працы на прадпрыемстве былі адпраўлены пад арышт, дзе павінны былі знаходзіцца да “асобнага распараджэння”. Пры чым, сама гэткая мера ўздзеяння абгрунтоўвалася неабходнасцю “падтрымоўваць аўтарытэт” вышэйназванай установы[33]!

Даволі цікавае тлумачэнне нізкага узроўню развіцця мясцовай прамысловасці сустракаецца на старонках аднаго з дакументаў аддзела працы: “...Предприниматели во имя своих “священных” капиталистических интересов... старались наладить предприятия... Учились позоимствовать у немцев-оккупантов предприимчивость, организованность, приноровленность... Сами немцы не скупились на средства... извлечь из края максимальную выгоду, снабжая разного рода сырьём и машинами... Но поляки, как народ, который находится в хвосте народов..., своей бестолковой, шовинистической, антисемистской политикой ввергли всё в бездну. ...Давя евреев, давили промышленность”[34].

Горад тым часам жыў на мяжы голаду. Загадам райпрадкамісіі ўсе домаўладальнікі павінны былі скласці анкеты на сваіх жыхароў для атрымання прадуктовых картак. У гэтых умовах савецкія лозунгі аб сацыяльнай справядлівасці пачалі набываць зусім іншы сэнс.

У Гарадзенскім архіве захавалася скарга:

*“Председателю Гродненского военревкома, группа рабочих, обедающих в советской столовой - по ул. Замковой.*

**Отношение:**

Мы, нижеподписавшиеся рабочие, в пятницу 20 с. м. обедали в советской столовой по ул. Замковой. Простояв некоторое время на улице в очереди, и получив уже возможность зайти в столовую, мы заняли место и просидели 1 час, дожидаясь обеда. Вскоре нам объявили, что мяса нет, а только два супа и хлеб… Мы это приняли во внимание и сели за стол. Спустя пять минут зашёл некий Клемпнер с женою, бывший заведующий детскими столовыми и ему подали обед вне очереди, в то время, как некоторые из нас заметили, что в тарелках Клемпера и его жены находятся куски мяса... Это нас взволновало...”. “Разве это допустимо в советских

---

31 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 7.

32 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 46.

33 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 14. Арк. 42.

34 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 7-8.

столовых - пользоваться протекцией и разными привилегиями”[35]!

Зусім трагічна было і з аховай здароўя. Вялікая колькасць войскаў, якія праходзілі праз горад, за кароткі час пераўтварыла Гародню па сутнасці ў адну вялікую клааку.

Дамаўласнік І. Мараш зварочваючыся да камenданта Гародні, пісаў: “На дворе с 20 июля стоят обозы красноармейцев. И весь двор, и отхожие места наполнены навозом. Поэтому прошу коменданта… распорядится об очистке двора и отхожих мест…”[36].

Больш за тое, пры адступленні палякі забралі з сабою ўсіх коней з асеназацыйнага абозу. Гэта не магло не адбіцца на ўзроўні рознага роду захворванняў. Да жніўня было адзначана 15 выпадкаў сыпнога, два зваротнага і чатыры брушнога тыфу, 2312 дызентэрыі, 1 воспы пры 480 шпітальных месцах. Здраўаддзел пачаў працу толькі пасля 13 жніўня з нацыяналізацыі аптэкаў. Частка іх ужо была разрабавана. Праз чатыры дні пачалася дармавая выдача медыкаментаў. Для атрымання лекаў трэба было прад’явіць кааператыўную картку з пасведчаннем, што хворы адносіцца да класу рабочых альбо сялянаў ( Праўда, здраўаддзел здолеў адчыніць санпрапускнік, пабудаваны яшчэ пад час нямецкай акупацыі )[37]. Не дзіва, што пры такім стане аховы здароўя, ды яшчэ з улікам параненых пад час вайсковых дзеянняў, перад мясцовымі шпіталямі паўстала вострае пытанне... дзе хаваць памёршых[38]!

Тым часам сярод галоўных задач новай улады адно з галоўных месцаў займала арганізацыя ідэалагічнага фронту. Перш за ўсё, ў распараджэнне паліграфічнага аддзела перайшлі ўсе існуючыя да гэтага ў Гародні друкарні – Краліноўскай, С. Гана, З. Мейлаховіча ды іншыя[39]. Са жніўня пачала выходзіць газета “Известия Гродненского военно-революционного комитета” на расейскай мове (планавалася выдаваць таксама газету па-габрэйску, але гэтаму перашкодзілі далейшыя падзеі)[40]. Былі ўзяты на ўлік музычныя інструменты ў горадзе і ўсе настаўнікі музыкі, арганізаваны аркестр і лятучыя трупы для ўезду, падрыхтаваныя два дзіцячыя садкі, школа[41]. Былі створаныя дзве народныя бібліятэкі, у якія звозіліся кнігі з усяго гораду у тым ліку з гарадской бібліятэкі, бібліятэкі габрэйскага таварыства “Кунст” ды інш.[42] (характэрна, аднак, што калі былая супрацоўніца публічнай бібліятэкі Мар’я Гадлеўская – полька на нацыянальнасці пада-

[35] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 27. Арк. 72.

[36] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 27. Арк. 67.

[37] Дарэчы, рэквізіцыя коней войскам стала сапраўдным няшчасьцем для беларускай вёскі. Рэўком быў завалены скаргамі і просьбамі аб дапамозе. Рэўком вёскі Малахавічы пастанавіў нават на агульным сходзе пратэставаць супраць насілля і грабяжу з боку праходзячых частак Чырвонай арміі // ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 34-36.

[38] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 27. Арк. 94.

[39] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 31, 32, 33.

[40] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 52.

[41] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 22.

[42] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 21-22 зв..

ла заяву з просьбай аднавіць яе на працы, ёй было ў гэтым адмоўлена[43])!

Ужо на пачатак жніўня у горадзе пачало працаваць “лектарскае бюро” і чырвонаармейскі клуб пры палітаддзеле[44]. У мясцовым тэатры ўрачысты сход змяняўся паседжаннем Бунду, выступленне культпрасветбрыгады, расейскай трупы з п’есай “На дне”, паседжанне прафсаюза працоўных мастацтва - лекцыяй “дзядзі Мішы” з палітаддзелу 15 кавдывізіі на тэму “Сацыял-дэмакратыя і камуністы: чаго жадаюць адны і другія”[45]. На кватэры мясцовага дэкана пры Фарным касцёле бальшавікі арганізавалі клуб, а ў будынку тэатральнага таварыства “Муза” размясцілася камсамольская арганізацыя[46]. Не застаўся ў баку і кінематограф. Спачатку мясцовыя кінатэатры – “Эдэн” і “Ліра” перайшлі ў распараджэнне палітаддзелу 12 дывізіі, а ўжо з 28 ліпеня яны былі перададзеныя прафсаюзу працоўных на ніве мастацтва[47].

Рабіліся крокі і ў бок адукацыйнай працы. Напрыклад, сярод дакументаў Гарадзенскага РВК захавалася “Схема па арганізацыі вячэрніх габрэйскіх работніцкіх курсаў”, якая прадугледжвала арганізацыю шырокага кола асветніцкіх установ у горадзе[48]. Наогул, уся сістэма адукацыі, якая існавала ў Гародні напярэдадні прыхода Чырвонай арміі, падлягала рэарганізацыі. У першую чаргу былі залічаны на працу каля ста настаўнікаў. На 28 жніўня быў запланаваны з’езд настаўнікаў Гарадзенскага ўезда, якому, аднак, было наканавана не адбыцца. Тады ж павінны былі адкрыцца тры дзіцячыя садкі і музычная школа[49] (варта адзначыць, што ўсе вышэй пералічаныя ўстановы ўжо існавалі ў горадзе ў той ці іншай форме, а савецкая ўлада імкнулася надаць ім толькі новы, “пралетарскі” характар).

Тым часам, для падтрымання парадку і “выяўлення контррэвалюцыйных элементаў” у горадзе быў арганізаваны ваентрыбунал і ўездная міліцыя. 25 ліпеня з мэтай забяспечыць больш аператыўнае кіраўніцтва уездлай і крымінальнай міліцыі паўстаў агульны штаб. На яго чале стаў Ф. Рышкевіч, які да гэтага меў досвед працы ў міліцыі Масквы і Вільні[50]. У былым будынку сялянскага банку (па сучаснай вуліцы Леніна) размясціўся асобы аддзел Усерасейскай надзвычайнай камісіі. Камендантам Гародні быў прызначаны Жукаў, ваенкамам - А. Барздаін[51].

43 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 17-19.

44 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 1.

45 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 85, 91, 96, 102.

46 ДАГВ. Ф. 689. Воп. 1. Спр. 31. Арк. 12; Echo Grodzienskie. 1920. № 154 (1); Echo Grodzienskie. 1921. № 124.

47 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 102.

48 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 9.

49 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 78; Там жа. Спр. 15. Арк. 21-22.

50 Ярмусік Э. На варце законнасці і правапарадку // Памяць: Гіст. – дакум. хроніка горада Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. С. 294-295.

51 Памочнікам апошняга стаў нейкі Разумовіч – магчыма, у будучым кіраўнік антыпольска-

Дастаткова красамоўна атмасферу, якая панавала ў Гародні з прыходам савецкай улады, жывапісуе ўласна змест загадаў мясцовай камендатуры. Гэтак у распараджэннях за пачатак жніўня зварочвалася увага на тое, што “в городе, на станции и в окрестностях продолжается бесцельная стрельба, вызывая тревогу и терроризируя население”. І далей: “Наблюдается бесцельное шатание красноармейцев по городу без увольнительных записок”. Нічога дзіўнага, што камендатура ў хуткім часе апынулася закіданай жалобами граждан о самочинных потравах лугов, садов и огородов”[52].

За два тыдні свайго існавання, пачынаючы з 9 жніўня, Рэвтрыбунал на чале з Г. Сімановічам разгледзеў 13 справаў, з іх шэсць выпадкаў спекуляцыі, два грабяжы, два забойствы (прызначанае на 25 сакавіка першае паседжанне суда не адбылося па прычыне тэрміновай эвакуацыі савецкіх установаў з гораду)[53]. Кідаецца ў вочы таксама адукацыйны ўзровень сяўраў трыбунала. Гэтак ягоны старшыня – Г.Сімановіч, быў студэнтам першага курса (установа адукацыі не ўзгадвалася ); Г. Рыбакоў меў ніжэйшую адукацыю, але за тое, адзначыўся працай назіральнікам у лагеры ў Саратаве; М. Казлоўскі, наогул, пазначаны сціпла – матрос. І толькі Ф. Вусінскі меў досвед працы, займаючы пасады ў Гарадзенскім судзе спачатку пры расейскай уладзе, а пазней – пры паляках[54].

Асобы аддзел ВЧК узначаліў Іваноў. Аддзелам крымінальнай міліцыі было раскрыта 15 кражаў і два забойствы (“из коих одно носило политический характер...”). Праводзіліся вобыскі і арышты сярод мясцовых спекулянтаў. Маральны пададдзел узяў на ўлік 28 прастытутак[55] (праўда, у канцы 1920 г. польская газета “Гродзенскае рэха” пісала, што прычынай уздыму венерычных захворванняў у горадзе сталі разгул салдатаў чырвонай арміі і тое, што бальшавікі адпусцілі пацыентаў венералагічнага шпіталя)[56].

З 124 вязняў гарадзенскай турмы, якія знаходзіліся там пры паляках, спецыяльная камісія вызваліла 83. Характэрны асабісты склад новых турэмных органаў: кіраўніком турмы стаў Хаім Шусцер, ягоным памочнікам – Рувім Вайнтраўб, назіральнікам – Рувім Віжанскій. Мяркуючы па прозвішчах, усе яны былі габрэямі. Яшчэ адзін красамоўны факт: за час існавання рэўкому ў турме знаходзілася каля 80 чалавек, якіх даглядала... 50 вартаўнікоў[57] (дзіўна, аднак, нават пры гэткім стане грамадскага жыцця, калі стары лад рушыўся ўпрост на вачах, пададдзел шлюбнага стану паспеў зарэгістраваць... два шлюбных акты[58] )!

га руху на Гарадзеншчыне // Спивачук А. Гродненский ревком // ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 40; Гродненская правда. 1977. № 134.

52 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 40.

53 Цікава, што ўсе сябры Рэўтрыбунала павінны былі быць партыйнымі па якой прычыне адчуваўся моцны недахоп кадраў // ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 82-84.

54 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 57. Арк. 42.

55 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 104-106.

56 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 5; Echo Grodzienskie. 1920. № 215 (61).

57 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 110; Там жа. Спр. 15. Арк. 88, 91.

58 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 9.

Пры ўсім гэтым, даволі ўпэўнена можна сцвярджаць, што хуткая перамога Чырвонай арміі падарвала павагу да Польшчы сярод мясцовых жыхароў. Гвалт і грабяжы з боку адступаючых польскіх войскаў прывялі толькі да шырокай саветызацыі, у першую чаргу, габрэйскга асяроддзя. Бедная частка габрэйскага насельніцтва прымала бальшавікоў вельмі добра, нават радасна, кінулася да ўстановаў, дапамагала ў пошуку складоў (ежы), даносіла пра палякаў і г. д. Менавіта Бунд праводзіў у горадзе шэраг мітынгаў у падтрымку савецкай улады. Напрыклад, сярод мясцовых савецкіх лектараў былі – загадчык набрэйскага шпіталя Сухаўлянскі (Паалей-Цыён), Мянес (Бунд), Гажанскі (гэтак званыя “Аб’яднанцы” )[59]. Нават павярхоўны аналіз служачых савецкіх устаноў у горадзе на падставе прозвішчаў, дае наступную колькасць габрэяў у Гарадзенскам рэўкоме: аддзел кіравання – 11 з 17 служачых; інструктарска-інфармацыйны аддзел – 5 з 20 супрацоўнікаў; уездная міліцыя – 34 з 106 служачых (пры гэтым уласна ва ўпраўленне ўезднай міліцыі – 9 з 12 ); народная асвета – 25 чалавек з 38; у саўнаргасе – 19 з 27; у паліграфічным – 20 з 35; аддзел упраўлення – 10 з 14 і г.д.[60] Як бачым, відавочнай перавагі габрэйскай нацыянальнасці над іншымі ў савецкіх установах не назіралася, хаця ў параўнанні з папярэднім перыядам польскай улады розніца была відавочная! Варта пры гэтым зазначыць, што багатыя габрэі і артадоксы ставіліся да бальшавікоў варожа.

Але ці былі габрэі на самой справе выбранай нацыяй пры новай uладзе? Старшыня Крынкаўскага валрэўкому, напрыклад, заявіў, што можа прыняць самую абмежаваную колькасць габрэяў... у сувязі з сялянскай большасцю воласці. У м.Вялікая Бераставіца старшыня валрэўкому Дружынін вёў антысеміцкую агітацыю, асмейваў габрэйскую нацыю, як нацыю баязліўцаў, якая хітрасцю захапіла ўладу ў свае рукі[61]. Усе габрэі ў валрэўкоме былі замененыя на рускіх. У м.Азёры з большасцю габрэйскага насельніцтва ў валрэўкоме не аказалася аніводнага габрэя. У выніку пад час стыхійнага мітынгу 10 жніўня каля 300 жыхароў Азёраў перавыбралі валрэўком[62]. У самой Гародні адбыўся сход габрэяў-чыгуначнікаў, якія апратэставалі дзейнасць лакальнага прафсаюза, дзе большасць складалі палякі[63]. 7 жніўня саюз транспартных працаўнікоў наогул не пусціў на разгрузку новых рабочых, прычым справа дайшла амаль да бойкі[64].

Нездарма сярод кнігаў, якія выдаваліся для бальшавіцкіх агітатараў, часцей за другія сустракаліся: “Габрэі, класавая барацьба і пагромы” і “Ці ворагі габрэі рабочым і сялянам?[65]”

---

[59] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 4.

[60] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 20; Там жа. Спр. 32. Арк. 15, 29.

[61] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 27. Арк. 25.

[62] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 82-84.

[63] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 16.

[64] ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 14. Арк. 2-3.

[65] Дарэчы, пячатка Гарадзенскага РВК была напісана па расейску і па польску – ні габрэйскай, ні беларускай мовы на ёй не было // ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 110.

Не сакрэт, што і беларускія дзеячы неадназначна ставіліся да савецкай улады. У сваім пісьме да кіраўніка тагачаснага ўрада БНР А. Луцкевіча яшчэ ў студзені 1919 г. адзін з міністраў А. Смоліч падкрэсліваў: “Хоць я лічу, што ад бальшавізму для краю больш шкоды, чым карысці... але калі ён дае магчымасць шырокай культурнай працы, пазнае і бароніць нашую дзяржаўнасць... і давядзе яе да натуральных рубяжоў...дык мы мусім ухапіцца за гэтую ідэю, прызнаць яе нацыянальным заданнем часу і проста стаць у рады абаронцаў гэтага парадку і ваяваць у гэтых радах хоць бы з усім сьветам”[66].

Нічога дзіўнага, што летам 1920 г. мясцовы беларускі рух сустрэў новую ўладу больш чым прыхільна!

“...Яшчэ да прыходу чырвонай арміі, - Узгадваў дваццаць год пазней у артыкуле “Адраджэнскі рух у Горадзеншчыне” Ул. Крынскі, - зьявіўся тут эмісар Комінтэрну нейкі Багдановіч беларус з групы Ігнатоўскага і Жылуновіча, які распачаў шырокую дзейнасьць у кругох беларускага грамадзянства. Ня гледзячы на тое, што беларусы вельмі шмат зносілі ўціску ад палякаў і мелі ўжо даволі польскай акупацыі, дзейнасьць Багдановіча не знайшла сярод беларускіх работнікаў і сялян ніякага водгуку, ён не здабыў тут сабе прыхільнікаў і калі заняцьце Горадні чырвонай арміі сталася даканаўшымся фактам, яму прыйшлося шукаць апоры ў іншых беларускіх угрупаваньнях, каб зусім ня страціць уплываў.

Багдановіч запрапанаваў найбольш уплывовай у Горадзеншчыне партыі беларускіх рэвалюцыйных сацыялістаў падзяліцца месцамі ў савецкіх установах пры ўмове, што гэтая партыя “стане на плятформу савецкай улады”. Ён стараўся пераканаць беларускіх эсэраў, што ў праціўным выпадку палякі і жыды апануюць уладу, а беларусы ня будуць мець ніякога ўплыву на кіраўніцтва краем”[67].

Захады Багдановіча скончыліся тым, што нязначная група “левых” эсэраў на чале з С.Багданам падпісала дэкларацыю аб прызнанні савецкай улады. На час заняцця Гародні бальшавікамі з беларускіх арганізацый у горадзе засталіся толькі Беларускі нацыянальны камітэт, Беларуская школьная рада і Грамада беларускай моладзі[68].

Як ужо ўзгадваў Ул. Крынскі, беларусы даволі згодна пайшлі на супрацоўніцтва з бальшавікамі. Гэтак старшыня Гарадзенскай беларускай школьнай рады Л. Дзякуць-Малей стаў кіраўніком пададзела прыютаў, яслей і прытулкаў аддзела сацзабяспячэння[69]; намеснік старшыні Грамады беларускай моладзі Ул. Курбскі - загадчыкам культпрасветаддзела; у гэтым жа аддзеле працаваў сакратар Грамады К. Салошык.[70] Інструктар Гарадзенскага Беларускага нацыянальнага камітэта П. Якубецкі быў прызначаны школьным інструктарам па Гарадзенскаму ўезду, а старшы-

66 Сідарэвіч А. З думай аб незалежнасці // Полымя. 1991. № 4. С. 213.

67 Крынскі Ул. Адраджэнскі рух у Горадзеншчыне // Новая дарога. 13.11.1942. № 34. 4-5.

68 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 29.

69 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 57. Арк. 4.

70 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 49 зв..

ня камітэта С. Баран стаў кіраўніком юрыдычнага аддзела Гарадзенскага рэўкома[71].

Сярод супрацоўнікаў новай улады апынуліся і гэткія вядомыя беларускія дзеячы, як Аркадзь Смоліч і Сымон Рак-Міхайлоўскі. Зараз цяжка сказаць, ці яны засталіся ў Гародні чакаць надыходу бальшавікоў выпадкова, ці гэта быў запланаваны напярэдадні крок, аднак абодвум ім было наканавана пражыць у Гародні дастаткова доўга.

Напярэдадні на асобай нарадзе ў Менску было вырашана накіраваць для дзейнасці за мяжой некалькі найбольш “бээнэраўскіх” дзеячоў, як акрэсліў іх Б. Тарашкевіч: В. Іваноўскага, К. Цярэшчанку, А. Смоліча і С. Рак-Міхайлоўскага. Прычым тры апошнія выязджаць не хацелі. Хутчэй за ўсё, С.Рак-Міхайлоўскі трапіў у Гародню з Ваўкавыска, дзе на кароткі час спынілася Беларуская вайсковая камісія, сябрам якой ён з’яўляўся. Аркадзь Смоліч пераязджае ў Гародню разам з жонкай Аляксандрай Смоліч-Каткоўскай і маленькай дачкой. Зараз цяжка сказаць ці С. Рак-Міхайлоўскі са А. Смолічам засталіся ў Гародні выпадкова, ці гэта быў запланаваны напярэдадні крок. Той жа Б. Тарашкевіч падкрэсліваў, што “далейшай дарозе С. Рак-Міхайлоўскага ўпэўнена не перашкодзілі прычыны матар’яльнага характара і ў разе эвакуацыі з БВК ён мог мець генеральскае ўтрыманне”. Пазней, у сваім звароце да Ю. Пілсудскага часовы прэзідыум БВК наогул паведаміў быццам бы С. Рак-Міхайлоўскі трапіў пад час эвакуацыі ў савецкі палон[72].

Падчас савецкага панавання С. Рак-Міхайлоўскі працаваў школьным інструктарам аддзела народнай адукацыі і займаўся арганізацыяй школ у Гарадзенскім павеце. Акрамя таго, паводле асабістых паказанняў С. Рак-Міхайлоўскага на “Працэсе 45-ці” ў Беластоку, ён з’яўляўся сябрам Гарадзенскага БНК.

Аркадзь Смоліч уладкаваўся ў Гарадзенскі рэўком кіраўніком агранамічнага пададзела. Ён актыўна ўключаецца ў працы на месцах: А. Смоліч распачаў набор інструктараў па сельскагаспадарчым машынам і іншых спецыялістаў. Яго подпіс так сама стаіць пад цыркулярам аб правядзенні ў трохдзённы тэрмін уліку і мабілізацыі ўсіх коней і валоў у Гарадзенскім павеце[73]. У якасці лектара зямельнага аддзела А. Смоліч выступаў на тэму “Камуны і арцелі” і веў эканамічную геаграфію на рабочых курсах.[74]

У архіве захаваўся наступны запіс старшыні Культсавета аддзела народнай асветы: “Прошу разрешить тов. Смоличу и Химаровичу рассмотреть каталоги и составить список книг по агрономии и сельскому хозяйству, находящихся [ў мясцовай – А.Ч.] библиотеке”[75].

---

71 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 25; Там жа Спр. 31. Арк. 1-12.

72 Тарашкевіч Б. Аўтабіяграфія... // Спадчына. 1996. № 4. С. 110; Latyszonek O. Bialoruskie formacje wojskowe… S. 140; Мікула Я. Аркадзь Смоліч на Гродзеншчыне // Гродзенскія запісы. Выпуск 1. Гродна, 1993. С. 99.

73 Мікула Я. Аркадзь Смоліч на Гродзеншчыне. С. 100.

74 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 3, 5.

75 Адначасова, магчыма, ён працягваў працу над манаграфіяй “Геаграфія Беларусі” // ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 21.

Аднак, за два месяцы савецкай улады узаемныя адносіны паміж бальшавікамі і беларускімі дзеячамі паспелі змяніцца ў найгоршы бок. У першую чаргу, гэта датычыла беларускай адукацыі.

Беларусы неаднаразова зварочваліся ў савецкія органы за дапамогай. “Наша першая заява, - пісалі настаўнікі беларускай прытулкавай школы ў сваім лісце ў Гарадзенскі рэўком, - ...разглядаецца вамі ўжо некалькі тыдняў, мы просім магчыма хутчэй выявіць Ваш погляд на нашу працу і калі знойдзецца немагчымым выдаць нам пэнсію, як гэта было зроблена савецкай уладай у другіх мейсцах, напрыклад у Менску, просім апавясьціць нас пісьменно, бо тады нам будзе патрэбна гэткая паперка.

Калі нашы заявы разглядаліся месяцамі і заставаліся без увагі панамі Вазнякоўскімі, для нас гэта было зразумела, а данные адносіны да нас - не ясны. Мы просім не літасцівую падачку, законную, запрацаванную заплату, толькі таму, што нам трэба жыць. Мы працавалі ў пралетарскім прытулку, навучэнні вялі, нам не плацілі, мы жылі на пазычкі. Далей так жыць не можна. Мы зварочваемся да Вас, як зацікаўленых жыццём падначаленых Вашаму кіраўніцтву.

Неўвага да нашага становішча дасць нам повад думаць, што нам прыйдзецца і далей працаваць, не ў лепшых варунках, як пры пане Вазнякоўскам...[76]”.

“Аб рэзультатах гэтага падання, - адзначалася у канцы ліста, - просім паведаміць нас праз сябра Курбскага”[77].

Адносна польскага насельніцтва новая ўлада таксама не мела нейкай паслядоўнай палітыкі. З аднаго боку, да палякаў ставіліся *a priory*, як да нелаяльнай часткі грамадства (па заняцці м.Крынкі ўсе мясцовыя палякі, напрыклад, павінны былі прайсці рэгістрацыю)[78]. З іншага боку, польскі элемент у кіруючых савецкіх органах на месцах быў пэўнай гарантыяй калі не нацыянальных інтарэсаў, дык нейкага парытэту ў адносінах да “непалякаў”.

Беларуская газета “Пагоня”, што выходзіла ў Літве, у рубрыцы “Весткі з Гародні” гэтак апісвала падзеі: “Бальшэвікі з пачатку, на працягу 3 дзён, рабавалі места, забіралі ўсё незрабованае палякамі: убраньне, крамы, боты, шпоры, збожжа, быдла, коні і розныя дамовыя рэчы. Усе склепы запечатвалі, а потым пачалі ўсё вывазіць з места. Также сама рабавалі вельмі многа старых кнігаў, карцінаў, бронзы і іншых, маючых вялікую вартасьць памятнікаў старажытнасьці. У апошняе дні бальшэвікі нацы-

76 Рафал Вазнякоўскі – польскі школьны інспектар па Гарадзенскім павеце у 1919- пачатку 1920 гадоў. Адзначыўся сваёй варожай падставай адносна беларускай асветы.

77 На лета 1920 г. беларускія школы ў Гародні налічвалі больш за 200 вучняў. Магчыма, праўда, што пазней беларускія настаўнікі і атрымалі б дапамогу з боку савецкай улады. Меркавалася нават стварыць замест беларускіх школак адзіную Гарадзенскую школу 1-й ступені, у спіс будучых выкладчыкаў якой увайшлі: сёстры Кухарчук, Я.Мальчэўская, М.Алюшкава, У.Федарук, І.Тарасевіч, У.Шалешка, Е.Грынкевіч // ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 70. Арк. 19-20, 67, 77, 91.

78 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 25.

ялізавалі аптэкі. Также хацелі вывязьці з Горадня ўсе электрычные прыборы і вялікі камутатар з тэлеграфу, але 18 жніўня дэпутацыя хадзіла да камісараў прасіць, каб камутатара не бралі.

Зараз-жэ бальшавікі пачалі арганізаваць свае “раўкомы” і пачалі арэштовываць жыхароў, у тым ліку беларусаў: Пчыцкага, з сынам; Лукашэвіча, Штрандмана, вучыцеля гімназіі Ларыёнава, грамадзян: Каспаровіча, Тарасюка і інш., каторыя і да апошняга часу сядзяць у турме. Пачаўся голад, фунт чорнага хлеба каштуе 300 руб. і то яго не лёгка дастаць. Тэрорызаваныя арэштамі, рабункамі і голадам жыхары, нават тыя, каторыя датуль спаўчувалі бальшавізму, пачалі шчыра чэкаць літвіноў, каторыя прынясуць ім хлеб і спакой. Цікава аднатаваць, што нават працоўнікі Горадзенскія ў большасьці не прыхіляюцца да бальшавікоў. Да прыкладу: працаўнікі вядомай фабрыкі Шэрэшэўскага, калі па прыказу бальшэвікоў выбіралі сваё упраўленьне, то пакінулі на сваіх пасадах дырэктароў і іншых кіраўнікоў. Усе чэкаюць літвіноў і хацяць аставацца на літоўскай службе. Яны атрымалі 18 жніўня прыказ зарэгістравацца дзеля выезду з Горадні з бальшэвікамі, але заявілі пратэст і кажуць, што лепей паўцекаюць і пахаваюцца, чым выежджаць з бальшэвікамі. Беларускі кааператыў хоць і зрабавалі бальшавікі, але арганізацыя застаецца. Дзеяльнасьць Горадзенскага Белрускага Камітэту пры бальшэвіках некольки запынілася, таму што Старшыня Камітэту Баран, разам з Дзекуць-Малеем, прыхіліўся да бальшэвікоў (Баран камісарам справядлівасьці, а Дзекуць-Малей – камісарам сацыяльнага абазпечэньня); Дзекуць-Малей, як камісар Сацыяльнага Абэзпечэньня, па бальшэвіцкаму закераваў Беларускай жаноцкай школай і прытулкам, перэправадзіўшы школу і прытулак ў іншае памешканьне і кераўніцамі пасадзіў большэвічку жыдоўку і якуюсь не вядомую вучыцельку.

У апошніх днях бальшэвікі ўзяліся за хуткую працу, каб залажыць свае арганізацыі і пакінуць іх ў Горадні пасьля свайго выйсьця і потым даваць ім на працу грошы. Старшыня бальшэвіцкага “рэўкома” у Горадні Славінскі (паляк з Менску) казаў: “Мы аддадзём Городно белым літоўцам, штыкамі навязываць ім сваю праграму ня будзем – гэта справа літоўскага пралетарыяту, якому мы будзем памагаць іншымі сьродкамі”...[79]

У пэўны момант простыя жыхары Гародні вырашылі, што найлепшым адносна новай улады будуць... уцёкі з горада!

Ізноў працытуем фрагмент з фельетона А. Бухава: “...Жил я с большевиками больше двух месяцев. Сначала мы понравились друг другу, но к концу - как бывает и во всяком романе - наступило довольно серьезное охлаждение с обеих сторон.

Как и всегда, вмешалось третье лицо - новая чрезвычайка какой-то из проходящих мимо армий. Если к этому добавить, что одновременно с ней в Гродно появился сам Дзержинский, вы поймете то чувство некоторой неловкости, которое невольно охватило меня.

В один очень нехороший вечер ко мне пришел знакомый коммунист, парень очень хороший и добродушный, и сказал:

79 К. “Весткі з Горадна” // Пагоня. 2.9.1920. № 6. С. 2.

- А вас ждут.

- Смотря по тому, где, - довольно кисло отозвался я, - если в кинематографе или в ресторане…

- Хуже. В новой чеке.

- Не завидую, - искренно сознался я, - им предстоит долгое ожидание.

В ту же ночь я сложил в банный мешок два воротничка, зажигалку, коробку спичек к ней, носовой платок и две рукописи и вышел из дому.

Всю ночь я бродил по городу, пока утром мне кто-то не объяснил, что теперь бояться нечего, так как тот чекист, который непременно хотел меня расстрелять, уехал в Белосток и наверное обо мне забудет, ибо имеет сверхъидейное тяготение к коньяку.

- Вот если он вернется, тогда другое дело.

Я решил, что дожидаться этого возможнаго свидания не имеет никакого практическаго смысла и решил все-таки испариться из города. Как раз в это самое время поляки вспомнили, что если они снова вернутся в город, это будет вполне остроумным трюком. Я плохой стратег и не знаю, как это произошло, но через день в городе снова началось необычайное оживление: кто-то стрелял в него с одной стороны, кто-то - с другой.

Трудно сказать, до чего мне это не понравилось…

- Знаете что, - мысленно сказал я обеим сторонам, - я, кажется, вам здесь немного мешаю… Попробуйте выйти из положения без меня…

На другой день утром, подобрав подходящую компанию из четырех молодых людей с крепкими ногами, сильным желанием куда-нибудь утечь и общим багажом в три фунта, мы двинулись в путь…”[80].

У вельмі падобных фарбах апісваліся падзеі і на старонках цытаванай ужо вышэй газеты “Пагоня”: “Горадзенскія беларусы перажываюць дужа цяжкі крызыс, дзякуючы тэррору ўходзячых бальшавікоў, арэштам імі беларускіх дзеячоў, голаду і страху, каб не зьвярнуліся ўзноў палякі, бо як палякі прарвалі бальшавіцкі фронт каля Беластоку, тутошнія палякі пачалі разгалошываць, што прыдзе польскае войска і будзе худа, асабліва жыдом і беларусом. З Горадна, баючыся бальшавіцкай мабілізацыі, многа ўцекае ў бок Друскенік. Шмат уцякло і беларускіх дзеячоў і з той прычыны, што ў галаве горадзенскіх “рэўкомаў” стаяць палякі: Бакшыцкі, Славінскі, Дзержынскі і на’т Мархлеўскі...”[81].

Наступныя крокі савецкай улады адносна беларускага руху наогул мелі варожы характар. Прыкладна ў сярэдзіне верасня ў Гародні былі арыштаваны кіраўнік Гарадзенскага БНК С. Баран ды сакратар БНК

80 Арк. Бухов. Кусочек воспоминаний // ”Эхо”. 16.2.1923.

81 “Весткі з Горадна” // Пагоня. 16.9.1920. № 8. С. 2.

С. Якавюк[82] і высланы у якасці заложнікаў з горада[83].

Дзеянні бальшавікоў, тым ня менш, маглі быць не беспадстаўнымі. Вось, што аб гэтым пісаў Ул. Крынскі: “...Сярод беларускага грамадзянства пачалася дасьпяваць думка аб паўстанча-вызваленчай акцыі... На чале гэтай акцыі станулі хаваўшыеся дагэтуль у Горадні ўдзельнікі зялёнадубскага руху (арганізацыі) “Зялёны Дуб” палкоўнік Адамовіч і ягоны сын “Дзяргач”...”[84].

Аднак, былі і вонкавыя прычыны абвастрэння адносінаў паміж бальшавікамі і мясцовым насельніцтвам. Гаворка ідзе пра агульную сітуацыю на польска-савецкім фронце, якая змянілася кардынальным чынам у сярэдзіне жніўня 1920 г.. Ужо 21 жніўня Гарадзенскі РВК выдаў загад аб агульнай працоўнай мабілізацыі мясцовага насельніцтва (выключэнне тычылася цяжарных жанчын і жанчын, чыя дзеці не дасягнулі ўзросту дванаццаці год, калекаў, савецкіх служачых, лекараў, фельдшараў і акушэраў)[85].

Звесткі з фронту аб гэтак званай “Варшаўскай катастрофе” наогул выклікалі паніку сярод кіраўнікоў савецкай улады (Вельмі характэрнай у гэтым сэнсе падаецца сітуацыя з загадчыкам аддзела працы, які 22 жніўня выехаў у м. Індуру з мэтай арганізаваць там святочны мітынг для чырвонаармейцаў з “гандлем, ...зборам бялізны, маніфестацыяй і палітычным выступленнем”, а замест гэтага сустрэў на дарозе... калоны адступаючых чырвонаармейцаў[86])! 23 жніўня штаб тылу чацвёртай арміі выдаў сакрэтны загад № 10 аб эвакуацыі Гарадзенскага рэўкома, якая з большага нагадвала раптоўныя ўцёкі. Пазней самімі бальшавікі называлі гэтыя падзеі не інакш, як “гарадзенскі пераварот” і “хаос” ( Гэтак, напрыклад, пры пагрузцы на чыгунцы рэўтрыбунал быў проста выкінуты з вагону на перон прадстаўнікамі чацвёртай арміі. Прапала частка архіва [87])!

26 жніўня Гарадзенскі рэўкам - у Віцебску, а праз тры дні пачынае дзейнічаць ліквідацыйная камісія ў складзе Кунда, Мамантава, Валавай ды Песецкага. Былы нам старшыні рэўкома Кунда нават накіраваў у Гародню адказнага сакратара гарадзенскага крымінальнага аддзела Элізарава з тым, каб той сабраў ўсю справаздачнасць аб грашовых сумах з загадчыкаў аддзелаў і пададдзелаў Рэўкому пасля іх эвакуацыі.

82 Больш падрабязна пра постаць С. Якавюка гл.: Вашкевіч А., Нарэль Д. Сымон Якавюк: адраджэнец, спэкулянт, манархіст і савецкі дывэрсант // ARCHE-пачатак. 2005. № 5. С. 176-232.

83 Магчыма, аднак, што арышт С. Барана з’явіўся вынікам распачатай бальшавікамі кампаніі супраць беларускіх эсэраў, відным дзеячом якіх той з’яўляўся // Беларускае слова. 1920. № 20; Платонов Р., Сташкевич Н. Тернистый путь к свободе // Неман. 1992. № 11. Арк. 160 – 161.

84 Той жа Ул. Крынскі, аднак, дадае, што ўжо далейшыя падзеі на польска-савецкім фронце перакрыжавалі ўсе планы... // Крынскі Ул. Адраджэнскі рух у Горадзеншчыне // Новая дарога. 13.11.1942. № 34. 4-5.

85 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр 3. Арк. 2.

86 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 59.

87 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 57; Там жа. Спр. 15. Арк. 82-84.

Пры гэтым яму прадпісвалася “арыштоўвываць і дастаўляць у распараджэнне РВК у Віцебск усе асобы звязаныя са справаздачнасцю”[88]. Па патрабаванню Славінскага была ўзбуджана крымінальная справа па факце эвакуацыі Гарадзенскага рэўкому, якая, аднак, пазней гэтак і заглухла. Загадам РВК Заходняга фронту ад 9 верасня рэўком быў расфарміраваны: польскія камуністы са складу Гарадзенскага РВК былі адкамандзіраваныя ў склад Польбюро, камуністы іншых нацыянальнасцей – у Пузап ды Прадкам, вайсковаабавязаныя палякі трапілі ў штаб Польскай арміі, якая гэтак і не была арганізавана. Усе астатнія супрацоўнікі пераходзілі ў распараджэння мясцовага ўезднага ваенкамата ды Цэнтральнага бюро КПЛ і Б[89].

Прыкладна у канцы жніўня паўстаў другі з ліку рэўком, пра дзейнасць якога дакладна нічога невядома[90]. З вялікай доляй верагоднасці, аднак, можна дапусціць, што ён абмежаваўся выключна інтарэсамі фронту і да спраў грамадскага жыцця больш не звяртаўся. Улічваючы надзвычайныя ўмовы ў якіх прыйшлося функцыянаваць гэтаму зноўпаўсталаму рэўкому, жыхарам горада наўрад ці прыходзілася разлічваць на дапамогу з ягонага боку.

Апошнія дні панавання новай улады былі найгоршымі. Саветы вывезлі з Гародні ў накірунку Ліды каля 400 польскіх заложнікаў. Сярод іх - мясцовыя каталіцкія святары - айцец Гвардыян з касцёлу францысканцаў, айцы Антоній Леоша і Андрэй Булка з Фарнага (яшчэ двум святарам – Хруневічу і Чупрэку ўдалося напярэдадні збегчы з горада)[91]. На гарадскіх ускраінах - на Сабачай горцы, у Станіславове, Рубанаўцы, Панямуні расстрэльвалі заложнікаў з цэнтральных раёнаў Польшчы. З уласна жыхароў Гародні загінулі дзеячы мясцовай Польскай вайсковай арганізацыі (ПАВ.) Ян Кучарскі, Ян Шкварко, Альбін Данцыгер, Вітальд Пашкевіч, паліцэйскія чыноўнікі Талочка, фурман Куннес, купец Шварц, Лапін, І.Дашута, Ф.Шаркоўскі, С.Яраш, Н.Вольскі, Р.Поланская ды інш.[92] (характэрна, што ўвесь гэты час адзін з мясцовых жыхароў – доктар К. Бялецкі хаваў у вайсковым шпіталі польскага афіцэра М. Лана[93]).

Вядомы гарадзенскі гісторык Юзэф Ядкоўскі ўжо пазней напісаў: “... Амаль дзесяць тыдняў пад вольналюбівымі лозунгамі горад заставаўся ў сферы бальшавіцкага раю. Дзесяткі расстраляных, сотні вывезеных, здзекі над польскім насельніцтвам, разбураная гаспадарка, разрабаванне ўсяго, што можна было разрабаваць на працягу гэтага часу…”[94].

Своеасаблівым эпілогам гісторыі саветызацыі Гародні стаў наступны

88 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 34.

89 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 116.

90 У архіве захавалася толькі перапіска паміж “старым” і “новым” РВК, які патрабаваў вярнуць грошы // ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 109.

91 Echo Grodzienskie. 1920. № 154 (1).

92 Jednodniowka koła związku P.O.W. Grodno. Grodno, 1936. S. 31.

93 Echo Grodzienskie. 1920. № 219 (65).

94 J. Jodkowski Grodno. S. 5.

дакумент: “Я зампредревкома Кундо 6 сентября 1920 г. ввиду ликвидации ревкома и переезда его в город Минск сдал Витебскому Губернскому Военному комиссариату в лице товарища приёмщика Т. Крупенина: одно седло; один велосипед; семь винтовок и сто восемьдесят штук разных патронов…”[95].

Як бачым, Гарадзенскі рэўком праіснаваў месяц, большасць яго аддзелаў працавала усяго два тыдні, тады, як сама савецкая ўлада пратрымалася ў Гародні да канца верасня 1920 г., калі горад зноў перайшоў у рукі палякаў. Аднак, быў яшчэ адзін вельмі істотны момант, пра які забываліся ўзгадаць савецкія гісторыкі, пішучы пра ўсталяванне савецкай ўлады на Гарадзеншчыне. Яшчэ за два дні да пачатку наступлення Чырвонай арміі летам 1920 г. – 12 ліпеня ў Маскве было падпісана мірнае пагадненне Савецкай Расеі з Літвой. Паводле гэтай дамовы савецкі бок абавязаўся перадаць літоўцам, як толькі дазволіць сітуацыя на фронце, адбітыя ад палякаў... Вільню і Гародню[96]! Значыць, што бальшавікі, якія прыйшлі ў Гародню, увесь час кагосьці падманвалі, але каго: літоўцаў, мясцовае насельніцтва? Праўду сказаць, гэта самая Новая ўлада жыла па сваіх, вядомых толькі ёй законах...

95 ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 4.

96 Казлоў Л., Цітоў Ан. Беларусь на сямі рубяжах. Мн., 1993. С. 30-32.

*Ян Ежы Мілеўскі (Беласток)*

# ЗАСНАВАННЕ І ПРЫЗНАННЕ ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ ІМЯ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ ГОРАДА ГАРОДНІ*

Пра Гародню ў міжваенны перыяд часта гаварылі як пра “горад Баторыя”, але таксама можна было яго называць і “горадам Ажэшкі”. Наколькі постаць караля Стэфана Баторыя звязана з мінулым хараством горада, настолькі Ажэшка лічылася амаль сучаснасцю. Хоць знакамітая пісьменніца і памерла за некалькі гадоў да пачатку вайны, але жылі яшчэ людзі, якія былі з ёй знаёмыя, дасканала памяталі яе грамадскую дзейнасць, услаўлялі яе творчасць. А таксама стараліся рознымі спосабамі замацаваць той факт, што пісьменніца жыла ў горадзе некалькі дзесяцігоддзяў. Яе імем назвалі вуліцу, гарадскі тэатр, Таварыства апекі над дзецьмі, Таварыства сяброў літаратуры і мастацтва, Занёманскае дабрачыннае таварыства. Намаганнямі аддзела гарадзенскага Таварыства сяброў Элізы Ажэшкі ў лістападзе 1926 г. на доме пісьменніцы адкрылі мармуровую таблічку памяці, а ўрачыстасць аздобіў хор Дзяржаўнай настаўніцкай жаночай семінарыі імя Элізы Ажэшка. Праз тры гады каля дома паставілі помнік пісьменніцы. Адначасова Камітэт пабудовы помніка апублікаваў спецыяльную брашуру, у якой пісалася: “Сардэчным і сапраўды моцным культам акаляе Гародня памяць Элізы Ажэшкі”[1].

Міжваенная Гародня, якая пасля першай сусветнай вайны страціла статус губернскага горада, пакутавала ў павятовым “гарсэце” і ўсё яшчэ мела надзею на тое, што будзе адыгрываць важнейшую ролю. Ужо на пачатку 20-х гадоў, нягледзячы на тое, што ў горадзе размяшчалася некалькі установаў акруговага характару, жывіліся надзеі на размяшчэнне тут уладаў ваяводства (гэтыя ідэі звязваліся з планамі на змяненне межаў Навагрудскага ваяводства і перанясення сядзібы яго адміністрацыі ў Гародню). Пазней галоўны цяжар актыўнасці перамясціўся на грамадска-культурную дзейнасць. Тут у 1926 г. з’явіўся Часовы Урад паўночна-

* Пераклад з польскай мовы Дзіны Сазонавай

1 Elizie Orzeszkowej w hołdzie. Grodno, 1929. S. 42.

ўсходніх дзяржаўных земляў, была таксама зроблена прапанова будовы рынку, штуршком да якой стала стварэнне, пачынаючы з 1928 г., паўночнага рынку ў Вільні.

Гародня адрознівалася актыўнасцю, асабліва ў дачыненні культуры, і таму вылучалася сярод усяго рэгіёну. У горадзе быў стары тэатр – некаторы час тут знаходзілася частка вядомай у Польшчы “Рэдуты”, потым вандроўны тэатр Беластоцкага ваяводства. Падумвалі таксама пра стварэнне вышэйшай установы адукацыі, арганізуючы спярша Гістарычную бібліятэку. Гарадзенскія літаратары тым часам гасцілі ў Вільні на так званых “Літаратурных серадах”, а самі рабілі спробы арганізаваць такія імпрэзы ў сваім горадзе па суботах.

Спалучэнне культурных амбіцый гарадзенскай эліты з культам Элізы Ажэшкі стала вынікам ідэі стварэння літаратурнай прэміі, якую назвалі ў гонар пісьменніцы. Стымулам было тое, што некалькі буйных гарадоў ужо мелі такія прэміі. Гародня таксама мусіла далучыцца да гэтай эліты.

Упершыню залажэнне літаратурнай прэміі прапанавала Гарадская Рада 13 снежня 1928 г. – у гонар дзесяцігоддзя незалежнасці. Гэтую справу прыпомніла амаль паўтара года пазней Таварыства сяброў літаратуры і мастацтва імя Элізы Ажэшкі, магчыма пад уплывам факту ўручэння ўпершыню ў сакавіку 1930 г. літаратурнай узнагароды горада Вільні (лаўрэаткай стала Казіміра Іллакавічоўна). Да таго ў чэрвені таго ж года чакалі прыезду ў Гародню прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага, і прысуджэнне гэтай прэміі павінна было стаць дадатковай урачыстасцю[2]. Апошні факт выклікаў актыўнае развіццё гэтай справы. 7 мая прапанова была разгледжана кіраўніцтвам горада і перададзена ў Гарадскую раду, але яшчэ перад яе пасяджэннем прапановай занялася Культурна-асветніцкая камісія, якая запрасіла на сход у якасці эксперта вядучага паэта і працаўніка радыё Вітольда Хулевіча. Ён расказаў пра гісторыю, статуты іншых літаратурных прэмій у Польшчы, што паўплывала на ўвядзенне шэрагу паправак у праект правілаў гарадзенскай прэміі[3]. Гарадской радзе было канчаткова прапанавана заснаванне Літаратурнай прэміі імя Элізы Ажэшка горада Гародні ў памеры 5 тыс. злотых, якая б прысуджалася кожныя тры гады (ініцыятарам было Таварыства сяброў літаратуры і мастацтва, якое прапанавала спачатку даваць прэмію раз у два гады). Прысуджэнне прэміі мелася адбывацца ў гадавіну смерці Элізы Ажэшкі, г. зн. 18 траўня. Як выключэнне ўрачыстасць у 1930 г. планавалася перанесці на чэрвень у сувязі з прыездам у горад прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага. Прэмію павінны былі прысуджаць “за арыгінальную літаратурную і навуковую творчасць, цесна звязаную з мастацкай літаратурай, тым аўтарам, якія пішуць на польскай мове, якія ў сваёй творчасці ці ўпаміналі б Усходнія Землі Рэчы Паспалітай, ці паходзілі б з тых зямель, ці працавалі б на іх, ці сваёй дзейнасцю выказвалі б да іх вялікі інтарэс”[4].

[2] Дзяржаўны абласны архіў г. Гародня (далей ДАА). 46/1/5. А.110.

[3] Kurier Wileński, 16 V 1930. № 112.

[4] ДАА. 46/1/6. А.150.

Гарадская рада на пасяджэнні 15 траўня 1930 г. па прапанове дэпутата ад ББСУ[5] Баляслава Казона перамяніла вышэй узгаданы праект. Было канчаткова вырашана, што прэмію прысудзяць адзін раз, зменяць яе назву з “літаратурнай” на “навуковую” і знізяць суму да 3 тыс. злотых. Змяншэнне сумы не здзіўляла, таму што якраз пачаўся гаспадарчы крызіс і гарадскія ўлады мелі сур’ёзныя фінансавыя праблемы. Нечаканымі былі папраўкі ў складзе Камітэта прэміі. Спачатку ў яго складзе мелі быць: прэзідэнт Гародні, два прадстаўнікі Гарадской рады, а таксама па адным ад Універсітэта Стэфана Баторыя, Саюза літаратараў у Вільні, Таварыства сяброў літаратуры і мастацтва ў Гародні, а таксама Таварыства імя Элізы Ажэшкі ў Гародні. Пасля зменаў у складзе Камітэта прэміі не знайшлося месца для прадстаўнікоў трох апошніх арганізацый, у тым ліку і ініцыятараў залажэння прэміі. Адначасова былі далучаныя дэлегаты Навуковай касы імя Мяноўскага, Акадэміі Навук у Каракаве і Варшаўскага навуковага Таварыства[6].

Павелічэнне складу журы асобамі з іншых і аддаленых гарадоў было тым больш дзіўнае, што да ўручэння прэміі заставалася вельмі мала часу. Таму праз тыдзень магістрат пастанавіў не склікаць журы, а яго правы перадаць Гарадской радзе.

Спешка аднак аказалася лішняй, бо прэзідэнт Масціцкі не прыехаў. Выкарыстоўваючы гэта, прыхільнікі ўзнагароды ў папярэдняй яе версіі (сталая літаратурная ўзнагарода, якая прысуджалася б кожныя тры гады ў суме 5 тыс. злотых) пачалі контрнаступ. Перагляд рашэння ад 15 траўня і вышэй узгаданых правілаў прапанаваў ад імя Хрысціянскага кола дэпутат Рамуальд Пул’ян. 18 чэрвеня 1930 г. Гарадская рада адмяніла сваё папярэдняе рашэнне ў справе аднаразовай ўзнагароды і выступіла за сталую літаратурную прэмію імя Элізы Ажэшкі, пры гэтым упершыню яна павінна была быць прысуджана 17 траўня 1932 г., г. зн. перад днём 22 гадавіны смерці пісьменніцы. Да 1 кастрычніка 1930 г. культурна-асветніцкая камісія павінна была распрацаваць Падрабязны статут прэміі[7].

Да справы вярнуліся аднак – невядома чаму – толькі на пачатку траўня 1935 г., перад 25 гадавінай смерці Ажэшкі. Тады прыпомнілася рашэнне трохгадовай даўнасці. Урад горада хаця б часткова хацеў вывязацца з прынятых раней абавязкаў. Па прычыне цяжкага фінансавага становішча урад прапанаваў прызнанне літаратурнай прэміі, якая прысуджалася б адзін раз сумай 3 тыс. злотых, якая была б уручана 17 траўня 1936 г. І зноў на культурна-асветніцкую камісію ўскладаўся абавязак у найбліжэйшы час прыгатаваць праект новага рэгламенту[8].

Амаль аднагалосна 12 снежня 1935 г. Гарадская рада прыняла статут прэміі. Тры дэпутаты не прагаласавалі, мабыць па прычыне роз-

---

[5] * Беспартыйны блок супрацоўніцтва з урадам (па польску: BBWR – bezpartyjny blok współpracy z rządem)

[6] Тамсама. А.154.

[7] Тамсама. А.171, 196.

[8] Тамсама. 46/1/284. А.31.

нагалосся, якое датычылася складу конкурснага журы. Дэпутат Пул'ян быў супраць таго, каб у склад Камітэту прэміі запрашалі прадстаўнікоў Акадэміі літаратуры, а выступаў за перавагу ў ім мясцовых асобаў. Аднак ён не знайшоў падтрымкі сярод большасці дэпутатаў. Канчаткова ў склад Камітэту прэміі павінна было ўваходзіць 8 чалавек: прэзідэнт горада, два прадстаўнікі Гарадской рады, кіраўнікі Культурна-асветніцкай камісіі, дэлегаты гарадзенскага Таварыства імя Элізы Ажэшка і Таварыства сяброў літаратуры і мастацтва, а таксама Акадэміі літаратуры і прафесар літаратуры з Універсітэту Стэфана Баторыя, які выбіраўся сенатам універсітэта. Прэмія павінна была быць прысуджаная за "літаратурную творчасць, звязаную з людзьмі, якія жывуць на паўночна-ўсходніх землях Рэчы Паспалітай"[9]. Тэрмін прапановы кандыдатаў канчаўся 1 сакавіка 1936 г., 3 траўня старшыні гарадскога самакіравання трэба было абвясціць лаўрэата, а ўручэнне прэміі павінна было адбыцца падчас урачыстага пасяджэння Гарадской рады 18 траўня 1936 г.

На жаль, ніводнага тэрміну не ўдалося датрымаць. У гэтай сітуацыі Гарадская рада 7 траўня 1936 г. нечакана змяніла два параграфы статута, пастанавіўшы, што кандыдаты могуць быць прапанаваны прэзідэнтам горада да склікання першага пасяджэння Камітэта. Камітэт жа меў вызначыць лаўрэата не пазней 14 траўня. Засталося роўна 7 дзён. На тым жа пасяджэнні былі выбраныя два прадстаўнікі Гарадской рады ў Камітэт прэміі, імі сталі Стэфанія Носцітц-Яцкоўская (28 галасоў) і Мар'ян Буда (24 галасы). Не прайшоў трэці кандыдат: Лазар Мейлаховіч (8 галасоў), прапанаваны дэпутатам Якубам Эфронам. Паколькі габрэйская супольнасць, якая з асаблівай павагай адносілася да асобы і творчасці Элізы Ажэшкі, вельмі спадзявалася на хаця б сімвалічны ўдзел у гэтай справе яе прадстаўніка, Эфрон прапанаваў павялічыць Камітэт да дзевяці чалавек і далучыць Мейлаховіча. Прапанова гэта аднак адпала, калі яе падтрымала толькі 9 дэпутатаў (26 былі супраць, а 3 устрымалася)[10]. Дапоўню, што Лазар Мейхаловіч валодаў выдавецтвам (вул. Гараднічанская, 3), у якім у 1929 г. была надрукавана кніга "У гонар Элізы Ажэшкі". Адным з рэдактараў была Стэфанія Носцітц-Яцкоўская, якая дагэтуль з'яўлялася рэдактарам газеты "Гарадзенскае рэха" і сябрам Аддзела Выканаўчага Камітэта будовы помніка Элізы Ажэшкі.

Конкурснае журы, якое сабралася 9 траўня, прысудзіла ўзнагароду 75-гадоваму пенсіянеру, прафесару Універсітэта Стэфана Баторыя Мар'яну Здзяхоўскаму. З 1899 г. ён быў прафесарам Ягелонскага Універсітэта, а з 1919 г. выкладаў у Вільні, (з 1925 па 1927 г. – рэктар). Здзяхоўскі быў незвычайна ўсебаковым навукоўцам: гісторыкам славянскіх літаратур, займаўся расейскай праблематыкай, быў літаратурным крытыкам, філосафам, публіцыстам. Кансерватар па перакананнях, але адначасова вельмі ўражлівы на грамадскія праблемы, меў вялікі маральны аўтарытэт, указваў на сімптомы разлажэння і асцерагаў перад небяспекай гібелі

[9] Тамсама. А. 90-91, 97. У выніку праект прэміі, згодна якому яна прысуджалася аўтару, які нарадзіўся або жыў на паўночна-ўсходніх землях, змяніўся.

[10] Тамсама. 46/1/285. А.25.

хрысціянскай культуры, быў супраць лозунгаў шавінізму і ўсялякіх крайнасцей. Таму не дзіўна, што, калі ў Вільні 15-18 лютага 1933 г. адзначалі 50-годдзе яго працы як пісьменніка, ён атрымаў віншавальныя граматы і ад кардынала Хлёнда, і ад архіепіскапа Тэадозія. Падчас урачыстасці апроч іншых выступіў старшыня Саюза польскіх татараў, а таксама рабін габрэйскай гміны ў Вільні Ісаак Рубінштэйн; расейскія таварыствы, злучыўшыся, арганізавалі спецыяльнае ўрачыстае пасяджэнне ў гонар юбіляра[11].

Ажэшка падзяляла многія погляды Здзяхоўскага на грамадскія і літаратурныя праблемы, акрамя таго збліжала іх і тое, што абодва паходзілі з усходніх земляў. З яго малодшым братам Казімірам (ён быў пісьменнікам) яна перапісвалася на працягу некалькіх гадоў. У 1908 г. Ажэшка гасціла ў радавой сядзібе Здзяхоўскіх у Ракаве, а раней Мар'ян многа разоў наведваў яе ў Гародні. У 1904 г. пісьменніца звярнулася да прафесара Здзяхоўскага з просьбай падпісаць мемарыял польскіх навукоўцаў, якія прапанавалі яе кандыдатуру на Нобелеўскую прэмію[12].

Блізкія адносіны Ажэшкі і Здзяхоўскага знайшлі адлюстраванне ў кнізе, выдадзенай у 1929 г. у Гародні. У ёй былі апублікаваныя 9 лістоў пісьменніцы да прафесара з яго уступам, дзе ён між іншым напісаў: "З маладых гадоў я захапляўся пісьменніцай, якая так выразна цікавілася намі, г. зн. маладым пакаленнем, якое толькі выходзіла на сцэну жыцця"[13]. Гэта сапраўды істотна паўплывала на тое, што ўзнагароду атрымаў Здзяхоўскі.

Урачыстасць уручэння прэміі, якая павінна была адбыцца 18 траўня 1936 г., перанеслі, таму што лаўрэат не мог своечасова прыехаць у Гародню. А 16 – 17 траўня адзначалася 25-я гадавіна са дня смерці Ажэшкі, якая мелася адзначацца яшчэ год таму. Па прычыне жалобы пасля смерці Юзафа Пілсудскага ўрачыстасць немагчыма было арганізаваць у траўні папярэдняга года. 25-я гадавіна супала з прыездам культурна-асветніцкіх дзеячаў з паўночна-ўсходніх зямель. У першы дзень, 16 траўня ў суботу, да помніка Ажэшкі былі ўскладзеныя кветкі, потым у тэатры паказалі пастаноўку, перад якой выступіў прафесар Юзэф Вежыньскі. У другі дзень раніцай кветкі ўсклалі на магілу пісьменніцы, а потым гадавіне смерці Элізы было прысвечана набажэнства ў фарным касцёле. Асноўная частка мерапрыемства праходзіла у клубе гарнізона – выступілі прафесар Конрад Гурскі з Універсітэту Стэфана Баторыя, прафесар мясцовай гімназіі Ян Каханоўскі і ксёндз канонік Віктар Патшэбскі[14].

Спецыяльнае паседжанне Гарадской рады, у час якога прэмію ўручылі Здзяхоўскаму, адбылося толькі 18 чэрвеня – прафесар затрымаўся ў Гародні, калі вяртаўся з паседжання Акадэміі навук. Прэзідэнт горада палкоўнік Віктар Міскы, вітаючы лаўрэата, падкрэсліў, што грамадства з

[11] Гл.: 50-lecie pracy pisarskiej Mariana Zdziechowskiego. Wilno, 1933.

[12] Orzeszkowa E. Listy zebrane, t.VIII. Wrocław, 1976. S.283. У зборніку змешчана 11 лістоў да М. Здзяхоўскага.

[13] Elizie Orzeszkowej..., op.cit. S. 25.

[14] Słowo. 13 V 1936. № 131; 17 V 1936. № 135; 19 V 1936. № 137.

радасцю прыняла навіну прысуджэння прэміі Здзяхоўскаму, таксама ўзгадаў, што менавіта прафесару Эліза Ажэшка пісала наступнае: “Прашу таксама, каб Вы паверылі, што кожны раз, калі Вы пішаце да мяне, мне робіцца прыемна, што я з цікавасцю іду Вашымі сцежкамі, што я Ваша сяброўка, якая вельмі Вас паважае і ўдзячная Вам”[15].

Пасля таго, як прэмія была ўручана, выказаўся таксама прадстаўнік Камітэта прэміі ксёндз Віктар Патшэбскі, які вызначыў ролю Гародні (як кораня, які спалучае паўночныя і цэнтральныя землі), а таксама ролю Ажэшкі (гэта Боская воля асадзіла яе тут ў цяжкія часы, каб яна выконвала вялікую місію, абараняла польска-лацінскую культуру).

Тон прамовы лаўрэата трохі адрозніваўся ад выступленняў яго папярэднікаў. Здзяхоўскі, падзякаваўшы за тое, што яго вылучылі сярод іншых, узгадаў свае кантакты з Ажэшкай і дадаў, што лічыць сябе прадаўжальнікам яе ідэі. Аднак пазней ад яго прамовы павеяла песімізмам. Маючы на ўвазе цяперашні час, ён падкрэсліў, што Эліза Ажэшка не змагла б пагадзіцца з сённяшнім паўсюдна пануючым “анты”. Пратакол пасяджэння Гарадской рады не ўдакладняе, што Здзяхоўскі меў на ўвазе, можа думаў пра тое, што рабілася ў суседзяў – у Савецкам Саюзе і ў Германіі. У бальшавізме ён бачыў увасабленне зла і жахлівы эксперымент над людзьмі: “Гэта антырэлігія, якая цягне чалавецтва з вышыні ў прорву нікчэмнасці” – пісаў Здзяхоўскі[16]. Ён засмучоны вярнуўся з Берліна, дзе ў 1935 г. прачытаў лекцыю Пра “Нябоскую камедыю” Красінскага. Ужо ў 1922 г. Здзяхоўскі засцерагаў перад дзвюма язвамі, якія з’ядуць Еўропу: нацыяналізмам і камунізмам[17].

Здзяхоўскі, так гаворачы ў Гародні, мог мець на ўвазе тое, што рабілася ў Польшчы. У чэрвені 1935 г. у горадзе Баторыя мелі месца антыгабрэйскія хваляванні, а ў сакавіку была падкладзена бомба пад будынак габрэйскага Таварыства аховы здароўя. Вядомы харвацкі пісьменнік Юліе Бенешыч, які ў той час быў у Польшчы, занатаваў, што прафесар “не задаволены габрэйскімі пагромамі, якія паўтараюцца ў цэлай Польшчы”[18]. Сам Здзяхоўскі прызнаваўся, што глядзіць на габрэяў “вачамі Міцкевіча і Ажэшкі”[19].

Уся ўрачыстасць уручэння прэміі цягнулася толькі 50 хвілін, вось так скончыліся шматгадовыя намаганні па яе заснаванні і выбары лаўрэата, вартага яе патронкі. Мар’ян Здзяхоўскі ў 1936 г. атрымаў яшчэ і прэмію імя Філаматаў. Ён памер 5 кастрычніка 1938 г. у Вільні. Загінула таксама і ідэя прысуджэння Літаратурнай прэміі імя Элізы Ажэшкі у горадзе Гародні.

---

15 ДАА. 46/1/285. А. 62. Гэта фрагмент заканчэння ліста, які пісала Ажэшка 20 I 1902 г.

16 Zdziechowski M. Wybór pism. Kraków, 1993. S.528.

17 Тамсама. S.51.

18 Benesić J. Osiem lat w Warszawie. Warszawa, 1985. S .275.

19 Zdziechowski M. Widma przyszłości. Wilno, 1939. S.12.

***Тадэвуш Гавін (Гародня)***

# ПРАЦЭС ПАЭТАПНАЙ ЛІКВІДАЦЫІ ПОЛЬСКАЙ АДУКАЦЫІ НА ГАРАДЗЕНШЧЫНЕ*

Сістэма адукацыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў пасляваенныя гады (1944 – 1948) была неад’емнай часткай палітычнай сістэмы ў СССР. Задачай адукацыі было фармаванне новага пакалення ў духу бязмежнай вернасці камуністычным ідэалам, савецкай уладзе, а таксама “выхаванне” новага савецкага чалавека. Вырашэнню гэтай задачы надавалася вялікае значэнне, у чым павінна была прыняць непасрэдны ўдзел адукацыя, якая станавілася істотным элементам ідэалагічнага выхавання. Сістэма адукацыі, створаная савецкай уладай у другой палове 1944 г., была працягам сістэмы, якая паўстала ў 1939 – 1941 гг.[1].

Польскія школы[2] функцыянавалі на тэрыторыі заходніх абласцей БССР у першыя пасляваенныя гады. Гарадзенская вобласць была

* пераклад з польскай мовы Юліі Марчук

[1] Больш па тэме: Szumski J. Sowietyzacja Zachodniej Białorusi 1944-1953. Propaganda i edukacja w służbie ideologii. Kraków, 2010. S. 229-261; ён жа, Szkolnictwo polskie na Grodzieńszczyźnie w latach 1939-1948. Sowietyzacja, likwidacja //Rozprawy z dziejów oświaty. T. XLIII. Warszawa, 2004; Likwidacja polskich szkół w rejonie sopoćkińskim w latach 1944-1948. // Magazyn Polski. Nr 1-2 (2002); Winnicki Z.J. Szkoły polskie na Białorusi w latach 1944-1946 – sytuacja na tle ogólnej sieci szkolnictwa. Porównanie współczesne [у:] Szkice kresowe. Wrocław, 1995; ён жа, Szkoły polskie na Białorusi w latach 1944-1946 // Głos znad Niemna. Nr 39 z 3-9.10.1994. S. 3, Nr 41 z 17-23.10.1994. S. 2; ён жа, Szkoły polskie na Białorusi w latach 1944-1946 – sytuacja na tle ogólnej sieci szkolnictwa - porównanie współczesne [у:] Studia Politologiczne 1995 r. Wrocław. S. 267 – 275; Grędzik A. Oświata i szkolnictwo polskie na Białorusi 1989-2001. Cz. 1. Kielce, 2004; Маржала Т. Польскія школы ў БССР пасляваенныя гады (1945-1949) // Беларускі гістарычны часопіс. № 4. 2003. С. 31; Gawin T. Polskie odrodzenie na Białorusi 1988-2010. Białystok, 2010.

[2] Ва ўсіх дзяржаўных дакументах цэнтральныя ўлады ў Маскве і Менску, а таксама мясцовыя ў Гародні да ліквідацыі апошняй польскай школы ў 1948 г. ўжывалі тэрмін *польскія школы*. З.Вінніцкі, А.Вялікі, Я.Шумскі ўжываюць тэрмін польскамоўныя школы. Мы ў поўнай меры можам сцвярджаць, што на сам рэч гэта былі польскамоўныя школы, бо функцыянавалі яны ў сістэме адукацыі СССР, рэалізоўвалі абавязковую для ўсіх аднолькавую праграму навучання, а ад іншых школ адрозніваліся толькі мовай навучання. Тым не менш, пакінем тэрмін *польскія школы*, каб не мяняць дакументы, да якіх мы будзем звяртацца.

вызвалена Чырвонай Арміяй ад нямецкіх акупантаў у канцы ліпеня 1944 г. Гэта стала прычынай таго, што ўлада не мела часу на грунтоўную падрыхтоўку да пачатку новага навучальнага года і перамяшчэнне педагагічных кадраў з усходу на месца польскіх настаўнікаў. Па гэтай прычыне ўлада павінна была часова згадзіцца на функцыянаванне польскіх школ. Гэта было вымушанае палітычнай сітуацыяй рашэнне, а не жэст добрай волі з боку ўлады.

У 1944/45 навучальным годзе ў Гарадзенскай вобласці было 114 польскіх школ, Брэсцкай – 88, у Пінскай – тры, Баранавіцкай – дзве[3]. (У наступным годзе гэтая лічба рэзка ўпала да 40 школ у Гарадзенскай вобласці і дзвюх у Брэсцкай. У 1946/47 навучальным годзе ў Гарадзенскай вобласці засталася толькі 21 польская школа, у якой вучылася 2 998 дзяцей, а таксама адна школа ў Брэсцкай вобласці[4].

Разыходжанне лічбаў, якія тычацца польскай адукацыі ў БССР, абумоўлена тым, што пададзеныя яны рознымі даследчыкамі. А гэта, ў сваю чаргу, звязана з тым, што адна і тая ж тэма даволі часта па-іншаму прадстаўлена ў справаздачах савецкіх і партыйных установаў, якія знаходзяцца ў Дзяржаўным архіве грамадскіх аб'яднанняў і Дзяржаўным архіве Гарадзенскай вобласці .

Улічваючы тое, што ў 1947-1948 навучальным годзе польскія школы функцыянавалі толькі ў Гарадзенскай вобласці, засяродзімся на пошуку прычын працэса ліквідацыі польскай адукацыі ў БССР на прыкладзе яе вынішчэння ў Гарадзенскай вобласці[5]. Мэтай гэтага пошуку будзе паказ механізмаў, якія павінна была выкарыстаць савецкая ўлада, каб канчаткова зліквідаваць варожую, на яе думку, польскую адукацыю на тэрыторыі Беларусі.

9 верасня 1944 г. ЦК ВКП(б) прыняў пастанову “Аб найбліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б) Беларусі ў галіне масава-палітычнай і культурна-адукацыйнай працы сярод жыхароў Беларусі”, у якой абавязаў Савет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б абнавіць у тэрмін да пачатка 1944-1945 навучальнага года на тэрыторыі вызваленых раёнаў сеткі пачатковых і сярэдніх школ, а таксама ахапіць адукацыяй усіх дзяцей школьнага ўзросту[6]. Савецкая адукацыя на Гарадзеншчыне была адноўлена на падставе агульнай рэзалюцыі беластоцкага абласнога выканаўчага камітэта народных дэпутатаў і абласнога камітэта КП(б)Б ад дня 22 жніўня 1944 г.[7] Гэта рэзалюцыя абавязвала партыйныя і раённыя

[3] Tokć S. Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSSR (1945-1959) // Białoruskie zeszyty historyczne. Białystok, 2004. S. 119.

[4] Маржала Т. Польскія школы ў БССР пасляваенныя гады (1945-1949) // Беларускі гістарычны часопіс. № 4. 2003. С. 31.

[5] Адной з афіцыйных прычын, прыведзеных уладай у справаздачах, быў масавы выезд дзяцей і бацькоў у Польшчу.

[6] Szumski J. Sowietyzacja Zachodniej Białorusi… S. 232.

[7] Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гарадзенскай вобласці (далей ДАГАГВ). Ф. 6195. В. 1. Спр. 163. Арк. 51-53.

ўлады адбудоўваць сістэму адукацыі, а таксама рыхтавацца да пачатку навучальнага года. З гэтай рэзалюцыі бачна, наколькі варожа ўлада трактавала аднаўленне польскай адукацыі. Ва ўсёй пастанове не было сказана ані слова, як павінны функцыянаваць польскія школы.

Акрамя таго, аднаўляючы сістэму савецкай адукацыі, беларуская савецкая ўлада ў 1944-1945 навучальным годзе паставіла мэтай знізіць да мінімуму адкрыццё польскіх школ. У якасці доказу гэтага сцвярджэння можа выступаць наступны факт: паўсюдна, дзе палякі патрабавалі адкрыцця польскіх школ[8], будзь то ў Гарадзенскім раёне, ці Бераставіцкім, ці Свіслацкім, ці ў іншых раёнах, адразу выязджала з Гародні група высокапастаўленых партыйных і савецкіх супрацоўнікаў, каб не дапусціць адкрыцця польскіх школ. У склад гэтай групы, як правіла, уваходзілі прадстаўнікі абласнога камітэта КП(б)Б, абласнога аддзела народнай адукацыі і раённых камітэтаў КП(б)Б[9]. Са справаздачы аб працы гэтых груп вынікае, што, каб прадухіліць з’яўленне польскіх школ, савецкія і партыйныя супрацоўнікі павінны былі правесці вялікую працу[10] , як сярод палякаў, так і сярод беларусаў, таму што большасць з іх хацелі аддаць сваіх дзяцей у польскую школу.

Змаганне палякаў за адкрыццё польскіх школ у Гарадзенскай вобласці насіла шырока распаўсюджаны характар. Раённыя ўлады ў сваю чаргу рабілі ўсё магчымае, каб не дапусціць адкрыцця гэтых школ. Наколькі пытанне польскамоўнай адукацыі было вельмі важным і палітычным для партыйнай і савецкай улады, паказвае той факт, што справа аб адкрыцці польскіх школ знаходзілася выключна ў кампетэнцыі органаў абласнога камітэта КП(б)Б. На падставе даследаваных архіўных дадзеных можна сцвярджаць, што адноўленая пасля вайны польская адукацыя ў Гарадзенскай вобласці была распаўсюджана амаль што выключна на левабярэжным баку Нёмана недалёка ад мяжы з Польшчай.

Акрамя тых польскіх школ, на якія ўлады далі згоду ў навучальным 1944-1945 годзе, адкрыццё чарговых школ было звязана з вялізнымі невырашальнымі праблемамі. Так, наконт справы адкрыцця польскіх школ у такіх мястэчках, як Індура, Малая Капліца і Парэчча Гарадзенскага раё-

8 Справа датычыцца мясцовасцей, у якіх пераважае польскае насельніцтва, дзе перад вайной польскія школы пад прымусам былі перафарміраваныя ў беларускія ці рускія, і менавіта такое становішча ўлада хацела захаваць пасля вайны. Адсюль гэты супраціў.

9 Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласці (далей ДАГВ). Ф. 730. В. 1. Спр. 5. Арк. 6. Справаздача аб працы пачатковых, сямігадовых і сярэдніх школ на пачатак 1944 – 1945 гг.

10 Стаўленне савецкай і партыйнай улады ў БССР, пазней лукашэнкаўскай у РБ у дачыненні да палякаў і іх жадання вучыць дзяцей на польскай мове маюць шмат агульных прыкмет. Калі ў канцы 80-х гг. і на працягу 90-х СПБ змагаўся за адкрыццё польскіх школ у Беларусі, супраць яго заўжды было такое ж процідзеянне ўлады, як і ў першыя гады пасля вайны. Так, напрыклад, у траўні 1988 г. падчас змагання групы палякаў за ўвядзенне вывучэння польскай мовы ў школе Ласосна Гарадзенскага раёна на бацькоўскі сход у сувязі з гэтай справай у школу прыехалі працаўнікі абласнога камітэта кампартыі, Гарадзенскага раённага выканаўчага камітэта, інспектар абласнога аддзела народнай адукацыі і кіраўнік раённага аддзела народнай адукацыі, якія рабілі ўсё, каб гэтага не дапусціць. (Gawin T.,Zwycięstwa i porażki. Białystok, 2003. S. 64).

на, у бюро абласнога камітэта КП(б)Б спецыяльна адбылося паседжанне, на якім было прынятае адмоўнае рашэнне наконт прапановы бацькоў, якія дамагаліся адкрыцця польскіх школ у вышэй згаданых мястэчках[11].

У Ваўкавыскім раёне ў Шылавіцкім і Янышэўскім сельсаветах у 1939-1941 гадах функцыянавалі беларускамоўныя школы, але ў 1944 г. бацькі адмовіліся аддаваць сваіх дзяцей у такія школы, патрабуючы ўвядзення польскай мовы. У Янышэўскім сельсавеце ніхто з дзяцей не пайшоў у беларускую школу, у Шылавіцкім сельсавеце атрымалася адкрыць толькі адну беларускамоўную школу. Падобная сітуацыя была ў іншых мясцовасцях Ваўкавыскага раёна, які быў прызнаны ўладай як беларускі. Вынікам гэтай сітуацыі ў навучальным 1944-1945 годзе было тое, што каля 24,2 % дзяцей Ваўкавыскага раёна увогуле не вучыліся[12].

У сувязі з недахопам педагагічных кадраў не было адноўлена 9 з запланаваных школ у Радуньскім раёне, а таксама па адной школе ў Васілішках і Воранаве[13].

Як выглядала сітуацыя ў пачатку навучальнага 1944-1945 года па пытанні аб колькасці польскіх дзяцей, колькасці польскіх школ і настаўнікаў у Гарадзенскай вобласці прадстаўляе ніжэй пададзеная табліца.

***Табліца №1. Інфармацыя аб колькасці і этнічным складзе вучняў, якая была падпісана 1 кастрычніка 1944 г. Высоцкім, абласным куратарам асветы***

| | Раёны | Колькасць вучняў | У тым ліку | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | Рускія | Беларусы | **Палякі** |
| 1. | Гародня | 6527 | 1019 | 1037 | **4471** |
| 2. | Гарадзенскі | 8189 | 319 | 5434 | **2448** |
| 3. | Бераставіцкі | 5577 | 16 | 3558 | **2019** |
| 4. | Скідзельскі | 6895 | 17 | 6403 | **475** |
| 5. | Свіслацкі | 4652 | 15 | 3757 | **880** |
| 6. | Сапоцкінскі | 4243 | 40 | 63 | **4140** |
| 7. | Ваўкавыскі | 10846 | 350 | 9576 | **920** |
| 8. | Жалудокскі | 4600 | 204 | 3886 | **510** |
| 9. | Васілішкаўскі | 4863 | 160 | 4503 | **180** |
| 10. | Радуньскі | 3534 | 34 | 3030 | **470** |
| 11. | Воранаўскі | 1963 | 70 | 1863 | **30** |
| 12. | Шчучынскі | 7694 | 270 | 6954 | **470** |
| 13. | Зэльвенскі*** | 6570 | 230 | 6340 | **-** |
| 14. | Ліда | 1460 | 400 | 181 | **880** |
| 15. | Лідскі | 8021 | 70 | 6751 | **1200** |
| 16. | Мастоўскі | 3887 | 151 | 2425 | **1311** |
| 17. | Поразаўскі | 5355 | 58 | 4000 | **1297** |
| Усяго | | 94876 | 3414 | 69761 | **21701** |

****Да дадзеных, якія датычаць колькасці польскіх вучняў, трэба падыходзіць з асцярогай. Сам факт, што ўлада прадэманстравала адсутнасць польскіх дзяцей у Зэльвенскім раёне, выклікае сумненне. У спісе за 1999 год пададзена, што ў гэтым раёне пражывала 6 650 палякаў. (Итоги переписи населения Республики Беларусь 1999 года. Национальный состав населения Республики Беларусь и распространение языков. Статистический сборник. Том 1. Минск 2001. С.160).*

11 ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 8. Арк. 111-112. Рэзалюцыя бюро абласнога камітэта КП(б)Б за 9 верасня 1944 г.

12 Szumski J. Sowietyzacja Zachodniej Białorusi… S. 237.

13 Winnicki Z.J. Szkoły polskie na Białorusi ... S. 51.

*Крыніца: ГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 2255. Арк. 1. Інфармацыя аб працы культурных і адукацыйных установ і агульнаадукацыйных школ Гарадзенскай вобласці. 1 лістапада 1944 г. – 15 лістапада 1944 г.*

Інфармацыя за 1 лістапада 1944 г. аб педагагічных кадрах у Гарадзенскай вобласці выглядала наступным чынам. Усяго настаўнікаў – 1703 чалавекі. Рускіх сярод іх – 160, беларусаў – 703, украінцаў – 8, палякаў – 815, габрэяў – 19, татараў – 1, літоўцаў – 2. У той час функцыянавала **100 польскіх школ**, у якіх вучылася 21 701 вучняў[14]. Як бачым, колькасць польскамоўных школ, пададзеных у гэтай крыніцы, паменшылася на 14 у параўнанні з колькасцю, якая была пададзена вышэй (114).

Першая справаздача Гарадзенскага гарадскога аддзела адукацыі за першае паўгоддзе 1944-1945 навучальнага года паказала вельмі высокі ўзровень навучання ў польскіх школах Гародні[15]. Адзінай скаргай на гэтыя школы было тое, што адсутнічалі ў іх піянерскія і камсамольскія арганізацыі[16].

Сітуацыя з польскай адукацыяй у Беларусі кардынальна пачынае мяняцца пасля таго, як пачалася так званая “рэпатрыяцыя” (перасяленне), якая ахапіла значную частку найбольш нацыянальна свядомага польскага насельніцтва, якое жыло на гэтых тэрыторыях. Найважнейшым ў прыняцці рашэння аб выездзе ў Польшчу было жаданне жыць і працаваць на радзіме, як і пачуццё асабістай небяспекі з боку савецкай сістэмы і яе палітыкі[17].

Справаздача аб становішчы народнай асветы ў Гарадзенскай вобласці за першае паўгоддзе 1944-1945 навучальнага года, скіраваная ў аддзел школ ЦК ВКП(б) (копія ў аддзел школ ЦК ВКП(б)Б), паказала, што ў Гарадзенскай вобласці згодна з этнічным складам функцыянавала 635 беларускіх школы, 22 рускія, **84 польскія** (72 пачатковыя, 10 няпоўных сярэдніх і 2 сярэднія)[18]. Колькасць польскіх школ паменшылася ў той час на 16.

У справаздачы звярталася ўвага на недабор дзяцей у беларускіх школах. Прычынай было жаданне беларускага насельніцтва каталіцкага веравызнання з Гарадзенскага, Ваўкавыскага і іншых раёнаў аддаваць сваіх дзяцей у польскія школы. У выніку ўзмацнення савецкай улады гэтая праблема паступова перастае існаваць, як паказвае справаздача[19].

---

14 ДАГАГВ. Ф. 1, В. 1. Спр. 2255. Арк. 2. Інфармацыя аб працы культурных і адукацыйных установ і агульнаадукацыйных школ Гарадзенскай вобласці. 1 лістапада 1944 г. – 15 лістапада 1944 г.

15 ДАГВ. Ф. 127. В. 1. Спр. 12. Арк. 13. Тэкставая справаздача аб працы школ горада Гародні за першае паўгоддзе навучальнага 1944-1945 года.

16 Там жа. Арк. 8.

17 Gawin T. Polskie odrodzenie na Białorusi... S. 44.

18 ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 2484. Арк. 14. Справаздача і інфармацыя аб становішчы народнай адукацыі за 1944-1946 гг.

19 Там жа. Арк. 15.

Са справаздачы вынікала таксама і тое, што ў лютым 1945 г. у Польшчу выехала больш за 200 настаўнікаў[20]. Характарызуючы грамадска-палітычную сітуацыю ў польскіх школах, увага звярталася на кепскую працу ў піянерскіх і камсамольскіх арганізацыях. У Сапоцкінскім раёне з 4 128 вучняў на 1 студзеня 1945 г. ў піянерскую арганізацыю ўваходзіла толькі 19 чалавек. У справаздачы гаварылася таксама і аб тым, што рашэнні Крымскай канферэнцыі трох дзяржаў польскія нацыяналісты спрабавалі выкарыстаць у сваіх асабістых інтарэсах. Пытанне аб магчымым пераносе польскай граніцы на 5-8 кіламетраў на ўсход у выніку двухбаковай згоды ў Бераставіцкім раёне ў прыгранічнай Элішэўскай пачатковай школе выкарысталі для таго, каб пасеяць няўпэўненасць сярод насельніцтва аб устойлівасці савецкай улады. Так, матуля адной вучаніцы прыйшла ў школу і папрасіла настаўніцу, каб яе дачку не запісвалі ў піянерскую арганізацыю, таму што яшчэ невядома якая ўлада замацуецца ў іх на вёсцы[21].

Акрамя таго ў справаздачы таксама зазначана, што ў Гарадзенскай вобласці кепска арганізавана палітычна-выхаваўчая праца ў польскіх школах, а ўсё гэта з-за таго, што настаўнікі з мясцовага насельніцтва, маючы па 10-15 гектараў зямлі, вядуць уласную гаспадарку, трымаюць 2-3 каровы, і менавіта з-за гэтага ў іх няма часу займацца па-за школьнай грамадскай дзейнасцю. Для паляпшэння грамадска-палітычнай сітуацыі ў польскіх школах было запланавана ўвесці больш заняткаў, якія маглі б праводзіцца на польскай мове, запрасіць настаўнікаў-палякаў у сістэму палітычнага навучання, а таксама набраць камсамольскіх і піянерскіх работнікаў у гэтыя школы[22].

**Масавы, вымушаны палітычнай сітуацыяй выезд настаўнікаў-палякаў** з Гарадзенскай вобласці ў Польшчу быў на руку савецкай і партыйнай уладзе вобласці і ўскосна служыў галоўнай мэце, якую ставіла перад сабой улада, – расцягнутай у часе, канчатковай ліквідацыі польскай адукацыі ў Беларусі.

Анатоль Вялікі з Мінска указвае на тое, што не выезд настаўнікаў-палякаў у Польшчу быў галоўнай прычынай, якая прывяла ў будучым да ліквідацыі польскай адукацыі, а адсутнасць увогуле якога-небудзь зацікаўлення да развіцця гэтай адукацыі з боку найвышэйшага савецкага і палітычнага кіраўніцтва ў Маскве і Мінску, якое выяўлялася ў тым, што, нягледзячы на тое, што ў Беларусі польская адукацыя функцыянавала, у рэзалюцыі ЦК ВКП(б) за 20 студзеня 1945 г. “Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР”, а пазней 17 красавіка 1945 г. у агульнай рэзалюцыі ЦК КП(б)Б і Савета Народных Камісараў БССР “Аб памеры дапамогі школам заходніх абласцей БССР”, аб гэтай адукацыі не ўпамянута ані слова[23].

---

20 Там жа. Арк. 16.

21 Там жа. Арк. 21.

22 Там жа. Арк. 24-25.

23 Вялікі А. Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944-1959 гг. XX стагоддзя. Мн., 2010. С. 198.

У вышэй згаданых рэзалюцыях не гаварылася аб ліквідацыі ці рэарганізацыі польскіх школ. Аб іх ўвогуле гаворкі не вялося. Аднак партыйнае і савецкае кіраўніцтва заходніх абласцей “вычытала” у гэтых рэзалюцыях неабходнасць іх рэарганізацыі[24]. У хуткім часе, нягледзячы га пратэсты бацькоў, польскія школы ў Ваўкавыскім, Воранаўскім, Шчучынскім, Поразаўскім і Свіслацкім раёнах былі рэарганізаваны ў руска- і беларускамоўныя школы[25].

У першай палове 1945 г. ЦК КП(б)Б спрабаваў ацаніць рэальную сітуацыю, звязаную з польскай адукацыяй у БССР, і акрэсліць перспектывы яе існавання і будучага развіцця. Намеснік кіраўніка школьнага аддзела ЦК КП(б)Б А.Рэгель у траўні 1945 г. скіравала да Гарбунова, сакратара ЦК па справах ідэалогіі, заўвагу “Аб становішчы польскіх школ у Гарадзенскай вобласці”. З аб’ектыўна складзенай заўвагі можна падкрэсліць трагічнасць сітуацыі, у якой знаходзілася польская адукацыя ў Гарадзенскай вобласці. У прыватнасці, поўная адсутнасць падручнікаў на польскай мове, а таксама распрацаваных праграм і планаў навучання, адсутнасць экзаменацыйных білетаў на польскай мове[26]. На такое становішча рэчаў, як справядліва заўважыла Рэгель, паўплываў факт адсутнасці сталых кадраў інспектараў і метадыстаў для польскіх школ у Народным Камісарыяце Асветы і абласных аддзелах асветы. Кіраўнік школьнага аддзела Гарадзенскага абласнога камітэта КП(б)Б у размове з Рэгель звярнула ўвагу на цяжкасці весці размову аб перспектывах развіцця польскай адукацыі, таму што невядома якая частка польскага насельніцтва выкарыстае магчымасць “рэпатрыяцыі” і выезда ў Польшчу[27].

Такое разуменне справы А.Рэгель лічыла няслушным і зрабіла выснову, што на той час па палітычных прычынах немэтазгодным з’яўлялася як ліквідацыя польскай адукацыі ў БССР, так і пакіданне яе ў нязменным становішчы[28].

У справе са зменай сітуацыі, звязанай з польскай адукацыяй у будучым, Рэгель прапанавала, каб Народны камісарыят асветы распрацаваў праграмы і планы на польскай мове, арганізаваў друк падручнікаў на польскай мове на падставе тых, якія былі раней надрукаваны ў 1940 г., стварыў інспектуру ў Народным камісарыяце асветы ў Мінску і абласных аддзелах асветы, а таксама арганізаваў навучанне педагагічных кадраў польскай школы[29].

---

24 Нельга выключыць і такую магчымасць. Прынятыя ў той час ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б рэзалюцыі павінны былі служыць і знешнепалітычным інтарэсам. СССР пабудаваў новыя адносіны з ПНР і з гэтай прычыны не мог дазволіць сабе пайсці супраць братняй, суседняй дзяржавы ліквідацыяй польскай адукацыі. І менавіта таму такога роду запісу не было ў рэзалюцыях. Партыйная і савецкая ўлада заходніх абласцей БССР, у сваю чаргу, магла вусна даць такія рэкамендацыі, накіраваныя на ліквідацыю польскай адукацыі.

25 Вялікі А. Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах… С. 198.

26 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, далей НАРБ. Ф. 4п. В. 47. Спр. 46. Арк. 257. Рапарты на пісьме да сакратара ЦК КП(б)Б Гарбунова. 1945 год.

27 Там жа. Арк. 264.

28 Там жа. Арк. 266.

29 Там жа. Арк. 267.

Ці быў рэальны шанец выратаваць ад ліквідацыі польскую адукацыю ў Беларусі і рэалізаваць прапанаваны Рэгель план дзеяння? Мы лічым, што так. Лічыць так і Анатоль Вялікі з Мінска, які падмацоўвае сваё сцверджанне вялікай колькасцю фактаў, сярод якіх і факт функцыянавання на працягу існавання СССР польскіх школ у Літве і на Украіне[30].

Выезд настаўнікаў-палякаў у Польшчу шырока выкарыстоўваўся ў тыя часы для таго, каб абгрунтаваць справядлівасць рашэнняў аб рэарганізацыі ці ліквідацыі польскай адукацыі ў Беларусі ў асяродках савецкага і партыйнага кіраўніцтва розных узроўняў[31].

Сакратар Гарадзенскага абкама КП(б)Б Пётр Калінін, даючы ацэнку сітуацыі, звязанай з польскай адукацыяй у Гарадзенскай вобласці, наступным чынам выказаў свае адносіны да гэтага пытання ўпаўнаважанаму Камітэтам партыйнага кантролю ў Маскве[32] Філімонаву: “(…) Асаблівыя цяжкасці маюць месца ў працы польскіх школ. Гэту сітуацыю выклікала адсутнасць педагагічных кадраў, якія валодаюць польскай мовай. У 1944-1945 навучальным годзе ў вобласці было адкрыта 78 польскіх школ (66 пачатковых, 10 сямігадовых і 2 сярэднія). Аднак у сувязі з масавым ад’ездам польскіх настаўнікаў, а таксама са значным ад’ездам вучняў у Польшчу мы былі вымушаны да пачатку новага 1945-1946 навучальнага года змяніць профіль выкладання ў 38 школах на беларускую і рускую мовы. На цяперашні момант у вобласці функцыянуе 2 сярэднія і 38 пачатковых школ, усяго разам 40 польскіх школ. У бліжэйшым будучым чакаецца далейшае памяншэнне колькасці польскіх школ у сувязі з тым, што большасць настаўнікаў-палякаў, якія працуюць у гэтых школах, падалі заявы аб выездзе ў Польшчу. Шмат вучняў таксама туды выязджае”[33].

---

30 Вялікі А. Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах … С. 199.

31 На сам рэч савецкай і партыйнай уладзе Беларусі быў патрэбен выезд этнічна свядомай польскай інтэлігенцыі ў Польшчу, у тым ліку і настаўнікаў. На іх месца ўвесь час прыязджалі настаўнікі з усходу. Па-гэтаму ўлады толькі канстатавалі факты выездаў настаўнікаў, але самі нічога не рабілі, каб спыніць гэтыя выезды, ці хоць бы зацікавіць настаўнікаў застацца на месцах ранейшай працы. Шмат у гэтым і іншых прычын, сярод якіх і адсутнасць упэўненасці сярод настаўнікаў у тым, што польская адукацыя застанецца ў Беларусі, і менавіта з-за гэтай няўпэўненасці настаўнікі вымушаны былі выехаць. Масавы выезд настаўнікаў, як паказвае час, быў цвіком для труны польскай адукацыі ў гэтай дзяржаве.

32 Задачай Камітэта Партыйнага Кантроля ВКП(б) згодна са Статутам Партыі было кантраляванне партыйнымі органамі адпаведнасці ў сваёй дзейнасці. У абавязкі Камітэта не ўваходзіла кантраляванне польскай адукацыі. Дапусцім, што зацікаўленне Камітэта гэтай справай было выклікана скаргамі на Камітэт аб нейкіх няправільнасцях у сістэме адукацыі Гарадзенскай вобласці. Так, падрабязная справаздача на тэму польскіх школ, прадстаўленая сакратаром Гарадзенскага абкама КП(б)Б Калініным, можа сведчыць аб тым, што гэтыя скаргі, скіраваныя ад палякаў у маскоўскі Камітэт, маглі быць рэакцыяй на ліквідацыю польскіх школ. Але пацвердзіць гэту версію яшчэ не ўдалося, бо ў ДАГАГВ па сённяшні дзень усе скаргі, якія ўплывалі на дзейнасць савецкай і партыйнай улады, пачынаючы з 1944 г. і да распаду СССР, застаюцца засакрэчанымі.

33 ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 78. Арк. 13-18. Дакументы аб развіцці народнай адукацыі (Рапарты, лісты і інш).

Пасля Калінін праінфармаваў аб выездзе 500 настаўнікаў-палякаў у Польшчу, а таксама аб цяжкай сітуацыі з падручнікамі на польскай мове. Ніжэй пададзена табліца, якая датычыцца школьнай адукацыі ў Гарадзенскай вобласці.

***Табліца 2. Падзел школ у Гарадзенскай вобласці на тыпы (пачатак 1945-1946 навучальнага года)***

| **Пачатковыя Школы** | | | | **Сямігадовыя** | | | | **Сярэднія** | | | | **Усяго** | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рус | Бел | **Пол** | Усяго | Рус | Бел | **Пол** | Усяго | Рус | Бел | **Пол** | Усяго | Пач | Сям | Сяр | Усяго |
| 22 | 677 | **38** | 737 | 15 | 67 | **-** | 82 | 6 | 3 | **2** | 11 | 737 | 82 | 11 | 830 |

*Крыніца: ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 78. Арк. 13-18. Дакументы аб развіцці народнай адукацыі (Рапарты на пісьме, лісты і інш).*

Падобнага зместу інфармацыя аб стане школ у Гарадзенскай вобласці была скіравана 27 красавіка 1946 г. сакратаром Гарадзенскага АК КП(б)Б Калініным да кіраўніка школьнага аддзела ЦК ВКП(б) у Маскве[34]. Ніжэй пададзена табліца, якая тычыцца настаўнікаў, якія працавалі у Гарадзенскай вобласці ў 1944-1946 гг.

***Табліца 3. Інфармацыя аб колькасці настаўнікаў, якія працавалі у Гарадзенскай вобласці ў 1944-1946 гг., а таксама стажу іх працы, партыйнасці і этнічнага складу***

| Усяго Настаўнікаў | **1944-1945** | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Маюць педаг. адукацыю | Стаж працы | | Партыйнасць | | | Нацыянальнасць | | |
| | | Да 5 гадоў | Больш за 5 гадоў | Камуніс. | Камс. | Бесп. | Бел. | Рус. | **Пал. і інш.** |
| 1709 | 1149 | 1579 | 130 | 15 | 102 | 1592 | 767 | 160 | **843** |
| | **1945-1946** | | | | | | | | |
| 2058 | 1033 | 1364 | 694 | 78 | 406 | 1744 | 1592 | 267 | **199** |

*Крыніца: ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 67. Арк. 80. Справаздача аб працы Гарадзенскага абласнога камітэта КП(б)Б за перыяд ад 1 ліпеня 1944 года па 1 жніўня 1946 года.*

Колькасць польскіх школ у Гарадзенскай вобласці ўвесь час памяншалася. З чарговай заўвагі кіраўніка школьнага аддзела АК КП(б)Б Сівохіна, якая была выслана 19 верасня 1946 г. да кіраўніка школьнага аддзела ЦК КП(б)Б, відаць, што на працягу навучальнага 1945-1946 года колькасць польскіх школ паменшылася на 7[35]. Ніжэй пададзена табліца, якая тычыцца мовы выкладання ў школах Гарадзенскай вобласці.

[34] Там жа. Арк. 23-30.

[35] Там жа. Арк. 61.

***Табліца 4. Падзел школ Гарадзенскай вобласці паводле мовы выкладання***

| Мова выкладання | Было ў навучальным 19451946 годзе | Запланавана на навучальны 1946-1947 год |
|---|---|---|
| Беларуская | 694 | 735 |
| Руская | 6 | 9 |
| **Польская** | **33** | **18** |
| Усяго | 733 | 762 |

*Крыніца: ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 78. Арк. 13-18. Дакументы аб развіцці народнай адукацыі (Рапарты, лісты і інш).*

Сівохін не ўнёс нічога новага ў ацэнку сітуацыі, якая была звязана з польскай адукацыяй на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці. Памяншэнне колькасці польскіх школ у Гарадзенскай вобласці ў 1945-1946 навучальным годзе, а таксама чаканае значнае памяншэнне школ у 1946-1947 навучальным годзе апраўдвалася бясконцым выездам у Польшчу польскага насельніцтва[36].

Як ужо гаварылася вышэй, у справаздачах, якія датычацца польскай адукацыі, пастаянна заўважныя супярэчнасці, што сведчыць аб іх недакладнасці. У розных справаздачах прыводзіцца розная, вельмі часта зусім розная інфармацыя. Ніжэй пададзена табліца сеткі школ, якія функцыянавалі ў Гарадзенскай вобласці ў 1944-1946 гг. З яе відаць, як адрозніваюцца дадзеныя, якія тычацца польскіх школ, ад вышэй пададзеных.

***Табліца 5. Школы Гарадзенскай вобласці паводле падзелу іх на мовы выкладання ў 1944-1946 гг.***

| Школы / Колькасць вучняў | 1944-1945 | | | 1945-1946 | | | Запланавана на навучальны 1946-1947 год | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бел | Рус | Пол | Бел | Рус | Пол | Бел | Рус | Пол |
| Пачатковыя | 617 | 6 | **33** | 694 | 6 | **33** | 735 | 9 | **18** |
| Кольк. вучняў | 47408 | 297 | **1795** | 51013 | 325 | **1972** | 53375 | 487 | **1080** |
| Сямігадовыя | 56 | 12 | - | 67 | 15 | - | 71 | 15 | - |
| Кольк. вучняў | 11140 | 3090 | - | 14200 | 3180 | - | 15052 | 3200 | - |
| Сярэднія | 2 | 4 | **2** | 3 | 6 | **2** | 7 | 6 | **2** |
| Кольк. вучняў | 1074 | 2122 | **1100** | 1100 | 3069 | **1030** | 5256 | 3100 | **1000** |
| Усяго школ | 675 | 22 | **35** | 764 | 27 | **35** | 813 | 30 | **20** |
| Усяго вучняў | 59622 | 5509 | **2895** | 66313 | 6574 | **3002** | 73663 | 6787 | **2080** |

*Крыніца: ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 2384. Арк. 4. Справаздача і заўвага аб стане народнай асветы за 1944-1946 гг.*

Амаль праз год 20 чэрвеня 1947 г. той самы Сівохін, пасылаючы справаздачу аб працы школ Гарадзенскай вобласці за 1946-1947 год у школьны аддзел ЦК КП(б)Б, у частцы, прысвечанай польскай адукацыі, сцвярджае, што ў канцы 1946-1947 навучальнага года ў Гарадзенскай вобласці засталася 21 польская школа[37]. Ніжэй пададзена табліца сеткі польскіх школ у Гарадзенскай вобласці.

---

[36] Там жа.

[37] ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 124. Арк. 13. Справаздача аб працы школ Гарадзенскай вобласці за навучальны 1946-1947 год ад 20 чэрвеня 1947 года.

***Табліца 6. Сетка польскіх школ у Гарадзенскай вобласці ў 1946-1947 навучальным годзе***

| | | | |
|---|---|---|---|
| У пачатку навучальнага 1946-1947 года | 20 (пачатковых) | 1 (сямігадовая) | 1 (сярэдняя) |
| У канцы навучальнага 1946-1947 года | **19** | **1** | **1** |

*Крыніца: ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 124. Арк. 13. Справаздача аб працы школ Гарадзенскай вобласці за навучальны 1946-1947 год ад 20 чэрвеня 1947 года.*

Колькасць вучняў, якія вучыліся ў польскіх школах ў канцы навучальнага 1946-1947 года, складала 3 123 асобы. У класе 1 – 783, 2 – 830, 3 – 791, 4 – 366 (усяго ў 1 – 4 кл.– 2775), 5 – 153, 6 – 83, 7 – 50 (усяго ў 5 – 7 кл. – 291), 8 – 36, 9 – 11, 10 – 10 (усяго ў 8 – 10 кл. – 57). У гэтым жа годзе ў Польшчу выехала 294 вучня. Этнічны склад настаўнікаў выглядаў наступным чынам: беларусаў – 1902, рускіх – 421, украінцаў – 75, палякаў – 129, габрэяў – 39, іншых нацыянальнасцяў– 15 чалавек[38].

З канца 1946-1947 навучальнага года па 4 ліпеня 1948 г.[39] партыйная і савецкая ўлада горада Гародні і Гарадзенскай вобласці ўвесь час працавала над пытаннем аб канчатковай ліквідацыі згасальнай польскай адукацыі на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці. У ліпені 1947 г. сакратар ЦК КП(б)Б Гусараў скіраваў ліст да маскоўскага сакратара ЦК ВКП(б) Жданава. У гэтым лісце ён прасіў ЦК ВКП(б) аб санкцыянаванні паэтапнага перафармавання польскіх школ у беларускія і рускія, мяняючы ў іх няўпэўненых і некваліфікаваных настаўнікаў-палякаў на ўпэўненых і кваліфікаваных беларускіх і рускіх настаўнікаў[40]. Гусараў гарантаваў адначасова, што гэта справа будзе выкананая без усялякіх канфліктаў[41].

Па сённяшні дзень не ўдалося знайсці маскоўскі дакумент, якія даваў дазвол на канчатковую ліквідацыю польскай адукацыі ў Беларусі[42].

Акрамя таго, у 1947-1948 навучальным годзе ліквідацыя была дасягнута гвалтоўным шляхам, а не так, як прасіў Гусараў, – паэтапна.

38 Там жа. Арк. 14-15, 18.

39 Менавіта ў гэты дзень была ліквідавана апошняя польская школа ў Беларусі.

40 НАРБ. Ф. 1. АП. 29. Д. 543. К. 40. Рапарты на пісьме ЦК КП(б)Б да ЦК ВКП(б). Пачата 21 красавіка 1947 года. Закончана 31 снежня 1947.

41 Сакратар ЦК КП(б)Б Гусараў у сваім лісце да сакратара ЦК ВКП(б) Жданава інфармуе яго таксама аб палітычнай сітуацыі і працы сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР, а таксама аб сітуацыі ў польскай адукацыі, якую ён лічыць варожай для савецкай улады. Супраца польскіх школ з чужымі педагагічнымі кадрамі, а таксама фармаванне новых кадраў магло прынесці шкоду савецкай дзяржаве. У гэтым лісце ЦК КП(б)Б прасіла ЦК ВКП(б) і аб рэкамендацыях па гэтай справе.

42 Сяргей Токць, спасылаючыся на даследаванне Маржалы, піша пра такую згоду маскоўскай улады. (S. Tokć S. Zmiany struktury narodowościowej… S. 119). Аўтару дадзенага даследавання не ўдалося знайсці такі дазвол ані ў гарадзенскіх архівах, ані ў НАРБ.

Звяртаючы ўвагу на вышэй сказанае, а таксама той факт, што ЦК КП(б)Б прасіў аб рэкамендацыях па гэтай справе ў ЦК ВКП(б), можна сцвярджаць, што такая маўклівая згода на ліквідацыю польскіх школ была дадзена ЦК ВКП(б) ужо ў 1948 годзе, якая неабавязкова павінна была захавацца ў пісьмовым выглядзе[43].

Канчатковая ліквідацыя польскіх школ патрабавала ад савецкай улады правераных і адданых партыйных кадраў няпольскага паходжання, якія не будуць вагацца, каб выканаць гэта заданне. Факт незацверджання ЦК КП(б) летам 1947 г. на пасаду папячыцеля асветы Гарадзенскай вобласці Францішка Кеца[44], якога раней зацвердзіла бюро АК КП(б)Б, не быў выпадковым, а наадварот, мэтанакіраваным[45]. Без сумнення, што камуніст Кец выканаў бы любое заданне, якое даверыла б яму партыя. Акрамя таго, ЦК КП(Б)Б прыняў іншае рашэнне, верагодна мяркуючы, што такую важную справу, як канчатковая ліквідацыя польскіх школ у Беларусі, нельга даверыць у рукі паляка, нават праверанага і бязмежна адданага партыі.

Вельмі важным і адчувальным пунктам у справе аб канчатковай ліквідацыі польскай адукацыі ў Гарадзенскай вобласці была адзіная і самая вялікая ў Беларусі польская сярэдняя школа № 2 горада Гародні. Каб падрыхтаваць яе да ліквідацыі, улада прызначыла летам 1947 г. на пасаду дырэктара даверaную асобу, але не паляка, які павінен быў выканаць гэта заданне[46].

Наступным і апошнім крокам на шляху да ліквідацыі польскіх школ Гарадзенскай вобласці было арганізаванае 23 лістапада 1947 г. спатканне сакратара Гарадзенскага АК КП(б)Б Калініна з настаўнікамі польскіх школ. Падчас гэтага спаткання ні адзін з прысутных настаўнікаў не паставіў, на жаль, пытання аб патрэбе далейшага функцыянавання

[43] Прынятая ў кастрычніку 1947 г. рэзалюцыя бюро ЦК КП(б)Б “Аб праектах па ўзмацненню палітычнай і культурна-адукацыйнай працы сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР” давала дазвол уладам Міністэрства адукацыі БССР і Гарадзенскай вобласці на перафармаванне часткі польскіх школ у беларускія ці рускія са згоды бацькоў, дзеці каторых вучацца ў гэтых школах. У перафармаваных польскіх школах павінна была выкладацца польская мова як асобны прадмет. Пасля бюро ЦК КП(б)Б абавязала Міністэрства адукацыі і Гарадзенскі АК КП(б)Б да 1 студзеня 1948 г. праверыць працу польскіх школ і папоўніць іх праверанымі і падрыхтаванымі да працы настаўнікамі (НАРБ. Ф. 4. В. 61. Спр. 473. Арк. 20). Гвалтоўная ліквідацыя польскай адукацыі, якая ігнаравала рэкамендацыі вышэй згаданай рэзалюцыі, у новым навучальным 1948-1949 г. беларускай уладай можа сведчыць аб тым, што рашэнне аб ліквідацыі было прынятае ў Маскве.

[44] Францішак Кец – паляк. Нарадзіўся ў 1908 г. у Магілёве, вышэйшая адукацыя, па прафесіі настаўнік рускай літаратуры, член ВКП(б) з 1940 года. На працу ў Гародню быў накіраваны з усходу БССР у 1944 г. на пасаду кіраўніка сектара кадраў, культуры, навукі, мастацтва і друку аддзела кадраў АК КП(б)Б (інфармацыя ўзята з ДАГАГВ).

[45] ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 173. Пратаколы № 23-28 паседжанняў бюро АК КП(б)Б, рэзалюцыі і дакументы. Пачата 4. 06. 1947 г. Скончана 29. 07. 1947 г.

[46] Бяляўскі (не ўдалося знайсці асабістых актаў гэтай асобы). З размовы з даследчыкам шматгадовай гісторыі апошняй польскай школы ў Гародні Наталляй Канюк вынікае, што гэта асоба была габрэйскага паходжання, якую прыслалі з усходу.

польскіх школ, як бясспрэчна неабходнай рэчы для польскага асяроддзя на тэрыторыі Беларусі[47].

Сцяцкевіч, настаўнік са школы Вялікія Ятковічы Бераставіцкага раёна, наадварот сказаў: “Калі гаворка ідзе аб перафармаванні польскай школы ў беларускую, то гэта пытанне даўно вядома. Настаўнікам усё роўна. (…) Каб перафармаваць польскія школы ў беларускія, трэба дагаварыцца з насельніцтвам, а насельніцтва на гэта не згадзіцца. Але пасля таго, як школу перафарміруюць у беларускую, здаецца мне, што ўсё гэта супакоіцца”[48]. Дырэктар польскай школы № 2 у Гародні, выступаючы на гэтым спатканні, сказаў: “Калі гаворка ідзе пра школы польска-, беларуска- ці рускамоўныя, то гэта вельмі істотнае для нас пытанне”. Прамаўляючы далей, ён ухіліўся ад адказу на пытанне аб патрэбе далейшага функцыянавання польскіх школ[49]. Спатканне сакратара АК КП(б)Б Калініна з самага пачатку было арганізавана з мэтай даследавання настрою сярод настаўнікаў і магчымай рэакцыі з іх боку і з боку польскага насельніцтва на “рыхлую” ліквідацыю польскіх школ Гарадзенскай вобласці. Гэта спатканне супакоіла партыйную і савецкую ўладу Гарадзенскай вобласці і пераканала яе ў тым, што канчатковая ліквідацыя польскіх школ не выклікала вялікага абурэння і супраціўлення як з боку польскіх настаўнікаў, так і з боку польскага насельніцтва, якое значна аслабла з-за бясконцых пасляваенных выездаў у Польшчу.

**V Аб’яднаны Пленум абласнога і гарадскога камітэтаў партыі**, які адбыўся ў Гародні з 9 па 10 снежня 1947 г., быў рашаючым па пытанні аб ліквідацыі польскіх школ на Гарадзеншчыне. Прамаўляючы на Пленуме, першы сакратар Гарадзенскага АК КП(б)Б Калінін значную частку свайго выступу прысвяціў польскаму пытанню. Звярнуў увагу на недастатковае палітычнае і ідэалагічнае выхаванне настаўнікаў у 16 польскіх школах[50], якія яшчэ працуюць, і ў якіх вучыцца 2,5 тысячы вучняў. Калініна непакоіла тое, што настаўнікі польскіх школ выхаваны ў панскай Польшчы, атрымалі там адукацыю, з’яўляюцца апалітычнымі. Пасля адзначыў, што настаўнікі польскіх школ не маюць адпаведнай падрыхтоўкі, што яны непісьменныя[51]*. Звярнуў увагу на тое, што польскія школы кепска забяспечаныя падручнікамі і праграмамі на польскай мове[52], працуюць без на-

[47] ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 122. Арк. 6. Стэнаграма размовы сакратара Гарадзенскага абласнога камітэта КП(б)Б з настаўнікамі польскіх школ за 23 лістапада 1947 года.

[48] Там жа. Арк. 4.

[49] Там жа. Арк. 9.

[50] У справаздачы савета папячыцеляў асветы Гарадзенскай вобласці за навучальны 1947-1948 г. было паказана існаванне 12 польскіх школ.

[51] * Нягледзячы на сцвярджэнні П. Калініна, цяжка паверыць у тое, што сістэма падрыхтоўкі настаўнікаў у міжваеннай Польшчы і яе якасць былі горшымі, чым у СССР, цяжка паверыць у кепскую адукацыю і кваліфікацыю польскіх настаўнікаў і мясцовых беларусаў пасля настаўніцкіх курсаў у ІІ РП. Ніжэй пададзены аўтэнтычныя прыклады прафесійнай непрыдатнасці савецкіх настаўнікаў, якіх прыслалі з усходу. Такім чынам, гаворка пра непісьменнасць польскіх настаўнікаў нічым не падмацаваная.

[52] Гэты недахоп, звязаны з адсутнасцю падручнікаў і польскіх праграмаў, свед-

лежнага кіравання і кантролю не толькі з боку партыйных і савецкіх органаў, але нават з боку папячыцеляў асветы. Стан навучання, а асабліва выхавання дзяцей у польскіх школах, цалкам не адпавядала сучасным патрабаванням. Калінін выказаў заклапочанасць у сувязі з тым, што пры такіх адносінах і ўвазе да гэтых школ не атрымаецца выхаваць з гэтых дзяцей савецкіх патрыётаў. Калінін прывёў прыклад, што ў адной з польскіх школ Бераставіцкага раёна дзеці пад кіраўніцтвам настаўніка спявалі польскі гімн Пілсудскага. З гэтай прычыны Калінін мабілізаваў партыйных актывістаў вобласці для правядзення вялікай масавай тлумачальнай працы сярод польскага насельніцтва, задачай якой было правядзенне бацькоўскіх сходаў, на каторых у сваю чаргу трэба было патлумачыць, што ўлада на цяперашні момант не ў стане сабраць польскія школы з дапамогай падрыхтаваных да працы настаўнікаў, ці патлумачыць тое, што такіх настаўнікаў увогуле няма. З другога боку, трэба пераканаць бацькоў у тым, што адсутнасць літаратуры, адсутнасць сярэдніх і вышэйшых устаноў з выкладаннем на польскай мове вельмі перашкаджае належнай адукацыі дзяцей і фактычна калечыць іх[53]. Шмат дзяцей пасля заканчэння пачатковых польскіх школ і пераходу ў беларускія ці рускія школы ў параўнанні з вучнямі іншых школ маюць сур’ёзныя праблемы з навучаннем. Падсумоўваючы свой выступ перад партыйнымі актывістамі, Калінін выдаў загад аб ліквідацыі польскіх школ на Гарадзеншчыне. Напрыканцы Калінін сказаў: “Беручы пад увагу вышэй сказанае, польскія школы трэба рэарганізаваць у беларускія і рускія, пакідаючы ў іх польскую мову, як адзін з прадметаў у плане навучання. Гэту рэарганізацыю мы павінны скончыць перад пачаткам навучальнага 1948-1949 года. Наша задача заключаецца ў тым, каб пераканаць польскае насельніцтва ў неабходнасці гэтага праекта”[54]. (падкрэслена мной – *Т.Г.*)

Такім чынам, шлях да канчатковай ліквідацыі польскіх школ у Гарадзенскай вобласці пасля гэтага Пленуму і выступу на ім Калініна стаў адкрытым.

23 сакавіка 1948 г. на пасяджэнні Савета дэпутатаў Гарадзенскай вобласці быў агавораны план школьных заняткаў на 1948-1949 навучальны год. Спасылаючыся на пастанову Міністэрства адукацыі БССР № 96 ад

чыць аб грэбаванні службовымі абавязкамі асобамі з савета папячыцеляў гарадской і абласной асветы, якія за ўсё павінны адказваць. Такім чынам, Калінін, як кіраўнік Гарадзенскай вобласці, не павінен быў гаварыць пра гэтыя недахопы, а толькі пакараць яшчэ раней тых, хто не выконвае сваіх службовых абавязкаў, і прымусіць іх выправіць гэтую сітуацыю. Тое, пра што ён гаварыў, было абавязковым для выканання гарадскімі і абласнымі ўладамі, таксама як і з пытаннем беларускіх і рускіх школаў. Цяперашняя лукашэнкаўская ўлада ў справе з выкладаннем на польскай мове ў Гарадзенскай вобласці, у справе з падручнікамі і праграмамі паступае дакладна так, як у канцы 40-х гадоў рабілі партыйныя і савецкія ўлады Менску і Гародні.

[53] Аргумент, які тычыцца калецтва дзяцей у польскамоўных школах, часта чулі ад савецкіх, а пазней і лукашэнкаўскіх чыноўнікаў удзельнікі СПБ, якія аддавалі свае галасы за адкрыццё ў Беларусі школаў з выкладаннем на польскай мове.

[54] ДАГАГВ. Ф. 1. В. 1. Спр. 95. Арк. 29-30. Стэнаграма V аб’яднанага абласнога і гарадскога Пленума камітэтаў партыі за 9-10 снежня 1947 года.

25 траўня 1948 г. Савет канчаткова вырашыў вызначыць сетку школ на Гарадзеншчыне. Тады ўжо ўвогуле не згадвалася пра польскія школы[55].

12 чэрвеня 1948 г. дырэктар Гарадзенскай сярэдняй польскай школы № 2, складаючы справаздачу за навучальны 1948-1949 год, пісьмова інфармаваў гарадскі савет папячыцеляў асветы аб тым, што ў новым навучальным 1948-1949 годзе плануецца стварыць чатыры першыя польскія класы[56].

Аднак апошняя польская школа Беларусі ў Гародні, у якой вучылася 945 вучняў, была ліквідавана 4 ліпеня 1948 г. на агульным бацькоўскім сходзе, на якім было прыблізна 400 чалавек. З пратакола вынікае, што настаўнікі і бацькі не выступалі агульным фронтам супраць ліквідацыі школы[57]. Толькі адна асоба (прозвішча не падаецца ў пратаколе – Т.Г.) звярнула ўвагу прадстаўнікоў улады на той факт, што 123 артыкул Сталінаўскай Канстытуцыі дазваляе вучыць дзяцей на роднай мове. Прадстаўнік гарадскога камітэта партыі ў Гародні Нікіценка адрэагаваў на гэта сцвярджэнне наступным чынам: “123 артыкул адносна палякаў не дзейнічае, таму што ў СССР няма польскай акругі. Акрамя таго, на сённяшні дзень дзяржава на ўсім эканоміць і па гэтай прычыне яна не можа дазволіць сабе выдаваць сродкі на школу, якая мае ў сабе 45 % недахопаў”[58]. Пад недахопам Нікіценка разумеў слабы прагрэс польскай школы ў навучанні.

Просьба старшыні бацькоўскага камітэта Міляўскага аб перафармаванні польскай школы № 2 у Гародні ў школу з выкладаннем на рускай мове была аднагалосна прынятая. Польская мова, ужо ў рускай школе, павінна была выкладацца як асобны прадмет[59].

З архіўных дакументаў вынікае, што палякі не супрацьстаялі ліквідацыі польскай школы ў Гародні[60]. Справаздача Гарадзенскага абласнога савета

---

[55] Szumski J. Polityka oświatowa władz sowieckich wobec ludności polskiej Grodzieńszczyzny w okresie powojennym. Wybrane zagadnienia, [у:] Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi, Grodno 2004. S. 384.

[56] ДАГВ. Ф. 127. В. 1. Спр. 45. Арк. 39. Тэкставая справаздача гарадскога савета папячыцеляў асветы ў Гародні за 1948 год.

[57] Педагагічныя кадры гэтай школы на працягу чатырох пасляваенных гадоў моцна скараціліся. На месца польскіх настаўнікаў, якія выехалі ў Польшчу, было прынята шмат настаўнікаў з усходніх абласцей СССР, у тым ліку і палякаў.

[58] ДАГВ. Ф. 127. В. 1. Спр. 45. Арк. 145, 146. Тэкставая справаздача гарадскога савета папячыцеляў асветы ў Гародні за 1948 г.

[59] Аднак улада не стрымала свайго абяцання і ў гэтай школе ўжо ніколі не выкладалася польская мова. У гэтым спатканні прынялі ўдзел: папячыцель асветы з Гародні Кныш, прадстаўнік гарадскога камітэта партыі ў Гародні Нікіценка, кіраўнік школьнага сектара ў абласным савеце папячыцеляў асветы Цярэшчанка, дырэктар школы Бяляўскі і інш. (ДАГВ. Ф. 127. В. 1. Спр. 45. Арк. 39).

[60] На сам рэч справа выглядала інакш. З успамінаў былога вучня гэтай школы, на той момант дзевяцікласніка, цяпер жыхара Беластока, Валянціна Яблоньскага, вынікае, што бацькі рознымі спосабамі пыталіся захаваць польскую школу. У сувязі з гэтым савецкім уладам у Менску і Маскве былі накіраваныя калектыўныя хадайніцтвы. Дэлегацыя бацькоў ездзіла ў Менск. Але ніхто і ніхто не дапамог.

папячыцеляў асветы за 1948-1949 навучальны год паказала, што ў вобласці ў гэты час функцыянавала 12 польскіх школ. У 1948-1949 навучальным годзе ўжо не было ніводнай польскай школы[61].

***Табліца 7. Колькасць школ у Гарадзенскай вобласці паводле мовы выкладання ў 1944 – 1948 гг.***

| Навучальны год | Мова выкладання | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Беларуская | Руская | **Польская** | Усяго |
| 1944-1945 | 622 | 22 | **94** | 738 |
| 1945-1946 | 748 | 43 | **40** | 821 |
| 1946-1947 | 816 | 39 | **21** | 876 |
| 1947-1948 | 842 | 55 | **12** | 909 |

*Крыніца: ДАГВ. Ф. 730. В. 1. Спр. 43. Арк. 10. Тэкставая справаздача аб працы школ Гарадзенскай вобласці за навучальны 1947-1948 год.*

Факт ліквідацыі апошняй польскай школы ў Гародні адыграў немалаважную ролю ў лёсах польскіх настаўнікаў. З 10 школ Гародні летам 1948 г. было звольнена 40 настаўнікаў, палова з іх працавала ў былой польскай сярэдняй школе № 2[62].

Партыйныя і савецкія ўлады БССР у 1948 г. ліквідавалі не толькі польскую адукацыю, але таксама за 1944 – 1948 гг. выгналі са школ польскіх настаўнікаў. Большасць з іх ва ўмовах палітызацыі і ідэалагізацыі школы не знайшлі сабе месца ў ёй. Этнічны склад настаўнікаў Гарадзенскай вобласці ў 1948 г. прадстаўлены ў табліцы 8.

***Табліца 8. Этнічны склад настаўнікаў Гарадзенскай вобласці ў 1948 г..***

| Назва горада, раёна | Этнічны склад настаўнікаў Гарадзенскай вобласці | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бел | Рус | Укр | **Палякі** | Габрэі | Усяго наст. | Мясцовыя настаўнікі |
| Гародня | 91 | 83 | 11 | **17** | 32 | 202 | 44 |
| Ліда | 33 | 38 | 2 | **1** | 2 | 76 | 10 |
| Бераставіцкі | 138 | 5 | 2 | **3** | 2 | 150 | 38 |
| Васілішкаўскі | 117 | 16 | 4 | **8** | - | 145 | 45 |
| Ваўкавыскі | 255 | 13 | 4 | **15** | 7 | 294 | 38 |
| Воранаўскі | 61 | 17 | 6 | **12** | - | 102 | 10 |
| Гарадзенскі | 180 | 14 | 3 | **16** | 3 | 318 | 61 |
| Жалудокскі | 125 | 44 | 6 | **1** | - | 176 | 38 |
| Зэльвенскі | 210 | 33 | 5 | **12** | 1 | 261 | 79 |
| Лідскі | 148 | 24 | - | **10** | 1 | 183 | 70 |
| Мастоўскі | 118 | 19 | 4 | **4** | 1 | 146 | 46 |
| Поразаўскі | 121 | 15 | 2 | **4** | - | 142 | - |
| Радуньскі | 93 | 13 | 2 | **-** | 1 | 109 | 36 |
| Свіслацкі | 127 | 11 | - | **-** | - | 138 | 32 |
| Скідзельскі | 193 | 16 | 6 | **3** | 2 | 220 | 36 |
| Сапоцкінскі | 69 | 20 | 6 | **5** | - | 100 | 6 |
| Шчучынскі | 107 | 82 | 9 | **12** | 2 | 212 | 48 |
| **Усяго** | **2186** | **468** | **66** | **123** | **54** | **2897** | **604** |

*Крыніца: Уласнае апрацаванне аўтара на падставе ДАГВ. Ф. 730. В.*

61 ДАГВ. Ф. 730. В. 1. Спр. 43. Арк.10. Тэкставая справаздача аб працы школ Гарадзенскай вобласці за навучальны 1947-1948 год.

62 ДАГВ. Ф. 127. В. 1. Спр. 45. Арк. 185. Тэкставая справаздача гарадскога савета папячыцеляў асветы ў Гародні 1948 год.

*1. Спр. 43. Арк. 28-29. Тэкставая справаздача аб працы школ Гарадзенскай вобласці за навучальны 1947-1948 год.*

Савецкая ўлада на тэрыторыі Беларусі не без падстаў паслядоўна вынішчала польскія школы, як важны элемент нацыянальнай свядомасці палякаў. Польская школа ў рэаліях БССР была непатрэбным элементам у сістэме савецкай адукацыі. Паляк, які ведаў сваю родную мову, станавіўся небяспечным для ўлады, таму што ён меў доступ да іншай, уласнай народнай культуры, ён мог лепш даведацца пра гісторыю свайго народа і, што мела значэнне для савецкай улады, мог чэрпаць інфармацыю па кожнай тэме з іншых, незалежных ад улады крыніц.

Ліквідуючы польскія школы ў Беларусі і выганяючы з іх нацыянальна свядомых настаўнікаў-палякаў, савецкая ўлада вынішчыла вельмі важныя асяродкі па падтрымцы палякаў у БССР, задачай каторых заўжды было вучыць польскай мове чарговыя пакаленні палякаў.

Гэты працэс не быў, як сцвярджаюць партыйныя і савецкія ўлады БССР, выключна следствам паваенных масавых выездаў настаўнікаў і дзяцей у Польшчу, і добраахвотным жаданнем палякаў, якія хацелі, каб польскія школы былі перафармаваныя ў беларуска- ці рускамоўныя. Гэтыя прычыны, якія падаваліся савецкай уладай, былі ўскосныя.

Масавы выезд настаўнікаў у Польшчу, несумненна, спрыяў ліквідацыі польскай адукацыі, але не быў ён галоўнай прычынай ліквідацыі. Гэты выезд быў выкліканы ўвядзеннем новага савецкага ладу, які быў чужым, нават варожым, для людзей інтэлігентных, якія атрымалі адукацыю у II РП, гэты лад нёс небяспеку не толькі існаванню людзей, але і іх жыццю. Савецкая ўлада не бачыла месца ў школах для польскіх настаўнікаў, якія атрымалі адукацыю ў перадваеннай Польшчы, і з гэтай прычыны нічога не рабіла, каб спыніць гэтыя масавыя выезды і тым самым выратаваць ад вынішчэння польскія школы, таму што мэтай савецкай улады было ўвядзенне новай сістэмы каштоўнасцей і "выхаванне" новага савецкага чалавека, які будзе поўнасцю падпарадкоўвацца пануючай ідэалогіі. Гэту задачу павінна была выканаць і, несумненна, выканала савецкая школа, і няма розніцы, якая яна была: ці рускамоўная, ці беларускамоўная, з новымі педагагічнымі кадрамі, якія ў пераважнай большасці прыбылі з усходніх абласцей СССР (гл. табліцу 8). Галоўным у працы гэтых настаўнікаў было насаджэнне дзецям камуністычных каштоўнасцей, а таксама іх эфектыўная русіфікацыя і саветызацыя. Перадача ведаў часам была на другім плане[63].

Была яшчэ адна прычына, якая мела стратэгічна-вайсковы характар. Як цэнтральная, так і мясцовая ўлада не магла дазволіць сабе, каб школьная польская сістэма, якая магла ўнесці свой уклад у стварэнне моцнай

[63] Педагагічныя кадры, накіраваныя з усходу, вельмі часта паказвалі слабыя веды ў выкладанні прадметаў. Так, настаўніца 4 класа Сарасекскай сямігадовай школы Поразаўскага раёна Зябкова не змагла вызначыць на занятках плошчу пакоя. Гаўрыліч, настаўнік Дзяруцеўскай пачатковай школы таго ж раёна, не змог падзяліць 5005 на 5. (ДАГВ . Ф. 730. В. 1. Спр. 43. Арк. 35. Тэкставая справаздача аб працы школаў Гарадзенскага раёна за 1947-1948 навучальны год)

польскай меншасці з добрай нацыянальнай свядомасцю, добра функцыянавала непасрэдна на граніцы з Польшчай у шырокім прыгранічным поясе, які ахоплівае дзве прыгранічныя вобласці: Брэсцкую і Гарадзенскую.

Наступствы ліквідацыі польскіх школаў адчуваюцца ў Беларусі і па сённяшні дзень. Перадапошні[64] перапіс насельніцтва за 1999 г. паказаў, што толькі 64 455 палякаў прызнала польскую мову як сваю родную, гэта складае 16,5 % ад агульнай колькасці 395 712 палякаў, якія жылі на тэрыторыі Беларусі[65]. Акрамя таго, палякі масава перасталі размаўляць у сям'і на польскай мове[66]. Адной з асноўных прычынаў такой з'явы стала мэтанакіраваная дыскрымінацыя палякаў і іх роднай мовы ў штодзённым жыцці, якая праводзілася ў паваенны час.

[64] Не звяртаемся да перапісу насельніцтва за 2009 г., таму што не лічым яго дакладным. Ацэнка вынікаў апошняга перапісу насельніцтва павінна даследавацца асобна.

[65] Вынікі перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь за 1999 год. Этнічны склад і распаўсюджанне моў. Статыстычны збор. Том I. Мінск, 2001. С. 198-201; Winnicki Z. J. Współczesna doktryna i historiografia Białoruska (po roku 1989) wobec Polski i polskości. Wrocław, 2003. S. 105.

[66] T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988-2005*, Białystok 2010. S. 88.

*Таццяна Казак (Гародня)*



# ТАЯМНІЦЫ ГАРАДЗЕНСКАГА МУЗЕЯ

Старадаўнія гарады хаваюць для даследчыкаў шматлікія загадкі, якія вартыя таго, каб іх разгадаць. Калі мы даведаемся пра іх, знойдзем вялікі скарб – скарб ведаў пра родны горад. І гэтыя таямніцы жывуць паўсюль: ва ўспамінах пра багатую гісторыю, традыцыях, помніках архітэктуры, пісьмовых крыніцах і мастацкіх палотнах, а таксама ў гарадскіх музеях. Да сённяшняга дня ў Гародні дзейнічае Гарадзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, які пачаў сваё станаўленне ў 1920 г., дзякуючы намаганням сапраўднага прафесіянала музейнай справы – Юзафа Ядкоўскага (1890-1950).

Юзаф Ядкоўскі нарадзіўся 20 снежня 1890 г. у Гародні, паходзіў са старажытнага шляхецкага роду Ядкоўскіх, які вядомы ў ВКЛ з канца 15 ст., каталіцкага па веравызнанню. Гняздом гэтага роду была ваколіца в. Ёдкавічы ў Гарадзенскім павеце. Ядкоўскія належалі да польскага герба “Ляліва”. У выніку хуткага разгалінавання Ядкоўскія ў Гарадзенскім павеце збяднелі, здрабнелі і згубілі палітычнае значэнне ў краіне. Больш таго, пасля падзелаў Рэчы Паспалітай частка з роду не змагла пацвердзіць сваё шляхецтва і была запісана ў мяшчане. Відаць, продкі Ю.Ядкоўскага належалі да апошніх[1].

Яго бацька, таксама Юзаф, быў кіраўніком сталярскіх майстэрняў ва Упраўленні акруговых поштаў і тэлеграфаў, маці Зоф’я паходзіла з Занеўскіх[2]. Сям’я жыла ў двухпавярховым доме № 16 па вул. Паштовай, які цалкам належаў бацьку. Усяго ў сям’і было пяць дзяцей, Юзаф – самы старэйшы. У 20-х гадах ён жыў на другім паверсе бацькоўскага дома. У

---

[1] Шаланда А. Матэрыялы па даследаванню радаводу і герба Ядкоўскіх у фондах ГДГАМ. Краязнаўчыя запіскі. Выпуск 5. Гродна, 2000. С. 55.

[2] Śnieżko A. Wydobył z ziemi gród, o którym nikt nie wiedział. Białystok, 2000. S. 16.

доме размяшчалася харчовая крама, гадзіннікавая і сталярская майстэрні, апошняя належала бацьку Ю.Ядкоўскага. За 1923 г. бацька атрымоўваў рэнту ў 17.400.000 польскіх марак[3]. Гэта сума невялікая, таму што ў гэты час ў Польшчы назіралася вялікая інфляцыя. Былі выпушчаны банкноты наміналам 5 млн., 10 млн.

На жаль, дом, дзе жыў Ю.Ядкоўскі да выезду з Гародні ў 1937 г., не захаваўся. Ён быў знішчаны падчас пабудовы гарадзенскага аблвыканкама ў 1980-я г.

З юнацтва Юзаф пачаў цікавіцца гісторыяй. Разам з сябрамі выязджаў у вандроўкі па ваколіцах Гародні[4]. Наведваў: Ружаны, Адэльск, Верхаўляны, Новы двор, Альшанку, Хадароўку, Кузніцу, Сухаволю, Радзівонавічы, Папялоўку і інш., аб чым сведчаць нататкі з вандровак пачынаючы з 1907 г.[5] У гэтых мясцінах малады даследчык знаёміўся з помнікамі архітэктуры, якія прадстаўлялі не толькі каталіцкую культуру, а таксама праваслаўную, іўдзейскую. Напрыклад, у в. Новы Двор знаёміўся з царквой св. Мікалая і касцёлам Ісуса Хрыста[6]. Захаваліся запісы Ю.Ядкоўскага на рускай мове пра праваслаўныя помнікі ў Гародні – Пакроўскі сабор, Раство-Багародзічны манастыр[7]. Гэта не магло не ўплываць на будучага даследчыка Панямоння, асобу, якая паважала ўсе культуры, а праз сваю працу прапагандавала мультыкультуралізм.

Важны ўплыў на станаўленне асобы Ю.Ядкоўскага аказалі яго выкладчыкі. Ён вучыўся ў мужчынскай класічнай гімназіі. Яго настаўнікам быў вядомы гісторык Яўстафій Філарэтавіч Арлоўскі, які падтрымліваў вучня ў захапленні гісторыяй краю. Пазней ацэньваючы унёсак Я.Ф.Арлоўскага ў вывучэнне гісторыі гарадзенскага краю, Ю.Ядкоўскі справядліва падкрэсліваў самы галоўны недахоп прац гісторыка – няведанне ў пэўнай ступені польскай мовы, а значыць выкарыстанне абмежаванай колькасці крыніцаў[8]. Але менавіта ад настаўніка даследчык атрымаў добрыя веды па гісторыі гораду. Я.Ф.Арлоўскі быў кіраўніком збораў бібліятэкі былога дамініканскага манастыра, якая з'ўлялася часткай бібліятэкі гімназіі. Ён дазваляў найбольш таленавітым гімназістам чытаць выданні з гэтага збору. Сярод такіх вучняў аказаліся Уладзіслаў Талочка і Ю.Ядкоўскі.[9]

Добра знаёмы быў Ю.Ядкоўскі з Элізай Ажэшкай: прыходзіў да яе ў дом, браў кнігі з бібліятэкі. Яна дапамагла Ю.Ядкоўскаму ўладкавацца ў

[3] ДАГВ. Ф. 46. В. 1. С. 107. Лісты 27-28.

[4] Орловский Е. Ф. Гродненская старина. Часть I. Гродна: Губернская Типография, 1910. С. 8.

[5] Архіў ГДГАМ. Справа № 4. Лісты 1-31.

[6] Архіў ГДГАМ. Справа № 4. Ліст. 10.

[7] Архіў ГДГАМ. Справа № 4. Ліст. 26.

[8] Трусаў І. Г. Юзаф Ядкоўскі як збіральнік і гісторык-краязнаўца. Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1990.С. 8.

[9] Śnieżko A. Wydobył z ziemi gród, o którym nikt nie wiedział. Białystok, 2000. S. 21.

Варшаве, калі на вучобе ў гімназіі пачаліся ў яго праблемы з-за польскіх патрыятычных настрояў. Ён пакінуў гімназію і атрымаў сярэднюю адукацыю ў Варшаве[10].

У 1905-1906 гг. Ю.Ядкоўскі звязаўся з сацыялістычным рухам, прымаў удзел у Польскай сацыялістычнай партыі (ППС). Пра яго ўспамінае ў сваім артыкуле аб гарадзенскай арганізацыі ППС выкладчык хіміі з гімназіі – Браніслаў Шушкевіч, які ў гады вайны быў захавальнікам фондаў[11].

Разам з Ю.Ядкоўскім у гімназіі вучыліся: Вітольд Казлоўскі – стаў супрацоўнікам навуковых інстанцый у Рыме, Антоні Каралевіч – скончыў земляробчы факультэт у Ягелонскім універсітэце ў Кракаве, ксёндз Уладзіслаў Талочка – беларускі рэлігійны дзеяч, гісторык[12].

Ул.Талочка адзін з першых у Вільні пачаў публічна ўжываць беларускую мову ў набажэнствах, публікаваў матэрыялы гістарычнай тэматыкі. У 1920-х г. праследваўся польскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі[13]. Ю.Ядкоўскі і Ул. Талочка сябравалі з гімназіі. У музеі захавалася іх перапіска па некаторых гістарычных пытаннях. Так, у 1923 г. Ул.Талочка даваў інфармацыю пра ксяндза Я. Вайштаровіча (17 ст.)[14]. Перапіска вялася на польскай мове. Сувязі дзвюх асобаў супрацьлеглых лагераў уяўляюць вялікую цікавасць. Напэўна, праз Ул.Талочку Ю.Ядкоўскі мог ведаць пра беларускія справы, калі б імі цікавіўся, а з іншага боку, ведаючы, што Ю.Ядкоўскі – прадстаўнік уладных структураў, ксёндз мог замоўчваць праўду. Але дакладна, што Ул.Талочка не стаяў у баку ад даследаванняў Ю.Ядкоўскага, дапамагаў сябру.

У гады вучобы ў гімназіі Ю.Ядкоўскі наладзіў добрыя сувязі з айцом Мікалаем Дзікоўскім, святаром Сафійскага сабора, дзе захоўваліся старадрукі 16 ст., якія апошні сабраў па парафіі[15]. Ю.Ядкоўскі наведваў сабор і сустракаўся з праваслаўным святаром, каб пазнаёміцца са старадаўнімі кірылічнымі выданнямі, і адначасова пашыраў свае веды па праваслаўю на гэтых землях. Гэта паўплывала на яго навуковыя зацікаўленасці, пацвярджэннем стала праца пра абарончыя праваслаўныя цэрквы[16].

Ю.Ядкоўскі падтрымліваў творчыя сувязі і з гісторыкам Уладзімірам

---

10 Тамсама. S. 7.

11 Szuszkiewicz B. Organizacja grodzieńska P.P.S. 1898-1910. Warszawa, 1937. S. 18.

12 Śnieżko A. Wydobył z ziemi … S. 18.

13 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Кн. 1. Мн., 2001. С. 497-498.

14 Архіў ГДГАМ. Справа № 4. Ліст 97.

15 Śnieżko A. Wydobył z ziemi … S. 20.

16 Иодковский И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. Москва, 1915.

Манасеіным, які займаўся ваеннай гісторыяй[17]. Ул.Манесеін быў членам Гарадзенскага царкоўна-археалагічнага камітэта[18]. Ён праводзіў раскопкі на Замкавай гары, падчас якіх быў закладзены невялікі шурф і было знойдзена некалькі сярэднявечных манет і дынар. Ул.Манасеін аддаў дынар Ю.Ядкоўскаму, каб той пры стварэнні музея, паказаў яго разам з іменем Ул.Манасеіна[19]. У музеі захоўваецца кніга з аўтографам даследчыка.

Пасля ўдзелу ў палітычнай забастоўцы Ю.Ядкоўскі быў пазначаны ў спісе "нядобранадзейных" вучняў гімназіі і выключаны без права вучыцца ў іншых установах. Бацькі адправілі яго ў Варшаву. Там ён атрымаў працу спачатку ў Археалагічным музеі, затым у Таварystве аховы помнікаў. Пазнаёміўся з шэрагам вядомых асобаў, з якімі склаліся добрыя адносіны: мастаком Ф.Рушчыцам, археолагам В.Шукевічам, прафесарам Эр.Маеўскім, З.Глогерам і інш.[20]

Затым Ядкоўскі пачынае працаваць у зборах Пецярбурга і Масквы. Напісаў першы артыкул у галіне музеязнаўства пра польскія гарматы ў зборах Артылерыйскага музея ў Пецярбурзе[21]. Трэба адзначыць, што Ю.Ядкоўскаму было тады толькі 18 год, а ён ужо выдаў восем артыкулаў.

А.Снежка піша, што Ю.Ядкоўскі едзе вучыцца ў Маскву, а не ў Кракаў як марыў, бо раней прымаў актыўны ўдзел у канспірацыйнай польскай працы, якая стварыла яму шмат праблемаў[22]. Ён выбірае Маскву, як больш нейтральны варыянт ў дачыненні магчымых пераследаў. З іншага боку, маскоўскія бібліятэкі, архівы былі больш багатымі на матэрыял па гісторыі Гарадзеншчыны ў параўнанні з кракаўскімі. Таму гэты выбар, напэўна, быў невыпадковым.

Ю.Ядкоўскі захапляўся маляваннем з дзяцінства. Ён скончыў мастацкую школу ў Маскве. Там жа паступае ў Археалагічны інстытут, які быў створаны ў 1907 г. з мэтай падрыхтоўкі кадраў. Інтарэсы Ю.Ядкоўскага ў інстытуце – гісторыя мастацтва сярэднявечча, нумізматыка. Пасля яго заканчэння ў 1912 г. атрымаў званне вучонага археолага і працу лабаранта ў інстытуце, хутка быў названы сапраўдным членам гэтай установы. Абараніў дысертацыю "Літоўская грыўна", але невядома ці надрукаваў яе, таму што пачалася Першая сусветная вайна[23]. Ю. Ядкоўскі працуе ў

[17] Напрыклад, яго працы – "Петр I и Карл XII под Гродно в походе 1706 г." Гродно, 1901, "Исторический очерк Гродненской губернии в военно-политическом отношении за первые сто лет от существования (1802-1902)". Гродно, 1902.

[18] Чарапіца В. Са скарбніцы кніжных паліц. Мн., 1994. С.43.

[19] Śnieżko A. Wydobył z ziemi … S. 21.

[20] Тамсама. S. 24.

[21] Armaty polskie znajdujące się w Artyleryjskim Muzeum w Petersburgu. 1908.

[22] Śnieżko A. Wydobył z ziemi … S. 25.

[23] Тамсама. S. 24.

музеі імя Румянцава, дзе складае інвентары польскіх каштоўнасцей, якія ўтрымліваюцца ў музейных зборах Масквы[24] і піша на гэту тэму працу[25]. Калі Ю.Ядкоўскі быў дырэктарам музея, ён выкарыстаў гэтыя веды: так у 1931 г. быў вернуты ў Гародню бюст Станіслава Аўгуста Панятоўскага з Масквы, які раней знаходзіўся ў дамініканскім манастыры[26].

У 1910 – 1914 гг. Ю. Ядкоўскі супрацоўнічаў з рознымі навуковымі таварыствамі, напрыклад, з Маскоўскім археалагічным таварыствам. Ён займаўся арганізацыяй з'ездаў расейскіх археолагаў, прымаў удзел у XV з'ездзе ў 1911 г. у Ноўгарадзе, дапамагаў П.С.Уваравай у арганізацыі XVI з'езду у Пскове, які не адбыўся з-за вайны.[27]

У гэты перыяд Ю.Ядкоўскі быў накіраваны ад імя таварыства ў Віленскую, Гарадзенскую і Менскую губерні як дзяржаўны кансерватар[28]. У межах сваёй працы планаваў займацца даследаваннямі і рэканструкцыяй замкаў у Троках, Медніках, Лідзе, Крэве і Міры. Пісаў артыкулы на старонках часопісаў "Древности", "Русское слово", прысвечаныя абарончай архітэктуры ў "заходніх" губернях: пра Сынкавіцкую царкву, цэрквы ў Супраслі і Маламажэйкаве, замкі ў Міры і Троках[29].

Ю.Ядкоўскі, займаючы пасаду кансерватара, шмат зрабіў для захавання помнікаў гісторыі і культуры. У функцыі кансерватара ўваходзіў пошук помнікаў, іх кансервацыя, ахова. Згодна з прадпісаннямі для кансерватараў Ю.Ядкоўскі, як прадстаўнік расейскага археалагічнага інстытуту, павінен быў высылаць усё самае каштоўнае ў расейскія музеі. У сваю чаргу, як чалавек, што нарадзіўся ў гэтай мясцовасці, ён імкнуўся ўсімі спосабамі захаваць каштоўныя прадметы ў мясцовых зборах і прыватных калекцыях.

Дзякуючы яго намаганням, удалося ўратаваць каштоўны іканастас 17 ст. у царкве Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы ў Супраслі і касцёл з фрэскамі Лукаша Губля ў Гарадзішчы, Пінскага павета. У 1910 г. у супрасльскай царкве хацелі прыбраць стары ўніяцкі іканастас, супраць гэтага выступіла П.С.Уварава і скіравала пратэст у праваслаўны Сінод у Пецярбургу. Ю.Ядкоўскі быў дэлегаваны ад інстытуту з мэтай фіксавання памераў і выгляду іканастаса. У дачыненні гарадзішчаскага касцёла мясцовыя ўлады хацелі разабраць яго на цэглу, але дзякуючы Ю.Ядкоўскаму

---

[24] Тамсама. S. 55.

[25] Pieczęcie polskie w muzeum Rumiancowskiem w Moskwie. Kraków, 1910.

[26] Архіў ГДГАМ. Справа № 2. Лісты 44-46.

[27] Blombergowa M.M. Józefa Jadkowskiego kłopoty z objęciem posady w Wilnie w świetle listów do Wandalina Szukiewicza. Acta universitatis Lodziensis. Folia Archaeologiga 16, 1992. S. 37.

[28] Śnieżko A. Przeoczony jubilieusz Józefa Jodkowskiego Archeologia. Rocznik Polskiego towarzystwa archeologicznego. Tom II. Wrocław, 1948. S. 435.

[29] Тамсама. S. 33.

гэта справа дайшла нават да пецярбургскага Сената. Да Ю.Ядкоўскага пісалі лісты мясцовыя жыхары з ваколіц з просьбамі ўратаваць касцёл, у выніку помнік захавалі[30].

У час працы ў расейскіх установах Ю.Ядкоўскі перапісваўся з практыкуючымі археолагамі, сярод іх быў Вандалін Шукевіч, даследчык літоўска-беларускага памежжа. Захаваліся лісты Ю.Ядкоўскага да В.Шукевіча, у якіх ён распавядае аб планах на працу ў Вільні[31]. Яго кандыдатура на пасаду захавальніка музея была прапанавана П.С.Уваравай, кіраўніком Маскоўскага археалагічнага таварыства, і міністрам асветы Л.А.Кассо. Аднак, гэтую пасаду атрымаць не ўдалося, таму што русіфікатарская ўлада не хацела прымаць на ўплывовыя пасады палякаў і католікаў. Адмовіць Ю.Ядкоўскаму не маглі з-за пратэкцыі такіх вядомых асобаў, але прапанавалі ўмовы, пры якіх працаваць было не магчыма (вельмі нізкі заробак)[32].

З археолагам В.Шукевічам Ю.Ядкоўскі падтрымліваў добрыя сяброўскія і навуковыя сувязі. В.Шукевіч запрашаў яго разам правесці археалагічныя даследаванні слядоў каменнага веку ў в.Нача (Воранаўскі раён), у гэтай вёсцы знаходзіўся родавы маёнтак В.Шукевіча. Іншы археолаг Ю.Талька-Грынцэвіч запрашаў на раскопкі ў в.Ланкішкі (Воранаўскі раён) і Дубічы (замак Вітаўта)[33]. Знаходкі з Дубічаў і зараз прадстаўлены ў экспазіцыі гарадзенскага музея.

Самастойныя археалагічныя даследаванні Ю.Ядкоўскі праводзіў у Ваўкавыску, Мігаве, Вялікай Бераставіцы, Суражу[34]. У 1914 г. у в. Бершты, Гарадзенскага павету, Ю.Ядкоўскі знайшоў некалькі стаянак, раскапаў могілкі, званыя “Магільны рог”[35]. Грошы на даследаванні браў не толькі ў Маскоўскага таварыства. Так на паездку ў Бершты атрымаў сродкі з польскай касы імя Мяноўскага ў Варшаве, якая займалася фінансаваннем навуковых прац[36].

Трывалыя творчыя кантакты склаліся ў Ю.Ядкоўскага з многімі вядомымі навукоўцамі з Вільні. Сярод іх – Пётр Слядзеўскі, гісторык мастацтва, знаўца віленскага барока; Луцыян Узенбла, даследчык гісторыі старой Вільні; Вацлаў Гізберт-Студніцкі, дырэктар віленскага архіва; Тадэуш Урублеўскі, вядомы адвакат, цікавіўся гісторыяй масонаў у ВКЛ і Польшчы; Мечыслаў Ліманоўскі, тэатральны крытык і адначасова прафе-

30 Тамсама. S. 30-31.

31 Blombergowa M.M. Józefa Jodkowskiego kłopoty…S. 39.

32 Blombergowa M.M. Józefa Jodkowskiego kłopoty… S. 37.

33 Госцеў А., Швед В. Ядкоўскі Юзаф. Памяць. Мн. 1999. С. 321.

34 Śnieżko A. Wydobył z ziemi gród, o którym nikt nie wiedział. Białystok, 2000. S. 38.

35 Blombergowa M.M.Wojenne losy Józefa Jodkowskiego w świetle listów do Wandalina Szukiewicza. Acheologija Polski, t. XXXVII, 1992, z. 1-2. S. 43.

36 Blombergowa M.M. Wojenne losy Józefa Jodkowskiego…S. 48.

сар геаграфіі, будучы абаронца Ю.Ядкоўскага па выніках археалагічных прац у Гародні[37].

У 1914 г. пачалася Першая сусветная вайна, якая прынесла незалежнасць Польшчы. Лёс Ю.Ядкоўскага падчас вайны адлюстраваны ў перапісцы з В.Шукевічам. У верасні 1914 г. Ю.Ядкоўскі быў у Гародні, у лісце да В. Шукевіча ён піша: "У Гародні умовы зусім іншыя: зусім няма цукру, солі і белага хлеба. Соль чорная ў кавалках [...]. Рух у Гародні вялікі, але не ў сувязі з жыццём [...], а ў сувязі з цікавымі этнаграфічнымі матэрыяламі, якія Гародня ад пачатку не бачыла [...]. З майго вакна як у сінематографе, так сцены трасуцца, што пісаць не магчыма. Маю намер застацца і напісаць да Чырвонага крыжа [...]. Нават, як санітар, вырашыў жывым не аддавацца ў рукі прусакам [...]"[38].

Ю.Ядкоўскі застаўся ў Гародні, працаваў санітарам Чырвонага крыжа ў вайсковым шпіталі. У час працы ў музеі яго калегі павінны былі пацвердзіць гэты факт для польскіх уладаў, таму што нават мінулае Ю.Ядкоўскага выклікала недавер. Ян Каханоўскі і Вацлаў Контрым засведчылі, што Ю.Ядкоўскі прымаў удзел у барацьбе за польскую школу і працаваў у міжнароднай, а не расейскай, арганізацыі Чырвонага крыжа[39].

На самой справе Ю.Ядкоўскі насіў мундзір расейскай арміі. У лісце 21 ліпеня 1915 г. піша да В.Шукевіча: "Касцялкоўскі (гісторык ВКЛ) быў абураны, убачыўшы мяне ў вайсковай уніформе!"[40] Ю.Ядкоўскі планаваў апрануць форму польскага легіёну ў кастрычніку 1914 г., калі даведаўся аб яго стварэнні, але салдатам так і не стаў. Прымаў удзел у бітвах расейскай арміі з нямецкай на Мазурскіх азёрах. Калегі выступілі ў абарону Ю.Ядкоўскага ў 1932 г., але каб польскія улады мелі жаданне, яны знайшлі б як скарыстацца пералічанымі вышэй фактамі.

У адным з лістоў Ю.Ядкоўскі выказваецца пра палякаў: "Кожны паляк страшна "вялікі", тая "веліч" – хвароба, ад якой, калі не вылечыцца, шмат будзе клопату для цэлага народу"[41]. Адсюль бачна, што Ю.Ядкоўскі не быў зацятым палякам, а мог крытычна ставіцца да свайго народу.

У ліпені 1915 г. Ю.Ядкоўскі працуе ва ўпраўленні па гаспадарцы фартэцый. Праца была вельмі цяжкая, але прыносіла неабходныя грошы. Добра пра свой стан ён напісаў у лісце да В.Шукевіча: "Прабачце, што так брыдка напісаў: на шматку паперы, таму што тут і з паперай цяжка!"[42]

Пра лёс Ю.Ядкоўскага ў 1916 - 1919 гг. мала вядома. У 1919 г. Ю.

37 Śnieżko A. Wydobył z ziemi … S. 44-45.

38 Blombergowa M.M. Wojenne losy Józefa Jodkowskiego… S. 45.

39 Архіў ГДГАМ. Справа № 1. Ліст 72.

40 Blombergowa M.M. Wojenne losy Józefa Jodkowskiego…S. 50.

41 Тамсама. S. 45.

42 Тамсама. S. 50.

Ядкоўскі стаў кіраўніком бюро апекі над помнікамі мастацтва і культуры ў Гародні, якое дзейнічала ад грамадзянскага Упраўлення Усходніх земляў[43].

У 1920 г. служыў уланам дывізіі польскага войска, прымаў удзел у бітвах з бальшавікамі[44]. Пасля дэмабілізацыі атрымаў пасаду кансерватара Беластоцкага ваяводства, адначасова займаў пасаду кіраўніка Аддзела мастацтва і культуры пры ваяводстве[45].

У пачатку 1920-х Ю.Ядкоўскі піша адну з найбольш вядомых прац па гісторыі Гародні. Ідэя стварэння такой працы ў Ю.Ядкоўскага ўзнікла яшчэ з часоў знаходжання ў Маскве. Падрыхтаваў выданне ўжо ў 1920 г., але доўгі час шукаў сродкі на яе друк. У выніку грошы атрымаў ад дэпартамента мастацтва Міністэрства рэлігіі і публічнай асветы, а выдаў у Вільні ў друкарні-кнігарні Ю.Завадскага ў 1923 г. Дэпартамент даў даследчыку ганарар каля 3 млн. 800 тыс. марак, на якія Ю.Ядкоўскі замовіў пашыць сабе касцюм і фрак. Але пасля некалькіх месяцаў за гэтыя грошы не магчыма было набыць нават гузікі для касцюма[46]. На столькі хуткай была дэвальвацыя польскай маркі, а значыць цяжкім быў стан эканомікі краіны і асобнае жыццё кожнага чалавека.

Манаграфія “Гародня” стала асновай гістарычнай канцэпцыі горада і знайшла сваё ўвасабленне ў стварэнні музея. Яна складалася з агульнай часткі, прысвечанай гісторыі горада Гародні са старажытнасці да часоў сучасных, аповядаў пра помнікі архітэктуры горада: замкі, палацы, цэрквы і касцёлы. У працы змешчаны фатаграфіі і замалёўкі самога аўтара, здымкі вядомага фатографа Яна Булгака і гарадзенскага фатографа Лейбы Гельгора[47].

У працы Ю.Ядкоўскі ўказвае на старажытнасць Гародні, якая па яго меркаванню паходзіць з 11 ст. Але ён не згаджаецца з думкай аб тым, што ўпамінанне аб горадзе ў 1127 г. мае адносіны да Гародні. Пазней пасля археалагічных адкрыццяў на Замкавай гары гэта дата стане пачаткам летапіснай Гародні, а Ю.Ядкоўскі ўвойдзе ў гісторыю як даследчык, які практычна даказаў старажытнасць горада.

Падзеі гісторыі Гародні ў кнізе паказаны праз вядомыя гістарычныя постаці, якія былі звязаныя лёсам з горадам. Адлюстраваны ўнёскі кожнай асобы ў развіццё Гародні. Пазней у музейнай экспазіцыі экспанаты заўсёды будуць суправаджацца не толькі вызначэннем даты іх стварэння, але і часам праўлення таго ці іншага ўладара. Напрыклад, гарадзенскія выданні з часоў Жыгімонта III.

---

43 ŁOZY S. Czy wiesz kto to jest? Warszawa, 1938. S. 306.

44 Blombergowa M.M. Wojenne losy Józefa Jodkowskiego... S. 50.

45 Śnieżko A. Wydobył z ziemi … S. 34.

46 Тамсама. S. 34.

47 Jodkowski J. Grodno. Wilno, 1923.

Упершыню быў надрукаваны ў кнізе герб горада з выявай аленя св. Губерта, пададзена яго гісторыя і апісанне. Выклікала цікавасць гіпотэза даследчыка аб смерці св. Казіміра ў Гародні, пра што раней не пісалі.

А.Снежка называе працу Ю.Ядкоўскага манаграфіяй. У нашым сучасным разуменні манаграфія – гэта вузка навуковая кніга, але праца Ядкоўскага напісаная даступнай мовай, як навукова-папулярнае выданне для шырокіх колаў грамадства. Кніга магла выкарыстоўвацца як даведнік па Гародні.

Як чалавек актыўнай грамадскай пазіцыі, Ю.Ядкоўскі непакоіўся за тагачасныя змены ў гістарычным абліччы горада. Напрыклад, ён піша ў працы, што “расейскія улады імкнуліся забыць старадаўнія назвы вуліц, але і апошнім часам горад перажывае перыяд хворага маньяцтва у дачыненні назваў вуліц[48].

Асобную частку кнігі складае гісторыя помнікаў Гародні. Першай сярод помнікаў апісваецца гісторыя праваслаўнай царквы Св. Барыса і Глеба. Вядома, што Ю.Ядкоўскі звярнуў увагу на праваслаўную царкву па прычыне яе старажытнасці, але сам факт адлюстравання ў першую чаргу праваслаўнага помніка, а не каталіцкага, даказвае шырокі погляд даследчыка на гісторыю малой Радзімы.

У кнізе прадстаўлены нешматлікія звесткі пра беларусаў, якія адлюстроўваюць у пэўнай ступені стаўленне Ю.Ядкоўскага да нашага народу. Так, калі ён апісвае паданні пра паходжанне Гародні, то ўказвае, што “сярод так званых беларусаў няма паданняў пра пачатковую гісторыю Гародні, іх трэба шукаць сярод літоўцаў”[49]. Больш цікавым з’яўляецца згадка пра бел-чырвона-белы сцяг: “зараз у Барыса-Глебскім манастыры знаходзіцца беларускі прытулак, а на браме ўздымаецца сцяг неіснуючай беларускай дзяржавы”[50].

У гэты час Барыса-Глебскі манастыр быў цэнтрам беларускага жыцця. Здарылася гэта выпадкова, калі сюды пад час Першай Сусветнай вайны з Краснастокскага манастыра з-пад Беластоку быў пераведзены дзіцячы прытулак для дзяўчынак. Беларуская інтэлігенцыя ім апекавалася. З 1916 па 1930 г. у ім знаходзіліся беларускія школа і канцылярыя Беларускай вучыцельскай рады, сакратарыят Беларускага пасольскага клубу і Беларуская школьна-прытулкавая рада, Беларускі камітэт помачы пацярпелым ад вайны і рэдакцыя газеты “Сялянская гутарка”, беларуская кнігарня і Гарадзенскае аддзяленне Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У манастырскіх келлях жылі А. Грыкоўскі, Л. Дзекуць-Малей,

48 Тамсама. S. 17.

49 Тамсама. S. 2.

50 Jodkowski J. Grodno. Wilno, 1923. S. 22.

А. Кухарчук, А. Шах, С. Кішко, С. Буйло, Д. Лічыцкі, М. Амельянчык, Е. Буднік, Л. Лукашык і іншыя беларусы[51].

У 1920 г. пачалася гісторыя гарадзенскага музея, вялікая роля ў справе арганізацыі і фарміравання якога належыць Ю.Ядкоўскаму. Ён шмат зрабіў для папаўнення фондаў, праводзіў актыўную пошукавую дзейнасць. Менавіта з музеям звязаныя і самыя важныя адкрыцці ў жыцці даследчыка, якія паўсталі падчас археалагічных прац на Замкавай гары ў Гародні.

Раскопкі Ю.Ядкоўскага выклікалі вялікі рэзананс не толькі сярод спецыялістаў, але і сярод грамадскасці. Не ўсе ставіліся адназначна да методыкі прац даследчыка, якая была жорстка раскрытыкаваная ў навуковых археалагічных колах. Ю.Ядкоўскі быў зняты з пасады кіраўніка прац на Замкавай гары. У выніку пасля 1 ліпеня 1937 г. даследчык назаўсёды пакідае Гародню, пераязджае ў Варшаву.

Перад ад’ездам Ю.Ядкоўскі ажаніўся з Галінай Баброўскай, дачкой палкоўніка, кіраўніка Інстытуту фізічнага выхавання ў Гародні. Шлюб бралі ў Вільні ў капліцы Вострабрамскай Божай Маці, адпраўляў абрад сябра Ю.Ядкоўскага – ксёндз Ул.Талочка[52].

З 1937 г. працаваў у мастацкіх зборах Варшаўскага замка, з гэтага часу Ю.Ядкоўскі цалкам прысвяціў сябе польскай нумізматыцы. С.Хоппэ памылкова падае дату 1936 г., як пачатак працы Ю.Ядкоўскага ў Варшаўскім замку[53]. Дакументы 1936 г. з подпісамі дырэктара музея, якія знаходзяцца ў архіве сучаснага гарадзенскага музея, сведчаць што ў гэты час Ю.Ядкоўскі яшчэ працягваў актыўна працаваць у Гародні[54].

З пачаткам Другой сусветнай вайны. Ю.Ядкоўскі, як і большасць палякаў, апынуўся без працы. Адзінай крыніцай існавання стаў продаж асабістых рэчаў. У канцы 1940 г. удалося ўладкавацца на сціплую пасаду эксперта па продажу старых манет. У гэты час пагоршылася здароўе, якое і раней не было добрым, з-за хваробы страціў працу. У чэрвені 1941 г. нарадзілася дачка Эльжбета-Зоф’я[55].

У ліпені 1941 г. атрымаў працу з добрым заробкам – кіраўніка аддзела рэстаўрацыі старой мэблі ў адной з варшаўскіх фірмаў. Адначасова супрацоўнічаў з Нацыянальным музеем, дапамагаў ратаваць каштоўныя прадметы ад вывазу ў Германію. Пасля вайны ў маі 1945 г. Ю.Ядкоўскі атрымаў пасаду кусташа Нумізматычнага кабінета ў Варшаўскім музеі, які быў дашчэнту разрабаваны ў вайну. На гэтай пасадзе ён знаходзіўся да канца сваіх дзён.

51 Чарнякевіч А. Старонкі гісторыі Беларускай Гародні. Доступ праз Інтэрнэт: http://harodnia.com/b03.php [он - лайн], [цытуецца ад 1мая 2008].

52 Śnieżko A. Wydobył z ziemi … S. 45.

53 Hoppe S. Wspomnienie pośmiertne. Biuletyn Historii Sztuki, T. 2, 1950. S. 333.

54 Архіў ГДГАМ, Справа № 1. Ліст 95, 98.

55 Śnieżko A. Wydobył z ziemi … S. 46.

Ю.Ядкоўскі з'яўляўся вядомым знаўцам сярэднявечнай польскай нумізматыкі, польска-літоўскіх манет, манетнай тэхнікі і нумізматычнай літаратуры, аднавіў дзейнасць Варшаўскага нумізматычнага таварыства.[56]

Самай важнай справай жыцця Ю.Ядкоўскага стала стварэнне гарадзенскага музея, дзе ён здолеў увасобіць сваё бачанне шматграннай гісторыі Гарадзеншчыны.

Гарадзенскі музей тых часоў быў важнай часткай культурнага аблічча горада і істотна ўплываў на свядомасць мясцовых жыхароў. Ён фармаваў гістарычныя ўяўленні жыхароў горада ў адпаведнасці з пэўнымі навуковымі і ідэалагічнымі канцэптамі. Безумоўна, ён быў часткай культурнай палітыкі Польшчы, якая ўкладала ў дзейнасць музея ідэалагічна вызначаныя прынцыпы дзейнасці падобных устаноў. Юзаф Ядкоўскі як дырэктар музея павінен быў стаць апорай польскай ідэалогіі. Але ён як сапраўдны даследчык разумеў разнастайнасць культуры Гарадзеншчыны, дзе з даўніх часоў жылі побач розныя народы, якія стваралі непаўторнасць гісторыі і культуры рэгіёну. Таму дзейнасць гарадзенскага музея, дзякуючы намаганням Ю.Ядкоўскага, не мела выключна прапольскай арыентацыі, а была накіравана на даследаванне розных культур Гарадзеншчыны (праваслаўнай, іўдзейскай, уніяцкай).

1920 г. стаў пачаткам гісторыі Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Трэба адзначыць, што ў савецкі час гісторыя музея пачыналася з 1939 г., калі быў створаны Гарадзенскі краязнаўчы музей, бо "па прычыне адсутнасці патрэбных асігнаванняў буржуазна-памешчыцкага ураду Польшчы музей да 1939 г. не змог развярнуць сваёй працы"[57]. Толькі ў канцы 80-х гадоў 20 ст. гістарычная праўда была адноўлена, і пачаўся перыяд вывучэння гісторыі даваеннага Музея ў Гародні.

З 1920 па 1933 гг. музей размяшчаўся ў будынку Староства, а з 1929 г. у Старым замку. Гарадзенскі музей ствараўся ў 20-я гады – час, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы. Гародня была павятовым цэнтрам Беластоцкага ваяводства. Большую частку насельніцтва на гэтых землях складалі беларусы (каля 67 %).

З мэтай узмацнення свайго ўплыву на тэрыторыях, населеных пераважна няпольскім карэнным насельніцтвам, польскі ўрад праводзіў мэтанакіраваную палітыку асіміляцыі і паланізацыі прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў. Сам тэрмін "Заходняя Беларусь" не прызнаваўся польскімі ўладамі і замяняўся ў афіцыйных дакументах на назву "ўсходнія крэсы" (усходнія ўскраіны). У адпаведнасці з дзяржаўнай стратэгіяй палітыка паланізацыі павінна была рэалізоўвацца праз органы ўлады, адукацыі і царкву. Такім органам паланізацыі павінен быў стаць і музей.

[56] Hoppe S. Wspomnienie pośmiertne. S. 333.

[57] Гродненский государственный историко-археологический музей. Путеводитель по залам. Мн.,1963.С. 3.

Польская дзяржава праводзіла актыўную дзейнасць па ахове помнікаў. 31 кастрычніка 1918 г. быў прыняты дэкрэт па апецы над помнікамі. Паводле яго ствараліся спецыяльныя камісіі апекі над помнікамі. 23 студзеня 1920 г. на паседжанні кіраўнікоў акругаў і шэфаў секцыі Грамадзянскага кіраўніцтва Усходніх зямель была прынята пастанова аб арганізацыі нагляду над гістарычнымі помнікамі (у першую чаргу нерухомымі помнікамі, памятнымі крыжамі, etc.). Першапачаткова за помнікамі назіралі павятовыя інжынеры, якія імкнуліся перадаць зарэгістраваныя помнікі пад нагляд гмін, парафій і міліцыі, якія адказвалі за іх.[58] У выніку гэтага рашэння была створана Камісія апекі над помнікамі мастацтва і культуры. Таксама адной з падставаў стварэння Камісіі пры павятовым кіраўніцтве Гародні стала разбурэнне дома ў горадзе, пабудаванага ў так званым “гданьскім” стылі ў 16 - 17 ст., які быў знесены са згоды будаўнічага аддзелу Магістрата горада.

Арганізацыйны сход, які адбыўся 12 сакавіка 1920 г. з ініцыятывы гарадзенскага старасты Казіміра Рагалевіча, зацвердзіў склад Камісіі. У яе ўвайшлі: інжынер В. Герман, Ю.Ванатоўскі (мастак), архіварыус былога губернскага архіва А.Гедройц, Ю.Вільк (скульптар), Л.Вільконскі (нумізмат), кіраўніком і сакратаром быў прызначаны гісторык мастацтва і археолаг Ю.Ядкоўскі. Быў вызначаны бюджэт на 6 месяцаў для Камісіі, які складаў 120 тыс. марак польскіх, і асобна 20 тыс. на арганізацыю бюро Камісіі.[59] У гэты час у Польшчы была невялікая інфляцыя, таму гэта сума была досыць немалой.

Камісія часова размяшчалася ў будынку былога губернскага архіва. Сябры Камісіі прынялі рашэнне, паводле якога планавалася пераехаць у будынак, адпаведны для будучага музея. Самым лепшым месцам для такой установы з’яўляўся Стары замак, дзе праз час мог адчыніць свае дзверы Нацыянальны музей у Гародні[60].

Камісія апекі над помнікамі мастацтва і культуры распачала актыўную дзейнасць з 1920 г. Яна займалася пошукам і зборам помнікаў культуры і гісторыі, акрамя гэтага на яе лёг цяжар аховы і рэстаўрацыі помнікаў. У сакавіку 1920 г. Камісія разглядала, напрыклад, пытанне даследавання касцёла былога базыльянскага жаночага манастыра, які быў зруйнаваны ў 1915 г.[61] З пачатку сваёй дзейнасці Камісія распачала справу аб перадачы ёй Старога замка, як адпаведнага будынка для фондаў Камісіі. Яна займалася вяртаннем бібліятэкі дамініканскага манастыра, якая знаходзілася ў канцылярыі фарнай парафіі. Камісія займалася аховай спадчыны, напрыклад, магістрат Гародні павінен быў узгадніць з ёй пабудову

58 Muzeum w Grodnie. Grodno, 1923. S. 5.

59 Muzeum w Grodnie. Grodno, 1923. S. 7.

60 Тамсама. S. 8.

61 Тамсама. S. 7.

новага паверха ў старым будынку 18 ст. па вул. Дамініканскай, 1[62].

Камісія вяла нагляд за помнікамі ў паветах. Так, 17 сакавіка 1920 г. начальнік III раёну Гарадзенскага павета паведамляў Камісіі аб помніках у Камянецкай гміне – абеліску каля маёнтка Аляшэвічы і старым памежным слупе на граніцы паветаў[63].

Фонд Камісіі пастаянна павялічваўся, з розных мясцін прывозілі старажытныя кнігі, прадметы. Так у збор Камісіі трапілі: зборы педагагічнага музея (мінералогія, геалогія, арніталогія), прывілей Аўгуста III, нададзены цэху гарадзенскіх рыбакоў[64], старадаўні вялікі жалезны ключ, які захоўваўся ў скарбонцы павятовай касы ў Гародні.[65]

Камісія праводзіла шырокую дзейнасць па пошуку старадаўніх кніг, дакументаў. Ю.Ядкоўскі сам наведваў кнігарні горада, запытваўся пра старыя кнігі. Бывалі выпадкі, калі ён знаходзіў старадаўнія дакументы, якія выкарыстоўвалі як абгортачную паперу. У выніку вялікая колькасць дакументаў, рукапісаў, кніг была перададзена Камісіі. 16 чэрвеня 1920 г. на некалькіх фурманках у будынак Староства прывезлі звязкі старадаўніх дакументаў, якія знаходзіліся ў гарадзенскіх крамнікаў, сярод папераў было шмат каштоўных друкаў з гарадзенскіх езуіцкай і дамініканскай бібліятэк[66].

Падчас працы Камісіі па збіранню каштоўных матэрыялаў паўстала праблема недахопу памяшканняў. У гэты час былі вызвалены памяшканні ў будынку Староства (4 пакоі і кухня), куды па запрашэнню старасты К. Рагалевіча пераехала Камісія[67].

Праца Камісіі была спыненая ў ліпені 1920 г., калі падчас савецка-польскай вайны ў Гародню ўвайшоў 3-ці корпус Чырвонай арміі пад камандаваннем Г.Д.Гая. Самыя каштоўныя зборы Камісіі змешчаныя ў 10 вялікіх скрынях перавезлі на станцыю Ласосна за дзень да ўваходу савецкіх войск у Гародню. Яны былі вывезены 19 ліпеня ў тры гадзіны дня, калі савецкія войскі ўжо ўвайшлі ў горад. Каштоўныя зборы вывезеныя за Нёман Ю.Ядкоўскім, кіраўніком Камісіі, Я.Нітаслаўскім, намеснікам гарадзенскага старасты і інжынерам В. Германам, былі накіраваныя ў г. Влацлавак, які знаходзіцца ў паўночнай частцы Польшчы[68].

На захопленай тэрыторыі ствараліся органы савецкай ўлады – ваенна-рэвалюцыйныя камітэты (ВРК). У Гародні працаваў Гарадзенскі павятовы

[62] Тамсама. S. 8.

[63] Тамсама. S. 10.

[64] Тамсама. S. 12.

[65] Тамсама. S. 14.

[66] Muzeum w Grodnie. Grodno, 1923. S. 15.

[67] Тамсама. S. 15.

[68] Тамсама. S. 16.

ВРК, пры якім дзейнічаў аддзел народнай адукацыі. У склад апошняга ўваходзіў культурна-асветніцкі аддзел, які ўжо 29 ліпеня выдаў у Гародні распараджэнне з 6 параграфаў.[69] У адным з параграфаў быў зварот да ўсіх асобаў, якія маюць звесткі пра помнікі мастацтва і старажытнасці, такіх як: карціны, вазы, статуэткі, фарфор і г. д., паведаміць аб іх у сакратарыят. Асобам, якія жадаюць прапанаваць свае паслугі ў арганізацыі народнага ўніверсітэта, прапанавалася зарэгістравацца ў сакратарыяце па вул. Гарохавай у доме Гелера з 10 да 2-х гадзін па "савецкаму часу"[70]. Па сутнасці то быў захад па збору матэрыялаў для будучага музея. Кіравала гэтай працай секцыя выяўленчага мастацтва на чале з Н.Гардонам[71].

16 жніўня 1920 г. Н.Гардон падаў заяву ў аддзел культасвета з просьбай дазволіць паездку па павету з мэтай рэгістрацыі і прыняцця мераў па ахове помнікаў мастацтва і старажытнасцей, якія засталіся ў маёнтках, пакінутых гаспадарамі[72].

31 ліпеня аддзел народнай асветы звяртаўся да жыллёвага аддзела ВРК аб перадачы пад Народны мастацкі музей дома князя Чацвярцінскага па вул. Садовай, 20. Гэты зварот не падтрымалі і 5 жніўня загадчык секцыі аховы помнікаў даўніны звяртаўся да загадчыка культасвета аб выдзяленні памяшкання пад музей. 16 жніўня музею быў перададзены дом Гелера па вул. Гарохавай 4 (вул. Сацыялістычная), частка камплектуемага фонду была размешчана ў Публічнай бібліятэцы[73]. Невядома як выглядала экспазіцыя гэтага музея, ці ўвогуле яна была створана, таму што ўжо ў верасні-кастрычніку горад занялі польскія войскі.

Дом па вул. Гарохавай быў заняты польскімі афіцэрамі. Праз некалькі месяцаў савецкія зборы зніклі. Ю.Ядкоўскі вёў палеміку ў газеце "Echo Grodzieńskie" на прадмет савецкіх збораў. Напэўна, неадукаваныя жаўнеры, мясцовыя жыхары не палічылі вартымі ўвагі будучага музея прадметы, сабраныя пры саветах у Гародні. Сам Ю.Ядкоўскі так не лічыў, ведаў, што няважна, хто збіраў гэтыя каштоўнасці, галоўнае? яны былі сведкамі гісторыі рэгіёну. Частка прадметаў збору Камісіі была знойдзена на гарышчы дома па вул. Гарохавай[74].

Толькі ў ліпені 1921 г. зборы Камісіі былі вернутыя ў Гародню з г. Влацлаўка. У 1921 г. Камісія апекі над помнікамі мастацтва і культуры аднавіла сваю дзейнасць. Адзінай крыніцай фінансавых сродкаў для перша-

---

[69] Фёдарава Л.В. Дзейнасць культурна-асветніцкага аддзела пры Гарадзенскім павятовым ВРК. Краязнаўчыя запіскі. Гродна,2003. С. 103.

[70] Тамсама. С. 104.

[71] Царук В.М., Фёдарава, Л.В. Хроніка музея за 80 гадоў (1920-2000). Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 2003. С. 83.

[72] Фёдарава Л.В. Дзейнасць культурна-асветніцкага аддзела… С. 104.

[73] Царук В.М., Фёдарава Л.В. Хроніка музея за 80 гадоў… С. 83.

[74] Muzeum w Grodnie. Grodno, 1923. S. 16.

пачатковай працы Камісіі стала Выстава помнікаў краю і старой Гародні (аўтары Ю.Ядкоўскі, Л. Вільконскі), якая была адчынена 18 верасня 1921 г.[75] Для выставы былі атрыманыя каштоўныя матэрыялы з павету ад розных асобаў: срэбныя манеты 15 – 16 ст., партрэты паэта Нямцэвіча і яго бацькі ад Зоф'і Урсын-Нямцэвіч з Князевіч, шафа М.К.Агінскага, слуцкі пояс, партрэт Т.Касцюшкі, таксама некаторыя прадметы прадставілі для выставы сябры Камісіі. 6 верасня выставу наведаў Юзаф Пілсудскі[76]. Выстава дзейнічала да 4 снежня 1921 г.

Выстава была першым экспазіцыйным досведам будучага музея. Апісання выгляду выставы мы не маем, але дакладна тое, што гэта быў выдатны збор каштоўных прадметаў. Былі прадстаўлены рэчы, звязаныя з вядомымі асобамі – Ю.Нямцэвічам, М.К.Агінскім, Т.Касцюшкай. Гэтыя людзі былі часткай гісторыі Гарадзеншчыны, і адыгралі важную ролю ў стварэнні яе культурнага аблічча. Менавіта з іх дзейнасцю павінны былі атаясамляць гарадзенцы сваю малую Радзіму. Да сённяшняга дня ў гарадзенскім музеі знаходзяцца прадметы, якія трапілі ў фонды падчас арганізацыі гэтай выставы. Так, шафа М.К.Агінскага з'яўляецца адзіным прадметам мэблі ў музеі, які належаў вядомаму палітычнаму дзеячу і кампазітару. Па ранейшаму шафа прыцягвае цікавасць наведвальнікаў. Прадметы, прадстаўленыя на выставе, і сёння маюць па сутнасці тое ж значэнне, якое мелі ў даваенныя часы. На падставе іх фарміравалася гістарычная памяць мясцовых жыхароў.

Выстава помнікаў краю і старой Гародні была адзінай, арганізаванай Камісіяй за увесь перыяд яе дзейнасці. Яна не дала вялікіх фінансавых сродкаў. У выніку праблемы фінансавання замарудзілі дзейнасць Камісіі, сябры якой сталі рэдка збірацца. Не спрыяла яе дзейнасці сцвярджэнне недасведчанага кансерватара П.Слядзеўскага аб тым, што Камісія ўвогуле існуе незаконна. П.Слядзеўскі не ведаў аб распаўсюджванні дэкрэту аб апецы над помнікамі, які быў прыняты ў 1918 г., на Гарадзенскі павет. Сітуацыю праясніў прыезд у Гародню прадстаўніка Міністэрства веравызнання і публічнай асветы[77].

13 чэрвеня 1922 г. у будынку Староства адбылося паседжанне Камісіі апекі над помнікамі мастацтва і культуры пры Гарадзенскім старостве. На ім прысутнічалі сябры Камісіі, прадстаўнікі Дэпартамента мастацтва, Аддзелу помнікаў і музеяў, Аддзелу дзяржаўных архіваў Міністэрства веравызнання і публічнай асветы і іншых дзяржаўных устаноў. На ім было прынятае рашэнне аб утварэнні на аснове збораў Камісіі Дзяржаўнага Музея пры Гарадзенскім старостве. Дзейнасць гарадзенскага музея распаўсюджвалася ў асноўным на паветы: Гарадзенскі, Ваўкавыскі,

75 Тамсама. S. 17.

76 Тамсама. S. 18.

77 Muzeum w Grodnie. Grodno, 1923. S. 20.

Сакольскі, Беластоцкі, Бельскі, Аўгустоўскі, Сувальскі і Сейненскі. Музей атрымаў памяшканне ў будынку Староства (сучасны адрас – вул. Ажэшка, 3). Кіраўніком музея быў прызначаны Ю.Ядкоўскі[78].

Справа арганізацыі музея амаль цалкам лягла на плечы Ю.Ядкоўскага, таму што ў прынятым пратаколе аб стварэнні музея не было указана ніводнай музейнай пасады акрамя дырэктара і аднаго дазорцы[79].

Ю.Ядкоўскі сам дамаўляўся аб фінансаванні музея. Дзякуючы грашовай дапамозе гарадзенскага старасты К. Рагалевіча, субсідыі Дэпартамента мастацтва і крэдытаў Аддзелу мастацтва і культуры Беластоцкага ваяводства ў памяшканнях, прызначаных для музея, быў праведзены рамонт. Урачыстае адкрыццё музея адбылося 9 снежня 1922 г. з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства рэлігіі і публічнай асветы, гарадзенскага старасты, сяброў былой Камісіі і шматлікіх гарадзенцаў[80].

Музей размясціўся ў тых жа 4 пакоях і кухні (для дазорцы), дзе была Камісія. Нешматлікая мэбля для музея была выканана ў гарадзенскай школе рамёстваў і атрымана дзякуючы старасце К. Рагалевічу[81]. Для наведвальнікаў зборы музея сталі даступнымі ў студзені 1923 г.[82]

За першы год працы музей не стаў папулярным для наведвання. Ён заставаўся “мёртвым інстытутам”, таму што грамадства яшчэ не разумела, якую культурную каштоўнасць уяўляе гэтая ўстанова. Як піша кусташ музея Ю.Ядкоўскі – “развіццё і будучыня Музея залежыць выключна ад дапамогі і самаадданасці грамадства, якое, спадзяюся, спрычыніцца да пераносу будынка і збораў у Стары замак”[83].

Тым не менш Гарадзенскі музей за 1923 г. наведала 2651 чалавек пры працы 161 дзень у год, у 1924 г. – 2038[84]. Музей быў адчынены для агляду ў суботу і нядзелю з 11 да 15 гадзінаў. Наведванне музея групамі можна было замовіць у любы дзень, папярэдне дамовіўшыся з кусташам[85].

Памяшканні для музея былі вельмі малымі і не маглі змесціць больш 25 наведвальнікаў. Па гэтай прычыне часта экскурсійныя групы чакалі пад дажджом сваёй чаргі, да таго ж падлога ў памяшканні трымалася на гнілых бэльках і пры вялікай колькасці наведвальнікаў магла проста проваліцца[86].

---

[78] Тамсама. S. 21.

[79] Тамсама. S. 21.

[80] Muzeum w Grodnie. Grodno, 1923. S. 2.

[81] Тамсама. S. 25.

[82] Muzeum w Grodnie. Grodno, 1924. S. 6.

[83] Тамсама. S. 4.

[84] Muzeum w Grodnie. Grodno, 1925. S. 15.

[85] Muzeum w Grodnie. Grodno, 1924. S. 14.

[86] Muzeum w Grodnie. Grodno, 1925. S. 9.

Нягледзячы на нязручныя умовы працы, музей дзейнічаў. Аб ім пісалі не толькі мясцовыя газеты, але і агульнапольскія. “Ужо некалькі год адчынены ў Гародні музей. – пісаў “Літаратурна-навуковы кур’ер” у 1925 г. – Ён утрымлівае багатыя зборы помнікаў і матэрыялаў, якія адносяцца да гісторыі ўсёй Гарадзеншчыны. Заснавальнікам і кусташам музея з’яўляецца Юзаф Ядкоўскі, якога велікадушны дар у выглядзе каштоўных і шматлікіх збораў стаў асновай музея”[87].

З самага пачатку дзейнасці музея існавала неабходнасць пераносу збораў у прыдатны для экспазіцый будынак. Гэтае пытанне павінна было вырашацца на ўзроўні мясцовых уладаў. На паседжанні мясцовай рады 14 жніўня 1924 г. было прынятае рашэнне аб сустрэчы 26 жніўня вайсковых і цывільных уладаў у Старым замку па пытанні перадачы музею часткі замка. На гэтай сустрэчы прысутнічалі гарадзенскі стараста К.Рагалевіч, прэзідэнт горада Э.Стэпнеўскі, дырэктар музея Ю.Ядкоўскі і прадстаўнікі вайсковых уладаў. У выніку сустрэчы генерал Л. Бербецкі выдаў загад аб перадачы часткі Старога замку і ўязной вежы музею на працягу двух тыдняў. Да таго ж планавалася аддаць і другія залы замка ў бліжэйшы час. На жаль, музей не пераехаў у замак да канца 1924 г., таму што вайскоўцы не пакінулі будынак, а таксама не было грошаў для рамонту вельмі пашкоджаных залаў замка[88].

Стварэнне музея ў Старым замку было цесна звязана са справай яго адбудовы. Выкарыстанне замка пасля падзелаў Рэчы Паспалітай не адпавядала яго першапачатковаму прызначэнню. У часы Расейскай імперыі ён быў вайсковым клубам. У 20-я гады 20 ст. тут знаходзіліся: інфекцыйная бальніца, афіцэрскае казіно, лазня, якая размяшчалася на першым паверсе, таму сутарэнні часта запаўняліся вадой[89]. Толькі з пераносам музея ў замак пачынаюцца працы па яго адбудове і ўпарадкаванню атачэння.

Старому замку патрэбна была грунтоўная рэстаўрацыя. Для правядзення прац выдаткоўваліся дзяржаўныя сродкі. З дапамогай Майстэрні польскай архітэктуры ў Варшаве, якая займалася пытаннямі аднаўлення архітэктурных помнікаў, і Камендатуры ўмацаванага лагеру ў Гародні ў верасні-кастрычніку 1924 г. былі зробленыя падрабязныя абмеры замка. Вымярэннямі займаліся студэнты Варшаўскага політэхнічнага інстытуту – Я.Клімашэўскі і Б.Жыўна. З дазволу беластоцкага ваяводы на правядзенне гэтых прац былі выкарыстаны крэдыты Аддзелу мастацтва і культуры Беластоцкага ваяводства[90].

87 Alberti K. Stare Grodno // Kurjer literacko-naukowy. 2 listopada 1925 r. S. 5.

88 Muzeum w Grodnie. Grodno, 1925. S. 6.

89 Тамсама. S. 6.

90 Тамсама. S. 7.

Небяспека абвалу існавала не толькі для муроў часоў Вітаўта, але і для самога будынку палаца на Старым замку. Вайсковыя ўлады паабяцалі дапамагчы ў справе ўмацавання Замкавай гары і выдалі адносна гэтага адпаведныя распараджэнні загадам ад 29 жніўня 1924 г. Аб сваёй дапамозе заявіў і прэзідэнт горада Э.Стэпнеўскі. Ён дамовіўся з Упраўленнем водных дарог у Гародні аб дапамозе ў будаўніцтве ахоўнага бульвара ля падножжа Замкавай гары. Дзеля гэтага быў зроблены абмер гары. Па загаду генерала Л.Бербецкага іх ажыццяўляў інжынер Е.Брэйхэ, а Упраўленне водных дарог зрабіла вымярэнні глыбіні р.Нёман[91].

Справа рэканструкцыі Замкавай гары патрабавала вялікіх сродкаў і была разгледжаная на паседжанні Гарадской рады 29 снежня 1924 г. На ёй было адмоўлена ў выдзяленні на рэканструкцыю 10 тыс. злотых, праўда, было вырашана звярнуцца да ўсіх устаноў, якія зацікаўленыя лёсам Замкавай гары ў Гародні, каб наладзіць супрацоўніцтва[92].

Не чакаючы канчатковага вырашэння пытання, Ю.Ядкоўскі пачаў працы па расчыстцы муроў, каб аблегчыць абмеры замка. Падчас прац па даследаванню памяшканняў Старога замка Ю.Ядкоўскім у карыдоры, які звязвае ўязную браму з існуючым крылом замка, на другім паверсе былі адкрытыя пяць замураваных байніцаў, схованка і сходы ў сцяне, якія злучалі калісьці верхнюю частку брамы з дзядзінцам. Паралельна Ю.Ядкоўскі пачынае археалагічныя працы. Звонку замка, з боку горада была выкапаная траншэя глыбінёй ад 0,5 да 1,5 м, шырынёй 0,60-0,80 м, дзе наткнуліся на значную колькасць фрагментаў дэкаратыўных аздабленняў палаца: ручка, рэшткі карнізаў, некалькі дзесяткаў аскепкаў рознакаляровай паліванай кафлі і іншыя рэчы, якія па вызначэнню Ю.Ядкоўскага, паходзяць з перабудовы Старога замка ў часы Стэфана Баторыя і Яна III. А знойдзеныя сцены таўшчынёй 2 м даследчык вызначыў як сярэднявечныя. Пошукі скончыліся 10 лістапада 1924 г. з-за пачаўшыхся маразоў[93].

Тым часам пагроза разбурэння пабудоў існавала не толькі на Замкавай гары, але і на суседнім пагорку. Вясною 1925 г. абвалілася прыбудова да Новага замка, а ў 1927 г. асунулася частка Замкавай гары і чакаўся абвал вісячых у паветры рэштак муроў часоў Вітаўта. Падобны лёс пагражаў і ўязной браме Старога замка, што стала відавочным ў 1926 г.[94] Патрэбны былі тэрміновыя мерапрыемствы па захаванню Старога і Новага замкаў і іх атачэнняў.

Дзеля ўпарадкавання помнікаў 9 лютага 1928 г. быў створаны Камітэт адбудовы замка (Kuratorjum Zamkowy), у склад якога ўвайшлі восем

[91] Тамсама. S. 8.

[92] Muzeum w Grodnie. Grodno, 1925. S. 9.

[93] Тамсама. S. 7.

[94] Jodkowski J. Królewski zamek stary i muzeum w Grodnie. Województwo Białostockie. Przyszłość i zabytki. Białystok, 1929. S. 22.

чалавек, сярод іх быў Ю.Ядкоўскі[95]. Са стварэннем гэтага камітэта пачынаюцца рэальныя працы па добраўпарадкаванню Замкавай гары.

Раман Якімовіч, кіраўнік Дзяржаўнага археалагічнага музея ў Варшаве, які аналізаваў раскопкі Ю.Ядкоўскага, першы падаў памылковыя звесткі аб няслушным датаванні пачатку земляных прац. Ён указвае, што працы па ўмацаванню схілаў гары пачаліся пад кіраўніцтвам ваяводскага Камітэта ўшанавання памяці Стэфана Баторыя, дзеля чаго зямлю з двара замка выкарыстоўвалі на падсыпку схілаў Замкавай гары і набярэжнай[96]. Але працы па ўмацаванню гары пачаліся ў 1928 г., аб чым пісаў Ю.Ядкоўскі ў кароткай справаздачы для ваеннага кіраўніцтва. Камітэт ушанавання памяці С. Баторыя паўстаў жа толькі ў канцы 1933 г.

Трэба адзначыць, што функцыі гэтых установаў былі рознымі. Па словах генерала А.Літвіновіча, кіраўніка Камітэту адбудовы замка, адміністрацыйна-гаспадарчыя і кансерватарскія працы, у тым ліку раскопкі, не павінны ўваходзіць у сферу кампетэнцыі Камітэту ўшанавання памяці С.Баторыя. Ён павінен быў займацца выключна арганізацыяй мерапрыемстваў па святкаванню 400-годдзя караля Рэчы Паспалітай[97]. Гэтую памылку ўслед за Р.Якімовічам паўтарыў М.М.Варонін[98], а потым і аўтары калектыўнай працы “Стары замак у Гародні 11 – 18 стст.”, дзе пачатак земляных прац на Замкавай гары звязваецца з веснавой паводкай 1932 г., пасля якой ўзнікла неабходнасць ў працах па прадухіленню абвалу муроў часоў Вітаўта[99]. Такім чынам, датай пачатку аднаўленчых прац трэба лічыць менавіта 1928 г., калі быў арганізаваны Камітэт адбудовы замка.

Праект аднаўлення Старога Замка і Замкавай гары быў прадстаўлены на VI выставе мастацкіх прац У.Хофмана і праектаў адбудовы Каралеўскага замка ў Гародні 7-21 кастрычніка 1928 г. Сярод экспанатаў выставы былі паасобку прадстаўлены праект пабудовы ахоўнага бульвару ўздоўж р. Нёман ад вул. Падзамча да вусця р. Гараднічанкі, праект уладкавання падворка Старога замка (аўтар Ю.Ядкоўскі), праекты адбудовы ўяздной брамы і надбудовы над ёй паверха з дахам у выглядзе шлему (аўтары Б. Збароўскі і Ю.Ядкоўскі), замалёўка да праекту надбудовы шлему над уязной брамай (аўтар Б.Збароўскі), перспектыўныя малюнкі дзядзінца (аўтар Б.Збароўскі), рэканструкцыя разбураных аркад

---

95 Jodkowski J. Królewski zamek Stary w Grodnie. VI wystawa prac Wlastimila Hobmanna i proektow odbudowy zamku Starego w Grodnie. Grodno 7-21.X.1928. S. 2.

96 Jakimowicz, R. Prawda o Górze Zamkowej w Grodnie. Marchołt, 1937. № 2. S. 196.

97 Jodkowski J. W sprawie długości: Prawda o Górze Zamkowej w Grodnie (List do Redakcji «Marchołta») Marchołt, 1937. № 3. S. 377.

98 Воронин Н.Н. Древнее Гродно: (По материалам археологических раскопок). Москва, 1954. С.20.

99 Трусаў А. А.; Собаль В. Е.; Здановіч Н. І. Стары замак у Гродне XI – XVIII стст.: Гіст.-археал. нарыс. Мн., 1993. С. 20.

(аўтар Ю.Ядкоўскі), праекты адхілення філяраў у Сеймавай залі (аўтар Ю.Ядкоўскі) і інш.[100]

У праекце, распрацаваным Камітэтам па адбудове, былі вызначаны асноўныя мерапрыемствы па аднаўленню Старога замка і добраўпарадкаванню Замкавай гары. Планавалася ўзвесці апоры пад Новым замкам дзеля прадухілення спаўзання яго схілаў, што магло быць выканана толькі пасля зносу старых будынкаў на беразе ракі. На вясну 1929 г. планавалася стварэнне тэрасы з балюстрадай каля сярэднявечных муроў з боку Нёмана і забеспячэнне іх ад разбурэння. Праект прадугледжваў зніжэнне ўзроўню пляцоўкі двара Старога замка на 4,5 м. Гэта рабілася, каб прыблізіць двор замка да ранейшага ўзроўню, калі двор быў на два метра ніжэйшы за тагачасны. Зямлю з дзядзінца планавалі выкарыстаць на падсыпку схілаў гары з боку р.Нёман. Адзначалася, што гэта дасць магчымасць адкрыцця рэштак старажытных замкавых пабудоў, якія знаходзяцца пад зямлёю[101]. Як бачым, Ю.Ядкоўскі здагадваўся, што вялікі пласт гісторыі схаваны пад зямлёй, таму, каб даведацца больш аб самім замку і аб гісторыі горада, пачаліся працы.

Па перакананню Ю.Ядкоўскага, паніжэнне ўзроўню дзядзінца дасць магчымасць доступу да акенца пад абрывам, пра якое хадзіла легенда, што гэта ўваход у падземны ход, што вядзе пад самы Нёман, і таму ён стане цікавым для наведвальнікаў замка. Гэта акенца і сёння знаходзіцца ў абарончай сцяне 14 ст., яно бачна з боку р. Нёман. У паўночным канцы дзядзінца Ю.Ядкоўскі спадзяваўся знайсці частку падзямелля і рэшткі акруглай сярэднявечнай вежы, якая па яго меркаванню тут існавала. Адначасова на падставе навуковых даследаванняў павінны былі распачацца працы па адбудове Старога замка.

Галоўны ўваход замка планавалася перанесці на сярэдзіну будынка, размесціць насупраць галоўных сходаў да бальнай залі, а раней Сеймавай залі. Прыбіральню з разбуранымі сходамі перарабіць у хол з гардэробам. Сенатарская зала на першым паверсе, на той момант падзеленая на тры часткі: сталовую, сенцы і гардэроб, будзе рэканструявана з той мэтай, каб адсунуць два філяра, на якія апіраюцца скляпенні. Прэзентацыйная зала будзе часткова абніжаная з мэтай схаваць яе верхнюю частку пад новым дахам, які будзе вышэй, бо па праекту планавалася прыбраць надбудову часоў Расейскай імперыі (трэці паверх), якая псавала знешні выгляд будынка. Галоўная ўвага праекта была нададзена эстэтычнаму выгляду Старога замка. Таму Камітэт шукаў сродкі на аздобу абрамленняў, уваходных дзвярэй і брамы. У замку меркавалася размясціць гісторыка-мастацкі, этнаграфічны і вайсковы музей[102].

[100] Jodkowski J. Królewski zamek Stary w Grodnie / VI wystawa prac Wlastimila Hobmanna… S. 4.

[101] Jodkowski J. Królewski zamek Stary w Grodnie / VI wystawa prac Wlastimila Hobmanna… S. 3.

[102] Тамсама. S. 4.

Трэба адзначыць, што на рэалізацыю праекта патрабаваліся значныя грошы, якіх не хапала ні ў Міністэрстве грамадскіх прац, ні ў іншых установах. Таму ўжо ў праекце ўказваецца на доўгатэрміновасць прац на Замкавай гары, якія могуць зацягнуцца на два-тры гады. Але гэты тэрмін не з’яўляецца доўгім для правядзення рэканструкцыі па сучасным меркам, таму можна лічыць што праект павінен быў ажыццявіцца ў досыць кароткі тэрмін.

Цалкам здзейсніць рэканструкцыю і частковае аднаўленне замка не атрымалася. Праблема заключалася ў адсутнасці дастатковых сродкаў. Тым не менш, пэўныя працы былі праведзеныя. Галоўным вынікам праекту стала стварэнне ў 1929 г. ахоўваючай набярэжнай уздоўж р. Нёман, якая звязвала раён Рыбакі (сучасная вул Рыбацкая) і вул. Падзамча (зараз не існуе), што ішла непасрэдна каля замкаў. Пасля паводак 1931 і 1932 г. набярэжная была адрамантаваная, у гэтай працы з дапамогай ваяводы М. Зындрам-Касцялкоўскага было задзейнічана 200 беспрацоўных[103]. Такім чынам ажыццявілася ідэя Ю.Ядкоўскага аб стварэнні бульвара ўздоўж Нёмана, пра якую ён пісаў яшчэ ў 1924 г. Гэтая набярэжная і сёння з’яўляецца месцам адпачынку гараджан. Каб памятаць пра яе распрацоўшчыка, вядомую асобу варта перайменаваць гэтую вуліцу ў гонар Ю.Ядкоўскага (зараз называецца вул. Спартыўная).

У 1933 г. справы па аднаўленню Замкавай гары ўзяў на сябе Камітэт ўшанавання памяці С.Баторыя, які быў створаны ў гонар святкавання 400-годдзя караля. Яго кіраўніком стаў генерал Ф.Клеберг. На жаль, крыніцы не захавалі звестак аб тым, чаму кіраўніцтва працамі перайшло ад Камітэта адбудовы замка да Камітэта ўшанавання, і далейшы лес Камітэта адбудовы не вядомы. Камітэт ушанавання планаваў аднавіць залы замка для размяшчэння тут Музея і падрыхтаваць іх да запланаванага на 1936 г. прыезду Ю.Пілсудскага на 350-ю гадавіну смерці караля ў Гародні[104].

У час аднаўлення Старога замка ў Гародні музей увёў спецыяльныя квіткі на наведванне музея, аплата якога ішла на адбудову замка. На квітках была выява плануемага выгляду замка і надпіс “50 грошаў замест цаглінкі на адбудову – ахвяра на кансерватарскія працы”.

Такім чынам адбывалася рэстаўрацыя Старога замка і яго атачэння. Вядома, што земляныя працы, пачатыя ў 1931 г. па ініцыятыве Камітэту адбудовы замку з нагоды добраўпарадкавання падворка палаца, ў якім размясціўся музей, сталі пачаткам археалагічных адкрыццяў на Старым замку ў Гародні.

З 1925 г. пачынаецца паступовы пераезд фондаў музея ў Стары за-

103 Jodkowski J. Wawel nadniemenski // Ziemia. 1933. № 10. S. 168.

104 Тамсама. S. 169.

мак. У сакавіку гэтага года паклалі падлогу і асмалілі столевыя бэлькі ў вестыбюлі, пакоях 1, 2, 5 і пакоі над брамай. 15 мая 1929 г. адбылося зацвярджэнне праграмы работ на 1929 - 1930 гг. У першую чаргу ў ёй планавалася абсталяваць хол, які б адпавядаў прызначэнню замка[105].

У канцы 1929 г. у Старым замку былі зробленыя дзве залі. У адной была адкрыта экспазіцыя, прысвечаная пісьменніцы Элізе Ажэшка, у другой экспанаваўся кнігазбор, падараваны музею графіняй Мартай Красіньскай. Але асноўная экспазіцыя працягвала працаваць у будынку Староства. Толькі ў 1931 г. экспазіцыя музея пераехала ў замак, дзе заняла на той час пяць залаў[106].

Ю.Ядкоўскі імкнуўся арганічна ўвесці новую экспазіцыю ў каралеўскі палац. Былі выкананы па эскізах кусташа мэбля, свяцільнікі, стылізаваныя пад 16 ст., замоўлены партрэт Стэфана Баторыя ў поўны рост. Гэта экспазіцыя была папоўнена за кошт матэрыялаў, сабраных падчас экспедыцый, археалагічных раскопак, і падарункаў[107].

Пасля пераезду ў Стары замак, музей запавольвае тэмпы сваёй дзейнасці: марудна ствараюцца экспазіцыі (адкрыты пяць залаў толькі ў 1931 г.), змяншаецца колькасць музейных выданняў (у 1923-1929 гг. выйшла 11 выданняў: каталогі выстаў, справаздачы, у 1930-1936 гг. толькі 3). Гэта адбывалася таму, што Ю.Ядкоўскі актыўна заняўся даследаваннямі Замкавай гары, якія прывялі да сенсацыйных адкрыццяў. З другога боку, дзякуючы даследаванням, вельмі добра быў прадстаўлены іншы накірунак дзейнасці музея – навуковы.

Асновай фондаў музея сталі зборы Камісіі апекі над помнікамі мастацтва і культуры. У яго склад увайшла таксама калекцыя Ю.Ядкоўскага. Многія экспанаты былі падораныя прыватнымі асобамі, якія збіралі старажытныя прадметы. Аб іх імёнах і дарэннях, а таксама аб прадметах, якія браліся пад дэпазіт (на часовае экспанаванне ці захоўванне), можна даведацца з справаздачаў музея[108]. Сярод ахвярадаўцаў можна ўбачыць не толькі асобаў, але і розныя установы: манастыр францішканаў і назарыцянак, камендатура паліцыі, магістраты Гародні і Крынак, Таварыства сяброў навук і Дзяржаўны архіў у Вільні, музеі з Львова, Варшавы, Кракава (музейныя ахвяраванні – ў асноўным друкаваныя выданні).

Жыхары Гарадзеншчыны перадавалі музею ўласныя зборы. Адным з пастаянных ахвярадаўцаў быў былы сябра Камісіі апекі над помнікамі – Леон Вільконскі; цікавыя рэчы, якія належалі сям'і Нямцэвічаў, перадала Зоф'я Урсын-Нямцэвіч з Князевіч; уладальнік прыгожага палаца ў

[105] Царук В.М., Фёдарава Л.В. Хроніка музея за 80 гадоў… С. 87.

[106] Тамсама. С. 88.

[107] Царук В.М. Экспазіцыйная дзейнасць Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1997. С. 4.

[108] Справаздачы ў выданнях Muzeum w Grodnie за 1920-1924 гг.

Свяцку – Юзаф Гурскі падарыў музею 113 дакументаў 16 – 18 ст. па гісторыі Сапоцкінскага краю; Вітольд Урублеўскі перадаў медаль, які атрымаў у гарадзенскай гімназіі ў 1862 г. ад Зыгмунта Урублеўскага – ураджэнца Гародні, вядомага фізіка, у гонар якога была названая вуліца ў Гародні ў 30-я гады 20 ст. Культавыя прадметы перадавалі святары прыходаў, напрыклад, ксяндзы Ул.Талочка з Вільні, В.Баневіч з Гожы, Г.Сабалеўскі з Уснаша, В.Саросек з Вялікай Бераставіцы, кансісторыя Барыса-Глебскага манастыра перадала уніяцкія "царскія вароты", якія па сённяшні дзень з'яўляюцца каштоўнасцю музея. Зразумела, што і сам кусташ Музея – Ю.Ядкоўскі пастаянна папаўняў фонды за кошт сваіх збораў. Ён перадаў музею калекцыю папяровых грошаў часоў Т.Касцюшкі, герцагства Варшаўскага і Каралеўства Польскага, манеты 18 – пачатку 19 ст., 10 гарадзенскіх паясоў, 48 драгічынскіх пломбаў.

Аб тым, як збіраў фонды музея Ю.Ядкоўскі, вельмі добра напісала газета "Dziennik Kresowy". Калі Ю.Ядкоўскі адрамантаваў будынак музея, "тады ён пачаў "ствараць" свой музей. Але як! Апрануў старую адзежу і пачаў вандроўку па стрэхах, крамках, і нават па сметніках… Так, сапраўды! На сметніку дзесьці каля Гародні знайшоў старую карціну Готліба […] Цяжэй за ўсё было з крамкамі. Ідзе сабе Ядкоўскі завулкам Гародні, глядзіць, а тут нейкая габрэйка загортвае масла ў цудоўную графічную выяву з кнігі, тому бясцэннай старой гісторыі выяўленчага мастацтва. Габрэйка не хоча прадаваць альбом, бо … не знойдзе нідзе "такой добрай паперы" для загортвання масла. Пасля доўгага торгу, просьбаў і пагроз том быў набыты"[109].

Ю.Ядкоўскі пачаў фарміраваць музейны кнігазбор, сцягваючы сюды рэшткі багатых бібліятэк Гарадзеншчыны. Рэдкія выданні павінны былі стаць часткай бібліятэкі музея. Дзякуючы стараням і настойлівасці Ю.Ядкоўскага ў музей трапілі кнігі з Гарадзенскай публічнай бібліятэкі, якая існавала ў горадзе ў другой палове 19 ст., кнігі з уладальніцкім подпісам ксяндза Гінтаўта – пробашча былога бернардынскага касцёла ў Гародні, старыя кнігі з бібліятэкі гарадзенскіх кармелітаў, кнігі з пячаткамі бібліятэкі 81 палка Гарадзенскіх стралкоў імя Стэфана Баторыя, бібліятэкі Цяцерскіх, частка кнігазбору Казіміра Котрыма – публіцыста, бібліятэкара і сакратара Віленскага ўніверсітэта, кнігі з прыватных бібліятэк. Шмат цікавых кніг трапіла ў музей у якасці дарэнняў. Перадавалі іх сюды розныя ўстановы і арганізацыі – школы, музеі іншых гарадоў, выдавецтвы, навуковыя ўстановы[110]. Старэйшая частка кнігазбору паходзіць з бібліятэкі гарадзенскіх дамініканаў, куды трапіла бібліятэка гарадзенскіх езуітаў. На пачатку 19 ст. кнігазбор дамініканаў налічваў 10 ці 15 тыс тамоў[111] тэала-

[109] Co mówią o Grodnie dzielnikarze. Dziennik Kresowy1 lipca 1923 r.

[110] Коўкель Л. І. З гісторыі кнігазбораў ГДГАМ. Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1993. С. 23-24.

[111] Тамсама. С. 22.

гічных і свецкіх кніг 16 – 18 ст. і рукапісаў. Гэта была адна з найбуйнейшых бібліятэк Літвы і Беларусі. Пасля завірух 1920 г. Ю.Ядкоўскаму ўдалося выратаваць з больш чым 10-тысячнай бібліятэкі дамініканаў толькі 905 тамоў старадрукаў[112], у большасці ў пергаментных вокладках. Усе яны пазначаны экслібрысамі бібліятэкі гарадзенскіх дамініканаў.

Значнай падзеяй у гісторыі кнігазбору музея было ахвяраванне ў 1927 г. Мартай з Пуслоўскіх Красіньскай каля 10 тыс. тамоў кніг 16 – 19 ст., у большасці па гісторыі наднёманскага краю, зямель ВКЛ, Рэчы Паспалітай. На ўсіх кнігах стаіць штамп “З бібліятэкі Вандаліна Пуслоўскага і Марты Красіньскай”. Кнігазбор В.Пуслоўскага (гісторыка, нумізмата, археолага) з Косава павандраваў разам з пасагам яго дачкі Марты ў маёнтак Свіслач. Дачка павялічыла кнігазбор. Ю.Ядкоўскі, прымаючы гэты дар, планаваў пасля адпаведнага апрацавання надаць кнігазбору музея назву “Бібліятэка імя Вандаліна Пуслоўскага і Марты Красіньскай”. Гэтая назва была надрукавана на картках каталогу бібліятэкі міжваеннага часу[113]. Багаты кнігазбор музея па сённяшні дзень захоўваецца ў Аддзеле рэдкай кнігі і старадрукаў музея.

У канцы 1922 г. быў адкрыты дакументальны фонд Музея ў Гародні. Многае для папаўнення фонда збіраў сам Ю.Ядкоўскі. Вялікая колькасць дакументаў 16 – 18 ст. сённяшняга гарадзенскага музея была сабрана ў тыя часы.

Ю.Ядкоўскі займаўся складаннем калекцыі выдатнай гарадзенскай пісьменніцы Элізы Ажэшка, якую ён добра ведаў асабіста. Музей у 1922-1937 гг. набыў больш за 300 адзінак экспанатаў, звязаных з іменем Э.Ажэшкі. Гэтыя экспанаты траплялі ў музей рознымі шляхамі. Так, фотаздымак айчыма пісьменніцы – Канстанцыя Відацкага быў падараваны невядомай Урублеўскай. Вядомы фотаздымак Э.Ажэшкі з сяброўкай і вучаніцай Марыяй Абрэмскай з’явіўся ў музейным фондзе дзякуючы самой М.Абрэмскай. У 1937 г. упершыню музей набыў ад спадара Цытажынскага матэрыялы з аўтографамі вядомай пісьменніцы, а таксама выдатны гербарны альбом, складзены яе рукамі. Па просьбе Ю.Ядкоўскага Таварыства Элізы Ажэшкі ў Варшаве перадало ў фонды рукапіс славутага рамана “Над Нёманам”, візітоўку з аўтографам, фотаздымкі, засушаныя кветкі, і 99 паштовых марак з выявай пісьменніцы. На жаль, многія з гэтых каштоўных матэрыялаў былі страчаныя, у тым ліку рукапіс раману[114].

Ю.Ядкоўскі быў сапраўдным музейным супрацоўнікам і не мог абыйсці ўвагай творы народнага мастацтва. На другі год дзейнасці музея ўжо быў

[112] Zbiory Polskie w ojczyźnie i na obczyznie. T. 1. Warszawa –Krakow, 1926. S. 114.

[113] Коўкель Л. І. З гісторыі кнігазбораў ГДГАМ. С. 24.

[114] Ткачова В.А. Архіў Элізы Ажэшкі. Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 2003. С. 16.

створаны аддзел народнага мастацтва “з улікам народных промыслаў”[115]. Асабліва трэба падкрэсліць ролю Ю.Ядкоўскага ў першаадкрыцці высокай мастацкай вартасці гарадзенскіх падвойных дываноў, вядомым збіральнікам якіх на працягу амаль дваццаці гадоў ён быў[116]. Ядкоўскі ўпершыню даў апісанне дываноў у працы “Народны промысел у Сакольскім павеце”, планаваў прадставіць іх на выставе народнага мастацтва ў Беластоку.[117] Сёння калекцыя “гарадзенскіх дываноў” знаходзіцца ў Беластоцкім музеі.

У 20-х гадах 20 ст. пачынае складацца і калекцыя арнатаў і далматык, менавіта першыя два арнаты калекцыі былі прыняты Ю.Ядкоўскім ў міжваенны час ад мясцовых ксяндзоў[118]. Ю.Ядкоўскі шмат падарожнічаў па Гарадзеншчыне, знаёміўся з народнай творчасцю жыхароў розных гарадоў, мястэчак, вёсак. Ён цікавіўся дымленай поразаўскай керамікай, пачаў збіраць калекцыю вырабаў. Па захаваўшыхся запісах вызначаны 31 прадмет, выраблены поразаўскімі майстрамі ў 20 – 30-я гады. Гэта ў большасці вырабы ўтылітарнага прызначэння. Таксама у калекцыі былі прадстаўленыя разнастайныя мініяцюрныя сувенірныя і цацачныя вырабы для турыстаў. Ядкоўскі, напэўна, замаўляў ганчарам зрабіць традыцыйныя ганчарныя формы для Музея ў Гародні. Невыпадкова, на адным з гаршочкаў (КП-7829) ёсць надпіс па-польску “Poplawski” – прозвішча аднаго з патомных поразаўскіх ганчароў. Там жа ў Поразаве, Ю.Ядкоўскі зрабіў фотаздымак А. Паплаўскага са сваімі вырабамі каля печы для апбалу[119].

Важнай часткай калекцыі музея сталі вынікі археалагічных даследаванняў Ю.Ядкоўскага. Шматлікія знаходкі, якія паходзілі з раскопак ,праведзеных ў Гародні і на Гарадзеншчыне (драгічынскія пломбы, прадметы з раскопак у в. Дубічы і інш.), па сённяшні дзень захоўваюцца ў музеі. Археалагічныя знаходкі з раскопак на Замкавай гары сталі сапраўдным скарбам музея. Яны пацвярджалі старажытнасць Гародні, разнастайнасць яе гаспадарчага жыцця і шырокіх гандлёвых сувязяў у 12 – 13 ст.

Нам няшмат вядома пра працу музея пасля 1937 г., калі Ю.Ядкоўскі пакідае пасаду дырэктара і з’язджае ў Варшаву. Наступным кіраўніком музея стаў Марыян Мяшчынскі. Можна меркаваць, што ён праводзіў досыць актыўную дзейнасць. Так, у снежні 1938 г. выслаў ліст у гарадзенскі

115 Muzeum w Grodnie. Grodno, 1923. S. 7.

116 Маліноўская Т. Р. Ю. Ядкоўскі – пачынальнік стварэння калекцыі народнага мастацтва ў Гарадзенскім гісторыка-архелагічным музеі. Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1990. С. 30-31.

117 Jodkowski J. Przemysł ludowy w powiecie Sokolskim. Grodno, 1928. S.2.

118 Крайнева І.А. Дэкаратыўныя тканіны ў калекцыі арнатаў і далматык са збораў ГДГАМ. Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 2003. С. 29.

119 Сцепанюк С.В. З гісторыі камплектавання калекцыі поразаўскай керамікі. Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 2000. С. 78.

аддзел Польскага гістарычнага таварыства, каб запрасіць дэлегата ад гэтай установы на інфармацыйна-справаздачны сход у Старым замку. Такія лісты былі накіраваныя ў іншыя установы, зацікаўленыя ў справе развіцця і дзейнасці музея. У праграме планавалася не толькі музейная справаздача за 1937 - 1938 гг., але таксама рэферат М.Мяшчынскага "Задачы рэгіянальных музеяў", дыскусія, план будучай дзейнасці і дабрачынныя ахвяраванні на музей[120].

Пасада М.Мяшчынскага азначалася як кіраўнік музея, а не дырэктар ці кусташ, як раней указвалася пасада Ю.Ядкоўскага. Магчыма, гэта звязаны з тым, што М.Мяшчынскі ўжо не выконваў функцыі кансерватара, як гэта рабіў яго папярэднік. М.Мяшчынскі быў апошнім кіраўніком польскага Музея ў Гародні.

1 верасня 1939 г. пачалася Другая сусветная вайна, але для Заходняй Беларусі больш важнай падзеяй стала дата 17 верасня 1939 г., калі Чырвоная армія рушыла праз польска-савецкую мяжу. 20 - 21 верасня Гародня была занятая Чырвонай арміяй.

Падчас баёў у Гародні, экспазіцыя музея была пашкоджаная, супрацоўнікі наводзілі ў ёй парадак. Салдаты Чырвонай арміі забралі ў музеі частку мэблі, друкарскую машынку, тэлефонныя апараты[121].

У лютым 1940 г. гарадзенскі музей згодна пастановы Беластоцкага абласнога выканаўчага камітэту (БАВК) быў перададзены Упраўленню мастацкіх спраў з мэтай арганізацыі мастацкага музея. Аддзел мастацтва БАВК назначыў дырэктарам музея М.І.Крынскага. Аднак афіцыйная перадача музея не адбылася, таму што М.Мяшчынскі ўцёк у невядомым кірунку[122]. Праз месяц дырэктарам новастворанага мастацкага музея ў Беластоку быў назначаны А.М.Бельковіч, а гарадзенскі музей быў перададзены пад яго кіраўніцтва. Памяшканні музея некалькі месяцаў выкарыстоўваліся як склад, у які прывозілі з сядзібаў канфіскаваныя карціны[123].

17 чэрвеня 1940 г. камісія пад кіраўніцтвам А.М.Бельковіча складала спіс экспанатаў музея і праводзіла прыняцце фондаў музея. Было прынята 34.172 экспаната, у тым ліку 14.356 кніг, 15.722 манеты і 334 карціны[124]. У гэты склад не ўвайшлі новыя прадметы, таму мы маем уяўленне аб фондзе даваеннага музея. Гэта былі багатыя і разнастайныя калекцыі

---

120 ДАГВ, Ф. 109. В. 1. Ліст 31.

121 Kakareko W. Muzeum Państwowe w Grodnie i jego straty w okresie II wojny światowej. [прагледжана 1мая 2008].
Доступ праз Інтэрнэт: http://skarb.khoz.ru/nasledie/muzei/muzeum-grodno-straty.html

122 Тамсама.

123 Гужалоўскі, А.А. Нараджэнне беларускага музея. Мінск, 2001. С. 45.

124 Kakareko W. Muzeum Państwowe w Grodnie. [прагледжана 1мая 2008].
Доступ праз Інтэрнэт: http://skarb.khoz.ru/nasledie/muzei/muzeum-grodno-straty.html

па мастацтву, культавых прадметах, нумізматыкі і інш. выдатныя фонды, якія збіраў музей на працягу амаль 20 гадоў.

Новым перыядам у гісторыі гарадзенскага музея стаў верасень 1940 г., калі ён быў перайменаваны ў Гарадзенскі дзяржаўны гістарычны музей. Гэта азначала не проста новую назву, а змену палітычных міфаў, якія павінен быў даносіць музей да шырокіх колаў грамадства. “Калектыў навуковых супрацоўнікаў будучага савецкага музея ставіць сабе за мэту зрабіць з яго сучасную навукова-даследчую і палітычна-асветніцкую ўстанову, зрабіць з яго ўстанову для выхавання сярод мас савецкага патрыятызму, пры дапамозе яго экспазіцыі прапагандаваць сярод рабочых мас навуковыя марксісцка-ленінскія веды”[125]. Музей становіцца цалкам установай для прапаганды савецкай ідэалогіі, а навуковая праца адыходзіць на другі план.

Менавіта з гэтага часу пачынае замоўчвацца імя заснавальніка гарадзенскага музея – Ю.Ядкоўскага, а таксама ўся дзейнасць музея даваеннага перыяду. Аднаўленне праўды адбываецца толькі ў 1990 г.

Музей ў 1939 – 1941 гг. ствараў экспазіцыі, выставы цалкам ідэалагічнага зместу, аб чым сведчаць назвы, напрыклад, “Жыццё і дзейнасць У.І.Леніна”. У гэты час пашыраецца штат супрацоўнікаў, але ў дзейнасці музея ў гэты час не было парадку. Так, на працягу трох гадоў змянілася шэсць дырэктараў.

У гады Другой сусветнай вайны музейныя экспазіцыі былі зачыненыя, але значных фондавых стратаў не адбылося. Моцныя страты мелі-ся пасля вайны, калі фонды музея перадавалі іншым музеям БССР і Польшчы.

У гады вайны супрацоўнікі музея займаліся аховай збораў, іх сістэматызацыяй. Вядома, што ў музеі працаваў захавальнік фондаў Браніслаў Шушкевіч, дзякуючы намаганням якога не быў разрабаваны каштоўны кнігазбор музея. Лёс гэтага чалавека склаўся трагічна, ён быў арыштаваны ў канцы 1943 г. за супрацоўніцтва з Арміяй Краёвай, загінуў у Штутгофе. Кнігі з подпісам Б.Шушкевіча захаваліся ў музеі[126].

Гарадзенскі музей з самага пачатку свайго існавання стаў цэнтрам па вывучэнню гістарычнай, мастацкай, археалагічнай, этнаграфічнай спадчыны гарадзенскай зямлі. Вялікую працу па яго арганізацыі і дзейнасці правёў сёння незаслужана абыйдзены пашанай Юзаф Ядкоўскі.

[125] Тамсама.

[126] Коўкель Л. І. З гісторыі кнігазбораў ГДГАМ. Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1993. С. 25.

# АНАТАЦЫІ

*Сінчук Іван*

## СФРАГІСТЫКА

**Pieczęci w dawnej Rzeczypospolitej: Stan i perspektywy badań. Warszawa, 2006 – 369 s.**

Зборнік навуковых прац “Пячаткі ў былой Рэчы Паспалітай”, што выйшаў у варшаўскім выдавецтве DiG, утрымлівае матэрыялы першай польскай сфрагістычнай канферэнцыі. Яна паказала сучасны стан даследаванняў і вызначыла далейшыя перспектывы. Кніга складаецца з 16 артыкулаў, пачынаецца з уступа аднаго з яе навуковых рэдактараў Зянона Пеха, які таксама напісаў пра перспектывы польскіх сфрагістычных даследаванняў. Пра гісторыю развіцця польскай сфрагістыкі на еўрапейскім фоне напісаў С.Кучыньскі. П.Станко піша пра пячаткі 13 - 17 ст. Пястаў Сілезіі (Асвенцым, Цешын, Аполе), М.Хлебёнэк апавядае пра праблемы вывучэння каралеўскіх пячатак новага часу.

У наступным блоку аўтары паведамляюць пра касцёльную сфрагістыку. П.Вішэўскі – пра сярэднявечную сфрагістыку касцёлаў Сілезіі, П. Покора пра вывучэнне польскіх сярэднявечных епіскапскіх пячатак, Я. Пакульскі пра сярэднявечныя пячаткі кафедральных капітул гнезненскай метраполіі. П.Стружык апавядае пра сярэднявечную сфрагістычную сістэму ордэнаў тампліераў і іанітаў на польскіх землях, пры тым падкрэслівае, што прыватныя пячаткі сяброў ордэнаў адносяцца да іншай катэгорыі – рыцарскіх.

Б.Мажейка піша пра гістарыяграфію сфрагістычных даследаванняў сярэднявечнага гданьскага Памор’я, пры тым разглядае працы як нямецкіх, так і польскіх даследчыкаў, якія тычацца розных накірункаў сфрагістыкі – княскай, касцельнай, гарадской, рыцарскай, мяшчанскай.

Я.Вронішэўскі піша пра сярэднявечныя польскія рыцарскія пячаткі, пры чым прапаноўвае храналагічны інтэрвал 12 - 16 стст., што некалькі адрозніваецца ад умоўнай мяжы сярэднявечча, якую вызначаюць звыкла як палову ці канец 15 ст. М.Войцік апавядае пра сярэднявечныя сілезскія рыцарскія пячаткі – гістарыяграфію, крыніцы, прынцыпы вывучэння.

Шэраг аўтараў падрыхтавалі даклады пра гарадскія пячаткі. Г.Сэрока піша аб практыцы выданняў пячатак 19 - 20 стст. і прынцыпах выдання будучага корпуса гарадскіх пячатак Рэчы Паспалітай, як найбольш даска-

налае ўзорнае выданне называецца праца літоўскага даследчыка Э. Рымшы 1999 г. Гэты даклад выклікаў дыскусію з-за прапанаванай аўтарам праграмы максімальнага друкавання ўсіх вядомых адбіткаў пячатак, прагучалі прапановы рабіць усечаны варыянт з-за вялікіх выдаткаў, на жаль не разглядалася версія таннага электроннага каталога. В.Стрыжэўскі піша пра пячаткі гарадоў Сілезіі, Любускай зямлі і заходняга Памор’я, М.Адамчэўскі пераканаўча апавядае пра статыстычныя назіранні за пячаткамі вялікапольскіх гарадоў 13 - 18 стст. (у дадатку – 32 табліцы), К. Фолпрэхт закранае відавочна мала распрацаваную тэматыку мяшчанскіх пячатак на прыкладзе гмеркаў кракаўскіх мяшчан 16 – пач. 19 ст.

Стыпэндыят ураду Польшчы і рэктара Варшаўскага універсітэта кіяўлянін В.Перкун паведамляе пра дасягненні постсавецкай украінскай сфрагістыкі канца 20 – пач. 21 ст.

**Rimša E. Pieczęcie miast Wielkiego Księstwa Litewskiego. Warszawa, 2007 – 1259 s.**

Манаграфія вядомага літоўскага даследчыка Эдмундаса Рымшы „Гарадскія пячаткі Вялікага Княства Літоўскага” з’явілася ў перакладзе на польскую мову. Выданне цалкам паўтарае літоўскае 1999 г., але фармат паменшыўся да прынятага ў дынамічным варшаўскім выдавецтве DiG, якое сярод іншага выпускае штогод адну за другой сфрагістычныя працы. Тэрытарыяльны абшар даследавання – Літва, Беларусь, Украіна, Польшча і Расея; на тэрыторыі гэтых сучасных дзяржаў знаходзяцца зараз гарады былога ВКЛ. Інфармацыя на вокладцы за польскамоўным аўтарскім тэкстам падае, што ў працы апісваецца 429 пячатак са 127 гарадоў. Згодна з першапачатковай літоўскай версіяй манаграфіі, захаваліся як фізічныя аб’екты пячаткі 114 гарадоў. Справа у тым, што ў новым выданні істотна змяніліся лічбы табліцы 6, якая падае агульную колькасць гарадоў ВКЛ і колькасць іх пячатак. На жаль, польскае выданне не ўтрымлівае звестак, што ў ім ёсць пэўныя адрозненні ад літоўскага тэксту.

Праверка паказала, што ў каталожнай частцы польскага выдання дабавілася тры гарады – Бжостовіца Велька, Канстантынаў, навагрaдскі Новы Двор, але знік Сакалоў Падляскі. Розніца павінна быць у дзве пазіцыі, г.з. павінна стаць 116 гарадоў. На самой справе ў польскім выданні па спісу 126 гарадоў, а ў першым літоўскім выданні па зместу налічваецца 124 гарады.

Прыгадаем, што пачынаецца кніга грунтоўнай аналітычнай часткай (120 старонак), у якой прываблiваюць шматлікія статыстычныя табліцы, пасля інвентарызацыйнага раздзела падаецца спіс крыніц (адноўлены зараз па стану на момант польскага выдання), імянны і геаграфічны паказальнікі. У адрозненне ад літоўскага выдання рэзюме на польскай і нямецкай мовах адсутнічае. Як і раней, побач з прамалёўкаю месціцца фотаздымак, падана месца захоўвання ўсіх вядомых пячатак, даты дакументаў з пячаткамі і папярэднія публікацыі аб’ектаў.

У параўнанні з першым літоўскім выданнем якасць друку чорна-белых ілюстрацый пагоршылася, спасылкі з модульнай бакавой паласы перайшлі на звыклае месца ў нізе старонкі, як і раней, нумарацыя спасылак

асобная для кожнай пячаткі. Павялічаны шрыфт з маленькімі інтэрваламі паміж радкамі перашкаджае чытанню і робіць тэкст менш эстэтычным у параўнанні з бездакорным паліграфічна літоўскім выданнем 1999 г. з невялікімі літарамі і стыльнымі вялікімі інтэрваламі паміж радкамі. На форзацы змешчана мапа ВКЛ з межамі пасля уніі 1569 г., што ніяк не адпавядае канцепцыі манаграфіі – яна ахоплівае ўсе гарады ВКЛ, у тым ліку і тыя, якія адыйшлі да Кароны. Вялізны плюс выдання - даступная для большасці беларускіх даследчыкаў польская мова. Выданне яшчэ маецца ў продажы.

**Zbiory pieczęci w Polsce. Warszawa, 2009 – 528 s.**

Зборнік навуковых прац “Зборы пячатак у Польшчы” варшаўскага выдавецтва DiG утрымлівае 22 артыкула. Паліграфічна ён падобны на папярэдняе сфрагістычнае выданне 2006 г., але ў ім відавочна больш чорна-белых ілюстрацый. Ужо прывычная па ранейшых выданнях DiG стужачка-закладка дабаўляе камфорту пры карыстанні кнігай.

Уступны артыкул З.Пеха тычыцца збораў пячатак як аб’екта вывучэння.

Разглядаюцца сфрагістычныя калекцыі нацыянальнага музея ў Вроцлаве (А.Грыневіч), музея ў Пётркове-Трыбунальскім (Р.Яворскі, М. Хлебёнэк), нацыянальнага музея ў Шчэціне (А.Павлоўская), дэцызіальнага музея ў Плоцку (П.Бокота).

Комплексы пячатак утрымліваюцца і ў архівах – паведамляецца пра зборы дзяржаўнага архіва ў Кракаве (К.Еленэк-Літэўка), дзяржаўнага архіва ў Вроцлаве, дзяржаўнага архіва ў Шчэціне (А.Гут, П.Гут), Чэнстахоўскага архідэцызіальнага архіва.

Маюць зборы пячатак і бібліятэкі. Аўтары пішуць пра зборы дзяржаўнага архіва, ваяводскай і гарадской бібліятэкі, акружнога музея ў Быдгашчы (М.Хлебёнэк), нацыянальнага музея і бібліятэкі Чартарыйскіх ў Кракаве (Д.Атвіноўска), зборах бібліятэкі ПАН ў Курніку, бібліятэкі Асаліньскіх (В. Фабіаньскі і Р.Форысіяк-Войсіньскі).

Есць сфрагістычныя калекцыі і ва універсітэтах. У аддзеле крыніцазнаўства і дапаможных гістарычных дысцыплін Інстытута гісторыі універсітэта ім.Адама Міцкевіча ў Познані захоўваецца як навуковы дэпазіт збор копій пячатак бенедыктынскага кляштара ў Любіне (П.Стружык), у аддзеле дапаможных гістарычных дысцыплін Ягелонскага універсітэта ў Кракаве таксама захоўваецца вялікая калекцыя копій пячатак (З.Пех).

Два артыкула тычацца прадстаўленню пячатак ў Інтэрнеце – польскіх у чэшскім сегменце (В.Мішке) і польскіх сфрагістычных збораў на польскіх сайтах (Я.Кліма).

Апошні тэкст – агляд вядомых спосабаў рэпрадукцыі пячатак у выглядзе кароткіх упарадкаваных па алфавіту 26 артыкулаў – ад “Аквафорты” да “Фотадруку” (М.Кадзішэўска, П.Стружык).

**Pieczęcie herbowe – herby na pieczęciach: II Krakowskie Kolokwium Heraldyczne. Warszawa, 2011 – 374 s.**

Зборнік навуковых прац “Гербавыя пячаткі – гербы на пячатках” з характэрным фірмовым дрэвам варшаўскага выдавецтва DiG на каронцы томіка ўтрымлівае матэрыялы другога кракаўскага геральдычнага калоквіуму. Пад адной вокладкай сабраныя тэксты 12 дакладаў.

“Каралеўская” частка складаецца з некалькіх матэрыялаў: М.Хлебёнэк апавядае пра сярэднявечную геральдычную сістэму на пячатках польскіх каралёў 14 - 18 стст. В.Дрэліхаж пра пячатку Прэмыслава II, І.Крашэўскі пра геральдычную пячатку каралевы Людвігі Марыі.

“Касцёльны” блок дакладаў невялікі і тэксты прадстаўлены ўжо вядомымі аўтарамі гэтай тэматыкі. П.Покара піша пра гербы польскіх епіскапскіх пячатак эпохі Ягелонаў (добра структараваны тэкст са шматлікімі таблічнымі ілюстрацыямі з’яўляецца часткай недрукаванай доктарскай працы), П.Стружык апавядае пра гербы пячатак польскіх ордэнаў цыстэрцыанаў, В.Перкун паведамляе пра пячаткі украінскіх царкоўных іерархаў.

“Рыцарскіх” дакладаў два: Я.Вронішэўскі піша пра рыцарскія гербы на сярэднявечных польскіх пячатках, М.Вуйцік – пра рыцарскія гербы на сярэднявечных сілезскіх пячатках.

“Гарадскі” блок самы прадстаўнічы. В.Стрыжэўскі апавядае пра першыя гербавыя пячаткі невялікіх гарадоў на заходнім абшару польскіх земляў 16 - 18 стст. М.Адамчэўскі піша пра геральдызацыю вялікапольскіх гарадскіх знакаў. Е.Сыска між іншым звяртае ўвагу, што Кёнігсберг мог раней называцца па славянскай назве Конік, што прышлае нямецкае насельніцтва ў 13 ст. патлумачыла як Кёніг (Кароль), адкуль і пайшла несапраўдная народная этымалогія “Каралеўскі горад”, а далей – і гарадская пячатка з выяваю караля. Г.Сэрока піша пра спробу уніфікацыі гарадскіх пячатак часу Вялікага сейму 1788 - 1792 гг. якая дала выразную іерархічную структуру: пячаткі магістратаў сталічных гарадоў – пячаткі магістратаў вялікіх адміністрацыйных цэнтраў – пячаткі магістратаў малых гарадоў – пячаткі судоў першай інстанцыі – пячаткі апеляцыйных судоў.

**Perkin V. Katalog pieczęci z ziem ukraińskich ze zbiorów Professora Mariana Gumowskiego. Warszawa, 2011 – 580 s.**

У варшаўскім выдавецтве DiG выйшла чарговае сфрагістычнае выданне – кніга украінскага даследчыка Віталя Перкіна аб пячатках з украінскіх тэрыторый са збору “Нестара нумізматыкі польскай” прафесара Марыяна Гумоўскага, які захоўваецца Цэнтральным архіве старажытных актаў ў Варшаве. Кніга выйшла ў цвёрдай вокладцы, друк чорна-белы (адценні шэрага), на паперы сярэдняга гатунку.

Звыш 10 тыс. адбіткаў пячатак 19 – першай пал. 20 ст. са збора М. Гумоўскага былі ахвяраваны Цэнтральнаму архіву старажытных актаў у Варшаве (AGAD), бібліятэцы князёў Чартарыйскіх у Кракаве, бібліятэцы Асаліньскіх у Вроцлаве. З іх каля 4200 трапіла ў AGAD, дзе ў 2004 г. былі ўпарадкаваныя паводле ўжытых на пячатках моваў (польская, нямецкая, лацінская, руская) працаўнікам архіва Д.Рацкім. Калекцыя храналагічна і

гістарычна дзеліцца на пячаткі аўстрыйскія (1772-1918), расейскія (1793-1917), польскія (1921-1939).

У каталозе апісана 533 пячаткі, яны выбраныя згодна этнічных украінскіх земляў ў межах, якія вызначаны паводле Энцыклапедыі украіназнаўства (Парыж – Нью-Йорк, 1970) і працы С.Рудніцкага “Україна: зямля і народ” (Вена, 1916).м

Кніга наватарская, гэтаму перыяду сфрагістыкі відавочна не хапала ўвагі, пра што пісаў яшчэ М.Гумоўскі з сааўтарамі ў грунтоўнай “Сфрагістыцы” (Варшава, 1960) з серыі манаграфій “Дапаможныя гістарычныя дысцыпліны”. Магчыма, прыватны збор адбітак пячатак на паперы М.Гумоўскага і быў прызначаны выконваць роль крыніцы для вывучэння сфрагістыкі 19 – першай пал. 20 ст.

Уласна аналітычны тэкст уводзінаў “Каталога” займае 16 старонак. Каталожнае апісанне складаецца з наступных элементаў: парадкавы нумар – мясцовасць – архіўны нумар – колер масцікі – памеры – выявы – легенды – форма літар (прапісныя або радковыя). Відавочна са структуры, што адсутнічае істотны элемент – датыроўка. Датыроўка можа быць паданая па даце дакумента, на якім была адціснутая пячатка, або інтэрвальная ў двух варыянтах: ці дакладна па вывучэнню дакументаў у іншых архівах з адбіткам з той самай матрыцы, што патрабуе пэўных высілкаў, ці то па стылістыцы ці часу існавання пэўнага органа ўлады, грамадскага інстытута, гадах жыцця асобы альбо па стылістыцы ці мове. Збор уяўляе сабой наклееныя на картоны памерам 20,5 х 40,4 см адбіткі пячатак невядомага паходжання без анатацый (толькі часам падана на палях каля адбітка М.Гумоўскім “да” пэўнага года ці “пасля” нейкай даты, што таксама падаецца ў тэксце каталожнай часткі). Адсутнасць датыровак значна зніжае вартасць працы.

Аўтар пазначае, што ў каталозе апісаныя не ўсе украінскія пячаткі са збору М.Гумоўскага ў AGAD, бо засталіся не надрукаванымі дрэннай якасці адбіткі. Таксама не падаецца, ці ёсць ўкраінскія пячаткі у двух ўзгаданых вышэй астатніх частках калекцыі  адбіткаў пячатак М.Гумоўскага.

Памеры ілюстрацый павялічаныя ў 4 разы (але не заўсёды прапарцыянальна памерам адбітка), што не толькі павялічыла аб’ём кнігі ў 2-3 разы, але зрабіла нязручным карыстанне ілюстрацыямі: іх можна разглядзець як цэльны аб’ект толькі на адлегласці выцягнутай рукі. Між тым пячаткі адмыслова рабіліся для чытання іх адбіткаў пры памерах 1:1.

Аўтар выконвае пэўную групіроўку пячатак ва ўступе па іх асаблівых рысах, але не прыводзіць лічбавых даных па размеркаванню адзначаных рысаў. Гэта азначае, што чытач павінен сам нанава выканаць гэтую працу ўслед за аўтарам. Між тым, як прыняты ўзор ўзгадваецца праца літоўскага даследчыка Э.Рымшы “Гарадскія пячаткі Вялікага Княства Літоўскага” (чамусьці ў польскім выданні 2007 г., а не ў літоўскім 1999 г.), які такую статыстыку падае.

На жаль, не сказана чытачу, што пячаткі для прыкладання да папяровых дакументаў не ахопліваюць увесь сфрагістычны фонд 19 – першай

пал. 20 ст.: існуе яшчэ вялікая колькасць з гэтага часу match прызначэння адбіткаў ў метале (таварныя, чыгуначныя, паштовыя і іншыя пломбы).

## Нумізматыка

**Numizmatika. T.6. Metraštis 2005. Vilnius, 2007 – 392 p.**

Гэты зборнік “Нумізматыка” Нацыянальнага музея Літвы шмат увагі аддае першым манетам ВКЛ.

Артыкул Б.Пашкевіча аб першых манетах ВКЛ з’уляецца спробай падсумавання новых дадзеных аб манетнай вытворчасці ВКЛ пасля абагульняючай публікацыі Р.Керсноўскага, якая выйшла з друку 20 гадоў таму назад (на ангельскай мове). Артыкул А.Крыжаніўскага апавядае аб уплыве галіцкай манетнай сістэмы апошняй чвэрці 14 ст. на метралагічныя паказчыкі манет падольскага князя Канстанціна Карыятавіча (па-руску). Э.Ремецас піша пра комплекс манет пач. 15 ст. з Віленскага ніжняга замка ў сувязі з праблемай датавання манет Ягайла і Вітаўта (па-літоўску).

І.Каплунайте і Р.Іонайтіс пішуць пра нумізматычная і сфрагістычныя знаходкі з ратушнай плошчы Вільні, Э.Васіляўскас паведаміў пра знаходку ў Літве рэдкай манеты 18 ст. біскупа Фрыдрыха Вільгельма, пра знаходкі манет у масавых пахаваннях напалеонаўскіх салдат у Вільні паведамляе археолаг В.Степанавічус.

Р.Разалюнайте піша пра медалі таварыства цвярозасці другой пал. 19 – першай пал. 20 ст. у зборах Нацыянальнага музея Літвы, Д. Грімалаўскайте робіць вялікі агляд новых паступленняў манет і медалёў у музеі Літвы, В.Рузас апавядае пра лічыльныя жэтоны падскарбіяў ВКЛ з Віленскага манетнага двара ў зборах музея Нацыянальнага банка Літвы.

Э.Ремецас падаў бібліяграфію літоўскіх баністыкі, фалерыстыкі, медальернага мастацтва і нумізматыкі за 2003 г. са 147 пазіцый.

У томе змешчаны рэцэнзіі на манаграфію Я.Шчукінай “Манаграмы і подпісы на рускіх медалях XVIII – XX стагоддзяў”, на Я.Дуткоўскага, А. Суханэка корпус манет Эльблёнга, на “Польскую фалерыстыку XVII – XIX стагоддзяў” К.Філіпава (І.Сінчук), на манаграфію пра банкі Літвы канца 19 – першай пал. 20 ст. (В.Рузас), на працу А.С.Мельнікавай “Рускія манетныя скарбы мяжы XVI-XVII стагоддзяў”, на кнігу пра 6-ты трыенале балтыйскіх медальераў (Д.Грімалаўскайте).

**Numizmatika. T.7-8. Metraštis 2006-2007. Vilnius, 2008 – 384 p.**

Апошні па часу здвоены зборнік “Нумізматыка” Нацыянальнага музея Літвы выйшаў ў прывычным выглядзе – добрая папера, мяккая вокладка, чорна-белы друк. Наклад выдання не змяніўся – як і раней, 500 асобнікаў.

Згодна са сваёй ўжо сталай структурай зборнік памясціў тры артыкулу

(Дз.Гулецкі пра падробкі траякоў Віленскага манетнага двара на мяжы 16 - 17 стст., Л.Квізікявічус аб падробках манет у 19 ст., І.Сінчук аб антыкварных падробках гданьскага паўталера 1640 г.). У раздзеле публікацыі два тэксты пра скарбы (А.Юкневічус, Е.Ремецас аб скарбе медных солідаў Яна Казіміра з Кедайняй; Л.Квізікявічус, С.Сарцэвічус аб скарбе нямецкіх срэбраных манет 1919 г. з праспекта Гедыміна ў Вільні), даследаваннях (вялікая памерам ў амаль ў палову штогодніка публікацыя І.Сінчука аб калекцыі тынфаў з Нацыянальнага музея Літвы, Э.Іванаўскаса аб літоўскіх бонах паўстання 1831 г., Р.Куодзітэ аб ўзнагародах вядомага дзеяча адраджэння Літвы К.Бізаўскаса), архіўных знаходках (В.Рузас аб падрыхтоўцы юбілейнай банкноты да 20-годдзя незалежнасці ў 10 літаў у 1938 г.), методыках рэстаўрацыі (калектыў рэстаўратараў Нацыянальнага музея Літвы аб працы з унікальнымі цэлымі скарбонкамі 17 ст. з манетамі ў сярэдзіне).

Э.Ремецас працягнуў сваю бібліяграфію літоўскіх баністыкі, фалерыстыкі, медальернага мастацтва і нумізматыкі за 2004 - 2005 гг. са 155 пазіцый. У блоку рэцэнзій знайшліся публікацыі пра альбом выставы скарбонак у Троках, каталозе манет ВКЛ В.Какарэкі і І.Шталенкова, першым томе слоўніка мастакоў 16 - 18 стст., брашуры І.Сінчука пра фальшывую алавяную двузлатовую манету 1936 г. міжваеннай Рэчы Паспалітай з г.Кобрына.

Да 60-годдзя вядомага літоўскага нумізмата С.Саяўскаса надрукаваны спіс яго нумізматычных прац у 57 пазіцый. Завяршаецца зборнік аглядам нумізматычных выстаў і канферэнцый.

**Нумизматический сборник ГИМ. Т.XVIII / Труды ГИМ. 2007. Вып.171. М., 2007 – 251 с.**

Выпуск прысвечаны памяці Алы Сяргееўны Мельнікавай, якая шмат гадоў была загадчыцай аддзела нумізматыкі Дзяржаўнага гістарычнага музея (Масква). Супрацоўнік АН ДГМ і калега Аллы Сяргееўны В.В.Уздзенікаў даў файную назву свайму артыкулу пра А.С.Мельнікаву, якую можна лічыць тытульнай да зборніка – “Вялікае жыццё, адданае нумізматыцы”. Таксама адклікнуліся артыкуламі пра Алу Сяргееўну А.Л.Харашкевіч, М.Б.Горнунг, былі надрукаваныя і фрагменты ўспамінаў роднага брата А.С.Мельнікавай Б.С.Гудкова. Надрукаваная ў зборніку бібліяграфія прац А.С.Мельнікавай за 1957 - 2006 гг. налічвае 180 пазіцый, ёй самой прысвечана дзевяць публікацый.

Цікавасць беларускіх даследчыкаў могуць выклікаць артыкулы С. М.Тацэнка пра скарбы Масквы 18 - пач. 19 ст., А.В.Храменкова пра вытворчасць і абарачэнне фальшывых палушак узору 1718 г., С.С.Левіна пра пастаўшчыкоў Капітула Расейскага кавалерскага ордэна 1799і-і1825 гг. Прыцягвае ўвагу вялікая праца А.В.Глазуновай і І.В.Шыракова пра рускія манеты 14 - 15 стст. з прыкметамі неэканамічнага выкарыстання; як аналаг функцыям гэтых манет называюцца і тры срэбранікі з пахавання каля маёнтка Вотня Стара-Быхаўскага раёна (відаць, трэба было “уезда”) Магілёўскай губерні 1873 г. (зараз Рагачоўскага раёна раёну Гомельскай

вобл., маніста, якое было знойдзена ў 1873 г., утрымлівала чатыры срэбраніка, з якіх тры захоўваюцца ў ДГМ (Масква) –паводле Энцыклапедыі “Археалогія і нумізматыка Беларусі)”.

**Kiersnowski R. Historia – pieniądz – herb: Opera selecta. Warszawa, 2008 – 550 s. + 43 tabl.**

Прафесар Рышард Керсноўскі за гады адданыя навуцы выдаў 363 працы. Для тома выбраных прац у Інстытуце гісторыі Польскай акадэміі навук пастанавілі выбраць 30 тэкстаў. Адказнасць за выбар лягла на вядомых польскіх вучоных С.Сухадольскага і С.К.Кучынскага, якія не толькі выбралі, але і зручна падзялілі іх на чатыры блокі: І Пралог (адзін тэкст – “Клопаты з нумізматыкай”, ІІ Вялікая грашовая рэформа 13 - 14 стст. (12 артыкулаў), ІІІ Varia numismatica (9 артыкулаў), IV Працы гістарычныя і геральдычныя (7 артыкулаў).

У другім блоку месціцца шэраг прац пра манеты 13 - 14 ст.: пра неманетарнае срэбра, пра золата у Польшчы, пра сілезскую ўдзельную манету, пра сілезскія квартнікі, пра французскія ўплывы на манетную справу ў Польшы ў 14 ст, пра пражскія парвусы, пра дукаты Уладзіслава Лакетка, пра рэформы Казіміра Вялікага і яго грошы, пра першыя манеты ВКЛ. У “Розным” блоку сабраныя артыкулы пра сістэматыку нумізматычных крыніц, пра ўзаемадзеянне нумізматыкі і археалогіі, пра сімвал птушкі, пра манетныя двары 12 ст. на заходнім Памор’е, пра ўплыў італьянцаў на мастацтва польскіх манет 14-16 стст., пра дукаты Аляксандра Ягелончыка, пра Іахіма Лелевеля, пра Казіміра Странчыньскага. Апошні блок сабраў артыкулы пра ягелонскія сімвалы, пра гербавыя легенды, пра геральдычны сюжэт дамы з мядзведзем, пра “Смаргонскую акадэмію”, пра замак Арэшкаў (звяртае ўвагу між іншым паведамленне пра подпісы А.Міцкевіча і яго сяброў на шыбе альтанцы – падобныя шыбкі з подпісамі археалагічна вядомыя на шкле апошняй трэці 18 ст. з Калінінграда), пра Крэсы як тэрмін і рэаліі з ім звязаныя (і пра нечаканае практычна зліквідаванне тэрміну папам Янам Паўлам ІІ, які сказаў у час побыту ў Вільні пра “літвінаў польскага паходжання”).

Да кожнага артыкула дадаецца спіс літаратуры па яго тэматыцы, што выйшла пасля з’яўлення з друку (гэтую частку працы выканаў Б.Пашкевіч). У канцы кожнага артыкула кароткае рэзюме на адной з еўрапейскіх моў; калі яно адсутнічала ў арыгінальнай публікацыі, то было дададзена новае. Пасля рэзюме падаецца крыніца-першадрук. Што неверагодна зручна для карыстання – на палях выдання прастаўленыя старонкі крыніцы-першадруку. Тэксты практычна не маюць ілюстрацый, але ў канцы кнігі ёсць 43 табліцы з паноўленымі, перазнятымі ў добрай якасці аб’ектамі са збораў Нацыянальных музеяў у Варшаве і Кракаве, якія надрукаваныя на шчыльнай глянцавай паперы.

Паліграфія выдання на вышыні: тэксты добра чытэльныя, прыемны шрыфт з засечкамі не стамляе зрок, друк на якаснай паперы дае добры кантраст, радкі не зліваюцца, памер літар сярэдні, паля добра вылічаныя – не зашытыя і не падрэзаныя. Адзіная нязручнасць гэтага надзвычай

прадуманага выдання – схаваны змест, ён знаходзіцца паміж уласна кніжным блокам і блокам ілюстрацый. Шкада, што кніга мае наклад толькі 300 экземпляраў.

**Pieniądz - symbol - władza - wojna - wspólne dziedzictwo Europy – Białoruś-Estonia-Litwa-Łotwa-Polska-Rosja-Rumunia-Słowacja-Ukraina. Studia i materiały [z IX Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej]. Augustów–Warszawa, 2010 – 368 s.**

У томіку зборніка матэрыялаў чарговай міжнароднай нумізматычнай канферэнцыі ў Аўгустове (Польшча) з тэматыкай гэтага года Грошы-Сімвал-Улада-Вайна надрукаваныя 36 дакладаў. Кніга дакладаў упершыню выйшла ў цвёрдай вокладцы, даклады надрукаваныя на польскай, рускай і ангельскай мовах.

Беларускія даследчыкі падрыхтавалі 11 дакладаў: В.Сідаровіч паведаміў пра новыя знаходкі антычных манет у беларускім Панямонні, І. Шталенкоў пра фальсіфікаты манет з “мсціслаўскімі” контрамаркамі, В. Малежык пра адзінкавыя знаходкі маскоўскіх манет 15 - 17 стст. на тэрыторыі Беларусі, В.Какарэка пра керамічныя скарбонкі 16 - 18 стст. В. Кабрынец пра скарб з рускімі манетамі з Чэрыкава, І.Сінчук пра шэляжныя манетныя двары Кароны і медныя соліды Яна Казіміра ў скарбах, І.Колабава пра грашовы лік усходнебеларускага рынка ў перыяд Паўночнай вайны 1700 - 1721 гг., Ю.Латушкова пра слуцкі скарб залатых манет Расейскай імперыі канца 19 – пач. 20 ст., В. Калясінскі пра контрамаркі на манетах ваенных збораў падраздзяленняў расейскай арміі на прыкладзе 103 пяхотнага палка, І.Крайнева пра нямецкі акупацыйны рэжым у Гародні ў час Першай сусветнай вайны, А.Баюра пра грашовыя сурагаты Беларусі ў перыяд распаду СССР, І.Масько пра камемаратыўныя манеты Нацыянальнага банка Беларусі з нагоды 600-годдзя Грунвальдскай бітвы.

**Tarptautinë numizmatikos konferencija, skirta Lietuvos nacionalinio muziejaus 150-mečiui. Vilnius, 2006 = Internacional Numismatic Conference Marking the 150th anniversary of the National Museum of Lithuania. Vilnius, 2006 = Международная нумизматическая конференция, посвященная 150-летию Национального музея Литвы. Вильнюс, 2006 г. Vilnius, 2010 – 380 p.**

Па выніках міжнароднай нумізматычнай канферэнцыі, якая была прысвечана 150-годдзю Нацыянальнага музея Літвы, накладам 500 асобнікаў выйшаў вялікага фармату зборнік прац удзельнікаў канферэнцыі. Варта прыгадаць, што трохмоўны зборнік тэзісаў у 2006 г. выйшаў накладам толькі 200 экземпляраў (гл. Гістарычны альманах, Т. 12, 2006). Том выйшаў як серыяльнае выданне Нацыянальнага музея Літвы з чарговым нумарам 22. Кніга ў мяккай вокладцы з клеевым мацаваннем шытых лагінаў без форзаца, вокладка мае не вельмі зручныя ў карыстанні клапаны. Папера глянцавая, якасць друку тэксту і манахромных ілюстрацый бездакорная.

Цікава, што заўвагі падаюцца ў кнізе на шырокіх унутраных палях каля

тэксту, пры неабходнасці большага месца змяняецца модуль фарматавання і заўвага падаецца двума або трыма калонкамі каля звужанага тэксту. Спасылкі унутрытэкставыя кшталту аўтар – год – старонка з публікацыяй у канцы артыкула бібліяграфічнага спіса ужытых крыніц і цытаваных прац. Варта адзначыць, што па прынятых правілах шэрагу літоўскіх выданняў пры спасылцы на архіўную справу патрабуецца поўнае назвы фонду і справы, што выклікае пэўныя цяжкасці для аўтараў, прывыкшых да савецкіх і постсавецкіх ДАСТаў (ГОСТаў) бібліяграфічных апісанняў і спасылак.

Прадстаўлены 34 тэксты дакладаў 36 удзельнікаў з Літвы, Польшчы, Расеі, Беларусі, Украіны, Славакіі, Эстоніі, Латвіі на рускай, літоўскай, ангельскай і польскай мовах (на адной з названых моў). Большасць тэкстаў прадстаўлена на рускай мове, што робіць лёгкай даступнасць да іх беларускага чытача.

Беларусь прадстаўлена тэкстамі 8 дакладаў: І.Шталенкова, В. Калесінскага, В.Какарэкі, І.Колабавай, Ю.Барэйшы, Д.Гулецкага, І.Сінчука (між іншым, даследчыку ўдалося давесці з дапамогай шматлікага цытавання крыніц 17 ст., што акрэсленне “рускі” дакументаў Рэчы Паспалітай 17 ст. азначае абсалютна неадпаведнае сучаснаму значэнню, а менавіта “нерускі”), В.Шышанава.

На жаль, не ўсе даклады былі ў час паданыя да да друку. У том не трапілі тэксты дакладаў беларускіх даследчыкаў В.Філінава, а таксама В.Рабцэвіча і А.Іова.

**Wiadomości Numizmatyczne, 2011. Z.1-2 (191-192) – 266 s.**

Часопіс Нумізматычнай камісіі Камітэта гістарычных навук Польскай акадэміі навук “Вядамосці нумізматычнэ” на 55 годзе свайго існавання рашуча змяніў выгляд. Са здвоенага сшытка 2011 г. ён выходзіць у мяккай ламінаванай вокладцы ў поўнаколерным друку, у тэксце пры неабходнасці ўжываюцца каляровыя ілюстрацыі, друкуецца, як і раней, на добрай паперы з якаснай склейкай блока.

Рэдакцыйна камітэт зараз складаецца з Б.Пашкевіча (рэдактар), М.Завадскага (сакратар), М.Менцлеўскай і М.Відаўскага (сябры рэдакцыйнага камітэта), А.Раманоўскага (рэдактар аддзела скарбаў).

Структура часопіса засталася нязменнай: ён дзеліцца на артыкулы, матэрыялы, знаходкі, рэцэнзійныя артыкулы, рэцэнзіі і хроніку. Магчымасць новай паліграфічнай базы ў поўнай меры выкарыстаная ў артыкуле Б.Ідзікоўскай пра хрысцільную місу, якая адмыслова аздоблена 160 срэбнымі і залатымі манетамі і медалямі 15 - пач. 19 ст. (сярод іх рэдкія адбіткі талераў у золаце і пьедфорты дукатаў). Вялікі артыкул М. Рудніцкага прысвечаны кельцкай электравай манеце ў 1/3 статэра, якая была знойдзена пад Конінам (дакладны аналіз выкананы Варшаўскім прабірным надзорам і на Варшаўскай палітэхніцы). Артыкул вылучаецца вялікім ангельскім тэкстам-тлумачэннем, які адрозніваецца ад асноўнага польскага практычна толькі адсутнасцю фотаілюстрацый. А.Дымоўскі піша аб рымскіх манетах на польскіх землях на падставе новых дробных

знаходак. У матэрыялах апісваюцца скарб ягелонскіх манет 15 ст. (В. Іжыцка) і падвойныя соліды з "сярэднявечнай чацвёркай" 1620-х гадоў астатняга ўладара Заходняга Памор'я Баляслава XIV (М.Паўлоўскі). Характэрная рыса сучаснага раздзела знаходак – пільная ўвага не толькі да скарбаў, але і да выяўленых выпадкова асобных манет. Адзіны ў выданні рэцэнзійны артыкул гданьскага даследчыка Я.Дуткоўскага тычыцца нямецкай манаграфіі аўтарства Н.Моэ пра славутага медальера 17 ст. Себасціана Дадлера. Рэцэнзіі напісаны А.Буршэ (на манаграфію аб знаходках рымскіх і ранневізантыйскіх залатых манет у Брытаніі і Ірландыі), В.Гарбачэўскім (на працу аб выявах св.Войцэха на манетах Баляслава Кендзежавага), А.Мусялоўскім (на грунтоўную кнігу Б.Пашкевіча аб брактэатах сярэднявечнай Прусіі). Большасць паведамленняў хронікі належаць рэдактару часопіса Б.Пашкевічу – тут паведамленне пра нумізматычную канферэнцыю ў Чэхіі, сімпозіум у Кэмбрыджы, пра 14 агульнапольскую нумізматычную сесію ў Новай Солі, пра канферэнцыю аб сярэднявечнай манетнай гісторыі прыбалтыйскіх абшараў ў Таліне. Знайшлося месцаі смутным навінам – змешчаны некралогі пра нямецкую даследчыцу В.Хац і куратара аддзела манет і медалёў музея ў Кембрыджы М. Блэкбарна.

**XVI Всероссийская нумизматическая конференция. Санкт-Петербург, Репино, 18-23 апреля 2011 года. Тезисы докладов и сообщений. Санкт-Петербург, 2011 – 269 с.**

Усерасійская нумізматычная канферэнцыя праходзіць з нядаўняй пары раз у два гады і фактычна з'яўляецца міжнароднай.

Беларускія даследчыкі падрыхтавалі 7 дакладаў: В.Сідаровіч паведаміў пра знаходкі манет антычнай Грэцыі на тэрыторыі Беларусі, Э.Ремецас, І.Сінчук аб дробнай расейскай меднай манеце 18 ст. ў абарачэнні ВКЛ, Ю.Латушкова пра скарбы ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, В.Кабрынец пра знаходкі расейскіх манет 16 – пач. 18 ст. на землях Беларусі, І.Колабава аб справах фальшываманетчыкаў 18 ст. у фондзе Віцебскага грамадскага губернатара, А.Цецернік аб сучасным дзяржаўным медалі Францыска Скарыны, М.Елінская аб гісторыі стварэння герба БССР.

Звяртаюць увагу працы, якія маюць дачыненне да агульнай з беларускімі землямі гісторыі грошаў. Гэта працы літоўскіх даследчыкаў З.Дуксы пра карэспандэнцыю з замежнымі нумізматамі, Д.Грімалаўскайте пра нумізматыку ў навучальных установах Віленскай (Беларускай) навучальнай акругі, украінскіх С.Клімоўскага аб прызначэнні пломбаў драгічынскага тыпу, Г.Казубоўскага аб суздальска-ніжэгародскіх і кіеўскіх манетах, расейскіх В.Мешчаракова аб расейскіх медных манетах 18 – сяр. 19 ст. з вялікім адхіленнем ад нармальнай вагі, М.Дабравольскай аб асабістых пячатках з калекцыі вядомага беларускага гісторыка М.Шчакаціхіна са збораў Эрмітажа, А.Храменкова аб тэхналогіі ліцця фальшывых медных манет 18 ст., Панамарова пра курс грошаў Тактамыша і кантрамарках на яго пулах, В.Куляшова пра новую храналогію абарачэння манет Халіфата ў Усходняй Еўропе 8-9 стст.

**Нумизматические чтения 2011 года: Памяти Алексея Владимировича Фомина. Москва, 21-22 ноября 2011 г. Тезисы докладов и сообщений. Москва, 2011 – 156 с.**

Зборнік тэзісаў чытанняў, што адбыліся ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве, ўтрымлівае 43 невялікіх тэксты. Для беларускага чытача найбольш цікавыя тыя, што тычацца тэмаў агульнай гісторыі.

Бялецкі С.В. прапанаваў лічыць касцяныя падвескі са знакамі трохзубцаў дзіцячымі цацкамі. Яны не выпадковыя, вядома некалькі экземпляраў, пераважна з Ноўгараду.

Праца Зверава С.В. “Аб манетах і медалях Дзмітрыя Іванавіча (Лжэдзмітрыя)” тычыцца матачнікаў капеек, якія ён прасочвае на ўзроўні развіцця дэфектаў, і інтэрпрэтацыі выявы самазванца з непакрытай галавой на медалях як звычайнай для таго часу.

Звераў С.В., Стукалава Т.Ю у працы “Сеўскія чэхі 1686 г. з калекцыі ГІМ” расказваюць пра знаходку пяці гэтых манет з калекцыі П.В.Зубава (пераданая ў 1918 г.) сярод 10000 невызначаных заходнееўрапейскіх манет аддзела нумізматыкі Дзяржаўнага гістарычнага музею. Адна з іх – фальсіфікат канца 19 ст., які не мае прыкметаў вальцоўкі.

Маісеенка Н.С. задаўся пытаннем ці сапраўды старажытнарускія срэбранікі вельмі нізкапробныя і параўнаў вынікі штрых-метада з сучасным РФА-аналізам, атрымалася, што срэбранікі больш высокапробныя. Але тэкст паказвае, што аўтар мае недакладнае ўяўленне як пра пробу націрам на прабірным камні, так і пра методыку РФА-аналіза і постапрыорную інтэрпрэтацыю яго вынікаў. Па сутнасці, ўсё зводзіцца да эмпірычнай ацэнкі вынікаў апаратнага даследавання складу металу, якая не мае моцы сапраўднага доказу.

Красноў Р.В. у тэксце “Да даследавання грашовай рэформы 1696 - 1718 гг.: імянны указ ад 7 лютага 1704 г.” апавядае пра знаходку копіі згаданага ўказа ў дакументах Кадашоўскага манетнага двара ў фондах РГА ВМФ сярод папер Адміралцейскай канцылярыі. На жаль, няма яснасці ў пазіцыі аўтара па разуменню тэрміна “рэформа” і па датыроўцы ўласна ўзгаданай рэформы.

Асварышч М.Б. піша пра праекты “фінансавых рэформаў” пры Паўле І, прыводзіць цікавыя дакументы, але на самой справе вядзецца размова пра змяненне стапы медных манет. Таму гэта не толькі не “фінансавая рэформа”, але нават і не грашовая – прыкметаў рэформы ў змяненні стапы разменных манет няма.

Украінская даследчыца Хромава І.К. разглядае новыя варыянты манет Уладзіміра Альгердавіча кіеўскай вытворчасці і звяртае ўвагу на недастаткова крытычны падыход да магчымых фальсіфікатаў.

Буднікаў А.В. піша пра спосабы выяўлення падробак платынавых манет Расейскай імперыі. Выснова наступная – падробкі канца 20 ст. зроблены з літой плаціны і таму маюць большую ўдзельную вагу і не прыцягваюцца магнітам у адрозненне ад зробленых спосабам парашковай ме-

талургіі аўтэнтычных (манеты 1828 - 1845 гг. утрымлівалі да 6% жалеза, іх ўдзельная вага была меншая амаль на 7%). Аўтар сцвярджае, што аналіз хімічнага складу не дае мажлівасці вылучыць падробку. Ён жа гаворыць пра высокае ўтрыманне жалеза ў плаціне 19 ст., што не адпавядае яго тэзісу. Аўтар не паспрабаваў шматлікія апрыёрныя вынікі РФА-аналіза апрацаваць з дапамогай статпакетаў каб сапраўды высветліць, што не існуе магчымасці па элементным складзе альбо па варыяцыі ўтрымання ў кропках замеру аднаго аб'екта знаходзіць падробкі. Больш таго, не высветлена з дапамогай матэматычных метадаў (напрыклад, F-тэстам на роўнасць дысперсій альбо t-крытэрыем Стьюдэнта на роўнасць сярэдніх велічынь), што дадзеныя па складу сучаснай плаціны і плаціны 19 ст. не адрозніваюцца/адрозніваюцца адзін ад другога на заданым ўзроўні верагоднасці.

Сінчук І.І. паведамляе аб набыцці Нацыянальным музеем Літвы ў 2011 г. двух кольцаў з манет і загатоўкі для такога кальца. Зараз вядома, што практыка вырабу калец з манет была пашыраная ў Літве, Беларусі, Расеі. Другаснае выкарыстанне манет прыцягнула ўвагу і цверскага даследчыка У.У.Хухарева (тэзісы не трапілі ў друк), але рэгіён распаўсюджання такой традыцыі пакуль дакладна не акрэслены.

## Дапаможныя гістарычныя навукі

**Szymański J. Nauki pomocnicze historii. Warszawa, 2009 – 764 s.**

Чарговым, шостым выданнем у Польскім навуковым выдавецтве выйшаў падручнік Юзэфа Шыманьскага “Дапаможныя гістарычныя дысцыпліны”. Кніга ў мяккай вокладцы з клеевым мацаваннем блока, але сабраная з шытых лагінаў, што вельмі істотна для падручніка, які павінен быць трывалым. Друк якасны, чорна-белы на белай паперы, што робіць тэкст добра чытальным.

Падручнік добра структураваны, ён дзеліцца на некалькі вялікіх частак, якія зразумелыя інтуітыўна: Уступ, Чалавек – час – месца (генеалогія, храналогія, метралогія, гістарычная геаграфія), Мова і пісьменнасць (літаратурная мова, палеаграфія, гістарычная бібліяграфія, дыпламатыка, архівазнаўства), Рэчы і выявы (навука аб сімвалах улады, нумізматыка, сфрагістыка, геральдыка), Заканчэнне. Бібліяграфічныя спісы асноўных публікацый прыводзяцца ў канцы кожнага раздзела. На кожную з 14 дысцыплін прыходзіцца прыблізна паўсотні старонак тэксту. Кніга мае зручны даведачны апарат, які займае амаль дзесятую частку кнігі: іменны і геаграфічны паказальнікі, спісы табліц і рысункаў.

Кнігу варта лічыць узорным падручнікам па дапаможным гістарычным дысцыплінам рэгіёна краін-нашчадкаў былой Рэчы Паспалітай. Паколькі падобнага беларускага падручніка, відавочна, не дачакацца, то варта ўздымаць пытанне аб перакладзе кнігі Ю.Шыманьскага на беларускую мову і ўвядзенне яе ў навучальны працэс беларускіх ВНУ.

**Piece kaflowe w zbiorach muzealnych w Polsce: Materiały konferencji naukowej zorganizowanej w Muzeum Mikołaja Kopernika we Fromborku w dniach 5-7 września 2008 roku. Frombork, 2010 – 360 s.**

Пасля канферэнцыі "Кафельныя печы ў музейных зборах у Польшчы", якая адбылася ў музеі Каперніка ў Фромбарку, тэксты дакладаў былі выдадзеныя вялікім па памеру томікам на крэйдаванай паперы ў цвёрдай вокладцы. У ім месцяцца 34 артыкулы супрацоўнікаў адпаведнай колькасці музейных устаноў. Нязвыкла, што тэксты займаюць толькі 40% аб'ёму кнігі, а на астатніх знаходзяцца 734 фотаздымка. У сярэднім, артыкул займае 2 - 4 старонкі, і да яго дадаюцца 20-30 каляровых фотаілюстрацый. У пераважнай большасці апісваюцца печы 19 – пач. 20 ст. Павучальна, што гэтыя печы ў Польшчы ўжо сталі аб'ектам клапатлівай апекі даследчыкаў і музейных супрацоўнікаў.

Нават хуткае гартанне старонак дазваляе зразумець, што печы з "полкамі" паміж ярусамі– гэта дымаабаротныя эклектычныя печы другой пал. 19 ст. (такіх на ілюстрацыях больш трох дзесяткаў), што печы з дадатковымі вонкавымі арачнымі дзверцамі адносяцца да апошняй трэці 19 ст. (такіх больш двух дзесяткаў). І дарма ў Нясвіжскім палацу канструктыўна падобныя навадзелы лічаць зробленымі на 17 ст. А печы канца 19 – пач. 20 стст. у шэрагу выпадкаў маюць дзверцы прачысткі ў выглядзе керамічных паліўных сподкаў, якія выступаюць над люстэркам печы (такіх больш двух дзесяткаў, непаліўныя дзверцы прачысткі археалагічна вядомыя ў Кёнігсбергу з другой пал. 18 ст.). Таму дарма ў навадзелах печаў датаваных на пач. 20 ст. у замкавым комплексе "Мір" ў капліцы князёў Святаполк-Мірскіх у тулава печы ўмантаваныя бессэнсоўныя металічныя квадратныя прарэзныя рашоткі ў месцах, дзе павінна выбірацца сажа з дымаходаў дымаабаротнай пячы. Дарэчы, у кнізе ёсць і каля дзесятка фотаздымкаў печаў другой пал. 19 ст. з сапраўднымі функцыянальнымі адзінкавымі праразнымі паліванымі кафлямі. Ёсць і каля дзесятка фотаздымкаў рэканструкцыяў печаў, частка якіх зроблена не ў поўным аб'ёме ці папросту з гіпсу. І разумееш, што нефункцыянальныя муляжы ў Міры і Нясвіжы можна было рабіць значна таней…

Кніга вельмі своечасовая і патрэбная. Калі б яшчэ з першага і апошняга лагіна не вывальваліся старонкі, то выданне можна было б лічыць бездакорным.